*О, колькі яшчэ не адкрыта*
*Адценняў у ёй і блакіту,*
*Патрэбных народу, паэтам*
*Каштоўнай руды, самацветаў!*

*Максім Танк*

## УВОДЗІНЫ

У 1959 г. выйшаў з друку складзены мною «Дыялектны слоўнік» (Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959, стар. 230). Станоўчая ацэнка «Дыялектнага слоўніка» ў перыядычным друку[1] садзейнічала выданню гэтага выпуску, які будзе лічыцца другім выпускам.

Сюды ўвайшла частка лексічнага матэрыялу, сабранага за пасляваенныя гады галоўным чынам на Глушчыне[2]—у вёсках Глускага раёна Магілёўскай вобласці.

У апошні час прыкметна ажывілася збіранне беларускай дыялектнай лексікі. Побач з навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мовазнаў-

[1] Д. Бугаёў, А. Баханькоў. Хараство народнага слова («Літаратура і мастацтва» ад 15 ліпеня 1959 г.); А. Клачко. Скарбы народнай творчасці («Звязда» ад 26 ліпеня 1959 г.); М. Малочка. Дыялектны слоўнік («Беларусь», 1959, № 9); М. Базарэвіч. Невычэрпныя скарбы народныя («Маладосць», 1959, № 12).

[2] Значная частка слоў з паметкаю «Глуск» запісана ў Глуску, але не ад ураджэнцаў гэтага гарадского пасёлка.

ства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР і педагагічных інстытутаў рэспублікі старанна і настойліва працуюць студэнты Мінскага, Магілёўскага і іншых педагагічных інстытутаў[1]. У сувязі з гэтым хочацца звярнуць увагу на некаторыя бакі збіральніцкай дзейнасці і працы.

1. Гэта, перш за ўсё,—увага блізказначным словам, так званым сінонімам, таму невычэрпнаму багаццю, без збірання, авалодання і выкарыстання якога не можа паспяхова развівацца наша літаратурная мова.

Не паддаючыся спакусе разважаць пра сінаніміку, пра характар сінонімаў і іх класіфікацыю, ма́ю намер паказаць багацце сінанімікі ў жывой народна-дыялектнай мове на канкрэтных прыкладах, выкарыстоўваючы свае ўласныя назіранні толькі з адной вёскі — Клетнае Глускага раёна.

Да слова **злавíць** (вудачкаю рыбу) я занатаваў цэлае гняздо (карыстаючыся лексікаю вывучанага дыялекту—«цэлае кôдло») блізказначных слоў, або сінонімаў. Вось яны:

---

[1] Я знаёміўся з вынікамі працы некаторых студэнтаў Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага. Толькі за адзін 1959 г. студэнт V курса гістарычна-філалагічнага факультэта Станіслаў Зубрыцкі сабраў у Бягомлі і яго ваколіцах каля 1000 слоў і палавіну іх растлумачыў; студэнт IV курса Віктар Бекіш сабраў і растлумачыў каля 400 слоў. Цікавую картатэку маюць студэнты Георг Варава, Мікалай Гуліцкі, Мікалай Кулеўскі. Багаты і каштоўны матэрыял сабраў у вёсках Парыцкага раёна выпускнік Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага Сяргей Прач.

**злавіць**[1]: два самкі *злавілі;*

**улавіць:** Сынклêцін (сын) *улавіў* акуня мо на цэ̂лае кіло́;

**вы́вудзіць:** За ра́ніцу нічо́га ні *вы́вудзіў,* а ўдзень даёнку пло́так;

**вы́кінуць:** *вы́кінуў* пло́тачку; *наўкі́двау* (плотак, акунёў) глады́шку;

**вы́цягнуць:** На я́ме Радке́вічаў (сын) *вы́цяг* я́зя;

**вы́дубіць:** Такі́ аку́нь, што чуць *вы́дубіў;*

**вы́сцебнуць:** *вы́сьцябнуў* п[е]чку́рыка;

**вы́хапіць:** На таку́ю то́няньку (вудачку) да тако́га (вялікага акуня) *вы́хапіў.*

Багата сінонімаў і сінанімічных выразаў да слова **гавары́ць.** Прывяду іх без ілюстрацыі прыкладамі: *гавары́ць*[2], *бараба́ніць, ба́яць, бурча́ць, бубні́ць, ве́рзці, гамані́ць, гарадзі́ць, гергета́ць, го́мзаць, джве́нькаць, дзюдзю́каць, каза́ць, лапата́ць, ляската́ць, мало́ць, мармыта́ць, пле́сці, пляву́згаць, пляска́ць, пля́скаць, прастарэ́каваць, раздаба́рваць, рэ́заць, се́кчы, тараба́ніць, тарахце́ць, часа́ць, чаўпці́, шве́ркаць, шчабята́ць; абмыва́ць языко́м (языка́мі), бара-*

[1] Словы ў гэтай і іншых групах сінонімаў запісаны па арфаграфічных нормах напісання.

[2] Прыводзячы гэту і іншыя групы сінонімаў, я не прытрымліваюся погляду тых лінгвістаў, якія лічаць, напрыклад, што дзеясловы **ісці** і **плесціся** не з'яўляюцца сінонімамі. Гл., напрыклад, В. Н. Клюева ў працы «Краткий словарь синонимов русского языка» (Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы РСФСР, Масква, 1956): «... **идти** и **плестись** не синонимы, потому что **плестись**—идти с трудом; или **работать** и **корпеть** не синонимы, потому что **корпеть**—работать с усилием, не получая радости от работы» (стар. 8).

*бáніць языкóм* (языкáмі), *бурчáць пад нóс, вадý ў стýпе таўчы́, закідáць слóва, званіць языкóм, зýбы загавóрваць, ляпаць языкóм, малóць языкóм, пераліваць з пустóга ў парóжняе, тарабáніць языкóм, часáць языкóм, язы́к распускáць.*

У адным гняздзе словы:

**хлусіць,** *брахáць, выдумляць, маніць, няпрáўду казáць (гаварыць), плёткі плёсці;*

**збудавáць** (хату, хлеў), *адгрýкаць, вы́ліць, зляпіць, змайстравáць, зрабіць, пабудавáць;*

**падýжаць** (перамагчы ў барукáнні), *аблажы́ць, брáзнуць, грáкнуць, пабóраць, паваліць, пля́снуць, улажы́ць, чмя́кнуць;*

**кавáлачак** (сала, мяса), *драбóк (драбінка, драбіначка), крупінка (крупіначка), крышáн (крышанóк, крышанóчак), кусóчак;*

**гýшкацца,** *гóдзкацца, гутатáцца, калыхáцца, люля́цца;*

**éсці,** *лóпаць, малóць, пéрці, пýгаць, сёрбаць, трубіць, хлёбаць, цéрці;*

---

Трэба сказаць, што ў некаторых вучэбных дапаможніках, надрукаваных у апошнія дзесяцігоддзі, няправільна акрэслена паняцце сіноніма: быццам бы сінонімы—гэта розныя па гучанню (гукавому складу), але аднолькавыя па значэнню словы.

Сінонімы—гэта блізкія па значэнню (блізказначныя) словы, але адрозныя па гучанню, напрыклад: *здагáдлівы* і *кéмлівы, смéлы* і *адвáжны, смýтак, журбá* і *тугá, запісáць* і *занатавáць, маладзіца* і *маладáя кабéта, радзіма і бáцькаўшчына, бацькáўшчына* і *рóдны край, ісці* і *крóчыць.*

Ёсць і адназначныя сінонімы, гэта значыць такія, якія маюць адно значэнне. Але яны непашыраныя. Гэта, напрыклад, *сухóты* і *туберкулёз* (другое слова—запазычанае), *вéльмі* і *дýжа.*

**вы́цяць** (ударыць), *вы́тнуць, агрэ́ць, апераза́ць, аплявушыць, ба́хнуць, бра́знуць, глушану́ць, гнёнуць, жа́рнуць, жа́хнуць, загрэ́ць, кухтальну́ць, лузану́ць, лупану́ць, лупцану́ць, малатну́ць, маркану́ць, паласну́ць, па́льнуць, пацягну́ць, пекану́ць, перацягну́ць, пля́снуць, прысква́рыць, пы́льнуць, прывары́ць, рэ́знуць, секану́ць, сту́кнуць, сцебану́ць, сцёбнуць, таўхну́ць, трэ́снуць, ували́ць, увары́ць, угрэ́ць, укро́іць, укі́нуць, улі́ць* (дубцом, пугаю), *упе́рыць, урэ́заць, цо́пнуць, часану́ць, шлёгну́ць, шпульну́ць, даць аплявуху, даць грымака́, даць дубца́, даць кія, даць кухталя́, даць лупцо́ўкі, даць пу́гі, даць рэ́меня, заехаць па ка́рку* (па шыі), *пама́цаць рэ́бры, перабра́ць рэ́бры, пачастава́ць дубцо́м* (кіем, пугаю), *уляпі́ць аплявуху, усыпаць па пе́ршае чысло́.*

2. Словаўтварэнне ў народна-дыялектнай мове і багатае і выключна цікавае (даводзіцца толькі шкадаваць, што за апошнія дзесяцігоддзі нават не зроблена спробы апісання і даследавання яго). Спыню ўвагу чытача і даследчыка на некаторых прыкладах. На Глушчыне мною запісана слова **маява́ць.** Яго значэнне— святкаваць Першамай. Коранем яго з'явілася слова **май,** словаўтваральная мадэль—вядомая і добра знаёмая: *святкава́ць* (свята), *бедава́ць* (бяда), *гарава́ць* (гора), *каласава́ць* (колас), *галасава́ць* (голас). Па ўзору і тыпу прыведзеных слоў утварылася і **маj-ава́ць.**

Побач з **дачка́** (на матэрыяле толькі вёскі Клетнае) ужываюцца шматлікія памяншальна-ласкальныя ці ласкальныя формы (словы): *до́-*

*ня, до́нька, до́нячка, до́чачка, дачу́шка, дачу́шачка, мае́ дзе́ткі, мае́ дзе́тачкі* (аднолькава пры звароце ці да дачкі, ці да сына).

Можна набраць цэлую групу новых слоў з суфіксам **-шчык** тыпу *кіншчык, здымшчык, каапераційшчык,* якія паявіліся ўжо ў наш час.

Вельмі цікава і важна, вывучаючы словаўтварэнне, звярнуць увагу на тыя новаўтварэнні слоў, якія паяўляюцца ў народна-дыялектнай мове.

3. Хочацца звярнуць увагу збіральнікаў (лінгвістаў, фалькларыстаў, этнографаў) на неабходнасць занатоўвання прыказак, фразеалагізмаў і прыгаворак, звязаных з геаграфічнымі, тапанімічнымі назвамі. Іх (тыпу: *У Слуцку ўсё па-людску; Смаргонская акадэмія; Баброўня нікому няроўня; У Крупках няма круп*) вельмі багата. Частка іх падмечана і надрукавана ў дарэвалюцыйных зборніках (параўнальна больш іх у IV томе «Люду беларускага» М. Федароўскага[1]).

На маё меркаванне, варта сабраць і выдаць некалькі зборнікаў такіх выслоўяў. Гэта—дзівосны матэрыял не толькі для парэміялогіі і лінгвістыкі, а таксама для этнаграфіі, гісторыі. Збіраючы выразы тыпу *Баро́ўня ніко́му няро́ўня,* абавязкова трэба занатоўваць і друкаваць тлумачэнні такіх выразаў, іх паходжанне і ўзнікненне. Напрыклад, тое ж *Баро́ўня ніко́му няро́ўня.* У Скідзельскім раёне ёсць вёска Бабро́ўня. Там я і пачуў гэты выраз. Узнікненне яго,

[1] Michał Fiederowski. Lud białoruski na Rusi litewskiej, t. IV, Warszawa, 1935.

як растлумачылі мне, звязана з тым, што вёска Баброўня мае лепшыя прыродныя ўмовы, чым суседнія вёскі, што ў Баброўні жылі (матэрыяльна) лепш, чым у суседніх вёсках. І сэнс і паходжанне, такім чынам, зразумелыя.

* * *

Як і ў выпуску 1959 г., да слоў, запісаных у Глускім раёне, часам прыводзяцца словы з розных раёнаў Беларусі (Карэліцкага, Маладзечанскага, Полацкага, Жалудоцкага і іншых). Частка такіх слоў заўважана і запісана мною (галоўным чынам у Мінскім і Маладзечанскім раёнах), другая ж частка—паведамлена калегамі, сябрамі, студэнтамі, аспірантамі.

Выказваю самую шчырую падзяку Уладзіміру Калесніку (Брэсцкі педінстытут), Леаніду Царанкову (Вучэбна-педагагічнае выдавецтва БССР), Антосю Рагойшу (Гродзенскі педінстытут), пісьменнікам Янку Брылю і Рыгору Шкрабу, Эдуарду Янкоўскаму (пас. Янкі Купалы Глускага раёна), Арцёму Баханькову, Еўдакіі Кавалёвай, Ніне Самойле, Марыі Смаршчок, Мікалаю Васілеўскаму (аспіранты Мінскага педінстытута), Сяргею Прачу (г. п. Парычы), якія паведамілі словы, уключаныя ў выпуск 1959 г. ці ў гэты выпуск, з розных мясцін Беларусі. Слоў-паралелей у выпуску 1959 г. 109, з іх падказана, гэта значыць сабрана не мною,—41; у другім выпуску 176; з іх падказана, гэта значыць сабрана не мною,—119.

Як і ў выпуску 1959 г., тут прыводзяцца прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя спалучэн-

ні. Пры ўключэнні іх у слоўнік я не звяртаў увагі на тое, ці з'яўляецца запісанае выслоўе вузка мясцовым або агульнанародным, і падаваў усё, што па парадку знаходзіў у сваіх палявых запісах. Сюды трапілі не толькі прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя спалучэнні, а і іншыя ўстойлівыя выслоўі. Так, напрыклад, падаецца: *Андрэ́й, не дурэ́й, не дзяры́ саро́чкі: не ты́ праў, не ты́ ткаў, не тваё работкі; Вазьмі акра́йчык, каб быў хло́пчык Мікала́йчык.* Выразы такога роду маюць у народзе трапную і дакладную назву—прыгаво́рка[1].

[1] Мне здаецца, што слова **прыгаво̀рка** варта ўжываць як навуковы тэрмін: ён і агульнавядомы, і дакладны, і нешматзначны.

## *УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ І СКАРАЧЭННІ*

У слоўніку выкарыстана спрошчаная транскрыпцыя. Перад галоснымі *а, о, у, э* мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца літарамі *я, ё, ю, е,* г. зн. як і ў арфаграфічным пісьме *(лялée, сáнячкі)*; мяккасць зычных перад зычным і на канцы слова абазначаецца мяккім знакам *(сьвіціцца, жыцьмуць, расьці, сьню, зьёхаць, сьпісáць)*; зычны *ȷ* абазначаецца літараю *й* толькі перад *і,* на канцы слова *(май)* і перад зычнымі *(стóймо)*. Літараю *ô* абазначаецца «закрытае» *о;* літарамі *э̂* і *ê* абазначаецца *э (е)* «закрытае». Галосныя *ô, э̂ (ê)* ужываюцца пад націскам, і таму націск на іх не ставіцца *(абêдалі, рэ̂залі, навôйка)*; падоўжаныя мяккія зычныя абазначаюцца падваеннем літар з мяккім знакам паміж імі *(мóльлю)*[1]; літара *е* ў квадратовых дужках абазначае гук *е,* набліжаны

[1] Для карыстання слоўнікам (асабліва людзьмі, якія не маюць спецыяльнай лінгвістычнай падрыхтоўкі) транскрыпцыя, прынятая ў акадэмічных выданнях, цяжкая і не заўсёды зразумелая. Куды зручней і лягчэй чытаць: ляцяць, сьцягваюць, сьніць, сьсяляюць, лью, сьпіць, мóльлю, наўсьцяж; наадварот, цяжэй чытаць запісанае так: л′ац′áц′, с′ц′áгвайуц′, с′н′іц′, с′с′ал′áйуц′, л′йу, с′п′іц′, мóл′л′у, наўс′ц′аж.

да *а(я)*, пасля мяккіх зычных; літара *э* ў квадратовых дужках абазначае гук *э*, набліжаны да *а*, пасля цвёрдых зычных: чыта́[е], пі́ш[э]; літараю г (*г*) абазначаецца *г* выбухное (галагу́цкі);
адз.—адзіночны (лік)
агульн.—агульны (род)
арф.—арфаграфічна (калі тое ці іншае слова не ўдалося затранскрыбіраваць, то яно падаецца ў арфаграфічным запісу)
жан.—жаночы (род)
законч. тр.—закончанае трыванне
незаконч. тр.—незакончанае трыванне
мужч.—мужчынскі (род)
множн.—множны (лік)
нiяк.—ніякі (род)
гл.—глядзі
параўн.—параўнай
ст.—станцыя
I спраж.—першае спражэнне
II спраж.—другое спражэнне
Байл.—в. Байлюкі
Балаш.—в. Балашэвічы
Барб.—в. Барбароў
Баян.—в. Баянаў
Бяр.—в. Бярозаўка
В.—в. Вільча
Вайц.—в. Вайцяхоў
Весн.—в. Веснава
Вольн.—в. Вольніца
Востр.—хутар Востраў
Дак.—в. Даколь
Дубр.—в. Дуброва

Зуб.—в. Зубарэвічы
Калац.—в. Калацічы
Кас.—в. Касарычы
Кл.—в. Клетнае
Н.-Андр.—в. Нова-Андрэеўка
Н. ж.—пасёлак Новае жыццё
Пас. Чырвоны—пасёлак Чырвоны
Пас. Янкі Купалы—пасёлак Янкі Купалы
Поб.—в. Поблін
Сл.—в. Слаўкавічы
Стр.—в. Стражы
Сым.—в. Сымонавічы
Хал.—в. Халопенічы
Хваст.—в. Хвастовічы
Шум.—в. Шумяцічы

## *СЛОЎНІК*

### А

АБАГНА'ЦЬ (*абагнáць*) *-н-ю, -н-іш, пераходны, законч. тр.* ад абганяць. Гл. абганя́ць[2] у выпуску 1959 г. Трэ́ба да н[е]дзе́лі абагна́ць карто́плі, а то пярарасту́ць. Кл. Параўн.: паганя́ць. 1. Тое, што абагна́ць[2]; 2. Паганя́ць— абысці з плугам кругом загона. Саламір'е Полацкага раёна.

АБА'ДВА (*абáдва*) *абáдвух.* Абодва (ужываецца і абу́два). Кл., Зуб.

АБАЛО'НЬ Гл. абало́нь у выпуску 1959 г. Параўн.: абуло́нь. Саламір'е Полацкага раёна.

АБГАНЯ'ЦЬ Гл. абганя́ць[2] у выпуску 1959 г. Параўн.: ганя́ць. Голдава Жалудоцкага раёна, Саламір'е Полацкага раёна, Угляны Мінскага раёна.

АБДЗІРА'НЕЦ (*абдзірáн[е]ц*) *-нц-а, мужч.* Абадранец (ужываецца і абадран[е]ц). Надзёнса (апрані лепшую вопратку), а то й гавары́ць с табо́ю, с такім абдзіра́нцам, ні бу́дуць (дзяўчаты). Кл. Параўн.: абадра́нец, лаху́дра, абшурпа́нец, абарва́нец. Саламір'е Полацкага раёна.

АБДЗІРА'НЫ (*абдзіраны, -а(ая), -ае) дзеепрыметнік.* Абарваны, у абарванай вопратцы. Шчэ [е]к калгас рабілі, дак злавілі тут нейкаго абдзіранаго-абдзіранаго да дапрасілі ў міліцайі, дак, кажуць, нейкі шпіён. Хал.

АБДЗІ'РКІ Гл. абдзіркі ў выпуску 1959 г. Параўн.: зрэбя. Голдава Жалудоцкага раёна. Зрэб'я (пасля рэдкіх грабянёў), пярэдзіркі (пасля частых грабянёў). Падлессе Ляхавіцкага раёна.

АБКАРЫ'ЦЬ (*апкарыць,* звычайна — *акарыць*). Гл. акарыць.

АБЛАТАШЫ'ЦЬ[1] (*аблаташыць) -ыш, -ыць, пераходны, законч. тр.* Абабраць, абарваць, пазрываць (яблыкі, грушы, гуркі, памідоры) нахабна, не шкадуючы дрэваў, град, ломячы і тручы галлё, нaціну. Паліцайі ўскочылі, аблаташылі ўсе чысьцянько й паспутаць ні кінулі, толькі лісьця й гальля наабівалі, што хаць граблямі грабі. Кл. Так і гл[е]дзі, бо аблатошаць грады ці сьліўкі абарвуць. Стр. Гл. латашыць, златашыць, налаташыць. Параўн.: акаряніць (гародніну). Хоцімскі раён.

АБЛАТАШЫ'ЦЬ[2] (*аблаташыць*) *-ш-ў, ш-ыш, пераходны, законч. тр.* Абшукаць, абшарыць. Глуск.

АБРАДЗІ'ЦЦА (*абрадзіцца) -ішся, -іцца, законч. тр.* Радзіць. На в[е]сьнê н[е]вестка абрадзіласа. Барб.

АБСА'ДА (*апсада, абсада) -д-ы, жан.* Насаджэнні вакол сядзібы, вакол саду. У Маліна-

ве абса́ды бага́та. Глуск. У гэтым жа значэнні аса́да (гл. аса́да). Глуск.

АБСЕ́КАЦЬ (*апсе́кацьу апсе̂кацъ*) *абсе́каю, абсе́каеш, пераходны, незаконч. тр.* Абсякаць. Вольн.

АБЧЫРЫ́ЦЬ (*апчыры́ць*) *-р-у́, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* ад чыры́ць (гл. чыры́ць[1], чыры́ць[3]). Кл.

АВА́Д (*ава́д*) *-да́, мужч.* По́бач з авадзе́нь (часцей—авадзе́нь). Кл.

АГАДА́ЦЬ (*агада́ць*) *-да́-ю, -да́-еш, законч. тр.* Расстарацца, дастаць (чаго-небудзь). Напіса́ў па́сынак пісьмо́, што хо́ча ха́ту станаві́ць (гл. станаві́ць у выпуску 1959 г.). «Памажэ́це», — про́сіць. Агада́лі тро́хі гро́шай. Пашлём. Кл.

АГАРО́ДНІНА (*агаро́дніна, агаро̂дніна*) *-н-ы, жан., толькі ў адз.* Гародніна. Параўн.: у глускіх гаворках агаро́д—гарод. Агаро́дніны так зарадзіло, што й дзець німа куды́, каро́ву ко́рмім, прадава́лі. Глуск. Гл. агаро́дзіна.

АГАРО́ДЗІНА (*агаро́дзіна*) *-н-ы, жан.* Гародніна. Агаро́дзіна сасхла́. Сл. Гл. агаро́дніна.

АГЛАБІ́НА Гл. аглабіна ў выпуску 1959 г. Параўн.: аглабіна—аглобля. Голдава Жалудоцкага раёна, Падлессе Ляхавіцкага раёна, Абідавічы Быхаўскага раёна.

АГЛЕ́ДЗІНЫ (*агле́дзіны*) *-н* і *-н-аў, толькі ў множн.* Агляданне. Кл., Вольн.

АГЛЯ′ДАЦЬ (*аглядаць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, незаконч. тр.* Аглядаць. Кл.

АГУ′ЛАМ (*агулам*) *прыслоўе.* Супольна, разам. На Плёсах (участак сенажаці) агу́лам касілі сабе калга́сьнікі. Кл.

АДВЕ′ДКІ Гл. адве́дкі ў выпуску 1959 г. Параўн.: адве́дзіны (адведаць парадзіху). Голдава Жалудоцкага раёна.

АДВЯРНУ′ЦЬ[1] (*атвярну́ць, атв[е]рну́ць*) *-н-у́, -н-еш, пераходны, законч. тр.* Адкінуць, аднесці. Прывярну́лі сакеру, ўсе сено атвярну́ла й ні нашла́. Кл. Атвярніця калоду, то пад ёю наб[е]рацэ́ (чарвячкоў). Пас. Янкі Купалы.

АДВЯРНУ′ЦЬ[2] (*атвярну́ць, атв[е]рну́ць*) *-н-у́, -н-еш, пераходны.* Супрацьлеглае прывярнуць (гл. прывярну́ць[2]). Ні даду́ць пагуля́ць (каровы): то́лькі атве́рнеш ат аўса́—йзноў у аўёс. Кл.

АДВЯРНУ′ЦЬ[3] (*атв[е]рну́ць*) *-н-у́, -н-еш, пераходны.* Супрацьлеглае прывярну́ць (гл. прывярну́ць[3]). І про́сіць ма́ці: ты майго́ сынка́ прыв[е]рну́ла, ты й атв[е]рні́. Сл.

АДГА′КАЦЬ[1] (*адга́каць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Адсекчы (сук, галіну, кавалак бервяна, жэрдкі). Кл.

АДГА′КАЦЬ[2] (*адга́каць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* 1. Прайсці (прычым немалую адлегласць, не затраціўшы максімуму часу). Да по́лудню адга́калі ўёрст тры́ццаць. Кл. 2. Прабыць з нагрузкаю працяглы час. Адга́каў у матро́сах п'яць гадо́ў. Кл.

АДКАПСАНУ'ЦЬ (*аткапсанýць*) *-н-ý, -н-éш, пераходны, законч. тр.* ад капсанýць (гл. капсанýць у выпуску 1959 г.). Адштурхнуць. Ужываецца таксама адпіхнуць. Кл. Параўн.: адпіргнýць. Радашковічы; вв. Угляны, Казекава, Буцавічы Мінскага раёна. Параўн.: адштурхнýць, адпіхнýць. Саламір'е Полацкага раёна.

АДКРАСАВА'ЦЬ (*аткрасавáць*) *-ý-е, непераходны, законч. тр.* ад красавáць (гл. красавáць). Адцвісці (пра жыта, мятлічку). Кл., Барб.

АДЛУЗА'ЦЬ[1] (*атлузáць*) *-ж-ý, -ж-аш, пераходны, законч. тр.* Налупцаваць, адлупцаваць, насцябаць, адсцябаць. Кл.

АДЛУЗА'ЦЬ[2] (*атлузáць*). Ужываецца ў форме трэцяй асобы будучага часу і ў форме прошлага часу ў спалучэнні з хварóба, а таксама як безасабовы. Адлузала хвароба—забрала хвароба, эпідэмія скасіла. Кл. Багáто сьвінéй атлузáло. Сл.

АДМЫКНУ'ЦЬ (*атмыкнýць, атмукнýць*) *-н-ý, -н-éш, пераходны, законч. тр.* Адамкнуць. Кл., Барб., Вольн.

АДНАВО'Р Гл. аднавóр у выпуску 1959 г. Параўн.: сеяць у аднавор—сеяць у адну руку (адной рукою). Голдава Жалудоцкага раёна.

АДО'ЛЕЦЬ (*адóл*[*е*]*ць*) *-е-ю, -е-еш, пераходны, законч. тр.* Тое, што і адалéць (гл. адалéць у выпуску 1959 г.). Кл. Параўн.: ...не адолеюць ні ветры ні буры. Пілiп Пестрак, Сустрэ-

немся на барыкадах, кніга першая, Мінск, 1954, стар. 8.

АДПА'СЦІЦЬ[1] *(атпáсьціць) -с-ý, -с-éш, законч. тр.* Адбыць чаргу па пасьбе жывёлы. Ты сёні гані, а я ў сыбóту (за цябе) атпасý. Кл.

АДПА'СЦІЦЬ[2] *(атпáсьціць) -с-ý, -с-éш, пераходны.* Выпасвіць, зрабіць сытаю жывёлу. Кл.

АДРАЯВА'ЦЬ *(арф.) -ю-ю, -ю-еш, непераходны, законч. тр.* ад раявáць (гл. раявáць). Кл.

АДСЕ'ЧКА *(ацьсêчка, атсêчка) -к-і, жан.* Кл. Параўн.: у рускай мове осéчка.

АДСЛАНІ'ЦЬ *(ацсланіць, атсланіць) -н-ю, -н-іш, пераходны.* Адкрыць. Гл. засланіць. Кл.

АДСЦЁ'БАЦЬ *(ацьсьцёбаць) -ба-ю, -ба-еш, пераходны, законч. тр.* Адсцябаць. Кл.

АДТАРАБА'НІЦЬ *(аттарабáніць) -н-ю, -н-іш, пераходны, законч. тр.* ад тарабáніць (гл. тарабáніць[2]). Абыякава, неахайна адвезці, адцягнуць, адвалакчы (што-небудзь куды-небудзь ці ад чаго-небудзь). Нêмцаў і паліцáяў (забітых партызанамі) ускінулі на калёса (на воз) да аттарабáнілі на дарóгу на Глýск. Глуск.

АДТАТУ'РАНЫ *(аттатýраны) -а, -ае, дзеепрыметнік* ад адтатýрыць (гл. адтатýрыць). Адтапыраны. Кл. Параўн.: аддуды́раны. Хоцімскі раён, Саламір'е Полацкага раёна. Параўн.: Адзін (нямецкі салдат.—*Ф. Я.*) быў высокі, меланхалічна выпрастаны, з нерухома-здзіўленымі малавыразнымі вачмі, з жорстка-аддуды-

ранымі вусамі. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 305.

АДТАТУ'РЫЦЬ (*аттату́рыць*) *-р-у, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* Адтапырыць. Кл. Параўн.: аддуды́рыць. Хоцімскі раён, Саламір'е Полацкага раёна.

АДХЛА'ННЕ (*атхла́ньне*) *-нн-я, ніяк., толькі ў адз.* Ужываецца ў спалучэнні з няма. Няма адхлання—няма адбою, настойлівае і бясконцае вымаганне. Ця́жко пілнава́ць, то дзêці, то гу́сі, то хто хо́ч[э]ш—про́сто атхла́ня н[е]ма́. Сл.

АДХУ'КАЦЬ (*атху́кацъ*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Адагрэць, адтаяць хуканнем (хукаючы). Гл. ху́канне, ху́каць. Нашлі в[е]рабе́йка, ста́лі ху́каць — ду́малі атху́каям, а ён здох. Пас. Янкі Купалы. Гл. ху́каць, ху́кнуць, паху́каць.

АДЧЫРЫ'ЦЬ (*аччыры́ць*) *-р-у́, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* ад чыры́ць (гл. чыры́ць[1], чыры́ць[3]). Кл.

АДЭ'ЛЕЦ (*арф.*) *-льц-а, мужч., множн.— адэ́льцы (адэ́лцы і адэ́льцы).* Жыхар в. Адэль. Кл., пас. Янкі Купалы.

АДЗЁ'НАК (*адзёнак*) *-нк-а, мужч.* 1. Гл. адзёнак у выпуску 1959 г. Параўн.: адо́нак. Абідавічы Быхаўскага раёна. 2. Адзёнак—стог сена. Ду́маў, адзёнак на два́ вазы́ ўскладо́м і ні ўскла́лі. Кл.

АДЗЁ'Р Гл. адзёр у выпуску 1959 г. Параўн.: во́дра. Голдава Жалудоцкага раёна.

АЗА'ДАК (*азáдак*) *-дк-у, мужч.* Задняя частка, задняя палавіна жывёліны. Парасяці сьпіну п[е]рабілі, дак ідзé на дзьвóх нóжках (на пярэдніх) і азáдак цягне. Кл.

АЗВА'ЦЦА (*азвáцца*) *азавýся, азавéшся, законч. тр.* Падаць голас, слова сказаць. Хібá жытка? Азвáцца ні дадýць. Усéю с[е]м'éю ў аднó, што я вінавáты. Кл. Зьêхаў, мо два гадý й не азвáўся. Барб.

АЗЫВА'ЦЦА (*азывáцца*) *-á-юся, -á-ешся, незаконч. тр.* Падаваць голас, слова казаць. Гл. азвацца. Пáв[е]л ні азывáўса мо двáццаць гадý. Кл.

АКАЗА'ЦЦА (*аказáцца*) *-ж-ýся, -ж-ашся, законч. тр.* Тое, што азвáцца (гл. азвáцца). Катóры гадóк (ладнага, многа) прайшóў (пасля вайны). Што б жывы́ буў, то аказáўса б — ці пісьмó прыслáў бу, ці дзель (гл. дзель у выпуску 1959 г.) хто ўбáчыў бу. Кл.

АКАПАНІ'ЧВАЦЬ Гл. акапанíчваць у выпуску 1959 г. Параўн.: асыпáць (матыкаю). Голдава Жалудоцкага раёна.

АКАРЫ'ЦЬ (*акарыць* і *апкарыць*) *-р-ý, -óр-ыш, пераходны, законч. тр.* Зняць з дрэва кару. Спусьцілі (гл. спусціць), акары́лі й вýтралявалі. Сл. Пéрш-на-пéрш акарыць, пат карóю вéльмі гніé. Хал. Параўн.: абкарыць (апкарыць). Саламір'е Полацкага раёна.

АКО'РВАЦЬ (*акóрваць*) *-ва-ю, -ва-еш, пераходны, незаконч. тр.* Здымаць кару з дрэва. Кл.

АКРА́ЙЧЫК (*акра́йчык*) *-к-а, мужч.* Памяншальнае ад акра́ец (хлеба). Кл., Барб., пас. Янкі Купалы. Вазьмі акра́йчык, каб быў хло́пчык Мікала́йчык. Кл.

АКРЫЯ́ЦЬ (*акрыя́ць*) *-я́-ю, -я́-еш, непераходны, законч. тр.* Паду́жаць (гл. паду́жаць), паздаравець пасля хваробы. Раз ужэ ёсьці папрасіў, то акрыя́ў, акрыя́е. Пас. Янкі Купалы.

АКУНЁ́К (*акунёк*) *-ньк-а́, мужч.* Памяншальнае ад аку́нь, ужываецца таксама аку́ньчык (аку́нчык). Кл.

АКУНЁ́ЎКА (*акунёўка*) *-к-і, жан.* Вудачка, прыстасаваная вудзіць акунёў. Акунёўкі закіньмо на я́ме. Кл.

АПА́Д Гл. апа́д у выпуску 1959 г. Параўн.: апа́дкі (толькі ў множн.). Голдава Жалудоцкага раёна, Падлессе Ляхавіцкага раёна, Саламір'е Полацкага раёна. Параўн.: пад. Абідавічы Быхаўскага раёна.

АПАЛА́НКІ Гл. апала́нкі ў выпуску 1959 г. Параўн.: апалу́шкі. Голдава Жалудоцкага раёна, Падлессе Ляхавіцкага раёна. Параўн.: пала́нкі. Абідавічы Быхаўскага раёна.

АПАЛА́НТ (*апала́нт, пала́нт*) *-т-а, мужч.* Назва цікавай спартыўнай гульні з дзвюма палкамі—кароткай і даўжэйшай; удзельнікі гульні спаборнічаюць ва ўменні далей паслаць кароткую палку ўдарам даўжэйшай. Гульня складаецца з некалькіх заданняў. Кл. Параўн.: цюзік. Мсціслаў.

АПЕ'ЧЧА (*апе́чча, апе́чч*[э], *апе́ччэ) -чч-а, ніяк.* Невялічкі зруб (на два бервяны), на якім будуюць печ. Вольн., Кл., Хал.

АПІНЯ'НКА Гл. апіня́нка ў выпуску 1959 г. Параўн.: ва́лянка. Падлессе Ляхавіцкага раёна. Параўн.: абкрыва́нка. Абідавічы Быхаўскага раёна.

АПЛЕ'ТАЦЬ[1] (*аплётаць) -а-ю, -а-еш, пераходны.* Аплятаць (гаршчок дротам). Кл.

АПЛЕ'ТАЦЬ[2] (*аплётаць) -а-ю, -а-еш, непераходны.* Прагна і багата есці (побач з уплётаць). Кл.

АПЛІ'К Гл. аплі́к у выпуску 1959 г. Параўн.: гаплю́к, аплю́к. Голдава Жалудоцкага раёна.

АПЛО'ЧВАЦЬ (*апло́чваць) апло́чваю, апло́чваеш, пераходны, незаконч. тр.* Сл., Кл.

АПО'РАК (*апо́рак) -рк-а, мужч.* Стары, зношаны бот без халяў. Апо́ркі ўзаткні на но́гі, сы́ро ста́ло. Кл.

АПО'ЎЗІНА Гл. апо́ўзіна ў выпуску 1959 г. Параўн.: апо́ўзіна — неахайны (пра чалавека). Голдава Жалудоцкага раёна.

АПРА'ТАЦЬ (*апра́таць) -а-ю, -а-еш, пераходны.* Агледзець, памыць (дзіця, сябе, хворага, нябожчыка). Бывáла рабілі дзень і нôч; сваé ро́днае дзіця́ ні было́ калі́ апра́таць. Калацічы. З ла́геру (нямецка-фашысцкага) чуць жыво́го прывёзьлі, ні маглі́ мы [е]го́ апра́таць. Хал.

АПРА'ТАЦЦА (*апра́тацца) -а-юся, -а-ешся.* Зваротны ад апра́таць (гл. апра́таць). Глуск.

АПРА′ТВАЦЬ *(апрáтваць) -ва-ю, -ва-еш, пераходны.* Гл. апрáтаць. Мáтка вéльмі дóўга л[е]жáла (гл. ляжáць у выпуску 1959 г.), то цётка дзяцéй апрáтвала. Бабіроў.

АПУ′ДЗІЛА Гл. апýдзіла ў выпуску 1959 г. Параўн.: пужáла. Саламір'е Полацкага раёна.

АПУ′ЛІЦЦА *(апýліцца) -ішся, -іцца.* Стаяць (сядзець) у стане нерухомасці, абыякавасці і безжыццёвасці, нагадваючы хворую на гняздзе курыцу (апушчаны крылы, звешана галава, пер'е брыдкае, бруднае, не аблягае цела). Апýліласа, што кýра, й стайіць пад дажджэ́м. Так і зьмéрзнуць мóжно. Кл. Параўн.: ашашкéрыцца. Загор'е Карэліцкага раёна.

АРАБІ′НА Гл. арабíна ў выпуску 1959 г. Параўн.: грабíна. Голдава Жалудоцкага раёна.

АСА′ДА *(асáда) -д-ы, жан.* Насаджэнні вакол сядзібы, вакол саду. Ля Слýцку вéльмі харóшу асáду бáчыў. Глуск. У гэтым жа значэнні абсáда (гл. абсáда). Глуск. Параўн.: асáда— матэрыял, з якога робяць вушакі, падаконнікі, шапкі для акон, дзвярэй. Саламір'е Полацкага раёна.

АСКАБА′ЛАК *(аскабáлак, аскабóлак) -лк-а, мужч.* Абрубак, уцінак, адсечаны (абыякава), адламаны кавалак (жэрдкі, калоды). Пас. Янкі Купалы. Параўн.: аскялёпак. Саламір'е Полацкага раёна.

АСМІ′ХВАННЕ *(асьміхванне) -нн-я, ніяк.* Асмейванне (гл. асміхваць). Твайгó асьміхван-

ня баяцца ні буду. Кл. Параўн.: У мужчын узнімалася весялосць, але добрая, сяброўская, без жорсткіх кпін, без асміхвання. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 74.

АСМІ'ХВАЦЬ *(асьміхваць) -ва-еш, -ва-е, пераходны.* Асмейваць. Барбароўцы гл[е]дзяць, што б асьміхваць. Кл.

АСТРО'ВА Гл. астрова ў выпуску 1959 г. Параўн.: астроўка. Саламір'е Полацкага раёна.

АТРЭ'ПКІ Гл. атрэпкі ў выпуску 1959 г. Параўн.: атрэп'я. Саламір'е Полацкага раёна. Параўн.: вал. Голдава Жалудоцкага раёна, Падлессе Ляхавіцкага раёна.

АЎСЮ'К *(аўсюк) -к-á* і *-к-ý, мужч.* Назва расліны (Avena fatua).

АЎСЯ'НІЦА *(аўсяніца) -ц-ы, жан.* Аўсяная салома. Кл., пас. Янкі Купалы, Байл.

АЎЧА'РНІК[1] *(аўчарнік) -к-а, мужч.* Аўчарня, хлеў для авечак. Н.-Андр., Кл.

АЎЧА'РНІК[2] *(аўчарнік) -к-а, мужч.* Адрозніваюць дзве пароды ваўкоў: вялікія — жарабятнікі (гл. жарабятнік) і малыя — аўчарнікі; аўчарнікі — невялікія і нядужыя ваўкі, якія «спраўляюцца» з авечкамі і іншымі дробнымі жывёлінамі; яны часцей шэрыя. Кл.

АХЛЯ'ЦЬ *(ахляць) -я-ю, -я-еш, неперадходны.* Аслабець і апусціць рукі, апусціцца, здацца. Глуск.

АЦІ'РЫ *(аціры) аціраў* і *ацір, толькі ў*

*множн.* Дробныя кавалачкі саломы, каласкоў, травы, якія аддзяляюцца пры малацьбе. Ацíраў далí, бýду пáрыць (на корм). Ацíр прывéзьлі. Кл.

АЦІ'ШЫЦЦА (*ацíшыцца*) *-ыцца, законч. тр.* Супакоіцца. Мо да рáніцы ацíшыцца (на дварэ лютаваў вецер, мяло снегам). Хібá ў такóе чóртавае в[е]сéльле йці? Кл. Ацíшылася (пасля сутычкі і бою партызанаў з нямецкімі фашыстамі), мы й ідóм (ідзём). Вольн. Ні йдзі, пакуль ні ацíшыўса (раз'юшаны бык). Кл. Гл. ацішыцца.

АЦЯЖЭ'ЦЬ (*ацяжэ́ць, ац[е]жэ́ць*) *-э́ю, -э́еш, непераходны, законч. тр.* Страціць (у нейкай меры) рухавасць, аслабець. Ні тóй (не такі, як быў раней) Максíм, ац[е]жэ́ў, што й хадá ні тáя. Барб. Надó[е]чы й гавóрыць, тут во сéдз[е]чы: мýсіць, памрý, тáк (вельмі) ац[е]жэ́лі маê нóгі, што й хадзíць ні мóжно. Кл. Даўнó казáў, што валы́ збыць трэ́ба: стары́[е] й ацяжэлі. Пас. Янкі Купалы.

АЧУНЯ'ЦЬ (*ачуня́ць* і *ачýняць*) *-я́-ю* і *-я-ю, -я́-еш* і *-я-еш, непераходны, законч. тр.* 1. Апамятацца. Кл. 2. Выйсці з стану непрытомнасці. Кл. 3. Акрыяць, пеfunction крызіс хваробы. Так крэ̂пко л[е]жáла (гл. ляжáць у выпуску 1959 г.), што дýмала й ні ачýняю. Кл.

АШАТРАВА'НЫ (*ашатравáны* і *ашатрóваны, ашатрóванае*) *дзеепрыметнік* ад ашатравáць (гл. шатравáць, ашатравáць, шатрóўка). Ашатраваны ячмень (жыта)—абдзёрты, перад тым як малоць. Кл.

АШАТРАВА'ЦЬ (*ашатравáць*) *-ý-ю, -ý-еш, пераходны, законч. тр.* ад шатравáць (гл. шатравáць). Кл.

АШЛАПАВА'ТАЯ (*ашлапавáтая*) Прыметнік, ужываецца ў спалучэнні з назоўнікамі страхá, крыша. Такая (страха, крыша), якая паднята пад малым вуглом (супрацьлеглае быстрай; гл. быстры[2]). Кл.

## Б

БАГАЦЕ'ЕЎ (*багацéяў, багацé[е]ў*) Прыналежны прыметнік ад багацей (гл. багацéй у выпуску 1959 г.). Кл. Параўн.: Досыць шчаўя і мякіны з багацейскага стала. Пятрусь Броўка, Збор твораў, т. II, Мінск, 1957, стар. 46.

БА'ГНА (*бáгна*) *-н-ы, жан.* Жудаснае, непраходнае балота, але не дрыгвяністае. Вольн.

БАЙ (*бай*) *-я, мужч.* Мянушка чалавеку, які вельмі любіць і ўмее апавядаць, расказваць казкі, розныя прыгоды і гісторыі. Пайшоў Бай. Ягó й празывáюць Бай. Вольн.

БАЙЛЮЧА'НЕЦ (*арф.*) *-нц-а, мужч., множн.—байлючáне.* Жыхар в. Байлюкі. Кл.

БАЛАХО'Н (*балахóн*) *-н-а* і *-н-у, мужч.* 1. Няўмела сшытая, шырокая і доўгая вопратка. Кл. 2. Бальнічны халат. У бальніцы ўсім даюць балахóны. Кл. Такі балахóн гáтка надзявáць. Глуск.

БАРБАРО'ВЕЦ (*арф.*) *-óўц-а, мужч., множн.—барбарóўцы (арф.).* Жыхар в. Барба-

ро́ва (Барбаро́во, звычайна Барбаро́ў). Пас. Янкі Купалы.

БАРТНЫ′ (*бартны́*) *прыметнік*. Ужываецца ў спалучэнні з дуб. Бартны́—такі, у якім вядуцца (вяліся) пчолы. Хал.

БАСО′ТА (*басо́та*) *-т-ы, жан.* 1. Таго ж кораня і значэння, што і бася́к. Кл. 2. Зборн., у сэнсе—басякі. У палі́цаю йшла ўся́ка басо́та. Хіба там булі́ лю́дзі? Там ніко́го лю́дзкаго не було́. Сл. Параўн.: басата́. Саламір'е Полацкага раёна.

БЕРВЯНЯ′КА (*б[е]рв[е]ня́ка, бярвяня́ка*) *-к-і, жан.* Форма ацэнкі ад бервяно. Вольн.

БЗЫ′КАЦЬ (*бзы́каць*) *-ка-ю, -ка-еш, непераходны, незаконч. тр.* Пераймаць гукі насякомых (аваднёў), палохаць жывёлу. Кл.

БІКЛА′ГА Гл. бікла́га ў выпуску 1959 г. Параўн.: бакла́жка. Голдава Жалудоцкага раёна, Саламір'е Полацкага раёна.

БІЦЬ[1] (*бі́ць*) *-ю́, -е́ш, пераходны, незаконч. тр.* Біць. Хал., Сл., Вольн.

БІЦЬ[2] (*бі́ць*) *-ю́, -е́ш, пераходны.* Кляпаць (касу). Сьнêдай, а я ко́сы біць пайду́, шчэ ні біў ні аднаê касы́. Кл.

БІЦЬ[3] (*бі́ць*) *-ю́, -е́ш, пераходны.* Забіваць, заколваць (кабана). Тарэ́нта й ло́ўко й аку-ра́тно б'е кабано́ў. Кл.

БЛАШЧЫ′ЦА Гл. блашчы́ца ў выпуску 1959 г. Параўн.: блашчы́ца — блыха́. Падлессе Ляхавіцкага раёна.

БЛЁ'ХАЦЬ (*блёхаць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Пляскаць, плюхаць. Язê блёхаюць. Нéшта блёхнула ў бізýньніку. Пас. Янкі Купалы. А нашто́ блёха[е]ш? Кл. Як со́нца, тады́ блёхая ры́ба. Сым.

БЛЁ'ХАЦЦА (*блёхацца*) *-а-юся, -а-ешся, незаконч. тр.* Пялёскацца, плюхацца. Лю́біць Ва́ся блёхацца. Пас. Янкі Купалы. Як дзень вялікі, дак блёхаюцца (у рэчцы дзеці). Сым.

БО'ЙКА[1] (*бó(ô)йко, бó(ô)йка*) *прыслоўе.* Бойка, смела. Глуск., Кл.

БО'ЙКА[2] (*бóйка, бôйка*) *-к-і, жан.* Бойка. Барб., Хал.

БО'ЙКА[3] (*бóйка, бôйка*) *-к-і, жан.* Маслабойка (ужываецца і апошняе), бочачка, у якой б'юць масла. Каро́ву прадала́ й бôйку аддала́. Кл.

БО'ЙЛА[1] (*бóйла, бôйла*) *-л-а, ніяк.* Прылада (бабка), на якой кляпаюць або б'юць (гл. біць[2]) касу. Сым.

БО'ЙЛА[2] (*бóйла(о), бôйла (о)*) *-л-а, ніяк.* Джала ў касе, якое кляпаюць, б'юць (гл. біць[2]). Побач—жа́ла. Вольн.

БО'ЛЬШЫ (*бóльшы і бôльшы*) *прыметнік.* 1. Вышэйшая ступень ад прыметніка вялікі. Кл. 2. Старэйшы па ўзросту (пра сына). Бо́льшы ў п'яты клас хо́дзіць, ужэ адзіна́ццаць ко́нчыласо, а мéншаму во́сьмы, ў пéршы (клас) хо́дзіць. Кл. Мéншы ро́слы вéльмі, дак ужэ, бач, бôльшы за бо́льшаго. Пас. Янкі Купалы.

БО'СЫ[1] *(бо́сы) прыметнік.* Босы. Кл.

БО'СЫ[2] У спалучэнні бо́сая яе́чня—тое, што руск. глазунья. Бо́сае [е]е́шні ні люблю́. Кл.

БО'ЎТАЦЬ *(бо́ўтаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* 1. Ударáць боўтам (гл. боўт у выпуску 1959 г.), ударамі боўта заганяць рыбу (у сетку). Ты аддыхні, дай я бу́ду бо́ўтаць. Кл. Не́йкіе на во́зяры бо́ўталі ў ко́мля (гл. ко́мель у выпуску 1959 г.). Кл. 2. Любыя шумы, удары па вадзе. Атыйдзêце, хло́пчыкі, ацьсю́ль, а то бо́ўтаяце, ні даяце́ ры́бы ву́дзіць. Кл. 3. Неадабральнае. Шукаць, выбіраць з міскі лепшыя кавалачкі, порцыі стравы. Чаго́ бо́ўтаяце? Хто ж бо́ўтанае бу́дзе е́сьці? Кл.

БО'ЎТАЦЦА *(бо́ўтацца) -а-юся, -а-ешся, незаконч. тр.* Цалю́сянькі дзень бо́ўтаюцца ў рацэ́. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: пялёскацца, цялёпкацца. Саламір'е Полацкага раёна.

БРУ'КВА *(бру́ква) -в-ы, жан.* Бручка (Brassica nápus). Пас. Янкі Купалы, Кл., Байл. Параўн.: гража́нка, грыжа́на. Саламір'е Полацкага раёна.

БРУКО'ЎНІК *(бруко́ўнік, брукôўнік) -к-у, мужч., зборны.* Націна (лісце) бручкі. По́ўну пôсьцілку брукôўніку дала́ (карове). Пас. Янкі Купалы. Параўн.: Ад пажару паблісквае мокрае бручкавінне і нечая мокрая каска. Янка Брыль, Вачыма друга, Мінск, 1956, стар. 47.

БРЫДЧА'ЦЬ[1] *(брыджча́ць, брычча́ць) -а́-е, неперахóдны, незаконч. тр.* Гл. збрыдчаць. Кл., Глуск.

БРЫДЧА'ЦЬ[2] (*брыджчáць, брыччáць*) *-á-ю, -і-еш, неперахoдны.* Станавіцца непрыгожаму, брыдкаму. Кл.

БРЫЗКУ'ЛЬ (*брызкýль*) *-л-я́, мужч.* Халодны рэдкі, з перапынкамі (непрацяглы) дожджык. Кл.

БРЫКАНУ'ЦЬ (*брыканýць*) *-кан-éш* і *-кн-éш, -кан-é,* і *-кн-é, законч. тр.* Ударыць нагою, нагамі (конь, вол, карова). Ідзêце дáл[е]й: пáдло (конь) брыкaнýць мажэ́. Хал.

БРЫКА'ЦЦА (*брыкáцца*) *-á-ешся, -á-еццa, незаконч. тр.* Біць (конь, вол, карова) нагою, нагамі. Былá (карова) на малакó дóбра, але вéльма брыкалаcа. Надóйіш даéнку, і ўсе (усё малако) ў гнôй. Тагó валá, што брыкáўса, прадалí. Кл.

БРЫКЛІ'ВЫ (*брыклівы, брыкліву, -а(-ая), -ае*) *прыметнік.* Такі (конь, вол і інш.), які брыкаецца (гл. брыкáцца). Кл., пас. Янкі Купалы, Хал.

БРЫКУ'Н (*брыкýн*) *-н-á, мужч.* Жывёліна (вол, конь), якая брыкаецца (гл. брыкáцца). Пас. Янкі Купалы.

БРЫКУ'ХА (*брыкýха*) *-х-і, жан.* Жывёліна (карова, кабыла), якая брыкаецца (гл. брыкáцца). Пас. Янкі Купалы.

БРЭ'ІЦЬ (*брэ́йіць*) *-э́-ю, э́-іш, пераходны.* 1. Галіць, брыць. Кл. 2. Чыста выкошваць. От касá! бáчыш, як чы́сто брэ́йіць. Кл.

БУВА'ЛІШНІ (*бувáлішні, бывáлішні*). Гл. бывалішні. Сл.

БУ′ДА[1] *(бўда) -д-ы, жан.* У Глускім раёне ёсць некалькі паселішчаў, што маюць назву Буда; ёсць і лес Буда.

БУ′ДА[2] *(бўда) -д-ы, жан.* 1. Своеасаблівая паветка на возе (у цыганоў, у старцоў (гл. ста́рац), у балаголаў). Кл., Вольн. Параўн.: у рускай мове фурго́н. 2. Увогуле часовае збудаванне ад дажджу, снегу, ветру. Кл.

БУДА′Н *(буда́н) -н-а́, мужч.* Таго ж кораня, што і бу́да, будава́ць, буды́нак. Шалаш. Глянь— хма́ра чо́рна, дава́й буда́н рабіцьмам. Кл. Гл. курэ́нь.

БУ′ДНЫ *(бўдны) прыметнік.* У бу́дны (дзень) гуля́ць грэ̂х, а ў сьветы́ (дзень) рабі́ць не грэ́х. Сл. У бу́днай адзе́жы. Кл.

БУ′ЙСТРЫ *(бў(й)стры, быстры).* Гл. бы́стры[2].

БУ′ЛБАТКА *(бўлбатка) -тк-і, жан.* Бурбалка (ужываецца і бу́рбалка). З мы́ла бу́лбаткі рабілі. Кл. Бу́лбаткі на вадзê: дож бу́дзе до́ўга йсьці́. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: бу́рбалка. Саламір'е Полацкага раёна. Параўн.: Праваліўся (у балоце.—*Ф. Я.)* па пояс, будзеш варушыцца, а бездань чорная, ненажэрная, пачне зацінаць цябе больш і больш, толькі пухіры будуць булькаць вакол, пакуль не закрые ўсяго назусім. Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 128.

БУ′ЛЬМА *(бўльма) -м-ы, жан.* Бручка. Вольн., Сым.

БУ'СТРЫ (*бу́(й)стры, бы́стры*). Гл. быстры[1].

БУ'ТАЛЬ (*бу́таль*) *-тл-я, мужч.* Бутля, вялікая бутэлька. Сым.

БУЯКІ' Гл. буякі ў выпуску 1959 г. Параўн.: сініцы. Жалудоцкі, Скідзельскі раёны. Параўн.: галабо́ні. Саламір'е Полацкага раёна.

БУЯ'ЦЬ (*буя́ць*) *-я́-е, неперахродны, незаконч. тр.* Вельмі расці, расці на націну (бульба, памідоры), на салому. Кл. Гл. збуяць.

БУЯ'ЧНІК (*буя́шнік*) *-к-у, мужч., зборны.* На буя́шніку буякі́ расту́ць. Буя́шніку бага́то, а я́гад ма́ло. Кл.

БЫВА'ЛІШНІ (*бува́лішні, быва́лішні*) *-я (-яя), -яе, прыметнік.* Даўны, колісьні (гл. ко́лісьні). Сл.

БЫВА'ЛЯШНІ (*быва́ляшні, бува́ляшні*) *-я (-яя), -яе, прыметнік.* Сінонім да ко́лісьні, ранейшы, даўнейшых часоў. Кл., В.

БЫ'СТРЫ[1] (*бу́(й)стры, бы́стры, -а(-ая), -ае) прыметнік.* 1. Быстры. Хал., Сл., Кл., В., Вольн. 2. Гарачы, хуткі. Бу́йстры ко́нік. Хал.

БЫ'СТРЫ[2] (*бу́йстры, бы́стры*) *прыметнік.* Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікамі страха́, кры́ша, дамо́к. Быстрая страха, крыша—такая, якая пастаўлена пад вострым вуглом (супрацьлеглае ашлапава́тай, гл. ашлапава́тая). Кл.

БЫТ (*быт*) *-т-у, мужч.* Быццё, жыццё. Пабачы́ў і дабра́, й го́ра на свайі́м быту́. Сым.

БЭ'КАЦЬ[1] (*бэ́каць*) *-а-ю, -а-еш, неперахрод-*

*ны, незаконч. тр.* Чытаць па літарах, па складах. Кл., Вольн.

БЭ'КАЦЬ[2] *(бэ́кацъ) -а-ю, -а-еш, неперадны.* Авечкі бэ́каюць. Вольн.

БЯДА'[1] (*б[е]да́, бяда́*) *-д-ы́, жан.* Бяда. Кл.

БЯДА'[2] (*б[е]да́, бяда́*) *-д-ы́, жан.* Двухколка. Пан Букоўські на бядзê êзьдзіў. Кл.

БЯДНО'СЦЬ *(б[е]дно́сьць) -і, жан., толькі ў адз.* Беднасць. За (з-за, праз) б[е]дно́сьці гарава́лі (вельмі многа і цяжка працавалі). Сл.

БЯДНО'ТА *(б[е]дно́та, бядно́та) -т-ы, жан., толькі ў адз.* Беднасць (ужываецца і бядно́сць). Як бо цяпе́р? Даўне́й у Цясно́ве ве́льмі бядно́та була́, што та́к ужэ бêдно жылí, што та́к бêдно. Кл. Ні ў б[е]дно́це, ні ў ліхо́це. Сл.

БЯЖКО'М *(бяжко́м, б[е]жко́м) прыслоўе.* Форма ацэнкі ад бяго́м, аднак ацэнка не заўсёды адчуваецца; нярэдка ўжываецца без адрознення ад бяго́м. Бяжко́м, але не хапа́ючыся. Стр.

БЯЗДО'ЛЛЕ (*арф.*) *-я, ніяк.* Ад назоўніка до́ля. Сінонім да няшчасце, ужываюцца побач у адным устойлівым выразе: Найшло́ няшча́сце ды бяздо́лле *(арф.)*. Кл. Усё адно як няшчасце ды бяздолле найшло; падумайце: не́мец (нямецка-фашысцкія акупанты) спаліў ха́ту, прышлі́ нашы́, но́вую зрабілі. На́ табе—пажа́р. Ізноў рабілі но́вую *(арф.)*. Хал.

БЯРО'ЗАВІК *(арф.) -к-у, мужч.* Бярозавы квас (квас з бярозавага соку). Кл.

БЯРЭ'ЖКАВЕЦ (*арф.*) *-аўц-а, мужч., множн.—бярэ́жкаўцы.* Жыхар в. Бярэжкі. Кл.

БЯРЭ'ЗІНА (*арф.*) *-н-ы, жан.* 1. Матэрыял з бярозы. Бярэ́зіна ў стальма́шні (гл. стальма́шня ў выпуску 1959 г.) спатрэ́біцца. Верацёны рабілі з бярэ́зіны (*арф.*). Кл. 2. Бяроза (адно дрэва). Кл.

## В

ВА'ВА (*ва́ва*). З дзіцячае лексікі. Баліць, болька, балюча. Байл., В., Кл., Барб., Хал., Сл., пас. Янкі Купалы, Глуск.

ВАЙЦЯХО'ВЕЦ (*арф.*) *-оўц-а, мужч., множн.—вайцяхо́ўцы (арф.).* Жыхар в. Вайцяхова (Вайц[е]хо́во, звычайна Вайц[е]хо́ў). Кл.

ВАЛО'К (*вало́к*) *-лк-а́, мужч.* Доўгія вузкія кучы сена. Сêно ў валкôх, і хма́ра йдзе. Кл. Валкі́ скапі́ць (скласці ў копы) трэ́ба. Сл. Параўн.: вал (заграба́й спача́тку ў ва́л, бу́дзім пла́сьціць). Саламір'е Полацкага раёна.

ВАЛЬБУ'КА (*вальбу́ка*) *-к-і, жан.* Нарасць на целе, на дрэве. Кл.

ВАЛЬЦО'ЎКА (*вальцо́(ô)ўка*) *-к-і, жан.* Белая пшанічная мука. Глуск.

ВАЛЮ'ШНЯ (*валю́шня*) *-і, жан.* Майстэрня, у якой валілі сукно. Я тка́ла й рушнікі́, й паясы́, й сукно́, й што́ трэ́ба. Сукно́ валі́ла сама́. Калі́ сама́, а калі́ ў валю́шню вазі́лі. Кл.

ВАРСАНУ'ЦЬ (*варсану́ць*) *-н-у́, -н-е́ш, пераходны, законч. тр.* Піхнуць, штурхнуць. Кл., Байл.

ВАТО′ (*ватó*) *прыслоўе.* Нядаўна, зусім нядаўна. У раёне ватó выступáлі (хор, драмкалектыў). Сл.

ВАЎКАРЭ′ЗІНА (*ваўкарэ̂зіна*) *-н-ы, агульн.* У гневе гаворáць на жывёліну. Но-о-о! Ваўкарэ̂зіна ты. Хібá дубчáгу (гл. дубчáга) на цябé (на каня) вазьмý; бýдз[е]ш бêгці, нідзе дзéн[е]сься. Кл.

ВАЎЧУ′ГА (*ваўчýга*) *-г-і, мужч.* Форма ацэнкі ад воўк. Ой то з гóры, то з далíны, як сабраліся ваўчýгі. З вершаванага апавядання. Кл.

ВЕ′ДАМНА (*вéдамно(а), вêдамно(а)*) *прыслоўе.* Вядома. Вêдамно, Цітóк (гл. цітóк): то змáніць, то збрэ́ш[э]. Кл. Вéдамно, цёмна (непісьменная), хібá пачытáю самá? Сл.

ВЕ′ЙКА (*вé[ê]йка*) *-к-і, жан.* Павека. Глуск. Параўн.: павéка. Саламір'е Полацкага раёна. Параўн.: Я свінцовыя вейкі свае расчыніў. Пімен Панчанка, Выбраныя творы, Мінск, 1956, стар. 435.

ВЕРАЎЧЫ′НА (*в[е]раўчы́на, вяраўчы́на*) *-н-ы, жан.* Кавалак вяроўкі (звычайна зношанай ці адарванай). Хоць в[е]раўчы́наю прыкруцêм (прывяжэ̂м), мо я́кіль (гл. я́кіль у выпуску 1959 г.) даêдам да Малíнава. Сл. Параўн.: вярóўчына. Саламір'е Полацкага раёна.

ВЕРБАЛО′ЗІНА (*вярбалóзіна, в[е]рбалóзіна*) *-н-ы, жан.* Расліна (Salix pentandra).

ВЕРБАЛО′ЗНІК (*в[е]рбалó(ô)зьнік, вярба-*

*лó(ô)зьнік) -к-у, мужч.* 1. Участак лесу, хмызняку з вербалоз (гл. вербалóзіна). Кл. 2. Драўніна вербалозіны (гл. вербалóзіна). Навазіў вербалôзьніку на ўсе лéта (паліць у печы). Пас. Янкі Купалы.

ВЕСЯЛУ'ХА[1] *(вес[е]лýха, в[е]с[е]луха, в[е]сялýха) -х-і, жан.* Тое, што і вясёлка. Сл., Глуск, Кл. Вес[е]лýха вóду з ракí б[е]рэ́. Хал. Параўн.: вясёлка. Саламір'е Полацкага раёна.

ВЕСЯЛУ'ХА[2] *(вес[е]лýха, в[е]сялýха) -х-і, жан.* Вясёлая жанчына. Кл., Хал.

ВЕЧАРЫ'НА *(в[е]чарына) -н-ы, жан.* У значэнні вечар—як частка сутак (побач з звычайным вéчар). За в[е]чарыну рэ̂дзь (гл. рэдзь у выпуску 1959 г.) зрабіў. Кл.

ВІ'ДУЧЫ *(віду̂чы) прыслоўе.* Відавочна, хутка, на вачах. Відучы мéняе вады́ (у возеры), а за дзéнь і нôч (выкінуты застаўкі; гл. зáстаўка ў выпуску 1959 г.) пярасхнé (возера). Кл. Параўн.: расьцé відучы. Радашковічы.

ВІДЭ'ЛЬЦЫ *(відэлцы, відэльцы) -аў, толькі ў множн.* Відэлец *(мужч.)* Нівóдных відэлцаў ні асталóса. Кл.

ВІ'ЛЬНЯ *(Вільня) -льн-і, жан.* Вільнюс. Я ў Вільні раслá. З вершаванага народнага апавядання. Кл. Багáта раскáзваў чагó. Знаў Калінóўскага, што за м[е]цéж у Вільні вêшалі. Зуб. Параўн.: Дзядзька ў Вільні. Якуб Колас, раздзел «Новай зямлі». Параўн.: Мне пісаў з-пад Вільні. Пятрусь Броўка, Збор твораў, т. II, Мінск, 1957, стар. 109. Параўн.: Вільня

стала самым адказным месцам на прасторах Заходняй Беларусі і Літвы. Піліп Пестрак, Сустрэнемся на барыкадах, кніга першая, Мінск, 1954, стар. 231.

ВІ́НЕН *(вінны, вінен) -а, -ае, прыметнік.* Вінаваты. Хібá éтае дзіцá вíннае? Хал. Ты вінны, прась ц[е]бé ýсе. Сл. Параўн.: Ці ж вінна галубка, што голуба любіць? Ці ж вінен той голуб, што сокал забіў? Янка Купала, Збор твораў, т. 5, Мінск, 1954, стар. 222. Параўн.: Гэта цемра людская, Ігнась, вінна. Р. Мурашка, Сын, Мінск, 1957, стар. 63.

ВІРО́К *(вірóк, юрóк, ўюрóк) -рк-á, мужч.* Прылада, пры дапамозе якой навіваюць нітку на клубок, асноўваюць аснову і інш. Ніяк н[е] найдý віркá свайгó. І дзé чэ́рці задушы́лі? Бyў вірóк свôй, а то йдзí пазычáй. Кл. Параўн.: юрóк. Саламір'е Полацкага раёна.

ВІЦЦЕ *(віцьцé і віцьце) -цц-я́ і -цц-я, нíяк., зборны, толькі ў адз.* Скручаныя (звітыя) бярозавыя (таксама дубовыя, лазовыя) дубцы, якія выкарыстоўваюцца пры збудаванні плоту, звязванні (чаго-небудзь). Кл. Гл. пярэ́віць, пярэ́віцце. Гл. гужбá.

ВО́БМЕШКА *(вóбмяшка) -шк-і, жан., толькі ў адз.* Мука (часцей з зерня ніжэйшай якасці), прызначаная на корм жывёле. Вóбмешка— ад мяшáць: мукой пасыпаюць бульбу, сечку (гл. сéчка² ў выпуску 1959 г.), мякіну і перамешваюць. Трэ́ба былó вóбмяшкі змалóць да пачáць карміць (выкормліваць) кабáнчыка; хібá ж картóплямі сàла нарóсьціш? Пас. Янкі

Купалы. Параўн.: прóмешка *(арф.)*. Вв. Угляны, Буцавічы, Казекава Мінскага раёна.

ВО'ЖКА *(вóжка, вôжка) -жк-і, жан.* Лейчынá (ужываецца і ляйчы́на). Конь упýдзіўса— машы́на па дарóзе йшлá—да ў лêс, а тýт шчэ вôжка пярарвáласа. Кл. Параўн.: лейчынá. Саламір'е Полацкага раёна.

ВО'СЕЦЬ *(вóс[е]ць, вóсяць) -ц-і, жан.* Будынак, у якім сушаць лён, каноплі. Кл., пас. Янкі Купалы, Байл. Гл. ёўня.

ВО'ЧАП *(вóчап) -п-у, мужч.* Шост у прыстасаванні (пры студні) даставаць ваду. Кл., Сл. Тое самае ключ (гл. ключ[3]).

ВУ'БЕГЧЫСЯ гл. вы́бегчыся.

ВУБЯГА'ЦЦА Гл. выбягàцца.

ВУГРЭ'БАЦЬ. Гл. выгрэ́бацьь.

ВУ'ЖЛУКЦІЦЬ *(вýжлукціць, вы́жлукціць) -кч-у, -кч-аш, пераходны, законч. тр.* Гл. вы́жлукціць. Кл., Хал.

ВУ'ЗВЕРЫЦЦА Гл. вы́зверыцца.

ВУ'ЗГАЛАЎКА *(вýзгалаўка) -ўк-і, жан.* Частка воза—драўляны брусок над пярэдняю воссю. Кл., пас. Янкі Купалы. Параўн.: вузгалóўе. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

ВУ'КРАСАЦЬ Гл. вы́красаць.

ВУ'ЛЕЧКА *(вýлячка) -к-і, жан.* Памяншальна-ласкальнае ад пазыўнога вуль-вульвуль (гл. вуль-вуль-вуль!) Качанятка, часам (у значэнні) куранятка. У спалучэнні з займен-

нікам мая́ (часцей мае̂) ужываюць разам з пазыўным словам: ву́лячкі мас̂! вуль-вуль-вуль! Кл.

ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ! *(вуль-вуль-вуль)*. Так клічуць (падзываюць) качанят. У асобных сем'ях—куранят. Кл. Гл. вулечка.

ВУ'МЕНЦІЦЬ Гл. вы́менціць.

ВУ'ПУГАЦЬ Гл. вы́пугаць.

ВУ'ПУСТАК Гл. вы́пустак у выпуску 1959 г.

ВУ'СЕРБАЦЬ Гл. вы́сербаць.

ВУ'СЦЯБАЦЬ *(ву́сьцябаць, вы́сьцябаць)*. Кл. Гл. вы́сцебаць.

ВУ'СЫПАЦЬ Гл. вы́сыпаць.

ВУ'СЯКАЦЦА Гл. вы́сякацца.

ВУ'СЯКАЦЬ Гл. вы́сякаць.

ВУ'ТНУЦЦА Гл. вы́тнуцца.

ВУ'ТНУЦЬ *(ву́тнуць, вы́тнуць) -тн-у, -тн-еш, пераходны, законч. тр.* Байл., Барб., Кл. Тое, што вы́тнуць, вы́цяць. Гл. вы́цяць.

ВУ'ЦЯЖКА *(ву́цяжка, вы́цяжка)* Гл. вы́цяжка.

ВУ'ЦЯЦЦА Гл. вы́цяцца.

ВУ'ЦЯЦЬ *(ву́цяць, вы́цяць) -тн-у, -тн-еш, пераходны, законч. тр.* Кл., Байл., Гл. вы́цяць.

ВУ'ШКІ[1] *(ву́шкі) множн.* ад вуха. Кл., Сл., Хал., Зуб.

ВУ'ШКІ[2] *(ву́шкі, вы́шкі)*. Гл. вышкі.

ВУШПІГО'ЎВАЦЬ Гл. вышпігóўваць.

ВЫ'БЕГЧЫСЯ *(вýбягціса, вýбягчыса, вы́бягчыся) -г-уся, -ж-ышся, законч. тр.* ад выбягàцца (гл. выбягáцца). Кл., пас. Янкі Купалы.

ВЫБЯГА'ЦЦА *(вуб[е]гáцца, выбя[е]гáцца) -á-юся, -á-ешся, незаконч. тр.* Тэрмін з спартыўнай гульні «салавéй», або «падкідны́ мя́чык» (гл. салавéй², гл. падкідны́ мя́чык). Калі мяч выбіваецца «ў поле», каманда стараецца «вы́бегчыся» (дабегчы да вызначанага пункта і вярнуцца назад), а праціўнікі павінны, злавіўшы мяч, «выбіваць» тых, якія выбягаюцца. Кл., пас. Янкі Купалы.

ВЫВІ'ДНІВАЦЬ *(вувíднівацъ, вывíднівацъ) безасабовы, незаконч. тр.* Вывíднівае—світае, вывíднівало(а)—світала. Байл., Кл., Глуск.

ВЫГРЭ'БАЦЬ *(выгрэ́бацъ, вугрэ́бацъ) -а-ю, -а-еш, пераходны, незаконч. тр.* Выграбаць. Кл., Вольн.

ВЫ'ЖЛУКЦІЦЬ *(вýжлукціць, вы́жлукціць) -кч-у, -кч-аш, пераходны, законч. тр.* Выпіць (прагна, многа). Хал., Кл., пас. Янкі Купалы.

ВЫ'ЗВЕРЫЦЦА *(вýзьвярыцца, вы́зьвярыцца) -ышся, -ыцца, законч. тр.* Люта, раз'юшана, па-зверскаму глянуць, паглядзець. Чагó ты вýзьвярыўса? Дак. Сказáла Піліпу, што маê картóплі стаптáў, дак ён [е]к вýзьвярыцца. Кл.

ВЫ'КРАСАЦЬ *(вýкрасацъ, вы̂красацъ) -са-ю, -а-еш, законч. тр.* Кóлісь курцэ̂ насілі крэ́м[е]нь, крэ́сіво й гýбу. Вы́красае агню́ й закýрыць. Хал.

ВЫ́МЕНЦІЦЬ (*ву́мя[е]ньціць, вы́мя[е]ньціць*) *-нч-у, -нц-іш, пераходны, законч. тр.* Старанна, хутка і чыста выесці (усё з якога-небудзь пасудку). Кл. Параўн.: мянцíць языком (багата, па-пустому гаварыць) і мянтáшыць (вастрыць мянтáшкаю касу). Параўн.: вы́пугаць, спу́гаць, напу́гацца (гл. вы́пугаць, спу́гаць, напу́гацца).

ВЫ́ПУГАЦЬ (*ву́пугаць, вы́пугаць*) *-а-еш, -а-е, пераходны, законч. тр.* Ацэначна-зніжальнае. З'есці (прагна) усё з якога-небудзь пасудку. Кл. Параўн.: выпугаць і вымугаць. Саламір'е Полацкага раёна.

ВЫ́ПУСТАК Гл. вы́пустак у выпуску 1959 г. Параўн.: пярэ́зімак. Голдава Жалудоцкага раёна, Падлессе Ляхавіцкага раёна.

ВЫ́СЕРБАЦЬ (*ву́сярбаць, вы́сярбаць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Хутка з'есці сёрбаючы. Кл.

ВЫ́СЦЕБАЦЬ (*ву́сьцябаць, вы́сьцябаць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* ад сцябáць (гл. сцябáць).

ВЫ́СЫПАЦЬ[1] (*вы́сыпаць, ву́сыпаць*) *-пл-ю, -пл-еш, пераходны, законч. тр.* Высыпаць. Кл.

ВЫ́СЫПАЦЬ[2] (*вы́сыпаць, ву́сыпаць*) *-пл-ю, -пл-еш, пераходны.* Закінуць, расцягнуць (на вадаёме) сетку-трыгубіцу. Кл. Я сваю́ ўчóра вы́сыпаў на вóзяры, мо лінкá злаўлю́. Кл.

ВЫ́СЯКАЦЦА (*ву́сякацца, вы́сякацца*) *-ка-юся, -ка-ешся. Законч. тр.* Тое, што і высмаркацца. Кл.

ВЫ́СЯКАЦЬ (*ву́сякаць, вы́сякаць*) *-ка-ю, -ка-еш, пераходны.* Ужываецца ў спалучэнні з нос. Тое, што і вы́смаркаць. Кл.

ВЫ́ТНУЦЦА (*вы́тнуцца, ву́тнуцца*), *вы́тнуся, вы́тн-ешся. Законч. тр.* Ударыцца. Кл., Байл., Сым. Гл. выцяцца.

ВЫ́ТНУЦЬ (*ву́тнуць, вы́тнуць, ву́ця(е)ць, вы́ця(е)ць*) *-тн-у, -тн-еш.* Гл. вы́цяць. Кл., Хал., Сл., Сым., Глуск.

ВЫ́ЦЯЖКА (*ву́цяжка*) *-жк-і, жан.* Такая загатоўка (верх ботаў—халявы і галоўкі), якая зроблена з суцэльнага кавалку скуры. Щ[е]пе́р ву́цяжак ніхто́ й ні но́сіць. Кл. Ду́маў вы́цяжкі зрабі́ць. Глуск. Вы́цяжкі до́бра, але німа́ фасо́ну. Зуб.

ВЫ́ЦЯЦЦА (*вы́цяцца, вы́ц[е]цца, ву́цяцца, ву́ц[е]цца*) *вы́тн-уся, вы́тн-ешся, законч. тр.* Ударыцца. Кл., Байл., Барб., Хал., Сл. Ні вы́тніся гало́ўкаю. Сым. Гл. вытнуцца.

ВЫ́ЦЯЦЬ (*ву́цяць, вы́цяць*) *-тн-у, -тн-еш, пераходны, законч. тр.* Ударыць. Скажы́, ву́цяў м'я́чыкам у зду́хавіну, дак упа́ло (дзіця) бе̂днае. Кл.

ВЫ́ШКІ (*ву́шкі, вы́шкі*) *-шак.* Палаткі, насціл на хлеве, адрыне, гумне. Усе́ на́шае се̂на на вы́шкі ўле̂зла. Кл. На ву́шках муражо́к, там му́шы ні та́к даста́нуць. Барб.

ВЫШПІГО́ЎВАЦЬ (*ву́шпігоўваць, вышпіго́ўваць*) *-ва-еш, -ва-е, непераходны, незаконч. тр.* Выведваць. Барб., Кл. Параўн.: вывіжо́ўваць (гл. вывіжо́ўваць у выпуску 1959 г.).

ВЯДЗЬМА'К (*арф.*) *-к-á, мужч.* Вядзьмар, чараўнік (вядзьмар таксама ўжываецца). Кл.

## Г

ГАГО'КАЦЬ (*гагóкаць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Вытворны ад го-го! Крычаць—го-го! Часôў мо два нéхто ўнôчы гагóкаў за ракóю. Кл. Параўн.: гóйкаць. Саламір'е Полацкага раёна.

ГАДО'ЎНЫ (*гадóўны, гадôўны*) *-а(-ая), -ае, прыметнік.* Такі (дзіця, маладая жывёліна), якога лёгка гадаваць: моцны, дужы, не хварэе, непераборлівы. Кл. Гл. негадóўны ў выпуску 1959 г.

ГАДУ'Н (*гадýн*) *-н-á, мужч.* Той, якому год; аднагадовы. Кл. Параўн.: у рускай мове годовалый.

ГАДУНЕ'Ц (*гадунéц*) *-нц-á, мужч.* Тое, што і гадун (гл. гадýн); гадунец ужываецца радзей. Пас. Янкі Купалы.

ГАДУНО'К (*гадýнóк*) *-нк-á, мужч.* Памяншальнае ад гадýн (гл. гадýн). Мéншаго (кабана) прадáйма, а гадункá кармíцьму на сáла. Пас. Янкі Купалы.

ГАДУНО'ЧАК (*гадунóчак*) *-чк-а, мужч.* Памяншальнае ад гадýн (гл. гадýн). Пас. Янкі Купалы.

ГА'КАЦЬ (*гáкаць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Стукаць (секчы) сякерavailable. У йіх вêчно німá дроў насêчаных. Людзі спаць

лажа́цца, а ў йіх га́каюць на ўсю ха́ту. Хто́-то (хто гэта) ў Уля́ны га́кае пут паве́цьцю? Му́сіць, сын прые̂хаў. Кл.

ГА′ҚНУЦЬ *(га́кнуць) -н-у, -н-еш, неперахадны, законч. тр.* 1. Секануць (сякераю). Што гак, то й знак (пра няўмелага дрывасека, цесляра). Кл. 2. Рэзка, энергічна стукнуць, выцяць. Кл. 3. Выпіць гарэлкі, прычым многа. Пас. Янкі Купалы.

ГАЛЁ′ҚАЦЬ *(галёкаць) -а-ю, -а-еш, неперахадны, незаконч. тр.* Вытворны ад галё-галё!— поклічу ў лесе. Кл. Параўн.: го́йкаць. Саламір'е Полацкага раёна.

ГАЛЛЕ′ЙҚА *(гальле́йко, гальле́йка) -к-а, ніяк., зборны.* Форма ацэнкі ад назоўніка галлё (тут—гальле́). Гальле́йкам памаха́ць. З народнай песні. Кл.

ГАЛУБО′Қ[1] *(галубо́к) -бк-а́, мужч.* Памяншальнае ад голуб. У Мінску на вуліцы галубко̂ў бага̀та-бага́та. Пас. Янкі Купалы.

ГАЛУБО′К[2] *(галубо́к) -бк-а́, мужч.* Ласкальнае, выражэнне пяшчоты (пры звароце да чалавека). Кл.

ГАЛУ′ЗА[1] *(галу́за) -з-ы, жан.* Галавешка. Вынясьце, ма́мо, галу́зы да ю́шку зачыне̂це, а то ўвесь дух выйдзе. Кл. Трэ́ба зрабіць галу́зу (абпаліць палена), шну́ра пачарніць. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: махны́тка. Хоцімскі раён.

ГАЛУ′ЗА[2] *(галу́за) -з-ы, жан.* Хвароба проса—са́жа. У тваём про́се палавіна галу́зы. Кл.

ГАМАНІ'ЦЬ *(гаманіць) -н-ю, -н-іш, непераходны, незаконч. тр.* 1. Громка (дзвюм ці больш асобам) гаварыць, але разабраць, пра што гавораць, нельга: гавораць далекавата. На Про́сьсі гамо́няць, мо п'яны́[е] (едуць) з Глу́ська. Кл. 2. Гаварыць (дзве ці больш асоб) спакойна, дудукаць. Пасе́лі й гамо́нім да й ня ба́чым, што йду́ць. Кл. 3. Батаваць (гл. батава́ць у выпуску 1959 г.), гаварыць без злосці, без дакору (пра якую-небудзь загану, недахоп, недагляд). Усê гамо́няць на яе́, што шкаду́е (есці). Кл.

ГА'МАЦЬ *(га́маць) -а-ю, -а-еш, незаконч. тр.* З дзіцячае лексікі. Есці. Га́май, до́нячка, га́май. Са́мі бальшуны́ (гл. бальшу́н у выпуску 1959 г.) пад'êлі, а табê ніхто́ га́маць ні да́ў. Кл.

ГА'МАЧКІ *(га́мачкі).* Нязменнае слова з дзіцячае лексікі. Естачкі. Гл. га́мкі. Кл.

ГА'МКІ *(га́мкі).* Нязменнае слова з дзіцячае лексікі. Есці. Га́мкі, до́чачка, захацêла. Ідзі́ ж, дам га́мкі. Кл. Гл. га́маць.

ГА'МУЗАМ *(га́музам) прыслоўе.* Усе разам, усе гуртам; адразу ўсе (кінуцца, рынуцца, паваліць куды-небудзь). Пас. Янкі Купалы.

ГАНІ'ЦЬ *(ганіць) -н-ю, -н-іш, пераходны.* Тое, што ганяць (куды-небудзь, напрыклад на пашу). Даўнêй у на́с нара́нкі ні гані́лі (кароў). Кл. На в[е]сьнê гані́лі. Зуб.

ГАННЯ' *(ганьня́) -нн-і, жан.* 1. У перыяд спароўвання (злучкі) ваўкі, сабакі збіраюцца ў стада—у ганню́. Кл. 2. Наогул — стада сабак. Кл. Параўн.: Калі ён падышоў да кулацкага хутара, яго здзівіла надзвычайная цішыня. Быва-

ла тут за кілометр падарожнага ці праезджага сустракала страшэнным брэхам цэлая гання сабак. Аркадзь Чарнышэвіч, Світанне, Мінск, 1957, стар. 317. Параўн.: Уладзіўся як мае быць... і паехаў сабе вечаркам назад, аглядваючыся па баках, мо дзе воўк накруціцца на тое ліха, бо ў тую зіму цягаліся яны цэлымі ганнямі. Змітрок Бядуля, Збор твораў, т. I, Мінск, 1951, стар. 94. Параўн.: гайня́ *(назоўнік)*, гайнява́ць *(дзеясловў)*. Макраны Капыльскага раёна. Параўн.: гальня. Краснадворцы Старобінскага раёна.

ГАРАХВЯ'НІК *(гарахвя́нік) -к-у, мужч., зборны, толькі ў адз.* Гарохавая салома. Сым.

ГАРАХВЯ'НІШЧА *(гарахвя́нішча, гарафя́нішча) -шч-а, ніяк.* Поле, дзе рос гарох. Вольн.

ГАРБУ'ЗНІК *(гарбу́зьнік) -к-у, мужч.* Сцяблы і лісце гарбуза. Гарбу́зьнік ні бу́дам укіда́ць у хлёў, сьця́гнам на грэ́бяльку ў лу́жу. Кл.

ГАРО'ДЧЫК *(гаро́джчык, гаро́ччык) -к-а, мужч.* Кветнік, палісаднік. У ма́міным гаро́джчыку адна̀ крапіва расьце́. Барб. А чаму́ ў нас гаро́ччыка німа́? Вольн. Параўн.: Ціхенька паўз сцяну наблізіўся ён да гародчыка і прытуліўся да плота. Піліп Пестрак, Сустрэнемся на барыкадах, кніга першая, Мінск, 1954, стар. 310.

ГАРО'ХАЎЕ *(гаро́хаўе) -я, ніяк.* Поле, дзе рос гарох. Пас. Янкі Купалы.

ГАРО'ХАЎНІК *(гаро́хаўнік) -к-у, мужч., зборны.* Гарохавая салома. Сл.

ГА′РЧЫК (*гáрчык*) *-к-а, мужч.* 1. Гарнец. 2. Невялікая (на 3—4 літры) судзіна для сыпкіх рэчываў (жыта, гарох ці інш.). Кабану́ ўсы́пала **г′**áрчык аўсá. Пазы́ч ты мнê **г′**áрчык мукі. Кл.

ГАРЭ′НІЦЬ (*гарэ́ніць*) *-н-іць, непераходны, незаконч. тр.* Гаркаваты на смак (яблык, масла нясвежае). Кл.

ГА′ЎКАЦЬ (*гáўкаць*) *-а-еш, -а-е, непераходны, незаконч. тр.* 1. Брахаць. Параўн.: гаў! гаў! 2. Пераноснае (пра чалавека). Гаварыць па-пустому; выскокваць (з словамі) нечакана і не да месца. Кл.

ГЕРГЕТА′ЦЬ[1] (*г*[*е*]*рг*[*е*]*тáць*) *-ч-аш, -ч-а, непераходны, незаконч. тр.* Гаварыць на незразумелай мове. Глуск, Хал. Параўн.: гаргатáць. Саламір'е Полацкага раёна.

ГЕРГЕТА′ЦЬ[2] (*г*[*е*]*р г*[*е*]*тáць*). Гусі г[е]ргéчуць. Кл.

ГІДАВА′ЦЬ (*гідавáць*) *-ý-ю, -ý-еш, непераходны, незаконч. тр.* Грэбаваць, гадзіцца, брыдзіцца. Зуб.

ГІ′ДКА (*гідко*) *прыслоўе.* Гадка, моташна. Хýдж[э]й (горш) гідко бýдзе. Хал. Параўн.: Яму стала гідка, і ён скоранька адышоўся. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 291—292.

ГІ′ДКІ (*гідкі*) *прыметнік.* Гадкі, паганы. Дарóга гідка. Зуб. Я н[е] хóчу гідкаго пачóту. Сл.

ГІ′ДЗІЦЬ (*гідзіць*). Ужываецца ў трэцяй асобе і як безасабовы. Нудзіць, ванітуе. Хал.

ГІЧЫ'НА *(гічы́на) -н-ы, жан.* Сцябло (адно каліва) бульбы. Кл. Гл. цаві́на. Гл. гіч у выпуску 1959 г.

ГЛАДЧА'ЦЬ *(гладжча́ць) -а́-еш, -а́-е, неперазходны, незаконч. тр.* Станавіцца гладкім, папраўляцца, прыбаўляючыся на вагу. Кл.

ГЛЕЎКАТА' *(гл[е]ўката́) -т-ы́, жан.* Вытворнае ад прыметніка глёўкі (глёўкая глеба—вельмі вільготная глеба; глёўкі хлеб — нявыпечаны хлеб). На по́лі ве́льмо гл[е]ўката́: дажджэ́ й дажджэ́. Хал.

ГЛУШЭ'Ц[1] *(глушэ́ц) -шц-а́, мужч.* Птушка глушэц (Tetrao urogallus). Кл.

ГЛУШЭ'Ц[2] *(глушэ́ц) -шц-а́, мужч.* Глухі чалавек, глушак. Кл.

ГЛЫБАЧЭ'ЗАЗНЫ *(глыбачэ́зазны) -а(-ая), -ае, прыметнік.* Форма ацэнкі ад глыбо́кі (як і шыро́зны, шыро́зазны). Кл.

ГЛЫБАЧЭ'ННЫ *(глыбачэ́нны) прыметнік.* Форма ацэнкі ад глыбо́кі. Кл., Глуск.

ГЛЯЧО'К *(глячо́к, гл[е]чо́к -чк-а́, мужч.* Памяншальнае ад гляк (гл. гляк у выпуску 1959 г.). Кл., Сл.

ГНАЁ'К *(гнаёк) -йк-у́, мужч., толькі ў адз.* Форма ацэнкі ад гной. Кл.

ГНЕ'ДЫ *(гне́ды) прыметнік.* Гняды. Кл., пас. Янкі Купалы.

ГНЁТ *(гнёт) -т-у, мужч.* Тут у нас бе̂жанцы булі́. Кажу́: дай рубе́ль сало́му ўці́снуць (на

возе). Дак у кішэ́ню палёз. А тагды́ й ка́жэ: у на́с н[е] называ́юць рубе́ль, у на́с гнёт. Кл.

ГНЮС *(гнюс) -с-у, мужч.* Тое, што заедзь (гл. за́едзь). Като́ры год гню́су бага́то, а като́ры спакайнêй. Кл.

ГО'ЛКА *(го́лка) -лк-і, жан.* Іголка. Хал.

ГО'МАЛКА *(го́малка) -к-і, жан.* Сухі сырок, па форме—яйка ці шар. Трэ́ба Сц[е]па́ну го́малак пасла́ць. Лю́біць, каб го́малку зьêсьці. Глуск.

ГО'ПАЦЬ *(го́паць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* 1. Моцна тупаць. Кл. 2. Моцна стукаць. Кл. 3. Падаць, скакаць з вышыні. Кл.

ГО'ПНУЦЦА *(го́пнуцца) -уся, -ешся, законч. тр.* Грымнуцца (па́даючы). Разагна́ўся: здуганя́ў (гл. здуганя́ць) (карову) — зачапі́ўся за галіну, да так го́пнуўся, што аж у чэ́раве клёкнула. Кл.

ГО'ПНУЦЬ *(го́пнуць) -н-у, -н-еш, непераходны, законч. тр.* ад го́паць (гл. го́паць). Кл.

ГО'РНА *(го́рно, гôрно) прыслоўе.* Маркотна, сумна. Адна́, дак і гôрно. Сл. Параўн.: Бо калі на сэрцы горна і няма людское ласкі, — Спакайней у хаце зорнай, Чым у куце гаспадарскім. Пятрусь Броўка, Збор твораў, т. II, 1957, стар. 51.

ГО'РШЧЫК *(го́ршчык) -к-а, мужч.* Невялікі гаршчок. Кл., пас. Янкі Купалы.

ГРАБАНУ'ЦЬ *(грабану́ць) -н-у́, -н-е́ш, пе-*

*раходны, законч. тр.* Кажу́ табê на до́брае: ву́піў, то йдзі́ спаць, а то грабану́, што й касьце́й ні зьб[е]рэ́ш. Кл.

ГРАБІ'НА *(грабі́на) -н-ы, жан.* 1. Матэрыял з грабу, грабовая драўніна. Параўн.: хваі́на, бярэ́зіна. За до́бру грабі́ну трэ́ба заплаці́ць бôльш, як за жале́зо. Грабі́на цьвярдзêйша за бярэ́зіну. Кл. 2. Граб, адно дрэва. Кл.

ГРА'КНУЦЬ *(гра́кнуць) -кн-у, -кн-еш, пераходны, законч. тр.* Энергічна кінуць, паваліць, абваліць. Бо́раліся, дак так гра́кнуў Па́ўла, што той ні мôг узгрэ́бціся. Пас. Янкі Купалы.

ГРАЦКО'ЎЕ *(грацко́ўе) -я, ніяк., толькі ў адз.* Поле, дзе расла грэчка. Ужываецца (радзей) і грача́нішча. Кл., Вольн.

ГРАЧА'НІЦА *(грача́ніца) -ы, жан.* Салома з грэчкі, «грэ́цка сало́ма». Кл., В.

ГРАЧА'НІШЧА (*грача́нішча, грача́нішчэ, грача́нішч*[э]), *-шч-а, ніяк., толькі ў адз.* Поле, дзе расла грэчка. Ужываецца і грацкоўе. Кл., Вольн.

ГРО'ДНЯ *(Гро́дня) -дн-і, жан.* Гродна. Быў у Вільні, у Гро́дні, у Бара́навічах. Сл.

ГРУД *(груд) гру́д-а, мужч.* Пагорак, узгорак. У бало́ц[е] ля Ва́лу (гл. Вал) груд насы́палі шве́ды, й завецца Шве́дава града́. Кл. То́е ле́та была́ ва́да ве́льма в[е]лі́ка, ўсе бало́та ў вадзе́. Што ду́ма[е]це? На сабê ўсе сêна з балота на груд трал[е]ва́лі. Байл. Параўн.: груд — куча галля (гл. лоўж у выпуску 1959 г.). Дава́й патпа́лім груды́,— во жары́ бу́дзіць. Саламір'е Полацкага раёна.

ГРУ'ДКА (*грýдка*) *-дк-і, жан.* Камяк зямлі, сыру. Загóн так уêзьдзілі, што ўзарáлі, дак адны грýдкі. Трэ́ба ўсê разьбíць. Кл. На дарóгу дзьвê сьвêжыя грýдкі сыру далá. Пас. Янкі Купалы. Пагл[е]дзéце, кахáные, што рóбіцца: палажы́лі тóрбы с кніжкамі да грýдкамі цаля́юцца. Кл. Параўн.: глы́жка — снéжка. Саламір'е Полацкага раёна.

ГРУ'ДКІ (*грýдкі*) *-ак, толькі ў множн.* Памяншальнае ад грýдзі. Усю нóчку гарáчка (у дзіцяці) былá, усю нóчачку ў грýдках хрыпêло. Кл.

ГРУ'ДЗІ (*грýдзі*) *-éй, толькі ў множн.* Грудзі. У грудзях у маткі—тое, што ў рускай мове в утробе матери (дарэчы, у Руска-беларускім слоўніку (1953 г.) перакладу «в утробе матери» няма). Дзéвачка тагды́ булá ў грýдз[е]х. Сл.

ГРЫМА'К (*грымáк*) *-á, мужч.* Ужываецца ў спалучэнні з даць, надавáць, надáць (у плечы). Надáць грымакóў (даць грымакá)—набіць кулаком (у плечы, у спіну). Кл.

ГРЭ'ЦКІ Гл. грэ́цкі ў выпуску 1959 г. Параўн.: гарачы́шны. Голдава Жалудоцкага раёна. Гарачы́ха (грэчка). Там жа.

ГУ'БКА Гл. гýбка[2] ў выпуску 1959 г. Параўн.: гýбіца. Голдава Жалудоцкага раёна, Падлессе Ляхавіцкага раёна.

ГУЖБА' (*гужбá*) *-б-ы́* і *-б-ý, жан., зборны, толькі ў адз.* Скручаныя (звітыя) досыць тоўстыя дубцы (бярозавыя, дубовыя), якія выкарыстоўваюцца пры звязванні бярвенняў у клейні (гл. клéйня ў выпуску 1959 г.), у плыты́. Кл. Гл. віццé, пярэ́віцце.

ГУЗАРО'БКА (*арф.*) *-бк-і, жан.* Зроблены з бяросты кубачак на ягады. Пас. Янкі Купалы.

ГУЗЫ'Р (*гузы́р*) *-р-а́, мужч.* Ніжняя частка снапа. До́брае жы́то, калі гузарэ́ л[е]гчэ́йшые за каласы́. Кл. У гузаро́х травы́ бага́то. Барб. Трэ́ба кла́сьці гузара́мі на кра́й. Хал.

ГУ'ЛІ (*гу́лі*) *-яў, толькі ў множн.* Неадабральнае. Гулянне. Што ў бо́га ве́чар — на гу́лі йдзе. Кл. Гу́лі й па́на (памешчыка) разу́лі. Зуб.

ГУМНІ'ШЧА (*гумні́шч*[э], *гумні́шчэ, гумні̀шча*) *-шч-а, ніяк.* Месца, дзе стаяла гумно. На гумні́шчы крапі̀ва парасла́. Кл.

ГУ'РА (*гу́ра*) *-р-ы, жан.* Гурба снегу. За гу́рамі праѐхаць ні мо́жна. Кл. З гу́ры ката́ліса. Хал.

ГУРО'К (*гуро́к*) *-к-а́, мужч.* Агурок. Кл., Хал., Барб., Байл., пас. Янкі Купалы, Вольн., В., Глуск. Параўн.: ... гуркі з халаднаватым бляскам расолу і пахам кухмарскіх прыпраў. Янка Скрыган, Апавяданні, Мінск, 1956, стар. 282.

ГУРО'ЧНІК (*гуро́чнік, гуро́шнік*) *-к-у, мужч.* Сцяблы і лісце агуркоў. Кл., пас. Янкі Купалы. Параўн.: агурэ́чнік. Саламір'е Полацкага раёна.

ГУТАТА'ЛКА Гл. гутата́лка ў выпуску 1959 г. Параўн.: гайда́нка. Голдава Жалудоцкага раёна. Параўн.: гайдэ́шка. Падлессе Ляхавіцкага раёна.

ГУ'ШКАЛКА Гл. гутата́лка.

ГЭ'ГАЦЬ (*гэ́гаць*) *-а-еш, -а-е, непераходны.* Гукаперайма́льнае. Гу́сі *гэ́г*аюць. Вольн.

## Д

ДАБІ'ТНЫ (*дабітны*) *прыметнік*. Той, які ўсяго дойдзе, усяго даб'ецца, кемлівы, пранырлівы. Но́вы дзірэ́ктар (школы), гавары́лі, дабі́тны ве́льмі. Кл.

ДАБЛЁ'ХАЦЦА (*даблёхацца*) *-а-юся, -а-ешся, законч. тр.* ад блёхацца (гл. блёхацца). Сым., пас. Янкі Купалы.

ДАБРАВО'ЛЯ Ужываецца толькі з прыназоўнікам па. Гл. па дабраво́лі.

ДАБРЭ'ННЫ (*дабрэнны*) *-а(-ая), -ае.* Форма ацэнкі ад прыметніка до́бры. Каб ба́чыў, чаго́ нарасло́ на (асушаным) бало́це! Культу́ра (гл. культу́ра² ў выпуску 1959 г.) та́я па по́[е]с. Така́я дабрэ́нна канюшы́на, што й ба́чыць тако́[е] ні ба́чыла. Пас. Янкі Купалы.

ДАВЕ'ДАЦЦА (*даве́дацца, давêдацца*) *-а-юся, -а-ешся, законч. тр.* 1. Даведацца. Кл., Вайц., Барб. 2. Праведаць (каго-небудзь). Схадзі́ла давêдацца ў Барбароў (там жывуць сваякі), а то гадо́ў шэсь ні була́. Кл. Даве́даюся (у бальніцу да хворай) ўваўто́рак ці ў се́раду. Вайц. Параўн.: Хадзі́ла даві́да́цца яе (у слове даві́да́цца гук «і» ў сувязі з дысіміляцыйным яканнем, як і ў словах сістра́, пірайсьці́). Радашкові́чы.

ДАГАНЯ'ЦЬ¹ (*дага́няць*) *-н-ю, -н-іш* (гл.

здуганя́ць, здаганя́ць), *пераходны, заканч. тр.* Даганя́ць. Хал., Кл., пас. Янкі Купалы.

ДАГАНЯ'ЦЬ[2] (*даганя́ць*) *-н-іш, -н-іць, непераходны.* Дапякаць, уядацца ў косці, уядацца ў печань, упякацца (гл. упяка́цца). Кл., пас. Янкі Купалы. Гл. дагна́ць[2].

ДАГА'ЎКАЦЦА (*дага́ўкацца*) *-а-ешся, -а-ецца, заканч. тр.* Га́ўкае—то дагаўкаяцца. Кл.

ДАГНА'ЦЬ[1] (*дагна́ць*) *-н-ю́, -н-іш, пераходны, заканч. тр.* Дагна́ць (гл. здугна́ць, здагна́ць). Хал., Кл., пас. Янкі Купалы.

ДАГНА'ЦЬ[2] (*дагна́ць*) *-н-іш, -н-іць, непераходны, заканч. тр.* Дапячы, упячыся (гл. упячы́ся), уесціся ў косці, уесціся ў печань. Мнê ётые ка́чкі за лêто дагна́лі, дак дагна́лі. За канікулы так дагна́ў (сын-студэнт), што ні дажду́са, калі́ ву́ладжу (гл. вы́ладзіць у выпуску 1959 г.) с ха́ты. То адно́ ні та́к, то друго́е ні ётак (не гэтак). Усé ні ўго́дзіш. Кл. Дагна́лі мнê тваê го́сьці. Пас. Янкі Купалы.

ДАДО'МКУ (*дадо́мку, дадôмку*) *прыслоўе.* Форма ацэнкі (пры звароце да дзяцей, у мове дзяцей) ад дадому. Сым.

ДАКО'ЛЕЦ (*арф.*) *-льц-а, мужч., множн.— дако́льцы (арф.)* Жыхар в. Даколь. Пас. Янкі Купалы.

ДА'ЛЕЙ (*да́ляй, да́л[е]й*) *прыслоўе.* Дале́й. В., Кл., Хал., Вольн.

ДАМО'К (*дамо́к*) *-мка́, мужч.* Памяншальнае ад дом. То́лькі сталя́рку—й дамо́к гато́вы.

Хал. Такі харо́шанькі дамо́к, што ца́цка. Пас. Янкі Купалы.

ДАПАДА'ЦЬ (*дападаць*) *-а́-ю, -а́-еш, незаконч. тр.* Гл. дапа́сці. Кл.

ДАПА'СЦІ[1] (*дапа́сьці*) *-д-у́, -дз-е́ш, непераходны, законч. тр.* Дабрацца, даскочыць, з пошукамі (куды-небудзь далёка; туды, куды ніхто з вяскоўцаў, з суседзяў і не падумаў рушыць), знайсці. Дапа́лі яж да Зага́льля й нашлі́ (сена). Глуск.

ДАПА'СЦІ[2] (*дапа́сьці*) *-д-у́, -дз-е́ш, непераходны, законч. тр.* Дарвацца, прагна накінуцца (на што-небудзь знойдзенае). Кл.

ДАПЭ'ЎНІВАЦЦА (*дапе́ўніваца*) *-ва-юся, -ва-ешся, незаконч. тр.* Упэўнівацца, даведвацца дакладна, уведваць. Кл. Гл. дапэ́ўніцца.

ДАПЭ'ЎНІЦЦА (*дапе́ўніцца*) *-н-юся, н-ішся, законч. тр.* Упэўніцца, даведацца (пра што-небудзь) дакладна, уведаць. Чаго́ ж хадзі́ла? Трэ́ба було́ ўжэ дапе́ўніцца, што б зна́ць. Хал.

ДАРМА'[1] (*дарма́*). Нічога. Дарма́ што ніхаро́ша (пра дзяўчыну), але разу́мна, ру́ча (гл. ру́чы ў выпуску 1959 г.), со́вясна. Кл.

ДАРМА'[2] (*дарма́*). Выражае якасную характарыстыку—някепскі, някепска. Пшані́ца ні ўрадзі́ла, а про́со дарма́ (г. зн. досыць ураджайнае). Кл. Ба́бе на́шай во́сімдзіс[е]т пе́ршы гадо́к, але́ йшчэ дарма́ старэ́нька: пало́ць хо́дзіць, а ўзі́мку пра́ла кудзе́лю. Кл.—Як ты, Мі́ша, ву́чысься?—Дарма́. Весн.

ДАРО'ЖШЫ *(даро́жшы, даро́шшы)*. *Вышэйшая ступень прыметніка дарагі*. Даражэйшы. Ка́жуць, у Бабру́ску даро́жшае у̂се (прадукты). Кл. А наш даро́шшы бу́дз[е]. Пас. Янкі Купалы.

ДАРЭ'МНЫ *(дарэ́мны) прыметнік*. Бясплатны. Ён дарэ́мна[е] й га́зы нап'ецца. Стр.

ДА'У̂НЫ *(да́у̂ны) прыметнік*. У на́с е свôй пе́рац, але́ ве́льмі ж да́у̂ны. Пас. Янкі Купалы. Тут ні крыні́ца, а да́у̂на кана́ва. Тых (яек) мо й ні ва́рт біць на скаварôдку, бо ве́льмі да́у̂ные, мо й ту́хлые. Кл.

ДАЧУ'ШАЧКА *(дачу́шачка) -чк-і, жан*. Памяншальна-ласкальнае. Параўн.: до́чачка, дачу́шка, до́нячка. Кл., Хал.

ДВАЯНЯ'ТЫ *(дваяня́та, два[е]ня́та)*. Двайняты. Кл.

ДНЕЦЬ *(днець) безасабовы, непераходны, незаконч. тр*. Днее—займаецца на дзень (апошняе таксама ўжываецца). Байл., Сл., Кл., Глуск. Параўн.: развіднівацць, вывіднівацць. Параўн.: Яны вярнуліся ў мястэчка, як пачало ўжо зараць. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 309.

ДО'ЙКА *(до́йка, дôйка) -к-і, жан*. Спецыяльнае. Жанчына, якая доіць кароў. Бу́ла до́йкаю на фе́рме. Сл.

ДО'МА[1] *(до́ма) прыслоўе*. М[е]не́ до́ма ні було́. Кл.

ДО'МА[2] *(до́ма) -м-ы і -м-у, жан*. Тут мая́

до́ма. Поблін. Прышоў з до́мы. Што зь е́стаю до́маю рабіць? Кл.

ДО'НЕЧКА (*до́нячка*) *-чк-і, жан.* Памяншальна-ласкальнае. Што і до́чачка, дачу́шка і іншыя. Хал., Барб., Байл., Кл.

ДО'НЬКА (*до́нька*) *-к-і, жан.* Памяншальна-ласкальнае. Параўн.: до́чачка, дачу́шка, до́нечка. Кл., Барб., Хал.

ДОР (*дор, дôр*) *-р-у, мужч., зборны, адз.— дра́нка.* З будаўнічай лексікі. Драніцы; дошчачкі, якімі крыюць крышу, якія «дзяруць», адшчэпваюць. До́рам накры́ю, тро́хі пастайіць. Кры́ша каб зь бля́хі ці го́нты, а дôр на хату́ нядо́бра. Глуск. Параўн.: шчапа́ (запісана па дарозе ў Ракаў Валожынскага раёна). Параўн.: драніцы. Саламір'е Полацкага раёна.

ДО'СЮЛЬ (*до́сюль* і *дасю́ль*) *прыслоўе.* Дасюль, дагэтуль. Ці ўво́се (гл. уво́се ў выпуску 1959 г.) пашлі́ й до́сюль німа́. Мо ў даро́зе што зрабілаcа зь йімі. Кл.

ДО'ХЛІК (*до́хлік*) *-к-а, мужч.* Вельмі слабы, зусім нядужы, дохлы. Хіба́ с такі́х до́хлікаў (худых парасят) са́ла дажджэ́ськся? Барб., Параўн.: до́хля найшла́ (гл. до́хля найшла́ ў выпуску 1959 г.). Параўн.: здыхля. Мсціслаў.

ДРА'НКА (*дра́нка*) *-нк-і, жан.* Дошчачка, ададраная, адшчэпленая ад бервянца. Дра́нка ні прыстае́, каб атпіло́вану (дошчачку) сюды́ ўзяць. Кл. Параўн.: драніца. Саламір'е Полацкага раёна.

ДРАНЬ (*дрань*) *-н-і, жан., зборн., толькі ў*

*адз.* Тое, што і дор. Дра́ньню накры́ты быў. Глуск.

ДРАТАВА'ЦЬ (*дратава́ць*) *-ў-еш, -ў-е, пераходны, незаконч. тр.* Збіваць, сціраць (гарод, пасевы) жывёлаю (капытамі). Кл. Гл. здратава́ць.

ДРА'ЧКА (*дра́чка*) *-чк-і, жан.* 1. Прылада, якою карыстаюцца цесляры, калі прыладжваюць бервяно да бервяна. 2. Знак, які пакідаюць на бервяне, калі праводзяць па бервяне драчкаю. Кл. Гл. драць дра́чку, ададра́ць дра́чку. Параўн.: дра́ка. Саламір'е Полацкага раёна.

ДРЭ'ЎКА (*дрэ́ўко*(*а*)) *-к-а, ніяк.,* звычайна— *у множн.* Дробныя паленцы (дроў), прызначаныя паліць у грубцы, у бляшанай печцы, на комінку (гл. ко́мінак у выпуску 1959 г.). Дрэ́вак нанасі́ла по́ўну печ. Кл. А е́ты[е] дрэ́ўкі на зіму по́йдуць. Вольн.

ДУБІ'НА (*дубі́на*) *-н-ы, жан.* 1. Матэрыял з бярозы, дубовая драўніна. Кл. 2. Дуб, адно дрэва дубовае. Кл. 3. Пераноснае. Непаваротлівы, някемлівы, нястатны (пра чалавека). Кл.

ДУБЧА'ГА (*дубча́га*) *-г-і, жан.* Форма ацэнкі ад дубе́ц. Но-о-о! Ваўкарэ́зіна (гл. ваўкарэ́зіна) ты. Хі́ба дубча́гу на цябе́ (на каня) вазьму́ ; будз[е]ш бе̂гці, ніддзе́ дзе́н[е]сься. Кл.

ДУ'БЧЫК (*ду́пчык, ду́бчык*) *-к-а, мужч.* Памяншальнае ад дубе́ц. Кл., В., Вайц.

ДУ'БЧЫЧАК (*ду́пчычак, ду́бчычак*) *-чк-а, мужч.* Памяншальнае ад дубе́ц (гл. дубец, ду́бчык). В., Кл., Вайц.

ДУПЛЕ′ (*дуплé*) *-л-я́, ніяк.* Дупло. Шчэ бáцькаў дзêд раскáзваў, нéйкія з вайнóю сюды́ прышлí. Страля́лі вацéтак (як нямецкія фашысты). Лю́дзі хавáліса па лéсе,—хто як. У дуплé залáзілі (вêдамо даўнêй ні такí лêс буў), на дзéраво (на дрэва) ўзлáзілі. Кл. У дуплé усадзíў рýку, выймáў дзя́тліка, а назáд хоць плач. Байл. Гурóк з дуплéм. Барб. У дуплé насы́палі жáру й спалíлі такýю дарагýю йгрýшу. Кл.

ДУПЛЕ′ЧКА (*дуплéчко* і *дуплéчка*) *-чк-а, ніяк.* Памяншальнае ад дуплé (гл. дуплé). У дуплéчку савý нашлí, в[е]дзéцца. Кл.

ДУРЭ′ЦЬ (*дурэ́ць, дурэ̂ць*) *-э́-ю, -э́-еш, непераходны, незаконч. тр.* І ўнíмку на йіх німá, хáту п[е]раварóчваюць. Ці каб чытáлі, ці каб штó. Дак нê, тóлькі дурэ̂ць. Кл.

ДУХ[1] (*дух*) *-х-у, мужч.* Дух, душа, дыханне, жыццё. Гітл[е]ру дух вон і кішкі на ц[е]ліфóн. Глуск.

ДУХ[2] (*дух*) *-х-у, мужч.* Цёплае паветра. Зачы́ню́ ю́шку, дух пóйдзе па хáце, цяплêй стáне. Кл.

ДУХ[3] (*дух*) *-х-у, мужч.* Пах. З майіх кілбас дух такí харóшы. Кл.

ДЫ′ХАВІЦА (*ды́хавіца*) *-ц-ы, жан.* Ды́хавіца забівáе. Кл. Шчэ з таê вайны́ (з вайны 1914 г.) ды́хавіца, гáзамі атрýціўса. Хал.

ДЫХАВІ′ЧНЫ (*дыхавíчны*) *прыметнік.* Хворы на дыхавіцу, задышку. Малады́ вóлік, а дыхавíчны. Кл. З майгó старóга ні рабóтнік: ды-

хавічны. Глуск. Параўн.: удушлівы. Саламір'е Полацкага раёна.

### Дз

ДЗЕВАЧУ'Р *(арф.) -р-а, мужч.* Тое, што і дзяўчур (гл. дзяўчур). Кл.

ДЗЕЛЬ *(дзель) прыслоўе.* Дзе-небудзь (апошняе таксама ўжываецца). Ты дзель нахавай (груш-дзічак) на гарэ^ (на столі) ці ў сёне, от смачные будуць, [е]к паляжаць. Кл.

ДЗЕЎЧАНЯ' *(дз[е]ўчаня, дзяўчаня) -ц-і, ніяк.* Спагадлівае, спачувальнае. Дзяўчынка— не зусім сталая ці не вельмі практычная або нямоцная фізічна. Як там нашае дз[е]ўчаня? Ці ето трэба було, ехаць за сьвет? Н.-Андр.

ДЗЕЎЧАНЯ'ТКА *(дз[е]ўчанятка) -тк-а, ніяк.* Памяншальна-ласкальнае ад дзеўчаня. Гл. дзеўчаня. Кл.

ДЗЮДЗЮ'Н *(дзюдзюн) -н-а, мужч.* Мянушка чалавеку па асаблівасці (манеры) гаворкі. Кл.

ДЗЯДО'К[1] *(дзядок, дз[е]док) -дк-а, мужч.* Памяншальнае ад дзед. Хал., Сл., Кл.

ДЗЯДО'К[2] *(дзядок, дз[е]док) -дк-а, мужч.* Невялікі шасток у рыбацкіх прыладах—у сетцы-трыгубіцы, у крызе (гл. крыга ў выпуску 1959 г.). Кл.

ДЗЯЎЧУ'Р *(арф.) -р-а, мужч.* З неадабральным адценнем. Хлапчук, падростак, які сябруе з дзяўчатамі. Кл.

ДЗЯ'ЦЕЛЬНІК Гл. дзяцельнік у выпуску

1959 г. Параўн.: дзя́целіна. Падлессе Ляхавіцкага раёна, Голдава Жалудоцкага раёна.

ДЗЯЦІ́НЫ (*дзяцінe*) *-а(-ая), -ае, прыналежны прыметнік* ад дзіця́. Ты ж ні чыê, а дзяціны[е] гро́шы забра́ў. Кл.

## Е

Е Ёсць. Побач ужываецца е́сяка, е́сьцяка, есь.

ЕЛКАВА́ТЫ (*[е]лкава́ты, ялкава́ты) прыметнік* (з адценнем непаўнаты якасці) ад е́лкі. Гл. е́лкі. Кл.

Е́ЛКІ (*ê лкі) прыметнік.* Ужываецца з назоўнікамі ма́сла, са́ла. Е́лкае (масла, сала) — нясвежае, крыху пажаўцелае і прыгорклае, гаркаватае на смак. Дала́ б ма́сла, але êлкае, му́сіць. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: ёлкі. Мсціслаў.

Е́СЦЯКА (*е́сьцяка*). Ёсць. Побач ужываюцца е́сяка, е, есь. Есь. Гл. е, е́сяка, е́сцяка.

Е́СЯКА (*е́сяка*). Зуб., Хал., Барб., Кл. Гл. е, есь, е́сцяка.

ЁЎК (*ёўк*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма (тыпу хоп, шморг, сцёб) ад ёўкнуць. Гл. ёўкнуць. Кл.

ЁЎКНУЦЬ (*ёўкнуць) -н-у, -н-еш, непераходны.* Шуснуць, праваліцца (зусім нечакана) пад лёд, у «акно» на балоце, на дрыгве. Кл., пас. Янкі Купалы.

Ё́ЎНЯ (*ёўня) -н-і, жан.* Будынак, у якім сушаць лён, каноплі, збожжа. Сым. Гл. во́сець.

ЖАВА'КА (*жава́ка*) *-к-і, жан., толькі ў адз.* Жвачка. Каро́ву лётась прырэзалі: захварэла, нешто жава́кі не жава́ю. Зуб.

ЖАГА'ЛА (*жага́ло, жага́ла*) *-л-а, ніяк.* Прылада (з жалеза, сталі), якою, моцна нагрэўшы, прапякаюць дзіркі. На клетку (для птушак) нарабіў пла́начак, а цяпе́р напрапяка́ю жага́лам дзірак. Тагды́ за дро́цік бра́цца. Кл.

ЖАРАБЯ'ТНІК (*жараб'ятнік*) *-к-а, мужч.* Жарабятнікі—ваўкі вялікай пароды, звычайна палавы́я. Кл. Параўн.: аўча́рнік (гл. аўча́рнік).

ЖАРДЗЕ' (*жардзе́, жэ́рдзе*), *-дз-я́* і *-дз-я, ніяк., зборны* ад жэрдка. Жардзя́ нагатаваў. Хал. Чые́ там жэ́рдзе? Сл.

ЖАРТУ'Н (*жарту́н*) *-н-а́, мужч.* Жартаўнік. Жарту́н, бо жарту́[е]. У ваднаго́ й фамі́ляя Жарту́н. Ст. Ратміравічы.

ЖАРТУНО'К (*жартуно́к*) *-нк-а́, мужч.* Памяншальна-ласкальнае ад жарту́н. Гл. жарту́н. Ст. Ратміравічы.

ЖА'РЫ (*жа́ры*) *-а(-ая), -ае, прыметнік.* Абазначае масць—цёмна-чырвоны. Пас. Янкі Купалы. Можна думаць, што жа́ры ад таго ж кораня, што і назоўнік жар (гарачае, але без полымя вуголле).

ЖАЎТАПЕ'САК (*жаўтапе́сак*) *-к-у, мужч.* Пясчаны бераг, пясчанае дно, пясчаная глеба. На жаўтапе́ску сьлядоў во́ўчых бага́та было́. Кл.

ЖО'РВАНЫ (*жорваны*) *-аў, толькі ў множн.* Жорны. У вайну йзноў пашлі ў моду жорваны. Млыны ўсё папалілі. Зуб. Жорваны надаело круціць. Хал.

ЖО'РДКА (*жортка*) *-тк-і, жан.* Доўгі, што жортка. Жортку на плот прынес. Зуб.

ЖУРАВЕ'ЛЬ (*журавель*) *-л-я, мужч.* 1. Журавель. 2. Бутэлька на тры літры. На в[е]сельле браў мо п'яць жураўлёў гарэлкі. Пас. Янкі Купалы.

ЖУРАВО'ВА (*журавова*) *прыметнік* ад назоўніка жураў. Адзінаццата н[е]дзеля ат каляд журавова, а дзясята каччына. Кл. Народная прымета аб часе звароту з выраю журавоў і качак.

ЖЫВАТО'К (*жыватoк*) *-тк-а, мужч.* Памяншальнае ад жывот. Хал.

ЖЫ'ЖА (*жыжа*) *-ж-ы, жан.* З дзіцячае лексікі. Горача, гарачы. Пас. Янкі Купалы.

ЖЭ'РДЗЕ (*жардзе, жэрдзе*) *-дз-я* і *-дз-я, ніяк., зборны.* Гл. жардзе. Хал., Кл., Сл.

## З

ЗА'БАРСКА (*забарска*) *-ск-і, жан.* 1. Частка аборы, якая ўцягнута ў вушкі лапцей. А ў рацэ вады стало па забарскі (вельмі мала, мелка). Кл. 2. Частка аборы, якая пятлёй ахоплівае ў пад'ёме нагу (пры абуванні лапцей), у кожным лапці па дзве забарскі. Забарска парвалася, дак вуз[е]л муліць (Гл. муліць у вы-

пуску 1959 г.) нóгу. Кл. Зáбарска нóгу рэж[ э̌]. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: Зáбарсня. Краснадворцы Старобінскага раёна.

ЗАВА'ДЗІЦЬ (*завáдзіць*) *безасабовы, непераходны, законч. тр.* Завáдзіла—занудзіла, зашкодзіла, стала моташна. Ад гарбýзікаў (гл. гарбýзікі ў выпуску 1959 г.) завáдзіло. Кл.

ЗАГА'ЛЕЦ (*арф.*) *-льц-а, мужч., множн.— загáльцы (арф.).* Жыхар в. Загалле. Кл.

ЗАГО'Н (*загôн, загóн*) *-н-у, мужч.* Нешырокі ўчастак ворнай зямлі, пасеву, абмежаваны разорамі. Кл.

ЗАГО'НЧЫК (*загôнчык, загóнчык*) *-к-а, мужч.* Памяншальнае ад загóн (гл. загóн). У нáс сёлята на с[е]дзíбе загôнчык прóса пасéяны. Пас. Янкі Купалы.

ЗАГУМЕ'ННЕ (*загумéньне*) *-нн-я, ніяк.* За гумнамі. Гумны стаялі за вёскаю, гумно кожнага гаспадара насупраць сядзібы. Загумéньням пôйдам. Кл.

ЗАДО'К (*задóк*) *-дк-á, мужч.* Будаўнічае. Збітая з дошак сценка ад папярочнай сцяны да страхі; задкоў у будынку—два. Сл. У гэтым значэнні гл. зашчы́так. Гл. таксама закóт.

ЗАДРАТАВА'НЫ (*задратавáны, -а(-ая), -ае*) *дзеепрыметнік* ад задратавáць (гл. задратавáць[1], задратавáць[2]). Кл.

ЗАДРАТАВА'ЦЬ[1] (*задратавáць*) *-ý-ю, -ý-еш, пераходны, законч. тр.* Уцягнуць у лыч свінні (у храшч) дроцік, каб не рыла. Глуск.

ЗАДРАТАВА'ЦЬ[2] (*задратаваць*) *-ў-еш, -ў-е, пераходны.* Папрабіваць, папраколваць капыты (каню), нагнаўшы па неасцярожнасці ці недагляду на вострыя калючыя прадметы (напрыклад, калючы дрот). Кл.

ЗАДУ'ШНЫ (*задушны*) *прыметнік.* 1. Пра жывую істоту (чалавек, жывёліна), якая не мае спакою, неасцярожная, носіцца, лезе, дзе небяспечна. Кл. 2. Задушны дзень—дзень, у які здараюцца нечаканыя і непрыемныя шматлікія прыгоды. Кл.

ЗА'ЕДЗЬ (*заядзь, за[е]дзь*) *-дз-і, жан.* Насякомыя (авады, мухі, камары, сляпні), якія нападаюць на жывёлу, на чалавека. Цёплае й мо́крае лёто, дак німа́ адбо́ю, — так бага́то за́ядзі. Байл. Каб як прыду́малі што тру́ціць за́ядзь. Кл. Сёлята за́ядзі, што й у хлявê каро́ве німа́ спако́ю. Пас. Янкі Купалы.

ЗАЙРДЗЕ'ЦЦА (*зайрдзецца*) *-ішся, -іцца, законч. тр.* Загарэцца чырванню, зачырванецъ, густа зачырванецъ; зачырванецъ, наліваючыся кроўю (твар) ад злосці. Така́я по́рстка, сярдзіта, чуць што́—зайрдзіцца, скало́ла б, што б прымêла (гл. пры́мець). Глуск.

ЗА'ЙЧЫКАЎ (*зайчыкаў*) *прыналежны прыметнік* ад за́йчык. Хадзêце, тут бага́та за́йчыкавага шча́ўлю (гл. за́йцаў шча́вель). Кл.

ЗАКА'ЛЕЦ (*арф.*) *-льц-а, мужч.* Глёўкая (гл. глёўкі ў выпуску 1959 г.), ацеслівая палоска ў буханцы (над ніжняю скарынкаю) няўдала выпечанага хлеба. Глуск.

ЗАКАЦІ'ЦЬ[1] *(закацíць) закачý, закóціш, пераходны, законч. тр.* Закаціць (што-небудзь, куды-небудзь). Кл. Гл. фразеалагізм закацíць вóчы.

ЗАКАЦІ'ЦЬ[2] *(закацíць).* Ужываецца як безасабовы. Законч. тр. ад закóчваць (гл. закóчваць). За аднó лёто палавíну (раны на дрэве) закацíло. Кл. Такое значэнне слова закаціць звязана з тым, я́к зарастае рана, зрэзаны сучок: вакол раны з'яўляецца нарост паўкруглай формы і паступова з усіх бакоў коціцца і нарэшце закочвае рану.

ЗАКО'Т (*закôт* і *закóт*) *-т-у, мужч.* Зашчытак (гл. зашчы́так) у будынку з бярвенняў. На закôт лёсу бага́то йдзе. Сл. З закóтам надзёжней було́ б. Хал. Гл. таксама задóк.

ЗАКО'ЦІНА *(закóціна) -н-ы, жан.* Бервяно з закоту (гл. закóт). Кл.

ЗАКО'ЧВАЦЬ[1] *(закóчваць) -ва-ю, -ва-еш, пераходны, незаконч. тр.* Закочваць (што-небудзь куды-небудзь). Кл., Хал. Гл. фразеалагізм закацíць вóчы.

ЗАКО'ЧВАЦЬ[2] Ужываецца як безасабовы. Зараста́ць, закрываючы рану, зрэзаны сучок (дрэва). За тры́ гады́ закóціць сучкí. Пас. Янкі Купалы. Галíну атадра́лі дак закóчваць пачалó. Кл. Гл. закаціць[2], пазакочваць[2].

ЗАКРАСАВА'ЦЬ (*закрасава́ць*) *-ý-е, непераходны, законч. тр.* ад красава́ць (гл. красава́ць). Зацвісці (пра жыта, мятлíчку). Кл., Барб.

ЗАКУ′МКАЦЬ *(закýмкаць) -а-е, непераходны, законч. тр.* ад кýмкаць (гл. кýмкаць). Пáрно стáло, й закýмкалі (жабы) кагáлам. Кл.

ЗАНУ′ДЗІЦЬ (*занýдзіць*) *-іць, -л-а, безасабовы, непераходны, законч. тр.* Занудзіла—зашкодзіла, завáдзіла (гл. завáдзіць), стала моташна. Нябóжчык бáцька і раз не мóг укусіць свéжага хлéба. Трóшкі вóзьме—то пéчайка, то занýдзіць (*арф.*). Кл.

ЗАПАМО′ГА *(запамóга) -г-і, жан.* Іранічнае пра чалавека. Няўмелы ці такі, хто не можа па здароўю рабіць што-небудзь, але бярэцца дапамагчы. У хáту йдзі, запамóга такáя, рýкі пасінéлі й сам сьсінêў, што гусíны пуп.

ЗАПАРКА′НІЦЬ *(запаркáніць) -н-ю, -н-іш, законч. тр.* Загарадзіць, збудаваць паркан (гл. паркáн). Сым.

ЗАПАТЫ′ЛЬНІК *(запатыльнік) -к-а, мужч.* Клінок, якім закліноўваюцца ўдзетыя ў баньку (гл. бáнька[2] ў выпуску 1959 г.) кассё і каса. Хал. Параўн.: запатылак. Саламір'е Полацкага раёна.

ЗА′ПЕЧАК *(зáп[е]чак, зáпячак) -чк-у, мужч.* Месца ў хаце за печчу. Параўн.: Сядзеў бы ў запеччы дзе-небудзь... А то—наце вам! на сход прыпёрся!.. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 70.

ЗАПО′ВІНЫ *(запóйіны, запóвіны) -ін-* і *ін-аў, толькі ў множн.* Гл. запóіны. Кл., Хал., Сл., Барб.

ЗАПО′ІНЫ (*запóйіны* і *запóвіны*) *-ін* і *-ін-аў, толькі ў множн.* Праз пэўны час пасля сватання (сватоў) пры згодзе нявесты выйсці замуж прыходзілі да яе «запівáць», рабіць запóіны—замацоўваць вынікі сватання. Хал., Кл., Сл., Барб.

ЗА′ПУСКІ (*зáпускі*) *-сак* і *-ск-аў, толькі ў множн.* Застарэлае. Апошні дзень перад пастом. Кл.

ЗА′САЎКА (*зáсаўка*) *-к-і, жан.* Прыстасаванне зачыняць (замыкаць) дзверы знутры. Кл.

ЗАСЕ′КЦІ[1] (*засêкці*) *-к-ý, -ч-эш, пераходны, законч. тр.* Засекчы. Хал., Зуб., Кл.

ЗАСЕ′КЦІ[2] (*засêкці*) *-к-ý, -ч-эш, пераходны.* У в. Клетнае адзін чалавек «ведаў замову» на згубленую жывёліну: калі згубіцца жывёліна, ён гаварыў замову і канчаў яе тым, што ўтыкаў у сцяну сякеру або нож,—«засякаў» (карову, каня), каб яна спынілася і не ішла далей з таго месца, на якім была ў момант «засякання». Цяпер гэта ўспрыймаецца, як недарэчны жарт. Кл.

ЗАСЕ′ЎКІ (*засêўкі*) *толькі ў множн.* 1. Пачатак сяўбы. Глуск. 2. Абрад перад пачаткам сяўбы. Кл. У в. Клетнае засеўкі праводзіліся толькі не раніцою; гаспадар, едучы засяваць, абуваў новыя лапці (з новымі аборамі), як снег, белыя анучы і бялізну, браў самую чыстую і белую торбу з хлебам і пучок саломы, якую рассцілаў на канцы загона.

ЗАСІНА′ЦЬ (*засінáць*) *-á-ю, -á-еш, непера-*

*ходны, законч. тр.* Засынаць. Зашчапіся ў хаце, але ні засінай, бо ні ўвойдам ў хату. Кл.

ЗАСКА′ЛІЦЦА *(заскáліцца) -л-юся, -л-ішся, законч. тр., зваротны* ад заскаліць (гл. заскáліць). Прыжмурыцца. Чагó тут стайіш заскáліўшыса? Кл.

ЗАСКА′ЛІЦЬ *(заскáліць) -л-ю, -л-іш, пераходны, законч. тр.* Ужываецца ў спалучэнні з вóка. Прыжмурыць, прыплюшчыць (вока). Заскáліць вóко й стайіць, усé ўглéдзіць. Кл. Мо чáс, заскáліўшы вóко, стайіць серад вýліцы. Кл. Параўн.: Гаспадыня дома—старая чыноўніца-п'яніца—заскаліла хітра вока і смяшком праказала... Р. Мурашка, Сын, 1957, стар. 40.

ЗАСКВА′РЫЦЬ *(засквáрыць) -р-у, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* Гл. прысквáрыць. Хал., Кл., Зуб., Параўн.: затаўчы́. Мсціслаў.

ЗАСЛАНІ′ЦЬ *(засланіць) -н-ю́, -н-іш, пераходны, законч. тр.* 1. Закрыць (адтуліну, святло, прадмет). Кл. 2. Закрыць (засланкаю) печ. Пасадзіла хлêб, а засланіць пêч ні засланіла. Кл.

ЗА′СЛАНКА *(зáсланка) -нк-і, жан.* 1. Дошчачка з ручкаю зачыняць печ. Кл. 2. Дошчачка, якою закрываецца адтуліна. Кл. Параўн.: заслóнка. Саламір'е Полацкага раёна.

ЗАСЛО′НЧЫК *(заслôнчык, заслóнчык) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад заслóн (гл. заслóн у выпуску 1959 г.). Прасіла Ламáшка зрабіць заслôнчык. Кл. Параўн.: зэдлік. Пярэжыры Валожынскага раёна. Параўн.: Каля печы на невялі-

кім услоніку—драўлянае вядро з вадою і вялізны жоўты бляшаны кубак. Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 57. Параўн.: услóнчык. Саламір'е Полацкага раёна.

ЗАСНАВА'ЦЬ *(заснавáць) -ну-ю, -ну-еш, пераходны, законч. тр.* ад снавáць. 1. Ткацкае. Пачаць снаваць, зрабіць пачатак асновы. Кл. 2. Будаўнічае. Пакласці першы вянок (самыя першыя, ніжнія бярвенні) будыніны. Кл.

ЗАСТАРО'НАК *(застарóнак, застарôнак) -нк-а, мужч.* Под у гумне, адрыне (гл. под). Кл., Вольн.

ЗАСТО'ЛЕЙКА *(застóлейко) -к-а, ніяк.* Журылася сакóлікава мáмачка:—Ой, чамý ж майгó сына-сакалá даўнó німá? Ой, ці [е]гó мешчáначкі зьлюбілі? Ой, ці [е]гó па застóлейку вадзілі? З песні. Сл.

ЗАСЫ'ПАЦЬ[1] *(засыпаць) -пл-ю, -пл-еш, пераходны, законч. тр.* Засыпаць. Кл.

ЗАСЫ'ПАЦЬ[2] *(засыпаць) -пл-ю, -пл-еш, пераходны.* Закінуць, расцягнуць (на вадаёме) сетку трохсценную. На Кісялёвых яме нáнач засыпаў (сетку). Кл. Гл. высыпаць[2].

ЗАСЯВА'ЦЬ *(зас[е]вáць) -вá-ю, -вá-еш.* 1. *Незаконч. тр.* ад засéяць. Кл. 2. Пачынаць сяўбу (вясною). Кл.

ЗАТА'ЛАВАЦЬ *(затáлаваць, затáлуваць) -лу-ю, -у-еш, пераходны, законч. тр.* ад тáлаваць (гл. тáлаваць у выпуску 1959 г.). Затáлавалі такóго каткá. Кл.

ЗАТАРАБА'НІЦЬ[1] *(затарабáніць) -н-ю, -н-іш, непераходны, законч. тр.* ад тарабаніць (гл. тарабáніць[1]). Загрукаць, застукаць. Затарабáніў па частакóл[е], дак разбудзіў усіх. Пас. Янкі Купалы.

ЗАТАРАБА'НІЦЬ[2] *(затарабáніць) -н-ю, -н-іш, непераходны, законч. тр.* ад тарабаніць (гл. тарабáніць[2]). Абыякава, неахайна зацягнуць, завалакчы, завезці (што-небудзь). Затарабáньце (мёртвага каня) у Сьлíма (участак лесу) й закапáйце. Кл.

ЗАТАЎСЦЕ'ЦЬ *(затаўсьцêць) -é-еш, непераходны, законч. тр.* Зацяжараць. Кл. Параўн.: тóўстая, цяжкая (гл. тóўстая[2], цяжкая[2] ў выпуску 1959 г.).

ЗА'ТКАЛА *(зáткало, зáткала) -л-а, ніяк.* Мех з саломаю ці скрутак ануч, якім затыкалі ў курных хатах дзірку, праз якую выходзіў дым. Значэнне слова мала хто разумее: курных хат і зáткала ў вёсцы даўно няма. Слова захавалася ва ўстойлівым звароце—стаіць, як зáткала з выражаным ацэначна-зніжальным значэннем. Стаяць, як заткала,—замінаць, стаяць перад вачыма, пад нагамі. Кл. Параўн.: зáткла. Трэ́ба ў пóграб зáткла зрабіць, а то марóз улéзе. Краснадворцы Старобінскага раёна.

ЗАТО'Н *(затôн) -н-у* і *-н-а, мужч.* Затока (пры рэчцы). У Сы́цькавам затóне ліны́ скрôзь (заўсёды) былí. Кл. Па затóнах карасê, ўюны. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: азеравіна. Саламір'е Полацкага раёна.

ЗАТЭ′ПАЦЬ (*затэ́паць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр. ад тэ́паць*. Павольна, паціху зайсці (куды-небудзь); зайсці тэпаючы. Кл. Гл. тэпаць.

ЗАХЛУ′ПІЦЦА (*захлу́пiцца*) *-пл-юся, -п-ішся, законч. тр.* Задыхнуцца (пры адсутнасці паветра), задушыцца. Кл. Параўн.: захлынуцца (вадою, пераноснае—працаю, хапаннем).

ЗАХЛЫНА′ЦЦА (*захлына́цца*) *-а́-юся, -а́-ешся, незаконч. тр.* 1. Захлынацца. Кл. Параўн.: у рускай мове за́хлебываться. 2. Душыцца працаю, прагным хапаннем. Адсюль — захлы́нка (гл. захлы́нка). Кл. Параўн.: захлу́піцца.

ЗАХЛЫ′НКА (*захлы́нко, захлы́нка*) *-к-а, агульн.* Ацэначна-зніжальнае. Той, хто прагна хапае, робіць (не ўлічваючы сваёй сілы, магчымасцей і патрэб); параўн.: захлына́цца (гл. захлына́цца). Кл.

ЗАХЛЫНУ′ЦЦА (*захлыну́цца*) *-у́ся, -е́шся, законч. тр.* ад захлына́цца (гл. захлына́цца). Уся прырода (радня, сваякі) такі[е], а то́й про́сто захлыну́ўса хапа́ючы, шчэ ж малады́ буў сусі́м. Кл.

ЗАЦЮ′ПАЦЬ (*зацю́паць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* Павольна, па-старыкоўску зайсці. Кл.

ЗАЧЫКІЛЬГА′ЦЬ (*зачыкільга́ць*) *-а́-ю, -а́-еш, непераходны, законч. тр.* ад чыкільга́ць (гл. чыкільга́ць). Зайсці кульгаючы. Кл.

ЗАЧЫНІ′ЦЬ (*зачыні́ць*) *-н-ю́, -н-іш, пераходны, законч. тр.* 1. Зачыніць (напрыклад,

дзверы). 2. Ветлівае. Правесці (каго-небудзь) (правесці—няма). Зачыні, сынок, за дзядзькам дзьвера. Кл.

ЗАЧЫРЫ'ЦЬ (*зачырыць*) *-р-ý, -р-ыш, непераходны, законч. тр.* ад чырыць[3] (гл. чырыць[3]). Тут каб крыгаю (гл. крыга[1] ў выпуску 1959 г.) зачырыў, то карасёў набраў бы. Кл.

ЗАШЛАКАТА'ЦЬ (*зашлакатáць*) *-ч-ý, -ч-аш, пераходны, законч. тр.* ад шлакатáць (гл. шлакатáць). 1. Пачаць шлакатáць. Кл. 2. Знясіліць шлакочучы, зашчыкатáць, заказытаць, заласкатаць. Кл.

ЗА'ШМАРГАМ Гл. зáшмаргам у выпуску 1959 г. Параўн.: зáсмаргай. Голдава Жалудоцкага раёна.

ЗАШЧЫ'ТАК (*зашчытак*) *-тк-у, мужч.* Будаўнічае. Збітая з дошак сценка ад папярочнай сцяны да страхі; зашчыткаў — два. Кл., Сл. У гэтым значэнні—задóк. Гл. таксама закóт.

ЗБАНЬ (*збань*) *-н-я, мужч.* Збан. Хал.

ЗБІЦЬ[1] (*зьбіць*) *-ю, -éш, пераходны, законч. тр.* Збіць. Хал., Кл., В.

ЗБІЦЬ[2] (*зьбіць*) *-ю, -éш, пераходны, законч. тр.* Сцерці пасевы. Цялятамі зьбілі аўёс. Кл.

ЗБРЫДЧА'ЛАЕ (*збрыджчáлае, збрыччáлае*) *прыметнік.* Ужываецца з назоўнікам малако. Збрыдчáлае малакó—такое, якое толькі пачало кіснуць, нясмачнае і нястраўнае. Кл., Глуск.

ЗБРЫДЧА'ЦЬ[1] (*збрыджчáць, збрыччáць*)

*-á-е, закончч. тр.* Стаць збрыдчалым (пра малако). Кл. Гл. збрыдча́лае.

ЗБРЫДЧА′ЦЬ[2] *(збыджча́ць, збрычча́ць) -á-ю, -á-еш, непераходны.* Стаць непрыгожым, брыдкім. Кл., В.

ЗБУЯ′ЦЬ *(збуя́ць) -я́-е, непераходны, законч. тр.* Вырасці націнаю, саломаю, але без клубняў, без пладоў. Карто́плі на гаро́дзе збуя́лі (націна, бульбоўнік парос вельмі вялікі, а бульба—не вырасла). Кл.

ЗВО′ДДАЛЬ *(зво́ддаль) прыслоўе.* Здалёк (ужываецца і здалёк). Кл.

ЗВЯГА′ *(зьв[е]га́, зьвяга́) -г-í, жан.* Звяга. Хал., Сл., Зуб. Воўк сабакí н[е] байíцца—зьвягí ня лю́біць. В.

ЗВЯГА′ЦЬ *(зьвяга́ць, зьв[е]га́ць) -á-еш, -á-е, непераходны, незаконч. тр.* Звяга́ць. Кл., В.

ЗГА′МАЦЬ *(зга́маць) -а-ю, -а-еш, пераходны.* З дзіцячае лексікі. *Законч. тр.* ад га́маць (гл. га́маць). Пас. Янкі Купалы.

ЗГАРУ′СЦІЦЬ *(згару́сьціць) -шч-у, -сц-іш, пераходны, законч. тр.* Абыякава зваліць у кучу (што-небудзь). Пас. Янкі Купалы.

ЗГАЦІ′ЦЬ *(згаці́ць) -ч-у́, -ц-іш, пераходны, законч. тр.* ад гаці́ць (гл. гаці́ць у выпуску 1959 г.). Тое, што і згару́сціць (гл. згару́сціць). Кл.

ЗДАГНА′ЦЬ *(здагна́ць, здугна́ць) -ан-ю́, -о́н-іш, пераходны, законч. тр.* Дагнаць. Пас. Янкі Купалы, Кл., Хал. Гл. нагнаць[2] у выпуску 1959 г.

ЗДАЛЕ'ЦЬ (*здалêць*) *-é-ю, -ê-еш, неперахodны, незаконч. тр.* Магчы, быць з сілаю. Што б здалêла, то н[е] йшлá б клáняцца. Балаш. Прыхóдзіла Нáсьця. Кáжэ, што дзя́дзька Мікóдым сусíм ні здалêе. Ані ні рóбіць. Цярас хáту цяжко пяраступíць. Кл. Хібá хварэ̂юць да не здалêюць? Сл. Параўн.: нездалéтны (гл. нездалéтны ў выпуску 1959 г.). Якýю здалêю (зрэзаць хвойку), такýю й павалю́. В.

ЗДАЛЕ'ЮЧЫ (*здалêючы*) *дзеепрыслоўе.* Ужываецца з часціцаю не. Не здалéючы — не маючы сіл. Хібá ж я не здалêючы што зраблю́ зь éстымі картóплямі? Часьсамá скапáю (гл. скапáць), а чáсь хай сын сабê на здарôўе. Кл. Прышлá ж, Улянко. П'яць ўёрст не здалéючы йшла паўдня́. Барб.

ЗДАРАВЕ'Ц (*здаравéц*) *-ўц-á, мужч., ад прыметніка* здаровы (у сэнсе моцны, дужы). Хібá такóга здараўцá хварóба вóзьме? Сым. Параўн.: здараўчáны, нездараўчáны. Краснадворцы Старобінскага раёна.

ЗДРАТАВА'НЫ (*здратавáны, -а(-ая), -ае*) *дзеепрыметнік* ад здратавáць (гл. здратавáць). Збіты, сцёрты (гарод, пасеў) жывёлаю (капытамі), здратаваны — утаптаны капытамі. Усé прóсо здаратавáнае. Кл. Параўн.: Кóні прайшлí—ўвесь авёс здратавáлі. Я ня бýду здратавáны жаць. Саламір'е Полацкага раёна.

ЗДРАТАВА'ЦЬ (*здратавáць*) *-ý-еш, -ý-е, пераходны, законч. тр.* Збіць, сцерці (гарод, пасевы) жывёлай (капытамі). Усé чысьцянько прóсо здратавáлі. Кл.

ЗДУГНА'ЦЬ *(здагна́ць, здугна́ць) -ан-ю́, -о́н-іш, пераходны, законч. тр.* Дагнаць. Кл., Хал. Гл. здагна́ць. Гл. нагна́ць[2] у выпуску 1959 г.

ЗДЫ'МШЧЫК *(зды́мшчык) -к-а, мужч.* Фатограф. Дзê таго́ зды́мшчыка знайсьці? Глуск. Гл. зніМшчык.

З'ЕДКІ *(зьêдкі) толькі ў множн.* З прыказкі (гл.): Вот табê й сьпіткі й зьêдкі. Кл.

З'Е'ЛКНУЦЬ *(зьёлкнуць) -н-е, непераходны.* Тое, што і з'ялча́ць (гл. з'ялча́ць, ёлкі). Кл., Дак. Параўн.: з'ёлкнуць. Мсціслаў.

ЗЕЛЯНКОВЕ'Ц *(арф.) -ц-а, мужч., множн.— зелянко́ўцы (арф.).* Жыхар в. Зелянковічы. Глуск, Зуб.

ЗІ'МАЧКА *(зі́мачка) -чк-і, жан.* Памяншальнае ад зіма́. Адну́ зі́мачку вучы́цца хадзіла. Сл.

ЗЛАТАШЫ'ЦЬ *(златашы́ць) -ш-ý, -ш-ыш, пераходны, законч. тр.* 1. Сцерці, скрышыць гарод, садок, шукаючы, абіраючы спажытак. Кл., пас. Янкі Купалы. Златашы́лі ўсê гуро́чкі. Хал. 2. Сцерці, склычыць пасевы, ураджай, сенажаць, каб нашкодзіць не пажывіўшыся. Кл. Гл. аблаташы́ць, налаташы́ць, латашы́ць.

ЗНА'ЙДА *(Зна́йда) -д-ы, жан.* Клічка сучкі. Востр.

ЗНАТУ'РЫЦЬ *(знату́рыць) -р-ыш, -р-ыць, пераходны, законч. тр.* Жорсткім, няўмелым абыходжаннем выклікаць (у жывёліны — каня, вала, каровы) страх, боязь або непаслухмян-

ства (запрэжаны конь, напрыклад, стаіць як укопаны, ні з месца). Кл. Гл. зняве́рыць у выпуску 1959 г.

ЗНІ'МШЧЫК (*зьнімшчык*) *-к-а, мужч.* Фатограф. Нêйкі год (аднойчы, адзін год) прыêхаў сюды́ зьнíмшчык. Кл. Гл. зды́мшчык.

ЗНІЧО'ГАЦЬ (*зьнічо́гаць, зьнячо́гаць*) *-га-ю, -га-еш, непераходны, законч. тр.* Аслабець, змарнавацца (фізічна), схудзець. Німá сьвêжага м'я́са, дак е́тае кацяня́ зьнячо́гало, а салóнаго (мяса) ні ў рóт. Кл.

ЗО'ЛКА• (*зôлко, зóлка, зôлка*) прыслоўе. Пра стан надвор'я: халоднае вільготнае паветра, холад праймае да касцей. Лу́чч[э]й маро́з, а то зôлко, гáдко, хóладно. Кл., Зуб. Параўн.: Золь асенняя, туман. Кандрат Крапіва, Збор твораў, т. І, Мінск, 1956, стар. 275.

ЗРУДЗЕ'ЦЬ (*зрудзêць*) *-é-е, непераходны, законч. тр.* Стаць рудым, зжаўцець (пра бялізну). Палаві́на майго́ пля́цьця (гл. пля́цце ў выпуску 1959 г.) зрудзêла. Пас. Янкі Купалы. І чаго́ так зрудзêло пля́цьце? Кл.

ЗУ'БЛЕНКА (*зу́блянка*) *-нк-і, жан.* 1. Вялікая цыгарка (параўн.: цыгарка ў зубах). Кл. 2. Неабтушаная галавешка. У во́йну злавілі (партызаны) нêйкага асэсаўца ш чэрапам на пілóцца. С[е]дзíць зьвêрам, адáл[е] прóсіць закуры́ць. А дзе́ ж тó[е] ку́рава? Дак ён (партызан) узя́ў с агню́ зу́блянку й кáжа: а е́тага ні хóчаш? Глуск. Адно з прыведзеных двух значэнняў, зразумела, пераноснае, але якое з іх — цяжка сказаць.

ЗЫ'РЫЦЬ (*зы́рыць*) *-р-у, -р-ыш, пераходны, незаконч. тр.* Гнаць; гнаць энергі́чна, не даючы апамятацца. Зы́рце, зы́рце йіх (коней), хло́пцы. Кл. Параўн. прыгаворку: зы́ры-зы́ры, у Мазы́ры. Кл.

ЗЮ'ЗЯ (*зю́зя*) *-з-і, жан.* З дзіцячае лексікі. Холад, холадна, халодны. Пас. Янкі Купалы.

З'ЯЛЧАЛЫ (*зьялча́лы, зь[е]лча́лы*) *дзеепрыметнік* ад з'ялча́ць (гл. з'ялча́ць, з'е́лкнуць, е́лкі). Зьялча́лага й у ро́т н[е] во́зьме. Хал.

З'ЯЛЧА'ЦЬ (*зьялча́ць, зь[е]лча́ць*) *-а-е, непераходны, законч. тр.* Стаць елкім (гл. е́лкі, елкава́ты). Здэцца й хо́ладно, а ма́сло з'ялча́ло; ялча́е, што ні рабі. Кл.

## І

ІГРУ'ША (*ігру́ша*) *-ш-ы, жан.* Груша. Кл.

ІГРУ'ШЫНА (*арф.*) *-н-ы, жан.* Драўніна грушавая. Кл.

І'КЛА (*йікла*) *-кл-ы, жан.* Ікол (параўн.: у рускай мове клык). У кны́ра йіклы, што сукі. Барб.

ІЛЬНІ'ШЧА (*ільнішч*[э], *ільнішча*) *-шч-а, ніяк.* Поле, дзе рос лён. Сым.

ІРДЗЕ'ЦЦА (*ірдзе́цца*) *-ішся, -іцца, незаконч. тр.* Чырванець, густа чырванець, гарэць чырванню; чырванець, наліваючыся кроўю (твар) ад злосці. Кл., В. У такім значэнні ўжываецца ў вёсцы Дунайчыцы Клецкага раёна: Расьсе́рдзіўся, аш уве́сь ірдзіцца. Гл. зайрдзецца.

## Й

ЙШЧЭ (*шчэ, йшчэ*) яшчэ. Гл. шчэ. Кл. Хал., Сл., Барб.

## К

ҚААПЕРА'ТАР (*капяра́тар*) *-р-а, мужч.* Прадаўшчык у магазіне. В.

ҚАБАНІ'НА (*кабаніна*) *-н-ы, жан.* Нясытая свініна (з тонкім салам). Са́ла ні ву́карміла, хай кабаніна бу́дзе. Кл.

ҚАБАНІ'НҚА (*кабанінка*) *-к-і, жан.* Памяншальнае ад кабаніна. Кл.

ҚАДРЫ'ЛЯ (*кадры́ля*) *-л-і, жан.* Назва танца. Даўнêй кадры́лю скака́лі. Кл.

ҚАЗЁ'Л[1] (*казёл*) *-л-а́, мужч.* Қазёл.

ҚАЗЁ'Л[2] (*казёл*) *-л-а́, мужч.* Частка збудавання пры студні: разгалінастае бервяно, на якім прымацаваны во́чап, ці страла (гл. во́чап, страла́); ужываецца побач саха́. Вольн.

ҚАЗЯНЯ' (*арф.*) *-яц-і, ніяк.* Қазляня. В.

ҚАЙСТРЫ'ЦА (*кайстры́ца* і *кастры́ца*) *-ц-ы, жан., зборны.* Кл. Гл. кастры́ца ў выпуску 1959 г. Параўн.: мя́льля. Қасцюковіцкі раён. Параўн.: мя́ляньня. Маладзечанскі раён.

ҚАҚСАГЫ'ЗНІЦА (*каксагізьніца*) *-ц-ы, жан.* Қалгасніца, якая даглядае, вырошчвае кок-сагыз. Сл.

ҚАЛАМА'ЖҚА (*калама́жка*) *-жк-і, жан.*

Каляска. Каламáжкаю хібá мóжна прывéзьці? Кл. Вазьмí ў бáбы каламáжку. Пас. Янкі Купалы.

КАЛАТУ'ША Гл. калатýша ў выпуску 1959 г. Параўн.: калатýха. Саламір'е Полацкага раёна.

КАЛАШМА'Н *(калашмáн) -н-а, мужч., кпліваe.* Той, у каго шырокія з доўгімі калашынамі штаны. Кл.

КАЛО'МАЗЬ *(калóмазь) -з-і, жан.* Мазь (дзёгаць), якою змазваюць колы ў возе. Кл. Параўн.: Пах сена, конскага гною і каламазі казыча насы. Змітрок Бядуля, Збор твораў, т. III, Мінск, 1953, стар. 339.

КАЛО'ША *(калóша) -ы, жан.* Калашына. Кл. Параўн.: калашмáн (гл. калашмáн.)

КАМАКІ' *(камакí) -к-óў, толькі ў множн.* Бульбяная каша. Кл. Параўн.: камы́. Саламір'е Полацкага раёна.

КАМЕ'НЬЧЫК[1] *(камêнчык) -к-а, мужч.* Каменьчык. Вайц., Кл., пас. Янкі Купалы.

КАМЕ'НЬЧЫК[2] *(камêнчык) -к-а, мужч.* Костачка ў сліве, ягадзе. Я сьліву с камêнчыкам магу пракаўтнýць (гл. пракаўтнýць). Накаўтáўся сьліў с камêнчыкамі. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: камянёк. Саламір'е Полацкага раёна.

КАМЕ'ШНІК *(камêшнік) -к-а* і *-к-у, мужч.* Куточак пры печы (утвараецца сцяною хаты і сценкаю печы), дзе ставяць вілкі, ёмку, камяню (гл. ёмка, камяня́ ў выпуску 1959 г.), венік. Кл.

КАНАПЛЯ'НІК Гл. канаплянік у выпуску 1959 г. Параўн.: канаплянікі (толькі ў множн.) — вельмі добрая зямля, дзе сеюцца каноплі. Абідавічы Быхаўскага раёна. Параўн.: канаплянік—месца, дзе раслі каноплі. Саламір'е Полацкага раёна.

КАНЁ'К[1] *(канёк) -ньк-á, мужч.* 1. Тое, што конік (ужываюцца абодва, часцей—конік). Кл.

КАНЁ'К[2] *(канёк) -ньк-á, мужч.* Спартыўны інвентар. Кл.

КАПА'ННІЦА *(капáньніца) -ц-ы, жан.* Жанчына, якая капае бульбу. Пашлём (форма загаднага ладу) наймéнш двáццаць капáньніц. Пас. Янкі Купалы. Машы́на (бульбакапалка) за вóсім капáньніц вы́капала. Глуск.

КА'ПАЧКА *(кáпачка) -чк-і, жан.* Памяншальнае ад кáпка (гл. кáпка ў выпуску 1959 г.). Кропелька. Кл.

КАПСЕ'ЛЬ *(капсéль)* Дзеясло̆ўна-выклічнікавая форма ад капсáць (гл. капсáць, капсанýць у выпуску 1959 г.). Кл. Параўн.: піргéль. Радашковічы.

КАРА'ВАЧНІК Гл. карáвачнік у выпуску 1959 г. Параўн.: ганучнік. Голдава Жалудоцкага раёна. Параўн.: рызнік (ры́зьнік). Саламір'е Полацкага раёна.

КАРАСЛІ'ВЫ *(карасьлíвы* і *карасьліву; карóсьлівы* і *карóсьліву) -а, -ае, прыметнік.* Хворы на каросту. Карасьлíваго каня́ сéркаю абкýрвалі. Кл.

КАРА'СЬ[1] *(карáсь) -с-я́, мужч.* Назва рыбы. Сл., Вольн., Кл., Хал.

КАРА'СЬ[2] *(карáсь) -с-я́, мужч.* Жалезная накладка на драўляную (у возе) вось. Кл.

КАРА'СЬ[3] *(карáсь) -с-я́, мужч.* Кручóк на вочапе (гл. вóчап). Сл.

КАРНІ'ЗА *(карніза) -з-ы, жан.* Карніз (у печы). Вольн.

КАРО'ВІЧАЕ *(малакó)* Гл. карóвічы ў выпуску 1959 г. Параўн.: каравя́чае. Голдава Жалудоцкага раёна.

КАРО'МУСЛІ *(карóмусьлі) -яў, толькі ў множн.* Каромысел. Хал. Параўн.: карóмісла. Саламір'е Полацкага раёна.

КАРО'СЛІВЫ *(карóсьлівы) прыметнік.* Гл. караслíвы. Кл.

КАРТА'ЦЬ *(картáць) -á-ю, -á-еш, непераходны, незаконч. тр.* Картавіць. Маê (дзеці) ні адзíн ні картáў. Кл.

КАРТО'ПЕЛЬ *(картóп[е]ль, картóпяль) -пл-я, мужч.* Бульбіна. Твая Анютка вéльма работніца. Прайдзí ўсю баразнý, то аднагó картóпля ні знóйдз[е]ш. Кл.

КАРТО'ПЛІК *(картóплік) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад картóпель (гл. картóпель). Ні грашэ̂це бóгу: даўнêй картóпліку вáшые бацькí рáды булí, а вы ў шóўку да ў хрóмавых чаравíчках хóдзіце. Кл.

КАРТО'ПЛЯ *(картóпля) -пл-і, жан.* Бульба. Хíбіць сёлята нáша картопля. Сл.

КАСА'[1] (*касá*) *-с-ы́, жан.* Каса (прылада). Кл., Хал., Зуб., Сл., Вольн., В.

КАСА'[2] (*касá*) *-с-ы́, жан.* Каса (прычоска). Кл., Хал., Зуб., Сл., Вольн., В.

КАСА'[3] (*касá*) *-с-ы́, жан.* Адзін з унутраных органаў жывёлы. Кл., Сл., Хал., Зуб., Вольн., В., Глуск. Параўн.: у рускай мове селезёнка.

КАСАРЫЧА'НЕЦ (*арф.*) *-нц-а, мужч., множн.—касарычáне.* Жыхар в. Касарычы. Барб.

КАСМА'Ч (*касмáч*) *-ч-á, мужч.* Аброслы, з доўгімі валасамі. Кл.

КАСЦЯ'НКА (*касьця́нка*) *-нк-і, жан.* Гатунак груш, у пладах багата дробненькіх костачак. Кл., Байл.

КА'ТАНКА Гл. кáтанка ў выпуску 1959 г. Параўн.: кáтанка—мужчынскі пінжак, фрэнч з саматканага сукна (часцей называюць—марынáтка). Голдава Жалудоцкага раёна.

КАТУ'РХАЦЬ (*катýрхаць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны.* Будзіць, варушыць, дапамагаць ачуняць, актывізоўваць. Кл.

КАТУ'Х (*катýх*) *-х-á, мужч.* 1. Маленькі хлеўчык для курэй. Кл. 2. Увогуле маленькі хлеўчык ці выгараджанае ў хлеве месца. Кл. 3. Пераноснае. Малая хатка, малы пакойчык у хаце. Кл.

КАТУШО'К (*катушóк*) *-шк-á, мужч.* Памяншальнае ад катýх (гл. катýх). Пас. Янкі Купалы, Кл., Вольн.

КАЎ (*каў*) Гукапераймальнае. Так перада-

ецца крык ката. Кл. Гл. ка́ўкаць, ка́ўканне.

ҚА'ЎҚАННЕ *(ка́ўканьне) -нн-я, ніяк.* Гукапераймальнае ад каў, ка́ўкаць (гл. каў, ка́ўкаць). Кл., пас. Янкі Купалы.

ҚА'ЎҚАЦЬ *(ка́ўкаць) -а-е, непераходны, незаконч. тр.* Гукапераймальнае. Мяўкаць. Хал., Барб. Ву́пусьце, дзêткі, катка́, хай ні ка́ўкае. Кл. Гл. каў, ка́ўканне.

ҚАЎНЕ'РЫҚ Гл. каўне́рык[2] у выпуску 1959 г. Параўн.: каўне́рцы. Голдава Жалудоцкага раёна.

ҚАЦ Гл. кац у выпуску 1959 г. Параўн.: кату́! Абідавічы Быхаўскага раёна.

ҚАЦАЛА'ПЫ *(кацалапы, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Қасалапы, крывалапы. Қл.

ҚАЦІ'НЫ (*каціны, кацін, -а*(*-ая*), *-ае*) *прыналежны прыметнік* ад кот. Кашэчы. Қаці́на[е] ка́ўканн[е] (гл. ка́ўканне). Пас. Янкі Купалы: У шу́бе с каці́ных шку́рак. Қаці́ныя во́чы (*арф.*). Қаці́ныя ла́пы (*арф.*). Кл.

ҚАЧАВІ'ЛА *(качавіло, качавіла) -л-а, ніяк.* Прыкметная мясціна (на раллі, на пяску, на траве, на збажыне), дзе качаўся конь, адпачываў (хто-небудзь). Қачаві́ла на качаві́ле па ўсі́м мурагу́. Пас. Янкі Купалы. Даўнêй каза́лі, што ні мо́жно станаві́цца на качаві́ло (мясціна, дзе качаўся конь): каро́ста ўспадзе́. Кл. Қачаві́лаў нарабі́лі (адпачывалі салдаты) й сігарэ́ты недаку́раные. Хал. Параўн.: ко́тлішча. Абрыцкая Слабада Мінскага раёна, Мачаны Лагойскага раёна. Параўн.: конскі круг. Саламір'е Полацкага раёна.

КАЧАВІ'ЛЛЕ *(арф.) -лл-я, ніяк.* Тое, што і качавіла. Кл. Параўн.: Дзед Талаш і Нупрэй сталі аглядаць месца, дзе адпачываў чалавек. Паталочышча паказвала, што чалавек адграбаў снег, каб прылегчы на больш цёплым месцы. Якуб Колас, Збор твораў, т. VI, Мінск, 1952, стар. 279.

КАЧО'ЛКА *(качо́лка) -лк-і, жан.* Адпілаванае ад круглага бервяна ці жэрдкі колца. Нагатава́ў качо́лак, бу́ду рабіць каля́ску. Кл. Слова качо́лка—ад кача́ць. Да нядаўняга часу ў в. Кл. папулярнае было «кача́нне качо́лкі»—гульня падросткаў і сталых хлопцаў. Такая гульня сустракаецца ў шмат якіх раёнах Беларусі. Качолку называюць на Беларусі кацёлка, качу́лка, пакацёлка, като́к.

КВАСО'ЛІНА *(квасо́ліна) -н-ы, жан.* Адно каліва квасолі (фасолі). Кл.

КВАСО'ЛЯ *(квасо́ля) -л-і, жан.* Фасоля. Кл., Барб.

КВАШАНІ'НА *(квашаніна) -н-ы, жан.* Стра́ва—студзіна, халадзец. Пас. Янкі Купалы.

КІДЗЕ'ЛЬ *(кідзель)* Выклічнікава-дзеяслоўная форма (тыпу гоп, хоп, кап, скубель) ад кідаць. Кл.

КІ'ЕВЕЦ (*кі*[*е*]*вец*) *-ўц-а, мужч.* Чалавек з Кіева, з Кіеўшчыны. Кі[е]ўцы вазілі зе́млю (насыпалі дарогу). Хал.

КІ'ПЦІК *(кіпцік) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад кіпець (гл. кіпець у выпуску 1959 г.). Кіпцік зьлêз, падрыва́ў па́льчык. Пас. Янкі Ку-

палы. Кіпцікі абрэзаць пара́. Глуск. Параўн.: кіпцюро́к. Саламір'е Полацкага раёна.

КІРМАШО'ВІК (*кірмашо́вік*) *-к-а, мужч.* Назва асобы па назоўніку кірма́ш (у сэнсе фэст). Неадабральнае. Той, хто пайшоў на фэст (кірмаш). Звычайна называюць кірмашовікамі тых, хто часта ходзіць на фэсты па вёсках, або тых, хто не павінен часта хадзіць з кампаніяю на фэст (напрыклад, падростак ці сямейны чалавек). Кл.

КІШЭ'НЬКА (*кішэ́нька*) *-ньк-і, жан.* Памяншальнае ад кішэ́ня (гл. кішэ́ня). А што́ ў тваёй кішэ́нц[э]? Барб. Сьвітка с кішэ́нькамі. Кл.

КІШЭ'НЯ (*кішэ́ня*) *-н-і, жан.* Кішэнь. У кішэ́ню схава́й. Хал. С кішэ́ні каня́ н[е] нако́рміш. Зуб. Кішэ́ню разадра́ў. Кл. Кішэ́ні атпаро́ў. Сл. Параўн.: кішэ́нь. Саламір'е Полацкага раёна.

КІЯ'К Гл. кія́к у выпуску 1959 г. Параўн.: кіёўка. Абідавічы Быхаўскага раёна.

КЛЁ'К (*клёк*) Выклічнікава-дзеяслоўная форма. Нам клёк у гру́дз[е]х: здагада́ліса, што мы ж гавары́лі паліцэ́йськаму разьвêджчыку. Сл.

КЛУ'НЯ (*клу́ня*) *-н-і, жан.* Клу́ня—ето гумно́. Сл.

КЛЫШАВА'ТЫ (*клышава́ты, -а-(ая),-ае) прыметнік.* Крываногі і няўклюдна перастаўляе ногі. Глуск. Параўн.: клышава́ты. Рэчыцкі раён.

КЛЫШАНО'ГІ (*клышано́гі, -а(-ая), -ае)*

*прыметнік.* Крываногі і няўклюдна перастаўляе ногі. Кл. Гл. клышава́ты.

КЛЮ'НУЦЬ *(клю́нуць) -н-у, -н-еш,* аднакратны ад кляваць (гл. кляваць у выпуску 1959 г.). Аку́нь клю́н[е], дак клю́н[е], ўба́чыш. Пас. Янкі Купалы. Нічо́гі (гл. нічо́гі ў выпуску 1959 г.), уста́не, клю́не чаго́ль і цэлы дзень так хо́дзіць. Кл.

КЛЮЧ[1] *(ключ) -ч-а́, мужч.* Ключ.

КЛЮЧ[2] *(ключ) -ч-а́, мужч.* Назва пасёлка. Барб.

КЛЮЧ[3] *(ключ) -ч-а́, мужч.* Шост у прыстасаванні (пры студні) даставаць ваду (во́чап), які разам з карасём (гл. кара́сь[3]) нагадвае ключ. Ужываецца і во́чап (гл. во́чап). Сл.

КЛЯВА'ЦЦА *(арф.) -ю-ешся, -ю-ецца, незаконч. тр.* Біцца (пра птушак—певень, гусак). Йіх гуса́к ве́льмі ж клю́ецца. Пас. Янкі Купалы. Таго́ пе́ўня, што кляваўся, прадалі *(арф.)*. Кл.

КЛЯ'СЦІ *(кля́сьці) -н-у́, -н-е́ш, пераходны, незаконч. тр.* Клясці. В. Ужываецца (часцей)— кле́сці. Кл., Барб., Глуск.

КНО'РАЗ *(кно́раз, кно́рас) -з-а, мужч.* Кныр (ужываецца і кныр). Кл., Вольн.

КНЫ'Р Гл. кныр у выпуску 1959 г. Параўн.: кнур. Абідавічы Быхаўскага раёна, Голдава Жалудоцкага раёна.

КО'ЖНЕНЬКІ *(ко́жнянькі).* Форма ацэнкі ад займенніка ко́жны. Кл., Калац.

КО'КА *(ко́ко, ко́ка) ніяк.* З дзіцячае лексікі. Яйка. Хал., пас. Янкі Купалы, Зуб., Сл.

КО'ЛЕНЦЫ (ко́лянцы) -аў. Калені. Ні хо́ча бёгчы (конь), дак я па ко́лянцах, да па ко́лянцах. Вольн.

КО'ЛІСНІ *(ко́лісьні, -я(-яя), -яе) прыметнік* ад ко́лісь (гл. ко́лісь у выпуску 1959 г.). Даўны, даўных часоў. Стр., Барб.

КО'ПАНІК *(ко́панік) -к-а, мужч.* Выкапаны (нягнуты) полаз (для саней). Ко́панікі ма́ла хто ў нас ста́віў. У на́с гну́лі ло́ўко. Кл.

КО'РЧЫК *(ко̂рчык) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад карэ́ц. Кл., Сл.

КО'СЬКАЦЬ *(ко́ськаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Вытворны ад кось-кось-кось! Сыціхні ты ко́ськаць, да ўчыр̂эце (гл. учыры́ць) ле́йцамі (каня). Кл.

КРАПІ'ВА *(крапіва) -в-ы, жан.* Крапіва. Кл.

КРАПІ'ЎНІК *(крапі́ўнік) -к-а, мужч.* Тое, што байструк. Кл.

КРАСАВА'ЦЦА *(красава́цца) -у́-юся, -у́-ешся, незаконч. тр.* Жыць у дастатку, прыгожа. Расказваючы пра гады вайны 1941—1945 гг.: Жы́лі й красава́ліся, й на́ таб̂е—вайна́, не́хрысьці такія пашлі́ (нямецка-фашысцкія акупанты). В.

КРАСАВА'ЦЬ *(красава́ць) -у́-е, неперахадны, незаконч. тр.* Цвісці (пра жыта, мятлічку). Кл., Барб.

КРАСА'ЦЬ *(краса́ць) -а́-ю, -а́-еш, неперахадны, незаконч. тр.* Здабываць крэсівам агонь.

Кл. Параўн.: высякáць. Саламір'е Полацкаг раёна.

КРАСЛА'ТЫ (*краслáты*) *прыметнік* а, крэ́сла (гл. крэ́сла[2]). З вялікім крэслам. Вéль ма ж краслáтые штаны́ табê купілі. Такíх крас·лáтых я б ні насìў. Кл.

КРАСЛА'Ч (*краслáч*) *-ч-á, мужч.*, ад крэ́сла (гл. крэ́сла[2]). Той, у каго шырокае, нізка апушчанае крэ́сла. Таму краслачу́ хіба каб крапівы налажы́ў, мо хадзіў бы спрытнêй. Кл. Параўн.: краслáты.

КРУГЛО'ВІНА (*круглóвіна*) *-н-ы, жан.* Акруглы ўчастак, які вылучаецца чым-небудзь на агульнай плошчы. Кругловіна на сенажаці (напрыклад, забалочаная ці з лепшым або горшым ураджаем травы, наяўнасцю якой-небудзь расліны), кругловіна ў жыце (драбнейшае, буйнейшае, вымаклае, запаганенае пустазеллем і інш.), кругловіна — балотца сярод поля і падобн. Кл.

КРУ'МКАЦЬ (*кру́мкаць*) *-а-е, непераходны, незаконч. тр.* Жáбы кру́мкаюць. Вольн.

КРУПІ'НА[1] (*крупíна*) *-н-ы, жан.* Адно калі-ва круп. Кл.

КРУПІ'НА[2] (*крупíна*) *-н-ы, жан.* Крыху, небагатка; часцей—крупíнка. Кл.

КРУПІ'НКА[1] (*крупíнка*) *-нк-і, жан.* Памяншальнае ад крупíна (гл. крупíна[1]). Ні крупíнкі, ні картóпліка (*арф.*). Кл.

КРУПІ'НКА[2] (*крупíнка*) *-нк-і, жан.* Памян-

шальнае ад крупіна (гл. крупіна²). А ету крупінку (крыху гарбузікаў) схава́ю, го́сьці ж бу́дуць. Кл.

КРУТАСВЕ'Т (*крутасьвêт*) *-т-а, мужч.* Той, які «светам круціць». Параўн.: падобнае да гэтага ўтварэнне слоў прайдзісве́т, круціхво́ст. Сьвêту ні скруці́ў крутасьвêт (пра Гітлера) той, а са́м скруці́ўся. Жыцьця́ п ён ні вêдаў, што́ ён ду́маў зрабіць. Сым.

КРУЧ (*круч*) *-ч-ы, жан.* Вір, месца ў рэчцы, дзе віруе вада. Там така́я круч. Сым.

КРУ'ЧАНЫ[1] (*кру́чаны*) *прыметнік.* Кручаны. Кл.

КРУ'ЧАНЫ[2] (*кру́чаны*) *прыметнік.* Шалёны, звар'яцелы. Кл.

КРЫВУ'ЛІНА (*крыву́ліна*) *-н-ы, жан.* Крывізна. Ту́ю крыву́ліну што б як вы́прастаць. Хал.

КРЫВУ'ЛЯ (*крыву́ля*) *-л-і, жан.* 1. Крывізна; тое, што і крыву́ліна (гл. крыву́ліна). Хал. 2. Крывы, скрыўлены прадмет. Кл. 3. Кульгавы (чалавек, жывёліна). Кл.

КРЫ'ЖНЯ (*кры́жня*) *-н-і, жан.* Качка-крыжанка. Адна́ кры́жня — за тваê тры чы́рачкі. Байл.

КРЫША'Н (*крыша́н*) *-н-а́, мужч.* Адламаны, адкрышаны кавалачак хлеба. Крышаны́ ў малако́—вот табê й рулê бу́дуць. Кл.

КРЫША'Н (*крыша́н*) *-н-а́, мужч.* Крышку (чаго-небудзь). Кл.

КРЭ′СІВА (*крэ̂сіво*) *-в-а, ніяк.* Колісь курцэ̂ насілі крэ̂м[е]нь, крэ̂сіво й губу. Выкрасае агню й прыкурыць. Хал.

КРЭ′СЛА[1] (*крэ̂сло, крэ̂сла*) *-л-а, ніяк.* Крэсла.

КРЭ′СЛА[2] (*крэ̂сло, крэ̂сла*) *-л-а, ніяк.* Верхняя задняя частка штаноў. Усё крэ̂сло ўрабіў у смалу—ні бачыць, куды садзіцца. Кл. Параўн.: красла́ты, краслач. Параўн.: се́сла і крэ̂сла. Мсціслаў.

КУБАМЕ′ТРА (*кубаме́тра*) *-тр-ы, жан.* Кубаметр. Хто дзьвê, хто адну кубаме́тру. Кл.

КУ′КСА[1] (*ку́кса*) *-с-ы, жан.* Жаночая прычоска (закручаныя ззаду валасы). Прыêхала нова наста́ўніца, ко́сы (валасы) харо́шые, каса́ то́ўста і закру́чана—ку́кса. Кл.

КУ′КСА[2] (*ку́кса*) *-с-ы, жан.* Астатак пакалечанай рукі. Кл.

КУЛІ′К (*кулік*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма ад куляцца, кульнуць. Дурэ̂лі, дурэ̂лі па сêне, по́куль ні дадурэ̂ліса: ваце́ты кулік уніз галаво́ю; мо н[е] буду́ць бôльш тут круціцца. Кл. Параўн.: Здае́цца й рыба́к, ло́тку сваю маў, а êхаў (плыў на лодцы) да кулік галаво́ю ўніз. Хал. Параўн.: Кулець за парог і другі, нібы сноп. А. Вялюгін, На зоры займае, Мінск, 1958, стар. 66.

КУЛЬГІ′К (*кульгік-кульгік-кульгік*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма ад кульга́ць (тыпу хоп, гоп). Так перадаецца кульгавая хада. Кл.

КУ′ЛЬКА *(кýлька) -льк-і, жан.* Лучок (гл. лучóк), рукаятка ў касе. Сым.

КУ′МКАННЕ *(кýмканьне) -нн-я, ніяк., ад дзеяслова* кýмкаць (гл. кýмкаць, гл. закýмкаць). Жабінае «спяванне». Кл.

КУ′МКАЦЬ *(кýмкаць) -а-е, непераходны,* незаконч. тр. Жáбы на дóж, мýсіць, кýмкаюць. Пас. Янкі Купалы. Гл. кýмканне.

КУРА *(курá* і *кýра) -р-ы́* і *-р-ы, жан.* Курыца. Кл., пас. Янкі Купалы. Параўн.: куры́ца. Радашковічы.

КУРАВО′ДЗІХА Гл. куравóдзіха ў выпуску 1959 г. Параўн.: куравóдка, кваактýха—Голдава Жалудоцкага раёна; дзяцінуха, кваактýха—Саламір'е Полацкага раёна; квакýха—Абідавічы Быхаўскага раёна.

КУРАНЯ′ТНІЦА *(куранятніца) -іц-ы, жан.* Курыца, якая выводзіць, водзіць куранят. Хал. Параўн.: куравóдзіха (гл. куравóдзіха).

КУ′РАЧКА *(кýрачка) -чк-і, жан.* Гл. курка.

КУ′РКА *(кýрка) -рк-і, жан.* Памяншальнае ад кура (гл. кура). А мôй пêўнік-гаспадáр да ўсê кýркі распрадáў. З вершаванага апавядання «Бяда». Кл. Ужываецца і кýрачка. Кл.

КУРЧА′ *(курчá) -чáц-і, ніяк.* Ні курчáці ні парасяці ні булó (пасля выгнання нямецкіх фашыстаў). Зуб.

КУРЭ′НЬ *(курэ́нь) -ран-я́, мужч.* Таго ж кораня, што кýрна. Шалаш. Нашы́ куранê (у

час Айчыннай вайны) пры балóце былí. Зуб. Êн і кураня́ ні ўмêў зрабíць. Хал. Нагараваліса да настрадáліса за вóйну па куранёх. Зуб. Гл. будан.

КУХТА'ЛЬ Ужываецца ў родн. скл. у спалучэнні з дзеясловамі даць, надава́ць і сінанімічнымі да іх. Даць кухталя́ (Кл., Глуск) — стукнуць (кароткім ударам, з боку, з-пад нізу) кулаком пад бок, пад рэбры. Надава́ў кухталёў. Кл.

КУХТАЛЯ'ЦЬ *(кухталя́ць) -я́-ю, -я́-еш, пераходны, незаконч. тр.* Гл. кухтáль, накухталя́ць, даць кухталя́. Глуск.

Л

ЛАВЕ'Ц[1] *(лавéц) -ўц-á, мужч.* Той, хто ловіць. Хал.

ЛАВЕ'Ц[2] *(лавéц) -ўц-á, мужч.* Палачка, дубчык, начапіўшы на які, смажаць на агні (у полі, у лесе) сала. Лавéц—ад лавíць: смажачы сала, стараюцца як найменш страціць туку, «злавіць» тук, які ка́пае. Кл. Параўн.: ражóн.

ЛАГВО' *(лагвó) -в-á, ніяк.* Логава, бярлог. Залêтась л[е]сьнікí натра́пілі на вóўчае лагвó. Сл. Параўн.: лóгава, лóгавішча, бярлóг, мярлóг. Саламір'е Полацкага раёна.

ЛА'ДНЫ *(ла́дны, -а (-ая), -ае) прыметнік.* Немалы, даволі вялікі, значны. Ла́дны кава́лак са́ла пазычыла. Кл. Вôльчын хлôпчык ужэ ла́дны, мо з Васіля́. Сл. Параўн.: Ладную частку

жыцця ён (Матрунін) правёў у турмах і высылцы, там ён і выгадаваў у сабе надзвычайна прыгожы ідэал, ідэал свабоды і шчасця... Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 46.

ЛАЗІ'НА (*лазіна*) *-н-ы, жан.* 1. Матэрыял з лазы, лазовая драўніна. Кл. 2. Адно лазовае дрэўца, дубец лазовы. Кл.

ЛАМА'ЧЧА (*ламачч*[э]) *-чч-а, ніяк.* 1. Суцча, галлё, зношаныя драўляныя прылады, што валяюцца як непатрэбныя. Назьбіра́лі лама́чча, накла́лі агню́ да дава́й грэ̂цца. У стальма́шні лама́чча по́ўно. Кл. 2. Пераноснае. Палаві́ну (коней) збуць (збыць, прадаць). На чо́рта карміць старо́е лама́чч[э]. Кл. Параўн.: лама́чча і лам'е́. Саламір'е Полацкага раёна.

ЛАМА'ЧЫНА (*лама́чына*) *-н-ы, жан.* Гл. ламачча. 1. Пашука́ймо таўшчэ́йшых лама́чын (на агонь), бо тако́е то́нкае (ламачча), што сêно, згары́ць. Кл. 2. Мікі́тко, дай до́браго ко́ніка, а то́ на е́тай ламачыне да но́чы бу́ду êхаць да йшчэ прыста́не. Кл.

ЛА'НАВАЦЬ (*ла́навацьо, ла́нувацьо*) *-у-ю, -у-еш, непераходны, незаконч. тр.* Бегаць у пошуках. Се́ні на база́ры було́ ма́ла карто́пляў. Бабруйча́няў наêхало бага́то. Ла́халі да ла́навалі. А купля́лі ні таргу́ючыса. Кл.

ЛАПАТУ'ХА[1] (*лапату́ха*) *-х-і, жан., ад дзеяслова* ло́пнуць. Трэшчына на лязе касы (пры няўмелым ці няўважлівым кляпанні). Сам наб'ю (гл. набі́ць[2]): ты лапату́х наро́біш. Кл. Уся́ каса́ на лапату́хах. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: ло́паўка. Саламір'е Полацкага раёна.

ЛАПАТУ'ХА[2] *(лапату́ха) -х-і, жан., ад дзеяслова* лапата́ць (багата, хутка гаварыць). Балбатуха. Прыхо́дзіла с тае́ю лапату́хаю. Скажы́ й ні сьці́хла: й лапо́ча й лапоча. Пас. Янкі Купалы.

ЛА'ПЕЦЬ *(ла́п[е]ць, ла́пяць) -пц-я, мужч.* Лапаць. Кл., Глуск, Хал.

ЛАТАШЫ'ЦЬ *(латашы́ць) лато́шыш, лато́шыць, пераходны, незаконч. тр.* Церці, клычыць, крышыць (сад, гарод), шукаючы спажытку. Кл. Гл. аблаташы́ць, златашы́ць, налаташы́ць.

ЛА'ХАЦЬ *(ла́хаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Бегаць у пошуках. Гл. ла́наваць. Се́ні на базары́ було́ ма́ло карто́пляў. Бабруйча́няў наêхало бага́то. Ла́халі да ла́навалі. А купля́лі ні таргу́ючыса. Глуск.

ЛАХУ'ДРЫ *(лаху́дры) -а-(ая), -ае, прыметнік.* Неахайны, няўклюдны. Гл. назоўнік лаху́дра ў выпуску 1959 г. Хал. Параўн.: Але законцар і міністры — уся ўлада, канчаючы самым найлахудрым паліцыянтам, стражнікам, гарадавым, стаіць за гаспадароў фабрык і заводаў. Р. Мурашка, Сын, 1957, стар. 62—63.

ЛЕЖАБО'К *(л[е]жабо́(ô)к, ляжабо́(ô)к) -к-а, мужч.* Гультай, абібок. Кл.

ЛЕ'ЖНЯ *(лêжня, ле́жня) -жн-і, жан., толькі ў адз.* 1. Ляжанне, валянне на пасцелі. Ці ні надаêла вам лêжня? Пас. Янкі Купалы. 2. Ляжанне хворага, прыкаванасць да пасцелі. Ле́гка сьмерць, не надаêў і сабê й каму́ ле́жняю. Кл.

ЛЕСАВЫ' *(арф.) прыметнік.* 1. Лясны. Кл.

2. Лесавая яблыня, лесавая груша—дзічка яблыня, дзічка груша. Лесавы́я я́блыкі як пера-ме́рзнуць, ве́льмі сма́чныя *(арф.)*. Кл.

ЛЕ́ЦЕЧКА *(лêцячко, лêцячка) -чк-а, ніяк.* Памяншальнае ад ле́та. Лецейка. Лêцячко на дварэ̂, а ў йіх сяні́нкі на се́лішчы н[е]ма́. Усе́ ж лêцячко прахава́ліса (у вайну) па лêсе. Зуб.

ЛЁ́ЗА *(арф.)*. Лязо. Хал.

ЛЁ́ЛЯ *(лёля) -л-і, жан.* З дзіцячае лексікі. Кашуля. Ма́ма й лёлю но́ву купі́ла. Зуб. Лё́ля цё́плянька табê. Кл.

ЛІН *-н-а, мужч.* Рыба Tinca tinca.

ЛІНО́К *(ліно́к) -нк-а́, мужч.* Памяншальнае ад лін (лінь). Лінкі́ чы́сьціць ця́жка, але сма́чнае мя́са зь йіх. Пас. Янкі Купалы.

ЛІНО́ЧАК *(ліно́чак) -чк-а, мужч.* Памяншальнае ад лін (гл. лін). Пас. Янкі Купалы.

ЛІСІ́ЦА[1] *(лісі́ца) -ц-ы, жан.* 1. Лісіца. 2. Пераноснае. Хітры і ліслівы чалавек. Кл.

ЛІСІ́ЦА[2] *(лісі́ца) -ц-ы, жан.* Грыб. Кл.

ЛІСІ́ЦА[3] *(лісі́ца) -ц-ы, жан.* Цяжар (кавалак палена), які прывязваецца ці прышрубоўваецца да канца пругла́ (гл. пругло́), каб лягчэй было выцягваць са студні ваду. Сл.

ЛІ́ТРА *(лі́тра) -тр-ы, жан.* Літр. Хал., Кл., Сл., Зуб., Барб., Ст. Ратміравічы, Сым., В., Вольн.

ЛОЎЖ *(лоўж) -ж-а́, мужч.* 1. Скінутае ў кучу галлё, куча галля. З лаўжа́ за́йчыка вы-

ґнаў. Байл.—Гляньце, лёс гарыць.—Нё, Ціма лаўжэ паліць. Кл. 2. Увогуле куча (чаго-небудзь) абыякава скіданага. Кл.

ЛУЗАНУ'ЦЬ (*лузануць*) *-н-у, -н-еш, пераходны, законч. тр.* ад лузаць (гл. лузаць у выпуску 1959 г.). Сцебануць, хвасянуць, лупцануць. Кл.

ЛУ'НУЦЬ (*лунуць*) *-н-еш, -н-е, непераходны, законч. тр.* Прапасці. А каб ён лунуў! Пас. Янкі Купалы. Параўн.: лунуць—паступова згасаць і памерці. Саламір'е Полацкага раёна.

ЛУЧА'ЦЬ (*лучаці*) З песні: Будзем страляці, будзем лучаці. Сл.

ЛЯБЕ'ДЗІК (*арф.*) *-к-а, мужч.* Ласкальнае пры звароце да чалавека. Кл. Гл. кролік (у выпуску 1959 г.).

ЛЯДО'ЎНЯ (*л[е]доўня, л[е]доўня*) *-ўн-і, жан.* Лядоўнік. Там панска л[е]доўня стаяла. Холадно, сыро, што ў л[е]доўні. Кл.

ЛЯЖА'К (*л[е]жак, лежак*) *-ак-а, мужч.* Гарызантальная частка (на столі) коміна. Зь л[е]жаком лучча пёч. Кл. У нас безь (л[е]жака, дак чысьціць легчэй. Сл.

ЛЯ'ТАЦЬ (*лятаць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Лятаць. Альбін, Стр. Параўн.: лятаць (лятаць, л[е]таць). Кл., Хал., Зуб., Поб., Глуск.

## М

МАГАЗІ'НШЧЫК (*магазіншчык*) *-к-а,*

*мужч.* Той, хто працуе, прадае ў магазіне, ужываецца таксама капераціўшчык. Параўн.: кніжнае прадавéц. У кнігáрню за магазíншчыка вóзьмуць. Сл. Параўн.: капераціўшчык. Саламір'е Полацкага раёна.

МАГЕ'РА *(магéра) -р-ы, жан.* Ацэначна-зневажальнае. Неахайны, някемлівы (чалавек). Магчыма, ад слова магéрка—з лямцу ці суконная шапка. Кл.

МАГІЛЕ'ЎШЧЫНА *(Магілéўшчына) -н-ы, жан.* Магілёўшчына. Сым.

МАГО' *(магó* і *магá).* Ужываецца ў спалучэнні з колькі, як. Б[е]ры́ кóлькі магó павéзьці. Кл.

МАЙ *(май) -ю, мужч.* Азеляненне вакол хаты (ставяцца маладыя лісцёвыя дрэўцы) на свята. Етые чáсы тагó мáю й ні станов[е]цьь. Кл.

МАКРЭ'Ц[1] *(макрэ́ц) -рац-ý, мужч.* Назва расліны Stellaria. Макрэ́ц на нізкам расьцé. Лён палóла да цэ́лы м[е]шóк макрацý свіньні́ прынéсла. Кл. Параўн.: у рускай мове мокрица.

МАКРЭ'Ц[2] Назва хваробы, на якую хварэюць коні (ногі ў коней). Кл.

МАЛАЗО'РНЫ *(мáлазóрны, мáлозóрны) прыметнік.* Такі, які слаба бачыць; такі, у якога ненармальны зрок. Малазôрна змáлку. Зуб.

МАЛЕ'СЕНЬКІ *(малéсянькі, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Форма ацэнкі ад малы́. Кл., Глуск. Гл. малю́сенькі. Малéсянькіх, што арахôў, набрáла (грыбоў). Пас. Янкі Купалы.

МАЛІ'НАВЕЦ *(арф.) -аўц-а, мужч.,*

*множн.—малінаўцы (арф.).* Жыхар в. Малінава (Малінаво, звычайна Малінаў). Кл.

МАЛЮ'СЕНЬКІ *(малюсянькі, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Форма ацэнкі ад малы́. Сл. Гл. Малёсенькі (у адным значэнні).

МАРЗЮ'ХА *(марзюха) -х-і, жан.* 1. Страва з цёртага ільнянога ці канаплянага семя. Хал., пас. Янкі Купалы. 2. Пераноснае. Няўдала згатаваная страва. Кл. Параўн.: пабоўціна. Чэрыкаўскі раён. 3. Пераноснае. Бесхарактарная неахайная жанчына. Хал.

МА'РНЕ *(ма́рн[е]) прыслоўе.* Марна. Марн[е] прапа́лі карто́плі. Кл.

МАСЛАБО'ЙКА *(маслабôйка) -к-і, жан.* Бочачка, у якой «б'юць» масла (часцей «бойка»; гл. бо́йка[3]). Кл.

МА'СЛЕЧКА *(ма́сьлячко, ма́сьлячка) -чк-а, ніяк.* Памяншальнае ад ма́сла. Параўн.: у рускай мове маслице.

МАСЛЯ'Й *(масьля́й) -я-я́, мужч.* Грыб. Хал. Параўн.: масля́к (гл. масляк). Кл.

МАСЛЯ'К *(масьля́к) -к-а́, мужч.* Грыб. Кл. Параўн.: масля́й (гл. масля́й).

МАСТО'К *(масто́к) -тк-а́, мужч.* Памяншальнае ад мост. Сл.

МАСЦІ'ШЧА *(масьці́шчэ, масьці́шч[э]) -шч-а, ніяк.* Балотца за дварамі, насупраць кожнага двара на гэтым балотцы былі зроблены грэблі і масты праз канаву. Кл.

МАЦЯРКІ′ (*арф.*). Форма наз. скл. множн. ад маці. Кл., Сл., Вольн.

МАЧА′ННЕ (*мача́ньне*) *-нн-я, ніяк.* Страва; смажаныя скваркі сала, мяса, парэбрынкі, кавалачкі каўбасы ў пшанічнай муцэ; гатуецца і падаецца звычайна ў шырокай гліняней місцы. Кл., Барб. Параўн.: мача́ка. Ду́браўка, Лапічы Асіповіцкага раёна. Параўн.: верашча́ка. Запісана па дарозе Турэц—Мінск. Параўн.: мака́ла. Саламір'е Полацкага раёна.

МАЧО′НІК (*мачо́нік*) *-ік-а, мужч., звычайна ў множн.—мачо́нікі, -к-аў.* Мочаны (квашаны) яблык. Барб. Параўн.: мачо́нік, мачо́нка— толькі пра грыбы. Саламір'е Полацкага раёна.

МАЯВА′ЦЬ (*арф.*) *-ю́-ю, ю́-еш, непераходны, незаконч. тр.* Святкаваць першамайскае свята. Ст. Ратміравічы. Маяваць—дыялектнае новаўтворанае слова; яно ўзнікла па ўзору такіх слоў, як святкаваць, дзедаваць (спраўляць дзяды), калядаваць (спраўляць каляды).

МЕ′КА (*ме́ка*) *-к-і, жан.* З дзіцячае лексікі. Авечка. Паба́ч, вунь на́шы ме́кі йдуць. Кл. Параўн.: ме́калка (гл. ме́калка).

МЕ′КАЛАЧКА (*ме́калачка*) *-к-і, жан.* Памяншальнае ад ме́калка (гл. ме́калка). Кл.

МЕ′КАЛКА (*ме́калка*) *-к-і, жан.,* каташо́к, ко́цік (на дрэвах). Зь вярбы́ ме́калак назрыва́лі. Кл. Гл. ме́ка, ме́калачка.

МЕ′КАЦЬ (*ме́каць*) *-а-еш, -а-е, непераходны, незаконч. тр.* Гукапераймальны (ад ме-э-э) па крыку авечак. Кл. Гл. ме́ка.

МЕ'НЕЦЬ *(ме́н[е]ць) -е-е, неперахо́дны.* Змяншацца, станавіцца менш (чаго-небудзь). Ві́дучы (гл. ві́дучы) ме́няе вады́ (у возеры), а за дзе́нь і нốч пярасхне́. Кл. Параўн.: Але гульня яму не давалася. Наадварот, ён адчуваў, што грошай у яго кішэні ўсё менее і менее. Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 252.

МЕ'НШЫ *(ме́ншы, -а(-ая), -ае) прыметнік.* 1. Вышэйшая ступень ад прыметніка малы. Кл. 2. Малодшы на гады. Бốльшы ў п'яты клас хо́дзіць, ужэ адзіна́ццаць ко́нчыласо, а ме́ншаму во́сьмы, у пе́ршы (клас) хо́дзіць. Кл. Ме́ншы ро́слы ве́льмі, дак ужэ, бач, бốльшы за бốльшага. Пас. Янкі Купалы.

МЕ'ТРА *(ме́тра, мэ́тра) -тр-ы, жан.* Метр. Кл., Хал., Вольн., Сым., Глуск, Дуброва, Сл., Зуб.

МЕШЧАНІ'Н *(м[е]шчані́н) -н-а, мужч.* Карэнны жыхар мястэчка. М[е]шчані́н з Глу́ска пыта́ў: мо хтоль (гл. хтоль у выпуску 1959 г.) прадае́ каро́ву. Сл. У такім жа значэнні ўжываецца ў Радашковічах, у вв. Кліманты, Валокі, Поравічы Маладзечанскага раёна.

МІЖЫ' *(міжы́) прыназоўнік.* Між, паміж. Сустрэў толькі ў спалучэнні «міжы́ каля́д» (з 10 па 19 студзеня). Барб., Кл.

МІЗ *(міз) прыназоўнік.* Між (часцей—між). Астраво́чкі міз бало́та. Сл.

МІ'КАЦЬ *(мі́каць) -а-еш, -а-е, неперахо́дны, незаконч. тр.* Каро́ва ўгру́зла, да так мі́кае, пу-

дышла—дак, здэцца, пр́осіцца вачы́ма. Кл. Параўн.: мычэцць. Кліны Бялыніцкага раёна.

МІ́ЛАСЦІНЯ (*міласьціня*) *-н-і, жан.* Міласціна. Кл.

МЛІН (*млін*) *-н-а, мужч.* Млын. У млі́н навезьлі ве́льмі бага̀то заво́зу. Барб. Стары́ млін у во́йну спалі́лі. Кл.

МЛІНО́К (*млінок*) *-нк-а́, мужч.* Памяншальнае ад млын (млін). Хал., Сл.

МО (*мо*). Усечанае мо́жа. Часо̂ў мо два нѐхто уно́чы гаго́каў (гл. гаго́каць) за рако́ю. Кл. Мае̂ тава́рышкі мо со́рак гадо́ў як паўміра́лі. Кл.

МО́ЖНЕ (*мо́жне*) *прыслоўе.* Можна. Хал. Часцей—мо́жно, мо́жна. Кл., Хал., Зуб., Побл.

МО́РКАЎКА (*мо́ркаўка*) *-ўк-і, жан.* Памяншальнае ад мо́рква. У вас, ба́бко, ве́льмі мо́ркаўка сма́шна. Кл. Да аднае̂ мо́ркаўкі ву́рваў. Сл.

МО́РКВАЧКА (*мо́рквачка*) *-чк-і, жан.* Памяншальнае ад мо́рква.—У ва́с, ба́бко, ве́льмі мо́ркаўка сма́шна.—Дак ты то́лькі й хо́дзіш мо́рквачкі? Кл.

МУ́КАЦЬ (*му́каць*) *-а-еш, -а-е, неперахо́дны.* З дзіцячае лексікі. Карова му́ка[е]. Пас. Янкі Купалы.

МУ́ЛКІ (*му́лкі*) *прыметнік.* Такі, які мулiць, які можа нагнаць мульмо́ (гл. му́ліць, мульмо́, му́лка ў выпуску 1959 г.). А вацёты но́вы хаму́т ні трэ́ба надз[е]ва́ць, бо му́лкі.

Параўн.: Але праз момант зноў ужо нарастала ўнутры цяжкае і мулкае, зноў пачынала кроіць свядомасць рэзкімі зданямі трывогі, адчаю. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 20.

МУ'РЗАЦЦА[1] (*мўрзацца*) *-а-ешся, -а-ецца, незаконч тр.* Мурзацца, забруджваць твар, рукі. Кл., Барб.

МУ'РЗАЦЦА[2] (*мўрзацца*) *безасабовы.* Зацягвацца чыстаму небу абалачкамі, хмаркамі. Мо й перамêна бўдзе, нêшто пачалó мўрзацца. Сл. Мўрзаяцца,—ці н[е] на дож. Кл. Мўрзаласо, мўрзаласо й не пашóў (дождж). Хал.

МУ'СІЦЬ[1] (*мўсіць*) *-ш-у, -с-іш, неперахо́дны.* Глуск.

МУ'СІЦЬ[2] (*мўсіць*) *пабочнае слова.* Мабыць (ужываецца мáбуць, мáбыць). У Сынклêты кот кінуўса на кабáна й драў: мўсіць, шшалêў. Кл.

МЯКІ'Ш (*м[е]кíш*) *-ш-ý, мужч.* 1. Мя́кіш (у хлебе). Кл., Вольн. 2. Мяккая вільготная трава. Кл.

МЯЛЬТА'ШКА (*мяльтáшка, м[е]льтáшка*) *-шк-і, жан.* Прылада, якою вострацъ касу, побач—мянціла. Вольн. Параўн.: мянтáшка. Гл. мянтáшка ў выпуску 1959 г. Параўн.: трапáчка. Саламір'е Полацкага раёна.

МЯНЦІ'ЛА (*мяньціла*) *-л-ы, жан.* Прылада, якою вострацъ касу, побач—мяльтáшка. Вольн. Параўн.: мянтáшка (гл. мянтáшка).

МЯ'СКА (*м'яско, м'яска, мяска*) *-к-а, ніяк.* Памяншальнае ад мя́са. Хал., Кл., пас. Янкі Купалы. Параўн.: у рускай мове мясцо.

МЯШЧА'НКА (*м[е]шча́нка*) *-нк-і, жан.* Карэнная жыхарка мястэчка. Кл., Хал., Сл. У такім жа значэнні ўжываецца ў Радашковічах, у вв. Кліманты, Валокі, Поравічы Маладзечанскага раёна.

## Н

НАБАКЕ'Р (*набакéр*) *прыслоўе.* Набакір. Хал., пас. Янкі Купалы, Сл.

НАБЕ'ДРЫКІ (*набéдрыкі*) *-к-аў, толькі ў множн.* Частка збруі. У нàс без набéдрыкаў êзьдзілі. А дзе гóры, то без набéдрыкаў ні мóжна паêхаць. Хал. Параўн.: шлеі. Саламір'е Полацкага раёна.

НАБІ'ЦЬ[1] (*набіць*) *-ю, -éш, пераходны, законч. тр.* Набіць (у розных значэннях). Вайц., Кл., Сл.

НАБІ'ЦЬ[2] (*набіць*) *-ю́, -éш, пераходны.* Адкляпаць (касу). Сам наб'ю́: ты лапату́х (гл. лапату́ха) нарóбіш. Кл.

НАБЛЁ'ХАЦЦА (*наблёхацца*) *-а-юся, -а-ешся, законч. тр.* ад блёхацца. Сым., пас. Янкі Купалы.

НАВА'ЛЬНЫ (*нава́льны, навалны, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Ужываецца з назоўнікамі дождж, снег. Аднагó дня йшоў нава́лны дож. Кл.

НАВО'ДНЫ (*навôдны, -а(-ая) -ае) прыметнік*. Пра свойскую жывёліну ці птушку, якая нарадзілася, выгадавана дзе-небудзь у другім месцы; такая жывёліна ці птушка (карова, гусь, свіння) адбіваецца ад свайго двара, ад чарады. Кл. Параўн.: набро́ды—прыезджы (наязджа́лы) чалавек, сям'я. Мсціслаў.

НАВЫВІЖО'ЎВАЦЬ (*навувіжóўваць, навывіжóўваць) -ва-еш, -ва-е, непераходны, законч. тр.* Навыведваць, навышпігоўваць. Гл. у выпуску 1959 г. віж, віжава́ць, вывіжóўваць.

НАВЫШПІГО'ЎВАЦЬ (*навушпігóўваць, навышпігôўваць) -ва-еш, -ва-е, непераходны, законч. тр.* Навыведваць. Барб., Кл. Параўн.: навывіжóўваць (гл. навывіжóўваць).

НАГАМАНІ'ЦЬ (*нагаманіць) -н-ю́, -н-іш, непераходны, законч. тр.* 1. Нарабіць гуку гаворкаю. Нагаманіла, што ў галавê шуміць. Кл. 2. Пабатава́ць (гл. батава́ць у выпуску 1959 г.), даць лёгкую, без сваркі, спакойную праборку, вымову. На тóе й хлóпцы: на йіх трэ́ба пагаманіць. Нагаманю́, то й слу́хаюць. Кл.

НАГА'МАЦЦА (*нага́маца) -а-юся, -а-ешся, законч. тр.* З дзіцячае лексікі. Наесціся. Кл., пас. Янкі Купалы.

НАГА'ЎКАЦЦА (*нага́ўкацца) -а-ешся, -а-ецца.* 1. Набрахацца. Каб здох (на сабаку), за нôч н[е] нага́ўкаўся. Хал. 2. Пераноснае (пра чалавека). Кл.

НАГА'ЎКАЦЬ (*нага́ўкаць) -а-еш, -а-е, не-*

*пераходны, законч. тр.* ад гаўкаць. Нагаварыць, набрахаць (на каго-небудзь). Глуск, Хал.

НАГЕРГЕТА'ЦЦА *(наг[е]рг[е]тáцца) -ч-ашся, -ч-аўца, законч. тр.* Нагаварыцца на незразумелай мове. Кл.

НАГЕРГЕТА'ЦЬ *(наг [е]рг [е]тáць) -ч-аш, -ч-а, непераходны, законч. тр.* Нагаварыць на незразумелай мове. Кл., Глуск.

НАДО'ВЕЧЫ *(надóв[е]чы) прыслоўе.* Тое, што і надóечы (гл. надóечы). Барб., Кл. Параўн.: надóвень. Саламір'е Полацкага раёна.

НАДО'ЕЧЫ *(надó[е]чы, надóячы) прыслоўе.* Зусім нядаўна, некалькі дзён назад. Надóечы булá брацíха, батýе (гл. батавáць у выпуску 1959 г.), што бес старóго (без гаспадара) цяж-ко вéльмі. Кл. Параўн.: анадáсь, анадóячы. Парыцкі раён.

НАЖАВО'Е *(нажавóе) субстантаваны прыметнік.* Ужываецца ў спалучэнні з даць, атрымаць і інш. Даць нажавóго—даць (чаго-небудзь; таго, што рэзалася) за карыстанне нажом; звычайна—у пастушкоў. Кл.

НАЖЛУ'КЦІЦЦА *(нажлýкціцца) -кч-ашся, -кч-аўца.* Напіцца (прагна, многа). Кл.

НАЗБІРА'ЦЦА[1] *(назьбірáцца) -á-юся, -á-ешся, законч. тр.* Пакрысе, павольна, адшукваючы пад'есці. Бач (гл. бач у выпуску 1959 г.), карóва бêгала, бêгала па картаплянішчы й назьбірáласа, пóўны[е] бакí. Шчэ травы́ німá (ранняю вясною), але па лêсе, па вéрасе, па

пóлі й назьбірáліся (каровы) ўсякага пáсушніку (гл. пáсушнік). Кл.

НАЗБІРА'ЦЦА² (*назьбірáцца*) *-á-юся, -á-ешся*. Стаміцца, збіраючы (што-небудзь). Збірáлі йгрýшы. Так назьбірáласа, што сярэдзіны ні разагнýць. Кл.

НА'ЗІРКАМ (*нáзіркам*) *прыслоўе*. Ісці назіркам—ісці (за кім-небудзь), не спускаючы вачэй. З таéю навóднаю карóваю (гл. навóдны) намýчыліса. Гóнім дадóму, а яна—ў лêс. А тагдьí адно (адзін пастух) с тавáрам (гл. тавáр у выпуску 1959 г.), а аднó за éю нáзіркам. Ідзé—й я за éю, стáне грьíзьці (есці траву)—й я́ стáну. Кл.

НАКАЗА'ЦЬ (*наказáць*) *-ж-ý, -ж-аш, непераходны, законч. тр., патрабуе давальнага склону*. Паведаміць. Наказáла Аксíньні. Хай прьíдзе да сьліў наб[е]рэ́. Нараслó, што й дзêць німá дзê. Наказáла: хай капýсты прыêдзе. Кл. Я ж наказáла (сваякам) Тóлікам, каб у гóсьці прышлí. Барб.

НАКА'ЗВАЦЬ (*накáзваць*) *-ва-ю, -ва-еш, непераходны, незаконч. тр.* Паведамляць (праз каго-небудзь). Кажý ж табê, я накáзвала Тóлікам, каб у гóсьці прышлí. Барб. Гл. наказáць.

НАКАПСА'ЦЬ (*накапсáць*) *-á-ю, -á-еш, пераходны, законч. тр.* ад капсáць (гл. капсáць у выпуску 1959 г.). Наштурхаць. Кл. Параўн.: напіргáць. Радашковічы, Валокі, Верамейкі Маладзечанскага раёна; Угляны, Казекава, Буцавічы Мінскага раёна.

НАКАЎТА'ЦЦА (*накаўта́цца*) *-а́-юся, -а́-ешся, законч. тр., зваротны* ад накаўта́ць (гл. накаўта́ць). Накаўта́ўся сьліў с камêнчыкамі. Што ж рабіць? Пас. Янкі Купалы.

НАКАЎТА'ЦЬ (*накаўта́ць*) *-а́-ю, -а́-еш, пераходны.* Наглытаць. Ні каўта́й камêнчыкаў (костачак з сліў), бо накаўта́ю (пагроза пакараць)! Кл.

НАКРАСАВА'ЦЦА (*накрасава́цца*) *-у́-юся, -у́-ешся, законч. тр.* ад красава́цца (гл. красава́цца). Лю́дзям было́ ўсяго́ накрасава́цца. В.

НАКУХТАЛЯ'ЦЬ (*накухталя́ць*) *-я́-ю, -я́-еш, пераходны, законч. тр.* Надаваць кухталёў (гл. кухта́ль, надава́ць кухталёў). Глуск. Параўн.: напухалява́ць. Саламір'е Полацкага раёна.

НАЛАТАШЫ'ЦЬ (*налаташы́ць*) *-ш-у́, -ш-ыш, непераходны.* Груба, па-зладзейску назрываць садавіны (яблыкаў, груш, гародніны), тручы, крышачы галлё, сукі, клычачы націну гародніны. Сабра́ліса, налаташы́лі мо́рквы, гаро́ху, на го́ру (на столь) ўзьлêзьлі й пасêлі. Кл.

НАПАДБРЫ'КВАЦЦА (*нападбры́квацца, напудбры́квацца*) *-а-ешся, -а-ецца, законч. тр.* Нагуляцца (пра жывёлу) падбрыкваючы. Кл. Гл. падбры́кваць.

НАПА'РСТАК (*напа́рстак*) *-тк-а, мужч.* Напёрстак. Пас. Янкі Купалы, Кл., Барб.

НАПА'СВІЦЬ (*напа́сьвіць*) *-с-у́, -с-е́ш, пераходны, законч. тр.* ад па́свіць. Пас. Янкі Купалы. Гл. напа́сціць.

НАПАСЛЕ'ДАК *(напасьлêдак) прыслоўе.* Нарэшце, пад самы канец, к канцу. Кл. Зуб., Хал.

НАПА'СЦІЦЬ *(напáсьціць) -с-ý, -с-éш, пераходны, законч. тр.* Напасвіць (жывёлу); пасвіць так, каб (жывёла) добра наелася. Над вáс мо й ні було́ пастухá. Бу́вало хаць гарачыня́, хаць хо́лад—напасяцé тавáр (гл. тавáр у выпуску 1959 г.), што до́ма травы́ ні хо́ч[э]. Кл.

НАПІЦАВА'ЦЦА *(напіцавáцца) -ý-юся, -ý-ешся, законч. тр.* Ужываецца з грубаватым адценнем у значэнні наéсціся, нало́пацца, набіць жывот. Кл. Гл. напіцавáць. Параўн.: напіцавáцца — запрацавацца, вельмі стаміцца на працы. Саламір'е Полацкага раёна.

НАПІЦАВА'ЦЬ *(напіцавáць) -ý-ю, -ý-еш, пераходны, законч. тр.* Ужываецца ў спалучэнні з словам жыво́т (з грубаватым адценнем), напіцаваць—«набіць», «напхаць» (жывот). Кл.

НАПЛЯВУ'ЗГАЦЬ *(арф.) -а-еш, -а-е, непераходны, законч. тр.* ад плявýзгаць (гл. плявýзгаць). Абы-чаго і абы-як нагаварыць, лухты намалоць. Глуск.

НАПРЫЦЕ'ГАЦЬ *(напрыцéгаць) -га-ю, -га-еш, пераходны, законч. тр.* Напрыцягваць. Ужываецца і напрыцягáць. Кл.

НАПУ'ГАЦЦА *(напýгацца) -а-ешся, -а-ецца, законч. тр.* Ацэначна-зніжальнае. Нажэрціся; дакладна як рускае нáлопаться. Кл. Гл. пýгаць, спýгаць, вы́пугаць. Параўн.: ...напугаўся моўчкі, ушчапіў на сухія плечы світку і з неразлучным

кійком сваім падаўся ў Слаўнае. Р. Мурашка, Сын, Мінск, 1957, стар. 438. Параўн.: напу́гацца, наму́гацца. Саламір'е Полацкага раёна.

НАПУ'ДЗІЦЬ (*напу́дзіць*) *-дж-у, -дз-іш, пераходны, законч. тр.* Напалохаць. Кл.

НАРА'ІЦЬ (*нара́йіць*) *-а́-ю, -а́-іш, неперαходны, законч. тр.* Таго ж кораня, што і пара́іць (пара́іць таксама ўжываецца): пара́іць—даць параду (як зрабіць што-небудзь, як знайсці выйсце і падобн.), нара́іць—падказаць, сказаць (дзе шукаць, знайсці што-небудзь). Пара́й ты мне, як падва́жыць сто́пку. Нара́й мне, дзе палазы́ на са́ні. (Падкажы ты мне палазы (дрэўцы), якія ты сам бачыў, сам ве́даеш). Нара́й мêста на êз. (Парай, падкажы, дзе добрае месца (у рэчцы), каб зрабіць ез). Параўн.: Пара́й, ма́ці, пара́й, ма́ці, пара́дніца ў ха́це. З старадаўняй песні. Кл.

НАРА'НКІ (*нара́нкі*) *прыслоўе.* Выганяць (пасвіць кароў) нара́нкі—выганяць вельмі рана, каб днём прыганяць у хлеў (тут раней выганялі пасвіць кароў на ўвесь дзень, і выганялі не надта рана). Даўнêй у на́с нара́нкі ні ганілі. Кл. Параўн.: Гналі пастушкі каровы на раніцу—трое хлопцаў. Кандрат Крапіва, Збор твораў, т. II, Мінск, 1956, стар. 318.

НАСАКА' (*насака́*). Ужываецца ў спалучэнні з даць; даць насака—даць нагою (параўн.: насок у боце). Глуск. Параўн.: Ад другога выспятка ён ускочыў на ногі і гатоў быў рабіць усё, што яму загадваюць. Міхась Зарэцкі,

Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 262. Параўн.: наском. Саламір'е Полацкага раёна. Гл. насаком.

НАСАКО'М (*насакóм*) Ужываецца ў спалучэнні з даць, выцяць, стукнуць і іншымі сінонімамі. Даць насаком—даць нагою (параўн.: насок у боце). Глуск. Гл. насаќа.

НАССЕ'КАЦЬ (*насьсêкаць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Нассякаць. Хвой насьсêкалі. Кл.

НАСУ'СЕ (*насýсе*) *прыслоўе.* На недаяданні, на сухой ежы. Чэзьне (гл. чэзнуць) бêдны на сýсе. Кл.

НАТА'ЛАВАЦЬ (*натáлавацъ, натáлувацъ*) *-лу-ю, -у-еш, пераходны, законч. тр.* ад тáлаваць (гл. тáлаваць ў выпуску 1959 г.). Кл.

НАТАРКАВА'ЦЬ (*натаркавáць*) *-кý-ю, -кý-еш, пераходны, законч. тр.* ад таркавáць (гл. таркавáць). Хібá картóпляў натаркýяце ў хлêб? Пас. Янкі Купалы. Гл. начухлавáць.

НАЎМУ'СНЕ (*наўмýсьне, наўмысьне, наўмысьн[е]*). Сл., Кл. Гл. наўмысне.

НАЎМЫ'СНЕ (*наўмýсьне, наўмысьне, наўмысьн[е]*) *прыслоўе.* Спецыяльна, знарок, наўмысна. Я наўмýсьне сказáла: дýмаю, штó ён на éтае атвêціць? Сл. Параўн.: наўмысля. Саламір'е Полацкага раёна.

НАЎПЛЕ'ТАЦЬ (*наўплéтаць*) *-éта-ю, -éта-еш, законч. тр.* Наўплятаць. Наўплéтаць касьнікôў. Кл.

НАЎСКІДА'ЦЬ[1] *(наўскідáць)* *-á-ю, -á-еш, пераходны, законч. тр.* Наўскідваць. Кл.

НАЎСКІДА'ЦЬ[2] *(наўскідáць)* *-á-ю, -á-еш, непераходны, законч. тр.* Набіць, наўздавáць (гл. наўздавáць у выпуску 1959 г.).

НА'ЎСЦЯЖ[1] *(нáўсьц[е]ж, нáўсьцяж) прыслоўе.* Адзін за адным. Чацьв[е]рык (гл. чацвярык)—дзьвê пáры (коней) нáўсьц[е]ж запрэ́жаныя ў вôз. Сл.

НА'ЎСЦЯЖ[2] *(нáўсьц[е]ж, нáўсьц[я]ж) прыслоўе.* Выцягнуўшыся (пра бег коней). Кóні што сіла пруць нáўсьц[е]ж, а ён гóніць, а ён б'е. Сл.

НАЎЦЁ'КІ *(наўцёкі) прыслоўе.* (Кінуцца) уцякаць, даць драпака, даць цягу, дай божа ногі. Хай лёпш той стары́ манькýт раскáжа пра с[е]бé. Жóнка адзін раз за йім с пам[е]лóм, дак ён наўцёкі. Зуб.

НАХА'БА *(нахáба) -б-ы, агульн.* 1. Нахабнік, нахабніца. Кл., Барб. 2. Навязаны клопат. Прыгнáлі (качак) нахáбу на мáю галавý. Кл.

НАЧАЎПЦІ' *(начаўпці, начаўпсьці) -п-éш, -п-é, пераходны, законч. тр.* ад чаўпці́ (гл. чаўпці). Кл.

НАЧУХЛАВА'ЦЬ *(начухлавáць) -лý-ю, -лý-еш, пераходны, законч. тр.* ад чухлавáць (гл. чухлавáць); ужываецца побач з натаркавáць (апошняе часцей). Кл.

НАЧЫРЫ'ЦЬ *(начыры́ць) -р-ý, -р-ыш, законч. тр. ад чыры́ць* (гл. чыры́ць[1] і чыры́ць[3]). Кл.

НАШВЕ'РКАЦЬ *(нашвéркаць) -а-еш, -а-е.* Нагаварыць швéркаючы. Гл. швéркаць. Кл.

НЕВЯЛІ'ЧАЧКІ *(арф.) прыметнік.* Форма ацэнкі ад невялікі (невялікі, невялічкі, невялічачкі). Кл., Хал. Параўн.: Поўна, поўненька ягнят невялічачкіх. Змітрок Бядуля, Збор твораў, т. І, Мінск, 1951, стар. 227.

НЕ'ГАДЗЬ *(нéгадзь, нéгаць) -дз-і, жан., толькі ў адз.* Працяглае дажджлівае ці снежнае надвор'е. Укінулаеа нéгадзь. Хал. У нéгадзь воўк сьм[е]лéй цягáяцца. Кл. Нéгаць—што німá пагóды. Сым.

НЕДАБІ'РКІ *(нідабіркі) -к-аў, толькі ў множн.* Астаткі; тое, чаго не забралі; менш важнае, рэшткі. Дýмаў, адзёнак на двá вазы́ ўскладôм і ні ўсклáлі. Асталóсо нідабіркаў кôп са дзьвê ці са тры́. Кл.

НЕ'ЕДЗЬ *(нéядзь, нé[е]дзь) -дз-і.* Голад, недаяданне. Зь нéядзі да с хóладу ў вóйну хварóба ўкінулаеа. Зуб. Сухóты с прастýды бывáюць, а ў вóйну зь нéядзі да са стрáху, с трывóгі. Хал.

НЕНАЕ'ДНІК *(арф.) -к-а, мужч., ад прыметніка* ненаéдны (гл. ненаéдны). Прагнюка, злыдзень. Кл.

НЕНАЕ'ДНЫ *(арф.) прыметнік.* 1. Ненасытны, багата і бясконца есць. Кл. 2. Прагны, прагнюка, злыдзень (пра чалавека). Кл. Гл. ненаéднік.

НЕ'ЧАГА[1] *(нéчаго, нéчага).* Чагосьці. Мýсіць ні гуляць, а нéчаго так прышлá, то скажы́, бо цёмно йці дадóму бýдзе. Кл.

НЕ'ЧАГА[2] *(нêчаго, нéчага).* У такім выпад-

ку, затое. Цэлянькі дзень дож ліў, дак нêчага выспалася. Барб.

НІЧАГЕ'НЕЧКІ (*нічагêнячкі*). Форма ацэнкі ад нічо́га. Зуб.

НІШЧЫ'МНІЦА Гл. нішчы́мніца ў выпуску 1959 г. Парауўн.: ташчы́мніца. Голдава Жалудоцкага раёна.

НІШЧЫ'МНЫ Гл. нішчы́мны ў выпуску 1959 г. Парауўн.: ташчы́мны. Голдава Жалудоцкага раёна.

НЯДА'ЎНЕЧКА (*нідáўнячка*) *прыслоўе*. Форма ацэнкі ад нядаўна. В.

НЯЎЕ'ЖНА (*няўêжно(а)*) *прыслоўе*. У прыказцы: Хоць няўêжна, дак улêжна. Кас.

НЯЎЛЕ'ЖНА (*няўлêжно(а)*) *прыслоўе*. І няўêжно, і няўлêжно. І ўêжно, і ўлêжно. Кл., Кас.

## О

ОТ 1. Эх і, ну і. Васіль казáў, што ў сыбо́ту спу́сьціць во́зяра. От папало́вім ры́бы. От у нас буў чо́рнянькі като́к. У во́йну ву́йду наплáкаўшыса (фашысты расстралялі сыноў), сяду на лáўцэ. І ё́н за мно́ю. Ускóчыць на лано́, прымêсьцілца й бу́дзе сядзêць. Скажы́, варагá як знáў. Іці́ме (бу́дзе ісці) нé м[е]ц, стáне й глядзіць, дак ён (каток) як скóчыць да на сьліву. А другí раз—у двôр ці гаро́джчык (гл. гаро́дчык), хаць куды́. А тады́ ў Сынклêты кот кíнуўса на кабанá і драў: му́сіць шшалêў. Мнê й кáжуць: ён жэ вéльмі дрáўса с сынклêціным.

І ўтапілі. От шкода було! Кл. 2. Вось, во. От як рабі. Хал. От каму расказа́ць трэ́ба. Зуб.

## П

ПАБІ'ЦЬ[1] *(пабіць) -ю́, -е́м, пераходны, законч. тр.* Пабіць (у розных значэннях). Кл., Сл.

ПАБІ'ЦЬ[2] *(пабіць) -ю́, -е́ш, пераходны.* Пакляпаць касу. Гл. біць[2], набіць[2]. Вазьму́ с сабо́ю ба́бку й малато́к, мо трохі пабіць (касу) спатрэ́біцца. Кл.

ПАБІ'ЦЬ[3] *(пабіць) -ю́, -е́ш, пераходны.* Параўнаваць перад сяўбою ўзоранае поле. Гл. паскарадзіць. Вольн.

ПАБЛЁ'ХАЦЦА *(паблёхацца) -а-юся, -а-ешся, законч. тр.* ад блёхацца (гл. блёхацца). Сым., Кл., пас. Янкі Купалы.

ПАБЛЁ'ХАЦЬ *(паблёхаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад блёхаць (гл. блёхаць). Кл., Сым., пас. Янкі Купалы.

ПАБРА'ЦЦА[1] *(пабра́цца).* Пабра́ліса за . ру́кі. Кл

ПАБРА'ЦЦА[2] *(пабра́цца).* Пажаніцца, зрабіць вяселле. Зуб. Параўн.: А чаму б яму не пабрацца з Восілене? Якая цудоўная жанчына! Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 242.

ПАБРЭ'ІЦЦА *(пабрэ́йіцца) -э́-юся, э́-ішся, зваротны* ад пабрэіць. Пагаліцца, пабрыцца. Забу́ў пабрэ́йіцца. Кл.

ПАБРЭ'ІЦЬ (*пабрэйіць*) *-э-ю, -э-іш, пераходны.* Пагаліць, пабрыць.—Хто, хлопцы, ўмее пабрэйіць? —Сам пабрэюся, а вас — не. Кл.

ПАВАДЫ'Р (*павадыр*) *-á, мужч.* Сляпы сляпому не павадыр (*арф.*). Глуск.

ПАВАЛІ'ЦЬ (*паваліць*) *-л-ю, -л-іш, пераходны.* 1. Паваліць, паракуліць, зваліць, абярнуць. Кл. 2. Рынуцца. Кл. 3. Зрэзаць, спусціць (гл. спусціць). Дуба паваліл і й хвою. Кл.

ПАВО'І (*павойі*) *-яў, толькі ў множн.* Таго самага кораня, што і віць, віцца. Дэкаратыўная расліна (пры сцяне хаты, вакол альтанкі)—Іротеа. Яна ўецца (звычайна па нітачцы), кветачкі фіялетава-сінія. Пас. Янкі Купалы. Гл. Паўдзённік. Параўн.: У Сталінскай вобласці (пасёлак Мялекіна Першамайскага раёна) мае назву—кручений панич (кручаны паніч). Там жа мне расказалі: пытаюцца ў ружы, чаму яна з калючкамі. Ружа адказала: «Каб кручаны паніч не чапляўся». Гл. паўдзённік.

ПАГАМАНІ'ЦЬ (*пагаманіць*) *-н-ю, -н-іш, непераходны.* 1. Пагаварыць (з кім-небудзь). Кл. 2. Пабатаваць (гл. батаваць у выпуску 1959 г.), пагаварыць (на каго-небудзь) без дакору, без злосці (пра якую-небудзь загану, недахоп, недагляд). Пагамані на хлопца: кажуць, вупіць вельмі ласы, а вуп'е — лаяцца тагды. На тое й хлопцы: на йіх трэба пагаманіць. Кл.

ПАГАРЭ'ЛЕЦ[1] (*арф.*) *-льц-а, мужч.* Той, чыя маёмасць згарэла. У йіх багацьця, [е]к у пагарэлца. Сл.

ПАГАРЭ'ЛЕЦ[2] *(арф.) -льц-а, мужч., множн.—пагарэльцы (арф.)* Жыхар в. Пагарэлае. Вайц.

ПАГЕРГЕТА'ЦЬ *(паг [е]рг [е]таць) -ч-аш, -ч-а, непераходны.* Пагаварыць на незразумелай мове. Кл.

ПАДАПНУ'ЦЬ *(падапнуць, пудапнуць) -пн-у́, -пн-е́ш, пераходны, законч. тр.* ад падпіна́ць (гл. падпіна́ць). Кл.

ПАДАРАВА'ЦЬ[1] *(падаравáць) -ру́-ю, -ру́-еш, пераходны, законч. тр.* Падарыць (што-небудзь каму-небудзь). На вясе́льлі (у час вяселля) падары́лі ёй мо сот (соцень рублёў) два́ццаць. Кл. Сустрэў у сказе як непераходны: Трэба падараваць старчыка (гл. ста́рчык) (а не старчыку). Сл.

ПАДАРАВА'ЦЬ[2] *(падаравáць) -ру́-ю, -ру́-еш, непераходны, законч. тр.* Выбачыць, дарава́ць (каму-небудзь). Ён вам да сьме́рці, такі пага́н[е]ц, н[е] падару́е. Вольн. Ужываецца дарава́ць і падарава́ць. Кл., Сл.

ПАДА'ЦЦА[1] *(пада́цца) -а́-мся, -а-сіся.* Падацца — накіравацца, рушыць (куды-небудзь). Кл.

ПАДА'ЦЦА[2] *(пада́цца)* 1. Схудзець, зрабіцца слабейшаму, пастарэць. Усе́ (увесь час) буў нішто́. А за е́ту зіму пада́ўса крэпко. Хал. 2. Стаць пераможанаму ў схватцы, у барацьбе, у спрэчцы. Хаць го́ламу аста́цца, але н[е] пада́цца. Зуб.

ПАДА'ЦЦА[3] *безасабовы.* Падало́со, пада-

лóся ў сэнсе—здалося. А мнê падалóсо, што ты з вýдкамі йшоў на рэку. Кл.

ПАДБЛІ'ЖВАЦЦА (*падбліжвацца, пудбліжвацца*) *-ва-юся, -ва-ешся.* А ты н[е] падбліжвайся. Н[е] падблíжвацца, а то гуляць німá чагó. Кас.

ПАДБРЫ'КВАЦЬ (*падбры́кваць, пудбры́кваць*) *-ва-еш, -ва-е, непераходны, законч. тр.* Гуляць (пра каня, вала, жарабя і інш.), насіцца, падкідваючы ногі. Пакармí, што б пудбры́квалі (коні), то ў баразьнê не прыстáнуць. Хал.

ПАДБРЫКНУ'ЦЬ (*падбрыкнýць, пудбрыкнýць*) *-кн-éш, -кн-é, непераходны, законч. тр.* ад падбры́кваць (гл. падбры́кваць). Кл.

ПАДВАРО'ТНЯ (*па(у)дварó(ô)тня*) *-тн-і, жан.* Дошка, якая кладзецца пад вароты, каб закрыць дзірку (між зямлі і варот). А пудварóтню ж ні забýдзь палажы́ць на мêсто. Кл. Параўн.: З фашыстоўскай падваротні. Кандрат Крапіва, Збор твораў, т. I, Мінск, 1956, стар. 234.

ПАДВО'КАННЕ (*пудвóканьне, падвóканьне*) *-нн-я, нiяк., толькі ў адз.,* звычайна ўжываецца ў спалучэнні з хадзіць па, лазіць па, бегаць па. Хадзіць па падвоканні—хадзіць «пад вокнамі» (заглядаючы і падслухоўваючы). Кл.

ПАДГА'ДЗІЦЬ (*падгáдзіць*) *-дж-у, дз-іш, непераходны, законч. тр.* Спасаваць, не апраўдаць надзей; зрабіць горш, чым спадзяваліся іншыя ці спадзяваўся сам. Ён ні падгáдзіць на вучóбе. Акзáмяны ўсê здаў лêп[е]й за ўсíх. Так

падга́дзіць і йці к йім? Хіба́ ў саба́кі вôч пазы́чыўшы? Кл.

ПАДГЕ'РАЦ *(падгéрац, пудгéрац) -рц-а, мужч.* Жалезная зашчапка, адзін канец яе прымацаваны да жэрдзі (дышля), што злучае пярэднюю частку (перадок) возу з задняю часткаю (задок), а другі—да канца швbooрана. Падгерац захоўвае шворан ад згінання і ламання. Кл. Параўн.: падгэрц. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна, Кліны Бялыніцкага раёна.

ПАДГЕ'РЧЫК *(падгéрчык) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад падгéрац (гл. падгéрац). Кл.

ПАДЖА'РЫ *(па(у)джáры, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Жары з чарнаватаю ці чорнаю спіною (гл. жа́ры). Пас. Янкі Купалы. Параўн.: паджа́ры—спіна рыжая, а чэрава белае. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

ПАДКАСІ'ЦЬ *(паткасíць, путкасíць) -ш-ý, -с-іш.* 1. Троху скасіць (з краю, ля берагу). Кл. 2. Троху накасіць сена. Кл.

ПАДЛЯ'ТАЦЬ *(падля́таць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* Падлятаць. Нашлі́ кубло́ варо́нінае, дак дзêці (вараняты) ўжо падля́таюць. Так ска́ча, што аш падля́тая. Вольн.

ПАДНЯБЕ'ННЕ *(паднябéньне, пуднябéньне) -нн-я, ніяк.* Усé паднябéньне на ра́ны пабíло. Балíць пуднябéньне. Кл.

ПАДО'ЙМЫ *(пудóймы, падóймы) -м-аў, толькі ў множн.* У часе вяселля сябры, таварышы маладога, ці сяброўкі, таварышкі маладой, частуюцца не ў той хаце, дзе гуляюць вяселле

(не ў хаце маладога альбо маладой), а ў якой суседняй; такі пачастунак і ёсць падоймы. Пас. Янкі Купалы.

ПАДПАВЕ'ТКА *(арф.) -тк-і, жан.* Памяншальнае ад падпавéць. Кл. Гл. падпавéць.

ПАДПАВЕ'ЦЬ *(патпавéць) -ц-і, жан.* Павець, паветка. Вольн.

ПАДПІНА'ЦЬ *(патпінáць, путпінáць) -á-ю, -á-еш, пераходны, законч. тр.* Падпінаць церассядзёлак—падцягваць і падвязваць церассядзёлак. Кл.

ПАДПЛЕ'Т *(патплéт, путплéт) -т-у, мужч.* 1. Падплятанне (дзеянне). Кл., Сл. 2. У лапцях на пераплёт (гл. пераплёт[3]) накладаецца падплéт (таксама з лазы, лыка, іншы раз вяровачны). Кл. Пераплéт гатóвы. Але насіцца не бýдзе, парвéцца, трэ́ба путплéсьці, даць путплéт. Сл.

ПАДРАДЗІ'ЦЦА *(пудрадзíцца, падрадзíцца) -дж-ýся, дз-ішся.* Наняцца, згадзіцца. Пас. Янкі Купалы. Кл.

ПАДРЭ'З *(падрэ̂з) -з-а, мужч.* Няпоўнасцю спакладаны (жарабец, кныр). Па̂дрэза нікóлі н[е] ўкóрміш. Глуск.

ПАДРЭ'ЗЫ[1] *(падрэ̂зы) -з-аў, толькі ў множн.* Шыны на палазах. Б[е]с падрэ̂заў сáні л[е]гчэйшые, але на ўхáбу знóсіць. Кл. Усê сáні на падрэ̂зах. Пас. Янкі Купалы.

ПАДРЭ'ЗЫ[2] *множн. назоўніка* падрэ́з. Гл. падрэ́з.

ПАДСА'НЬКІ (*пацсанькі, патсанькі*) *-ньк-аў, толькі ў множн.* Вытворнае ад сані (гл. санькі ў выпуску 1959 г.). Каб пры перавозцы бервяно не цягнулася па снезе, пад канец бервяна падстаўляюць кароценькія санкі; камель ляжыць на санях, а шчыт (гл. шчыт у выпуску 1959 г.) на падсаньках; такім чынам палягчаецца перавозка бярвенняў. С пацсанькамі акуратнêй: і каню лёгко, й шчыт ні будзе абадраны. Кл.

ПАДСЕ'КЦІ (*пацьсêкці, пуцьсêкці, пацьсêкчы) -к-ў, -ч-эш.* Падсячы. Параўн.: А гонар ей, што сук, пара падсекчы. Андрэй Александровіч, Выбранае, Мінск, 1958, стар. 236.

ПАДСЕ'КЧЫ Гл. падсекці.

ПАДУ'ЖАЦЬ[1] (*падужаць) -а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Перамагчы (каго-небудзь), мераючыся сіламі, барукаючыся. Кл.

ПАДУ'ЖАЦЬ[2] (*падужаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* 1. Паздаравець пасля хваробы, акрыяць (гл. акрыяць). Так крэ̂пко л[е]жала (гл. ляжаць у выпуску 1959 г.), што думала й ні ачуняю (гл. ачуняць), ні падужаю. Кл. 2. Стаць дужэйшаму. Кл.

ПАДХВА'ТНЫ (*патхватны, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Невялікі, зручны (прадмет, прылада), якім лёгка карыстацца. Ваш волак патхватны вочань. Каб такую патхватну сêць зрабіць, а мо прадасьце сваю? Кл.

ПАДЧЫРЫ'ЦЬ (*паччырыць) -р-ў, -р-ыш,*

*законч. тр.* ад чыры́ць (гл. чыры́ць[1], чыры́ць[3]). Кл.

ПАДШЭ′РХНУЦЬ Ужываецца як безасабовы дзеяслоў *(пачшэ́рхне, пачшэ́рхло)*. На дварэ́ пачшэ́рхло—ад невялічкага марозу падмерзла: на зямлі ўтварылася шорсткая корка, а на вадзе—тоненькі лёдзік. Кл.

ПАЖЫНА′ЦЬ *(пажына́ць) -на́-ю, -на́-еш, непераходны.* Пайду́ я тро́шкі пажына́ю. Хал.

ПАЗА′ДДЗЕ *(паза́дзьдзе, паза́дзьдз*[е]*) -ддз-я, ніяк., толькі ў адз.* Недабраякаснае зерне (бітае, дробнае) з насеннем пустазелля, з каменьчыкамі. Уся́кага паза́дзьдзя набра́лі мо то́ну; во́бмяшка (гл. во́бмешка) бу́дзе. Хал. Ці паза́дкі, ці паза́дзьдзе — дак то́е са́мае. У на́с гаво́раць паза́дкі. Кл. Гл. паза́дкі.

ПАЗА′ДКАВЫ *(паза́дкавы, паза́дкаву, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Што і паза́дкі (гл. паза́дкі). Паза́дкаву аўёс, паза́дкава пшаніца, паза́дкавае жы́та. Кл.

ПАЗА′ДКІ *(паза́дкі) толькі ў множн.* Адыходы пры веянні (ачыстцы) зерня: недабраякаснае зерне (бітае, дробнае) з насеннем пустазелля, з каменьчыкамі. Курэ́й мо́жно й паза́дкамі карміць. Хіба́ кане́шне (у сэнсе «толькі») чы́стым дабро́м карміць? Кл. Гл. паза́ддзе.

ПАЗАКО′ЧВАЦЬ[1] *(пазако́чваць) -ва-ю, -ва-еш, пераходны, законч. тр.* ад зако́чваць (гл. зако́чваць[1], закаці́ць[1]). Кл. Гл. фразеалагізм пазако́чваць во́чы.

ПАЗАКО′ЧВАЦЬ[2] *(пазако́чваць)*. Ужываец-

ца як безасабовы дзеяслоў. *Законч. тр.* ад закóчваць (гл. закóчваць², закацíць²). Кл., пас. Янкі Купалы.

ПАЗАЛЕ́ТАСЬ Гл. пазалётась у выпуску 1959 г. Параўн.: пазатáкрак. Голдава Жалудоцкага раёна.

ПАЗДАРАВЕ́ЦЬ (*паздаравêць*) *-é-ю,-é-еш, непераходны, законч. тр.* 1. Стаць дужэйшаму, здаравейшаму. 2. Паправіцца, перамагчы хваробу. Кл., пас. Янкі Купалы.

ПАЗЫ́РЫЦЬ (*пазы́рыць*) *-р-у, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* Пагнаць, пагнаць энергічна, не даючы апамятацца. А вы́ йіх (коней) дóбрэ пазы́рце ад грáд. Тагды́ нáшы пазы́рылі (акупантаў) аж да Варшáвы. Кл.

ПАКАЦЁ́ЛКА (*пакацёлка*) *-лк-і, жан.* Зуб. Гл. качóлка.

ПАКО́І (*пакойі*) *-яў, толькі ў множн.* 1. Панскі дом. 2. Увогуле вялікі, багаты домасабняк, у якім многа пакояў. Кл.

ПАКО́СЫ (*пакóсы*) *-аў, толькі ў множн.* Скошаная сенажаць. Сым.

ПАКО́ША (*пакóша*) *-ш-ы, жан.* Скошаная сенажаць, побач—пакошля. Вольн.

ПАКО́ШЛЯ (*пакóшля*) *-шл-і, жан.* Скошаная сенажаць, побач—пакоша. Вольн.

ПАКУ́МКАЦЬ (*пакýмкаць*) *законч. тр.* ад кýмкаць. Кл.

ПАЛА́НТ (*апалáнт* і *палáнт*) *-т-а, мужч.*

Тое, што і (звычайна) апала́нт. (Гл. апала́нт). Кл.

ПАЛА'ТКІ Гл. у выпуску 1959 г. Параўн.: пало́к. Саламір'е Полацкага раёна, Голдава Жалудоцкага раёна.

ПА'ЛЬНУЦЬ (*па́льнуць*) *-н-у, -н-еш, непераходны, законч. тр.* 1. Энергічна, рэзка, нечакана ўдарыць (вытнуць). Байл. 2. Стрэльнуць. Байл.

ПАЛЮБО'ЎНІК (*палюбо́ўнік, палюбо̂ўнік*) *-к-а, мужч.* Параўн.: палюбо́ўніца (гл. палюбо́ўніца). А то́й з Бабру́ску палюбо́ўнік разу́мны й харо́шы, адны́м сло́вам. Што тут сказа́ць? Ст. Ратміравічы.

ПАЛЮБО'ЎНІЦА (*палюбо́ўніца, палюбо̂ўніца*) *-ц-ы, жан.* 1. Тое, што ў рускай мове наложница. Параўн.: каха́нка (гл. каха́нка ў выпуску 1959 г.). Кл., ст. Ратміравічы. 2. Каханая жанатага чалаве̂ка. Сл.

ПАЛЯНЯ'КА (*пал[е]ня́ка, паляня́ка*) *-к-і, жан.* Выпадковая палка, кол, кавалак жэрдкі, бервяняка (гл. бервяня́ка). Кл.

ПАЛЯ'ЧКА (*паля́чка*) *-к-і, жан.* Узя́ў сабе̂ за жо́нку паля́чку. Вольн. Ні ўся́ка каталі́чка— паля́чка. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: Каза́лі, што гэ́тая но́вая насто́ўніца паля́чка. Угляны Мінскага раёна. Параўн.: паля́чка. Труханавічы Слуцкага раёна, Пячкоўка Мсціслаўскага раёна.

ПА-МАЕ'МУ (*па-мае́му, па-мо́йму*) *прыслоўе.* Па-мо́йму. Кл., В.

ПАМЕ'НЕЦЬ (*паменяць*) *-е-е, неперахoдны.* Зменшыцца, стаць менш (чаго-небудзь). На час застаўкі выкінулі, а бач (гл. бач у выпуску 1959 г.) паменяло вады. Кл.

ПАНАПА'СВАЦЬ (*панапасваць*) *-ва-ю, -ва-еш, пераходны, законч. тр.* ад пасвіць. Сёлята паўгарала трава, дак б[е]да с таварам (гл. тавар[1] у выпуску 1959 г.). Хіба мо на дзялянках панапасваям. Кл.

ПА'НЕЧКА (*панячка*) *-чк-і, жан.* Памяншальнае ад пані. Хал., Кас., Зуб.

ПА'ПА (*папа*) *-п-ы, жан.* З дзіцячае лексікі. Хлеб. Кл., пас. Янкі Купалы, Барб.

ПАПАЛА'НАВАЦЬ (*папаланаваць, папалануваць*) *-у-ю, -у-еш, неперахoдны.* Шматкратны дзеяслоў ад ланаваць (гл.)—папашукаць і папабегаць доўга ў пошуках. Кл.

ПАПАРАЯВА'ЦЬ (*арф.*) *-ю-ю, -ю-еш, неперахoдны.* Шматкратны дзеяслоў ад раяваць (гл. раяваць). Глуск, Калац. Пасыпêюць яблыкі, ігрушы—папараюем (*арф.*). Кл.

ПАПАРЭ'ГТВАЦЬ (*папарэгтваць*) *-ва-ю, -ва-еш, неперахoдны.* Шматкратны дзеяслоў ад рагатаць (рагтаць) · Сл.

ПАПА'СКА (*папаска*) *-ск-і, жан.* Падкормка ў дарозе. У Бабрусак на кані êзьдзіў, дак у Гарбацэвічах, туды êдучы, папаску рабіў, а назад êдучы, у Гарадку. Кл.

ПАПАСМА'ГНУЦЬ (*папасмагнуць*) *-гн-у, -гн-еш, неперахoдны.* Шматкратны дзеяслоў ад

:мáгнуць (гл. смáгнуць). Папамучыцца, папацярпець без вады, без піцця. Кл.

ПАПАСЦЁ′БАЦЬ (*папасьцёбаць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны.* Шматкратны ад сцёбаць. Кл.

ПАПАЧЫКІЛЬГА′ЦЬ (*папачыкільгáць*) *-á-ю, -á-еш, непераходны.* Шматкратны дзеяслоў ад чыкільгáць (гл. чыкільгáць). Папайсці кульгаючы. Кл.

ПАПАША′РЫЦЬ (*папашáрыць*) *-у, -ыш, непераходны.* Шматкратны дзеяслоў ад пашáрыць (гл. шáрыць). Кл.

ПАПІРА′ЦЬ (*папірáць*) *-á-ю, -á-еш, незаконч. тр.* Папіхаць; дапамагаць, папіхаючы, везці (што-небудзь). Ты з гары́ н[е] папірáй. Вольн.

ПА′ПКА (*пáпка*) *-пк-і, жан.* З дзіцячае лексікі. Памяншальнае ад пáпа (гл. пáпа). Кл., Барб.

ПАПЛО′ЎЧЫК (*паплóўчык, паплôўчык*) *-к-а, мужч.* Памяншальнае ад пóплаў (гл. поплаў). Каня́ мóжно на паплôўчыку прыпнýць (гл. прыпнýць у выпуску 1959 г.). Кл.

ПАПРУ′ГА (*папрýга*) *-г-і, жан.* Рэмень. Ватэ́та чóрна папрýга ўжэ тры́ццаць гадôў жывé. Кл. Параўн.: паўпрýга (гл. паўпрýга). Параўн.: дзя́га, дзя́жка (дзя́шка). Радашковічы; вв. Кліманты, Загорцы, Сыцавічы, Валокі Маладзечанскага раёна; вв. Лысая Гара, Лекараўка, Угляны, Казекава, Буцавічы Мінскага раёна.

ПАПЫТА′ННЕ (*папутáньне, папытáньне,*

*папута́ньн[е], папыта́ньн[е]) -нн-я, ніяк.* Просьба дазволіць; без папытання—без дазволу, не ўзяўшы дазволу. А нашто́ ж б[е]с папута́ньня браў? Кл.

ПАРА′ДНІЦА (*пара́дніца) -ц-ы, жан.* З народнай песні: Пара́й, ма́ці, Пара́дніца ў ха́це, Пара́й, ма́ці, Чым жо́нку кара́ці. Кл.

ПАРА′ІЦЬ (*пара́йіць) -а́-ю, -а́-іш, непераходны, законч. тр.* Даць параду. Гл. нара́іць. Кл., Глуск. Параўн.: у рускай мове посоветовать.

ПАРАЯВА′ЦЬ (*арф.) -ю́-ю, -ю́-еш, непераходны, законч. тр.* ад раява́ць (гл. раява́ць). Пажыць у раскошы, параскашаваць. Пас. Янкі Купалы, Глуск. Паны́ і багаце́йшыя параява́лі (*арф.*). Кл.

ПАРО′НАЧКІ Гл. паро́нкі. Паро́начкі—это цэ̂ла карто́пля. Сл.

ПАРО′НКІ (*паро́нкі) -нак* і *-нк-аў, толькі ў множн.* Бульба ў мундзірах. Хал. Параўн.: па́ранка. Саламір'е Полацкага раёна.

ПАРТАБА′К (*партаба́к) -к-а́, мужч.* Партсігар. Твôй партаба́к даражэ̂йшы за мôй. У партабаку́ папяро́сы цалêйшые. Кл. Параўн.: Паддубны з момант стаяў, як бы да чаго прыслухоўваючыся, а пасля дастаў з кішэні партабачніцу і стаў круціць цыгарку. П. Пестрак, Сустрэнемся на барыкадах, кніга 1, Мінск, 1954, стар. 70.

ПАРУЧЫ′ЦЦА (*паручы́цца) -ыцца, законч.*

*тр.* ад ручыцца (гл. ручыцца). Кл. Гл. рукóю пайсці.

ПАСА′Д (*пасáд*) *-д-у, мужч.* Разасланыя для малацьбы цэпам снапы (звычайна 10—12 штук). За рáніцу п'яць пасáдаў зьбілі (змалацілі). Кл.

ПАСКАРАДЗІ′ЦЬ (*паскарадзíць*) *-дж-ý, -дз-іш, пераходны, законч. тр.* Параўнаваць перад сяўбою ўзоранае поле. Вольн. Гл. пабіць[3], прыбіць[2].

ПАСКЛАДА′ЦЬ (*паскладáць*) *-á-ю, -á-еш, пераходны, законч. тр.* ад складáць (гл. складáць). Усê дрóва паскладáлі ў мéтры. Вайц.

ПАСКЛЁ′ЎВАЦЬ (*пасклёўваць*) *-ва-е, пераходны, законч. тр.* Пасашчыкваць, паз'ядаць (лісты, расліны, завязь гуркоў і інш.). Што зь éстымі курáмі? Нікóлі н[е] чапáлі бурáшніку, а тó паскл ёўвалі ўсю градý. Кл.

ПАСМА′ГНУЦЬ (*пасмáгнуць*) *-н-у, -н-еш, непераходны, законч. тр.* ад смáгнуць (гл. папасмáгнуць). Кл.

ПАСО′ЛІ (*пасóлі*) *-яў.* Фасоля. Тóлькі пасóлі сядзяць. Вольн.

ПАСТРО′НАК (*пастрóнак*) *-нк-а, мужч.* Кл., Хал., пас. Янкі Купалы, Байл., Барб., Н.-Андр. Параўн.: Сцяпан Апанасавіч задумаўся, апусціў галаву. Потым падышоў да жанчыны, узяў у яе з рук адну пастронку. Усевалад Краўчанка, Крыгаход, Мінск, 1947, стар. 69.

ПА′СУШНІК (*пáсушнік*) *-к-у, мужч.* Сухая

на корані трава. Шчэ травы́ німа́ (ранняю вясною), але па лёсе, па ве́расе, па по́лі й назьбіра́ліся (каровы) уся́кага па́сушніку. Кл.

ПА́СЦІЦЬ (*па́сьціць*) *-с-у́, -с-е́ш, пераходны, незаконч. тр.* Пасвіць (ужываецца і пасвіць). Пагна́ў па́сьціць тава́р (гл. тава́р[1] у выпуску 1959 г.), чарга́ падышла́. Пас. Янкі Купалы.

ПАСЫСА́ЦЬ (*пасыса́ць*) *-са́-ю, -са́-еш, законч. тр.* Пассаць (ужываецца і пасса́ць). Кл.

ПАСЯЛКО́ВЕЦ (*арф.*) *-о́ўц-а, мужч., множн.— пасялко́ўцы.* Жыхар пасёлка. Кл. Барб.

ПА-ТВАЕ́МУ (*па-твае́му, па-тво́йму*) *прыслоўе.* Па-твойму. Кл., В.

ПАТРА́ПІЦЬ (*патра́піць*) *-пл-ю, -п-іш, законч. тр.* ад тра́піць (гл. тра́піць[1], тра́піць[2]). А ты патра́піш, што сказа́ць? Барб.

ПАТРА́ЎКА (*патра́ўка*) *-к-і, жан.* Тое, што і мача́нне (гл. мача́нне). У на́с ні ка́жуць мачаньн[е],—патра́ўка. Сым.

ПАТРЭ́П'Е (*патрэ́п'е*) *-п'-я, ніяк., зборны.* Горшы гатунак лёну, канапель, які адыходзіць пры трапанні лёну, канапель. Патрэ́п'е й абдзі́ркі (гл. абдзі́ркі ў выпуску 1959 г.) спраду́ на м[е]шкі. Барб. Гл. патрэ́пкі.

ПАТРЭ́ПКІ (*патрэ́пкі*) *-пак, толькі ў множн.* Горшы гатунак лёну, канапель, які адыходзіць пры трапанні лёну, канапель. Побач

(радзей) патрэ́п'е (гл. патрэ́п'е). Кл., Барб., Хал., Зуб.

ПАТЫРЧА'КА (*патырча́ка*) *-к-і, жан.* Назоўнік ад дзеяслова тырча́ць. Палка, якая тырчыць (у плоце, з зямлі, з грэблі). Ішлі цёмначы, дак на нейку патырча́ку кало́шу да калёна разадра́ў. Хал.

ПАТЭ'ПАЦЬ (*патэ́пацъ*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад тэпаць (гл. тэпаць). Кл., Барб.

ПАЎДЗЁ'ННІК (*паўдзёньнік*) *-к-а, мужч.* Назва дэкаратыўнай расліны—Іротеа. Тое, што і паво́і (гл. паво́і). Другая назва ад палова і дзень: бутоны распускаюцца, як высока падымецца сонца, пад поўдзень; пад вечар, калі пачынае спускацца сонца, кветачкі згортваюцца да наступнага дня. Пас. Янкі Купалы.

ПАЎПРУ'ГА (*паўпру́га*) *-г-і, жан.* Рэмень. Сл. Параўн.: папру́га (гл. папру́га).

ПАЎЦЕ'ГАЦЬ[1] (*паўцэ́гацъ*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Павыцягваць (што-небудзь адкуль-небудзь). Кл.

ПАЎЦЕ'ГАЦЬ[2] (*паўцэ́гацъ*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Паўцягваць (што-небудзь куды-небудзь, у што-небудзь). Кл.

ПАХРУ'ПАЦЬ[1] (*пахру́пацъ*) *-а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* ад хру́пацъ (гл. хру́пацъ[1]). З'есці хрупаючы, пахрумстаць. Кл.

ПАХРУ'ПАЦЬ[2] (*пахру́пацъ*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад хру́пацъ (гл. хру́-

паць[2]). Пайсці хрупаючы (ступаючы на ільдзінкі, на храпу; гл. храпа ў выпуску 1959 г.). Кл.

ПАХУ'КАЦЬ[1] *(пахукаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад хукаць (гл. хукаць[1]). Кл., Сл., пас. Янкі Купалы.

ПАХУ'КАЦЬ[2] *(пахукаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад хукаць (гл. хукаць[2]). Кл., Хал., пас. Янкі Купалы.

ПАЦЫ'РКАЦЬ[1] *(пацыркаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад цыркаць (гл. цыркаць). 1. У нас пат печчу цыркун в[е]дзецца, але пацыркае трохі й змоўкне, ні так, як на волі. Кл. 2. Пырастаньце цыркаць (гл. цыркаць) на грубку (гл. грубка ў выпуску 1959 г.), а то губы папухнуць. Кл.

ПАЦЫРКАЦЬ[2] *(пацыркаць* і *пацыркаць) -а-ю* і *-а-ю, -а-еш* і *-а-еш, пераходны.* Гукапераймальны дзеяслоў па паходжанню (шум малака, якое выдойваецца ў вядро). Падаіць карову. Пачакай трохі, я пацыркаю Труску (клічка каровы) да малака цёплянькага дам. Кл.

ПАЦЯРУ'ХА *(пацяруха, пац[е]руха) -х-і, жан., зборны, толькі ў адз.* Тое, што і шумяць, шушумяць (гл. шумяць, шушумяць). Пасыплю пацярухі, то курам работы будзе. Пас. Янкі Купалы.

ПАЧЫКІЛЬГА'ЦЬ *(пачыкільгаць) -а-ю, -а-еш, непераходны, законч. тр.* ад чыкільгаць (гл. чыкільгаць). Пайсці кульгаючы. Кл.

ПАЧЫРЫ'ЦЬ *(пачырыць) -р-у, -р-ыш, не-*

*пераходны, законч. тр.* ад чырыць (гл. чырыць[1]). Кл.

ПАШВЕ'РКАЦЬ *(пашвéркаць) -а-еш, -а-е, непераходны, законч. тр.* Пагаварыць швéркаючы. Гл. швéркаць. Кл.

ПАШЛАКАТА'ЦЬ *(пашлакатáць) -ч-ý, -ч-аш, пераходны, законч. тр.* ад шлакатáць (гл. шлакатáць). Кл.

ПЕРАВА'РАНЫ[1] *(арф.)*. Такі (такая страва), які другі раз гатаваны. Кл.

ПЕРАВА'РАНЫ[2] *(арф.)*. Такі (такая страва), які гатаваны больш чым трэба. Кл.

ПЕРАВА'РАНАЯ[3] *(арф.)*. Ты не пі сырóе вады: пераварáная ёсць *(арф.)*. Глуск.

ПЕРАВЯСЛО' *(арф.) -сл-á, ніяк.* Пучок саломы (сітніку), аборка, шпагат, якім звязваецца сноп. Параўн.: назва рамана Міхася Зарэцкага «Вязьмó». Слова вязьмó бытуе шмат у якіх раёнах на Магілёўшчыне. Параўн.: перавясла. Дзяржынскі раён. Параўн.: Крушынскі павярнуўся да іх тварам, але не паспеў адскочыць: яны абкруцілі яго жытнімі перавясламі. Змітрок Бядуля, Збор твораў, т. 3, Мінск, 1953, стар. 433. Параўн.: перавясла. Саламір'е Полацкага раёна.

ПЕРАГАВАРЫ'ЦЬ *(п[е]рагаварыць) -р-ý, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* Паўтарыць (тое, што гаварылася). П[е]рагаварыць трэба дзв[е]нáццаць раз. Сл.

ПЕРАДНАВА'ЦЬ *(п[е]раднавáць, пяра-*

*днава́ць) -ну-ю́, -ну-е́ш, непераходны, законч. тр.* Перадняваць. Кл., Сл.

ПЕРАЖА́БЛЕНЫ *(п[е]ража́бляны) дзеепрыметнік* ад пера́жабіць (гл. пера́жабіць у выпуску 1959 г.). Палазы́ до́брые, да (гнучы) паглумілі, палавіна п[е]ража́бляных. Кл.

ПЕРАМЕ́НКА *(пярамéнка, п[е]рамéнка) -нк-і, жан.* Перапынак (паміж урокамі). Кл., Зуб.

ПЕРАПАЯ́СЫ *(пя[е]рапая́сы) -а(-ая), -ае.* Масць (вала, кабана ці іншай жывёліны). Кл.

ПЕРАПЛЁ́Т *(п[е]раплёт, пя[е]раплёт) -т-у, мужч.* 1. Пераплёт, пераплятанне. Кл. 2. Сплецены (з лыка, лазы) лапаць, але не падшыты (чым-небудзь) ці не падплецены (гл. падплесці). Кл. Перапле́т гато́вы. Але насіцца не будзе, парвéцца; трэ́ба патплéсьці, даць путплéт. Сл. 3. У фразеалагізмах узя́ць у перапле́т (Сл.), папа́сьціса(я) у пя[е]рапле́т. Кл., Глуск.

ПЕРАПУ́ДЗІЦЬ *(п[е]рапу́дзіць). -дж-у, -дз-іш, пераходны, законч. тр.* Перапалохаць. Кл.

ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ[1] *(п[е]рацягнуць, пярацягну́ць) -н-у́, -н-еш, пераходны.* Перацягнуць. Барб., Глуск. Кл.

ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ[2] *(п[е]рацягну́ць) -гн-у́, -гн-еш, пераходны.* Сцебануць, хвасянуць, лупцануць (вяроўкаю, дубцом). Кл., Вайц.

ПЕРАШМУ́ЛЯЦЬ *(п[е]рашму́л[е]ць, пярашму́ляць) -яю, -яеш, пераходны, законч. тр.* Перацерці (не перарэзаць нажом або якою іншаю спецыяльнаю для рэзання прыладаю) вя-

роўку, сырыцу (гл. сыры́ца ў выпуску 1959 г.) аб які-небудзь шурпаты, шорсткі прадмет (камень, кант дошкі і інш.). Кл.

ПЕРКАЛЁ'ВЫ *(п[е]ркалёвы) -а, -ае, прыметнік.* П[е]ркалёвае (адзенне) праць (гл. праць у выпуску 1959 г.) ця́жко. Кл.

ПЕ'РСЦІ *(пе́рсьці) толькі ў множн.* Грудзі (у каня́). Барб., Хал.

ПЕ'ТАВАЦЦА *(пе́таваццa, пе́туваццa) -уюся, -уешся, незаконч. тр.* Жыць у бядзе, у нястачах, марнавацца. Глуск, пас. Янкі Купалы.

ПЕЧКУРО'ЎКА *(пячкуро́ўка, п[е]чкуро́ўка) -к-і, жан.* Вудачка, прыстасаваная лавіць печкуроў (гл. пячку́р у выпуску 1959 г.). На пячкуро́ўку акуня́ вы́цяг. Мнê та́то зрабіў п[е]чкуро́ўку й шчу́ччынку (гл. шчу́ччынка). Кл.

ПІ'ЛЬНЯ *(пільня) -н-і, жан.* Пільня—што ў ёй лêс піляць. Сым.

ПЛАСКАСТУ'П *(пласкасту́п) -п-а, мужч.* Той, у каго плясkатая (плоская) ступня. Ко́сьцік—пласкасту́п, л[е] таго́ й у салда́ты ні бра́лі. Кл.

ПЛАСКУНІ' *(пласкунê) толькі ў множн.* Маніцы. Сл. Параўн.: пло́скуні (гл. пло́скуні ў выпуску 1959 г.) Параўн.: пласко́нне. Саламір'е Полацкага раёна.

ПЛА'ЎВАЦЬ *(пла́ўваць) -ва-ю, -ва-еш, непераходны, незаконч. тр.* Плаваць. Ты йшчэ пла́ўваць ні наўчы́ўса. Ужываецца і пла́ваць. Кл.

ПЛАЦІ́НА (*плаціна*) *-н-ы, жан.* Жэрдка, кол з плоту. Кл.

ПЛО́ЙМА (*плойма*) *-м-ы* і *-м-у, жан.* Многа дзяцей, дзетвара (у адной сям'і, у адной хаце), калі гаворыцца пра незабяспечаную, бедную сям'ю (з адценнем зняваги). Выражэнне былых адносін і становішча бедных мнагадзетных сем'яў. Кл. У такім значэнні слова плойма вядома ў Хоцімскім раёне, у г. Мсціслаўлі.

ПЛО́ТЧЫНКА (*плочцынка, плôчцынка*) *-к-і, жан.* Вудачка, прыстасаваная лавіць плотак ці іншую дробную рыбу. Кл.

ПЛЯВУ́ЗГАЦЬ (*арф.*) *-а-еш, -а-е, непераходны, незаконч. тр.* Абы-што і абы-як гаварыць, лухту малоць. Глуск.

ПОД[1] (*под*) *-д-у, мужч.* Пляцоўка ў печы, на якой гараць дровы, варыцца, смажыцца. Кл.

ПОД[2] (*под*) *-д-у, мужч.* 1. Тое, што застаро́нак (гл. застаро́нак) у гумне: месца (у гумне) для складання снапоў, саломы; месца засцілаецца жардзём, галлём. 2. Закладзеная збожжам, сенам прастора ад поду (пляцоўкі) да страхі ў гумне, адрыне. Нажына́лі па два́ пады́ жы́та й ярыны́. Кл.

ПО́ДМАЗКА (*подмазка, пôдмазка*) *-зк-і, жан.* Угорнуты ў рубінку (гл. рубіна, рубінка ў выпуску 1959 г.) кавалачак сала; подмазкаю падмазваюць скавараду, калі пякуць аладкі, налі́снікі (гл. налі́снікі ў выпуску 1959 г.). Пас. Янкі Купалы, Кл., Барб.

ПО́ЖНЯ (*пожня, пôжня*) *-жн-і, жан.* 1. По-

ле, дзе зжата збожжа. На пожні л[е]гчэ́й па́сьціць тава́р (гл. тава́р[1] у выпуску 1959 г.). Сл. С по̂жні (пасучыся на пожні) каро̂ўка прыне́сла бо̂льш малачка́. Кл. 2. Рэшткі саломы, травы (пні), якія застаюцца на полі, пасля жніва. Усю по́жню скасілі, траўлі́ва (гл. траўлі́вы ў выпуску 1959 г.). Глуск. По́жню на се̂чку (гл. се́чка ў выпуску 1959 г.) парэ̂жу. Вайц. Параўн.: іржэ́ўнік. Саламір'е Полацкага раёна.

ПО'ЗНЫ (*по́зны, по̂зны*) *-а(-ая), -ае, прыметнік.* По́зных гурко̂ў ні бу́дзе. Пас. Янкі Купалы. Іду́ць у по̂зны абе̂д ка мне̂. Кл.

ПО'КЛАД (*по́клад*) *-д-а, мужч.* Каб прывучыць курыцу несціся ў пэўным месцы, кладуць яйка—по́клад. Шука́ла, дзе мая жо́ўцянька ку́рка н[е]се́цца й ні нашла́. Дак зрабіла ў рэ́шаце кубло́ (гл. кубло́ ў выпуску 1959 г.) й по́клад улажы́ла. Кл.

ПО'КУЛЬ (*по́куль*) *прыслоўе.* Пакуль. По́куль ба́цько ко́пу жы́та змалата́ў, я ла́пця схвата́ў. Кл. Покуль што. Зуб.

ПО'ЛІВА (*по́ліво, по́ліва*) *-в-а, ніяк.* Тое, што трэба палоць. На ўсі́х бу́дз[е] (хопіць) по́ліва. Пас. Янкі Купалы. На по́ліво ўсі́х баб. Кл. 2. Прапалванне. Ні ўсі́х адна́кае по́ліво (хто—чысцей, лепш; хто—горш). Кл.

ПО'ПЛАЎ (*по́плаў, по̂плаў*) *-ав-а, мужч.* Незабалочаная, сухадольная сенажаць. На малі́наўскіх паплаво́х трава́ ве́льмі до́бра. Я по́п[е]л на по́плаў сы́плю. Кл.

ПО'СЮЛЬ (*по́сюль*) *прыслоўе.* Дасюль, да-

гэтуль. Пóсюль (паказваючы рукою) скóсім і кóсы дадóму занóсім. Кл. Гл. досюль.

ПРАБАЧА'ЦЬ (*прабачáць*) *-á-ю, -á-еш, непераходны, незаконч. тр.* Выбачаць. А на чáй—прабачáй. Кл.

ПРАВАРЫ'НА (*праварьíна*) *-н-ы, жан.* Растлумачылі па-рознаму. Адны: стайня, вялікі хлеў. Кл., пас. Янкі Купалы. Другія: зáсаўка, завала (у стайні, хлеве). Кл., пас. Янкі Купалы. Параўн.: прыварьíна, прыарьíна—прыбудоўка, хлеўчык. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

ПРАГАНЯ'ЦЬ (*праганяць*) *-я́-ю, -я́-еш, пераходны, незаконч. тр.* 1. Праганяць. Хал., Сл. 2. Запіваць (бульбу, кашу) малаком. Кл. Німá чагó лýччаго. Бáбку êжце й малакóм праганяйце. Хал.

ПРА'ДЗІВА (*прáдзіво, прáдзіва*) *-в-а, ніяк.* 1. Тое, што трэба прасці (воўна, кудзеля, вата, каноплі). Аднагó прáдзіва мо п'яць пудьí було́. Кл. 2. Прадзенне. У таê старóе лýччае прáдзіво за тваé. Кл., Вайц.

ПРАЗ (*праз, прас, прась*) *прыназоўнік.* 1. У значэнні пра: Я прас тáту гаварý. Кл. Праз вáс тут ніхтó й ні дýмаў. Байл. 2. У значэнні з-за: Прась цябé й нам жьíткі німá. Кл.

ПРАЗЫ'РЫЦЬ (*празьíрыць*) *-р-у, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* Прагнаць, прагнаць энергічна, не даючы апамятацца. Кл., Вайц.

ПРАКАЎТНУ'ЦЬ (*пракаўтнýць*) *-н-ý, -н-éш, пераходны, законч. тр.* ад каўтáць (гл. каўтáць у выпуску 1959 г.). Картóпля схапіла (карова)

й ні пракаўтну́ла. Кл. Я сьлі́ву с камêнчыкам магу́ пракаўтну́ць. Пас. Янкі Купалы. Ліхóе слóва пракаўтні́ *(арф.)* (у сэнсе: не скажы ліхога (благога, кепскага) слова). Глуск.

ПРАСІНА'ЦЦА *(прасіна́цца) -á-юся, -á-ешся, незаконч. тр.* Прачынацца (ужываецца і прачынацца). За ўсéньку нôчку н[е] прасіна́ласа. Кл.

ПРАСТАРЭ'КАВАЦЬ *(прастарэ́каваць, прастарэ́куваць) -ку-еш, -ку-е, непераходны.* Гаварыць беззмястоўна, без ладу, перакідваючыся з адной тэмы на другую. Кл.

ПРАСЯ'НІЦА *(прася́ніца) -ц-ы, жан.* Прасяная салома. Кл., пас. Янкі Купалы.

ПРАТАРАБА'НІЦЬ[1] *(пратараба́ніць) -н-ю, -н-іш, законч. тр.* ад тараба́ніць (гл. тараба́ніць[1]). Прабалбатаць. Прышла́ ў ха́ту, паўдня́ пратараба́ніла. От-бок (гл. от; гл. бок у выпуску 1959 г.) нату́ра. Кл.

ПРАТАРАБА'НІЦЬ[2] *(пратараба́ніць) -н-ю, -н-іш, законч. тр.* ад тараба́ніць (гл. тараба́ніць[2]). Неахайна, абыякава правезці, працягнуць, правалачы. Кл.

ПРАТЫЛІЛІ'КАЦЬ *(пратыліліка́ць) -а-еш, -а-е, законч. тр.* ад тыліліка́ць (гл. тыліліка́ць). Лêцячко пратыліліка́лі, а ўзі́мку—дай йім гурóчкаў. От рóздур. Кл.

ПРАХУ'КАЦЬ *(прахýкаць) -а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* ад хýкаць (гл. хýкаць[2]). Зрабіць праталіну на замерзлай шыбіне. Дава́й прахýкаям вакéнячко ў шы́бе. Кл.

ПРО'ВАР *(пр́овар) -р-у, мужч.* Бровар (побач з бровар). Кл.

ПРО'ДАЦЬ *(пр́одаць) пр́одам* і *прад́ам, -с-і, пераходны.* Прадаць. Вольн.

ПРУГЛО' *(пругл́о) -л-́а, ніяк.* Рычаг у прыстасаванні (пры студні) даставаць ваду. Кл., Сл., Барб.

ПРУТ[1] *(прут) -т-а, мужч.* Прут, палка. Хал. Лі́са й пуд бара́ну хава́ласа: то ў зу́б, то ў пру́т, да ўсё́ мі́мо. Кл.

ПРУТ[2] *(прут) -т-а, мужч.* Патоўшчаная частка ў касе (прыладзе, якою косяць). Хал.

ПРУТО'К *(прут́ок) -тк-́а, мужч.* 1. Пруток, невялічкая палачка. Кл. 2. Ткацкае. Палачка ў чоўніку, на якую надзяваецца цэўка. Кл. 3. Вязальная спіца. Кл.

ПРЫБІ'ЦЬ[1] *(прыбіць) -ю, -́еш, пераходны, законч тр.* Прыбіць.

ПРЫБІ'ЦЬ[2] *(прыбіць) -ю, -́еш.* Параўнаваць перад сяўбою ўзоранае поле. Кл., Сым.

ПРЫБУДО'ЎКА *(прыбуд́оўка* і *прыбудôўка) -к-і, жан.* 1. Дзеянне ад прыбудава́ць. Прыбудôўка ні та́к до́раго абу́йдзецца, як но́вае ра́біць. Кл. 2. Будынак, прыбудаваны да другога будынка. Кл.

ПРЫВА'РАК *(прыв́арак) -рк-у, мужч.* 1. Гатаваная страва. Кл. 2. Тлушч (сала, масла, алей), рыба, мяса, грыбы, з якімі гатуецца крупнік, капуста, каша ці іншая страва. Анічо́го, аніякага прыва́рку ні было́. Кл. Параўн.: пры-

ва́рак — мука з абдзёртага (ашатраванага) ячменю. Саламір'е Полацкага раёна.

ПРЫВЯРНУ'ЦЬ[1] (*прывярну́ць, прыв[е]рну́ць*) *-н-у́, -н-еш, пераходны, законч. тр.* Прыкідаць, прываліць (што-небудзь чым-небудзь). Вôз (сена) ўвёзьлі ў адры́ну й прывярну́лі саке́ру й пілу. Кл.

ПРЫВЯРНУ'ЦЬ[2] (*прывярну́ць, прыв[е]рну́ць*) *-н-у́, -н-еш, пераходны.* Накіраваць стада (да чаго-небудзь). Прыв[е]рні́ ко́ні маê к рацэ̂. Кл.

ПРЫВЯРНУ'ЦЬ[3] (*прыв[е]рну́ць*) *-н-у́, -н-еш, пераходны.* Зачараваць, прываражыць (хлопца). Сл.

ПРЫГАЛАВЕ'ШКА (*прыгалаве́шка*) *-шк-і, жан.* Прыгалавешкі—два палены, якія кладуцца на паду ў печы паралельна, а на іх канцамі кладуцца дровы. Барб., Кл.

ПРЫГА'НАК (*прыга́нак*) *-нк-а* і *-нк-у, мужч.* Намудрава́ў: *га́нак*, а тагды́ йшчэ пры*га́*нак. Хал.

ПРЫГА'ЦЬ (*прыга́ць*) *-а́-ю, -а́-еш, непераходны.* Каза прыга́е, й ты што каза́. Сл.

ПРЫГУМЕ'ННЕ (*прыгуме́ньне*) *-нн-я, ніяк.* Плошча пры гумне. Кл.

ПРЫДАВА'ЦЬ[1] (*прыдава́ць*) *-да-ю́, -да-е́ш, пераходны.* Прыдаваць. Сл., Кл.

ПРЫДАВА'ЦЬ[2] (*прыдава́ць*) *безасабовы— прыдае́, прыдало́.* Зарадзіла, урадзіла (збожжа). Ой, я ніву дажына́ю, Півам ніву паліва́ю,

Хай мае́ жы́то расьце́ І ко́лас на той го̂д прыдае́. З песні. Сл.

ПРЫ'ЗБА (пры́зба) -зб-ы і зб-у, жан. Невысокі насып зямлі вакол хаты для ўцяплення. Слова пры́зба таго ж кораня, што і рускае изба. Прызба з приистьба. Кл., Вайц., Барб. Параўн.: загава́льня. Мсціслаў. Параўн.: завальня. Кліны Бялыніцкага раёна.

ПРЫКЛА'ДЗІНЫ (прыкла́дзіны) -ін і -ін-аў, толькі ў множн. Старадаўні звычай—абед як памяць па нябожчыку. Кл., Вайц.

ПРЫКМЕ'ТА (прыкме̂та) -т-ы, жан. Прал[е]та́юць самалёты—дак прама́я прыкме́та, што по́йдуць на на́с (пра блакіроўку нямецка-фашысцкімі войскамі ў часе Айчыннай вайны). Сл.

ПРЫМЕ'ЦЬ (арф.) -е́-еш, -е́-е, неперахо̀дны, законч. тр. Змагчы. У значэнні змагчы́ сустрэў толькі ў выразах умоўнага, дапушчальнага характару з злучнікамі каб, што б. Што б пры́ме̂ў, у ло́жц[э] ўтапіў бу. Кл. Така́я по́рстка, сярдзіта, чуць што́ — зайрдзіцца (гл. зайрдзе́цца), скало́ла б, што б пры́ме́ла. Глуск.

ПРЫМУ'РАК (прыму́рак) -рк-у і -рк-а, мужч. 1. Тое, што прымуравана, прыбудавана (з цэглы, камення і інш.). Зуб. 2. Своеасаблівы тапчан пры печы, як яе частка. Малы́е булі́ й на прыму́рку спа́лі. Кл. Це̂ста на прыму́рак пастаўлю. Барб.

ПРЫНА'ДЗІЦЦА (прына́дзіцца) -ішся,

*-іцца.* Панадзіцца, унадзіцца (ужываецца і ўна́дзіцца). Прына́дзіліся саро́кі—адбо́ю німа́. В.

ПРЫ'ПЕЧАК *(пры́п[е]чак, пры́пячак) -чк-у, мужч.* Пярэдняя пляцовачка ў печы. На пры́пячку стайіць пе́чана[е] хало́дна[е] са́ло на скаваро́дзцэ. Кл. ...а мужы́к (муж) л[е]ны́ буў, на пры́пячку запрага́ў, пут паро́гам паара́ў, а я ў пе́чы палі́ла і валы́ спалі́ла. З жартоўнага апавядання. Кл. Кі́ньце (акуркі) на пры́п[е]чак, я сама́ ўкі́ну (у агонь). Хал.

ПРЫПІ'РАК *(прыпі́рак) -рк-а, мужч.* Прыстанак, прыстанішча. Тут са́мы прыпі́рак буў (у партызанаў). Сл. Параўн.: прыпі́рашча. Саламір'е Полацкага раёна.

ПРЫСА'ДА *(прыса́да) -д-ы, жан.* Насаджэнні ля хаты, ля сядзібы. У йіх—каб чаго́?—й прыса́д німа́. Кл. Параўн.: абса́да, аса́да (гл. абса́да, аса́да).

ПРЫСКВА'РВАЦЬ *(прысква́рваць) -ва-ю, -ва-еш, пераходны, незаконч. тр.* ад прыскварыць. Хал., Кл., Зуб. Параўн.: Рабіць за́таўку. Мсціслаў.

ПРЫСКВА'РЫЦЬ *(прысква́рыць) -р-у, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* Прыправіць страву (крупнік, капусту і інш.) смажаным салам, расплаўленым здорам ці іншым тлушчам. Кл., Хал., Зуб. Параўн.: затаўчы́. Мсціслаў.

ПРЫСКРЫ'НЕК *(прыскры́няк) -ньк-а, мужч.* ад скры́ня. Невялічкі засек у куфры. Тваê папêркі (дакументы) у прыскры́ньку. Кл.

У прыскры́няк укі́нь (грошы). Вольн. Параўн.: прыскры́нак. Мсціслаў.

ПРЫСТРЭ'К (*арф.*) *-к-у, мужч.* Хвароба, якую «прырабіў» вядзьмар. Пас. Янкі Купалы.

ПРЫТЭ'ПАЦЬ (*прытэ́паць*) *-а-ю, -а-еш, неперaходны, законч. тр.* ад тэ́паць (гл. тэ́паць). Прытэ́пала с со́нцам (да захаду сонца). Кл.

ПРЫЦЮ'ПАЦЬ (*прыцю́паць*) *-а-ю, -а-еш, неперaходны.* Павольна, па-старыкоўску прыйсці. Кл.

ПРЫ'ЦЯМКАМ (*пры́цямкам, пры́ц*[*е*]*мкам*) *прыслоўе.* Тады, як прыцямнее. Кл., Барб.

ПСЕ-ПСЕ-ПСЕ! (*псе-псе-псе!*). Так клічуць (падзываюць) карову (кароў). Кл., Вайц. Параўн.: псей-псей-псей.

ПСЕЙ-ПСЕЙ-ПСЕЙ (*псей-псей-псей*). Тое самае, што і псе-псе-псе! (гл.). Хал.

ПСЕ'ЙКА (*псе́йка*) *-йк-і, жан.* У значэнні карова; калі клічуць карову, ужываецца ў спалучэнні з псе-псе-псе. Псе́йка мая́, псе-псе-псе!.. Кл. Псе́йкі маê, псе-псе-псе! Пас. Янкі Купалы.

ПСЕ'ЙКАЦЬ (*псе́йкаць*) *-а-еш, -а-е, неперaходны, вытворны* ад псе-псе-псе (гл. псе-псе-псе). Да по́ўначы шука́ла (карову), надаêло псе́йкаць, го́рла сарва́ла. Кл.

ПУ'ГАЦЬ (*пу́гаць*) *-а-еш, -а-е, перaходны, незаконч. тр.* Ацэначна-зніжальнае. Жэрці; як у рускай мове лопать (слопать). Пу́гаў, аж по́куль дно ўба́чыў. Кл. Гл. спу́гаць, напу́гацца. Мажліва: пугаць, спугаць, выпугаць звязана з

«пуґа» (па сходнасці). Хутка есці—як хутка, лёгка, сцябаць. Параўн. таксама: насцябáцца, г. зн. напіцца, і сцябáць (сцёбаць) пугаю. Параўн.: пýгаць і мýгаць (ужываюцца абодва). Саламір'е Полацкага раёна.

ПУДАПНУ'ЦЬ Гл. падапнýць.

ПУДПІНА'ЦЬ Гл. падпінáць.

ПУ'ДЗІЦЬ *(пýдзіць) -дж-у, -дз-іш, пераходны, незаконч. тр.* Палохаць. Кл.

ПУ'КАНКА *(пýканка) -нк-і, жан.* Груша, яблык, які сам зваліўся з дрэва. Пуканкі смашнêйшы[е]. Кл. Пýканак назьбірáць. Пас. Янкі Купалы.

ПУ'ЛЕЧКА *(пýлячка* і *пылячка) -к-і, жан.* Памяншальна-ласкальнае ад пазыўнога пуль-пуль-пуль (гл. пуль-пуль-пуль). У значэнні куранятка. У спалучэнні з маяˆ (маê) часта дадаецца да пуль-пуль-пуль: Пýлячкі маê! пуль-пуль-пуль... Кл.

ПУЛЬ-ПУЛЬ-ПУЛЬ *(пуль-пуль-пуль* і *пыль-пыль-пыль).* Так клічуць (падзываюць) куранят. Кл., пас. Янкі Купалы.

ПУЛЬСЦЬ *(пульсьць* і *пыльсьць) -ц-і.* Кл. Гл. пылысць.

ПУЛЯНЯ'ТКА *(пулянятко* і *пылянятка) -к-а, ніяк.* Памяншальна-ласкальнае ад пазыўнога пуль-пуль-пуль (гл. пуль-пуль-пуль). Куранятка (больш пашырана апошняе). Кл. Гл. пулечка.

ПУ'НЯ (*пу́ня*) *-н-і, жан.* Вялікае гумно ў маёнтку. Сым.

ПУ'Р'Е (*пу́р'е, пы́р'е*) *-р'-я, ніяк., зборны.* Гл. пы́р'е. Кл.

ПУХА' (*пуха́*) *-х-і, жан.* Тупы канец яйка, супрацьлеглы вастрэйшаму (наску або дзюбцы). Кл. Гл. дабіць да пухі. Параўн.: пуха́—1. Частка яйка; 2. Задняя частка лодкі, дзе садзіцца рулявы, грабец. Саламір'е Полацкага раёна.

ПУЦЬ (*пуць*) *-ц-і, жан.* У далёку пуць. Сл. Шчасьлівае пуці табе̂. Кл. Веліка пуць. Зуб. Ва́шую пуць. В.

ПЫ'ЛЕЧКА (*пу́лячка* і *пылячка*), *-к-і, жан.* Гл. пу́лечка.

ПЫЛЬ-ПЫЛЬ-ПЫЛЬ (*пуль-пуль-пуль* і *пыль-пыль-пыль*). Гл. пуль-пуль-пуль. Кл., пас. Янкі Купалы.

ПЫЛЬСЦЬ (*пульсьць* і *пыльсьць*) *-сц-і, жан.* У тым жа значэнні (і побач) з поўсць. Кл.

ПЫЛЯНЯ'ТКА (*пуляня́тко* і *пыляня́тко*) *-к-а, ніяк.* Памяншальна-ласкальнае ад пыль-пыль-пыль! (гл. пыль-пыль-пыль). Куранятка. Гл. пулянятка.

ПЫ'Р'Е (*пу́р'е, пы́р'е*) *-р'-я, ніяк., зборны.* Тое, што пы́рнік, пы́рай (апошнія таксама ўжываюцца, гл. у выпуску 1959 г.). Кл.

ПЯ'ЛА (*п'я́ло*) *-л-а, ніяк.* Устойлівы, трывалы прут у якой-небудзь прыладзе, напрыклад у падса́цы (гл. падса́ка ў выпуску 1959 г.), у няро́це (гл. няро́т у выпуску 1959 г.). Кл.

ПЯРКА́ЛЬ (*пяркáль,* п[*е*]*ркáль*) *-л-ю, мужч.* Паркаль (рускае: ситец). П[е]ркáлю набрáла дзêвацц[э] на сукéнку. Кл. Вéльма харóшы пяркáль прывéзьлі. Вольн.

ПЯРКА́ЛЬЧЫК (*пяркáльчык, п*[*е*]*ркáльчык*) *-к-у, мужч.* Памяншальнае ад пяркáль (гл. пяркáль). Кл.

ПЯРЭ́ВІЦЦЕ (*пярэ́віцьця*) *-цц-я, ніяк., зборны, толькі ў адз.* Тое, што і віцце, пярэ́віць (гл. віцце, пярэ́віць). Вольн.

ПЯРЭ́ВІЦЬ (*п*[*е*]*рэ́віць*) *-ц-і, жан., зборны, толькі ў адз.* Тое, што і віцце (гл. віцце). Сл.

ПЯРЭ́ДАДНЕМ (*п*[*е*]*рэ́дадням*) *прыслоўе.* Перад світаннем, перад досвіткам. Чýю, нêхто п[е]рэ́дадням хруп-хруп па хрáпе (гл. хрáпа[2] ў выпуску 1959 г.) к нáшай хáце, адáле (гл. адáле ў выпуску 1959 г.) стаў. Кл.

ПЯРЭ́ЗВЫ (*пярэ́звы, п*[*е*]*рэ́звы*) *-зв-аў, толькі ў множн.* Праз два-чатыры тыдні пасля вяселля спраўляюцца пярэзвы—госці, пачастунак у бацькоў маладога і маладой. Глуск.

ПЯРЭ́ЗІМАК (*арф.*) *-мк-а, мужч.* Цяля, жарабя і іншая маладая жывёліна, якая перазімавала сваю першую зіму. Кл. Параўн.: пярэ́летак (гл. пярэ́летак у выпуску 1959 г.).

ПЯ́ЦЕНЕЦ (*арф.*) *-нц-а, мужч., множн.— пяценцы (арф.).* Жыхар в. Пяценка. Вайц.

## Р

РАБАЦЕ́ННЕ (*рабацéньне*) *-нн-я, ніяк.* Вяснушкі. Кл.

РАБІ'ЦЬ *(рабіць) -бл-ю, -б-іш.* 1. Рабіць (у розных значэннях). Хату рабілі Архіпу. Кл. У лêсе робім. Сл. Што робіш? Хал. 2. Нарыхтоўваць (касіць, растрасаць, сушыць, зносіць, скідаць у стагі), калі гавораць пра сена. Сêно рабілі ў Крацкове. Кл. Сена нарабілі мо на два гады *(арф.)*. Зуб.

РАД *(рад) -д-у, мужч.* 1. Рад. Увесь рад (цыбулі) вўрвалі. Хал. 2. Пласт (у кубельчыку, у скрынцы). Сало мае тоўстае, чыстае, але жжоўкне й зьялчае за лêцячко. Мусіць я вўбяру рад, а ты прадасі на базары. Кл.

РАЖО'Н *(ражон) -жн-а, мужч.* 1. Тое, што і лавец (гл. лавец). Кл. 2. Завостраная, рагатая палка. Кл.

РАЗАГНА'ЦЬ[1] *(разагнаць) -н-ю, -н-іш, пераходны, законч. тр.* Разагнаць. Хал., Кл., Сл.

РАЗАГНА'ЦЬ[2] *(разагнаць) -н-ю, -н-іш, пераходны.* Падараць (гл. падараць, падорваць, нападорваць у выпуску 1959 г.), выараць баразны (бульбы, буракоў). Разгані, Мікалайко, й мнê хоць кôлькі баразёнак. Кл.

РАЗА'ЧКА *(разачка) -чк-і, жан.* Рэзкі боль, рэзь у жываце. Разачка рэ̂ж[э]. Сл. У праклёне: Зрэ̂залі (нямецка-фашысцкія акупанты) садок. Што б йіх разачка зарэ̂зала. Глуск.

РАЗБІВА'ЦЬ *(разьбіваць) -б'-ю, -б'-еш, пераходны, незаконч. тр.* ад разбіць (гл. разбіць). Кл.

РАЗБІ'ЦЬ *(разьбіць) разаб'ю, разаб'еш,*

*пераходны, законч. тр.* 1. Разбіць. Кл. 2. Растрэсці, расцерушыць (пракосы, сена). Ты, хлопч[э], сёні каб разьбіў і павярнуў сêно тóе, што ў кôпцэ. Кл. 3. Разлучыць закаханых, сям'ю. Кл. 4. Раскалóць бервяно, палена. Б[е]з дóўбні тут ні разаб'ёш. Кл.

РАЗВІ'ДНІВАЦЬ *(разьвіднівацъ) -а-е, -л-а.* Разьвіднівае — світае; разьвіднівало(а) — світала. Кл., Глуск.

РАЗДВО' *(раздвó) -в-á, ніяк., толькі ў адз.* Першы дзень каляд. Барб., Кл., Параўн.: стараславянскае рождьство, агульнаўсходнеславянскае рожьство.

РАЗДУРО'НЕЦ *(раздурóнец) -нц-а, мужч.* Раздураны, распешчаны. Кл.

РАЗНО'СЧЫК *(разнóшчык, разнôшчык) -к-а, мужч.* Лістаносец, паштальён. Свае́ пісьмó разнôшчыку далá атнéсьці. Сл.

РАЗНЯГО'ДЗІЦЦА *(разьнягóдзіцца, разьн[е]гóдзіцца) безасабовы.* Устанавіцца нéгадзі (гл. нéгадзь). Разнягóдзілася (разьнягóдзілася) — працяглы час кепскае надвор'е, дажджлівае ці снежнае. Хал., Кл., Поб.

РАЗУВА'НЕЦ *(разувáн[е]ц) -ц-а, мужч.* Мянушка чалавека, які, сустрэўшы падарожнага, абрабаваў яго, зняўшы боты, гэта значыць разуў. Кл.

РАЗУМЕ'Ц *(разумéц) -мц-á, мужч.* Разумнік. Кл., Глуск, Сл. У выпуску 1959 г. падаецца толькі (недакладнасць) іранічнае значэнне. Ра-

зумнейшаго над [е]гó ці знóйдз[е]ш. Вéльмо разумéц ён. Сл.

РАЗЯВЕ'НЯ *(арф.) -н-і, агульн.* Разявака, разява. Кл., Сым.

РАСКАТУ'РХАЦЦА *(раскатýрхацца) -а-юся, -а-ешся, зваротны* ад раскатýрхаць (гл. раскатурхаць). Разбудзіцца (прабудзіцца), разварушыцца, ачуняць (гл. ачуняць). Кл.

РАСКАТУ'РХАЦЬ *(раскатýрхаць) -а-ю, -а-еш, пераходны, законч. тр.* Разбудзіць, разварушыць, дапамагчы ачуняць (гл. ачуняць). Кл., Вайц., пас. Чырвоны.

РАСКО'Л *(раскôл) -л-а, мужч.* Распуснік і хуліган. Кл.

РАСПУКНУ'ЦЦА *(распукнýцца) -н-éцца.* Раскрыцца (пра бутон кветкі). На пасёлку распукнýўся без (бэз). Кл. Параўн.: Распукнуўся і зацвіў першым цветам пахучы бэз. Р. Мурашка, Сын, Мінск, 1957, стар. 66.

РАСТАЛМА'ЧВАЦЬ *(расталмáчваць) -ва-ю, -ва-еш.* Растлумачваць. Хал., Зуб.

РАСТАНЦЫ' *(растанцэ̂) толькі ў множн.* Ростань, раздарожжа. Байл. Параўн.: рóстанькі. Саламір'е Полацкага раёна.

РАСХО'Д[1] *(расхôд, расхóд) -д-у, мужч.* Расход, выдаткі. Барб., Кл., Сл., Вайц.

РАСХО'Д[2] У спалучэнні з прыназоўнікам *на*—разыходзіцца, пачынаць разыходзіцца. Ой, ужэ́ ж вéчар на захóдзе, Мáнечка з мáмкаю на

расхо́дзе. Ее́ ма́мачка вечэ́раць сунімáе: Вечэ́рай, дзіця́, там табê нівуго́днeнько. З песні. Сл.

РАЎНЯ′ *(раўня́) -ўн-і, жан.* Табê ж дзя́дзька не раўня́, што ты на [е]гó «ты». Зуб. Дружы́ з раўнёю. Вольн. Ты ж ні раўня́ ёй: ты н[е] адна́ ў ба́цька. В.

РАЯВА′ЦЬ *(арф.) -ю́-ю, -ю́-еш, неперахoдны, незаконч. тр.* 1. Жыць у раскошы, раскашаваць. Малі́наўцы раю́юць. У йіх усé кругóм дóбрае, й пóля бага́то, й лêсу бага́то, сенакóсаў кôлькі хóч[э]ш. Кл. 2. Лёгка працаваць. Пры́дуць пôжні, тагды́ **бу́дам** раява́ць (пастушок: сажнуць хлеб—тады лёгка будзе пасвіць жывёлу: нідзе не будзе шкоды, выгані на пашу—і ляжы, адпачывай). Кл.

РО′ДЖАНЫ *(ро́джаны, -а(ая), -ае).* Народжаны. Я й ро́джана ту́така (у той вёсцы, дзе жыве). Сл.

РО′ЎКА *(рôўка, ро́ўка) -к-і, жан.* Жэрдка ў азяродзе (гл. азяро́д у выпуску 1959 г.). Хал.

РУБЕ′ЛЬЧЫК *(рубе́льчык) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад рубе́ль. Хал., Кл., Сл. Параўн.: І рубе́льчыкам, і тым, і сім не абмінае. Змітрок Бядуля, Збор твораў, т. І, Мінск, 1951, стар. 126.

РУКАВЯ′ТКА *(рукавя́тка) -тк-і, жан.* Рукая́тка, лучок, ку́лька (гл. лучóк, ку́лька). Сым.

РУЛІ′ *(рулê, рулі) толькі ў множн.* Страва; крышаны (гл. крыша́н) хлеба ў малацэ. Рулёў даўно́ ні рабілі. Кл. Параўн.: цюпка. Саламір'е Полацкага раёна.

РУЧЫ́ЦЦА (*ручы́цца*) *-ыцца*. Добра весціся, добра гадавацца, пладзіцца, не зводзіцца (пра жывёлу, птушку, пчолы). У Доўбікавых ве́льмі ручы́ліса сьвіньне. Нам та́к ні ру́чацца каро́вы: то хво́ра, то малако́ нілю́дзкае, то ат ста́ды адбіва́яцца. До́бра карова, да нешто нам ні ру́чыцца. Кл. Зро́ду ні ручы́ліса сьвіньне. Хал. Гл. паручы́цца, гл. руко́ю пайсці.

РУЯ́ (*руя́*) *-у-і, жан*. Стада ваўкоў (сабак) у перыяд спароўвання. Кл. Гл. гання́. Параўн.: Выццё плыло, узнятае руёй Над белай заміраючай зямлёй. Максім Танк, Збор твораў, т. I, Мінск, 1958, стар. 426.

РЫЖО́К (*рыжо́к*) *-жк-а́, мужч*. 1. Назва грыба. Рыжкі саліць до́бр[э]. Кл. Адны́ рышкі. По́ўну каро́пку. Пас. Янкі Купалы. 2. Пераноснае. Здаровы, моцны, чырвоны (пра старога чалавека, звычайна пра дужага дзеда). Ва́шаго дзеда рыжо́к зва́лі. Да сьме́рці на яго́ каза́лі рыжо́к. Кл. Параўн.:—От няма чаго крыўдзіцца,—усміхнуўся Кірыла,—Мужчына, як рыжык! Ілья Гурскі, Выбраныя творы, Мінск, 1951, стар. 120.

РЫЗЗЕ (*ры́зьзе, рызьзе́*) *-я* і *-я́, ніяк., зборны*. Падраная вопратка. Усе́ етае рызьзе́ трэ́ба здаць (прадаць). Ры́зьзя назьбіра́лася. Нашто́ яно? Кл. Параўн.: ря́сься. Хоцімскі раён, г. Мсціслаў. Параўн.: ря́ска—неахайная жанчына, жанчына ў падранай вопратцы. Хоцімскі раён.

РЫ́ХТЫК (*ры́хтык*). Дакладна такі (так), дакладная копія. Глуск.

РЭЗ (рэ̂з) -у, мужч. У спалучэнні з шырокі (шырокі рэз) абазначае назву вялікага ўчастка поля, дзе сялянскія нівы (да аб'яднання вёскі ў калгас) былі шырэйшыя, чым на другіх участках. Можна меркаваць, што рэ́з таго самага кораня, што і рэ́заць, наразáць (дзялянкі, участкі і падобн.). Кл.

## С

САБАЧАНЯ' (сабачаня́) -ня́ц-і, ніяк. Шчаня. Сабачаняты патапіў. Пас. Янкі Купалы. За сабачаня́ аддáў сóтню. Глуск.

САБАЧАНЯ'ТКА (сабачаня́тко, сабачаня́тка) -тк-а, ніяк. Шчанятка. Хал., Кл., Барб.

САГЛА'С (саглáс) -с-у, мужч. Згода. Не цяжка бачыць, што саглас—з рускай мовы (старaславянскае согласие), дзе неўласцівае для беларускіх назоўнікаў -іе страчана. Трэ́ба саглáс у нарóдз[е]. Б[е]с саглáсу й гаспадáрку (калгасную) ні даглéдзіш. Вольн.

САДО'К (садок) -дк-á і -дк-ý, мужч. Памяншальнае ад сад. Кл., Н. ж., Дак., Зуб., Хал., Сл.

САКАТА'ЦЬ (сакатáць) -ч-у, -ч-áш, неперaходны. 1. Кýрка сакóч[э], яйцэ́ зьнéсьці хóч[э]. З народнай песні. Кл. 2. Пераноснае зніжальнае. Смяяцца. Кл.

САКЕ'РА (сакêра) -р-ы, жан. Сякера. Барб., Байл., Кл., пас. Янкі Купалы.

САКО'Л (сакóл) -л-á, мужч. Ласкава-пяшчотнае. Юнак, сын, каханы. Ой, чамý ж майгó

сы́на-сакала́ до́ўга німа́? З песні. Сл. Параўн.: Журы́лася сако́лікава ма́мачка. Сл.

САКО′ЛІК (сако́лік) *-к-а, мужч.* Памяншальнае ад сако́л (гл. сако́л). Зьбêгай, мôй сако́лік, па та́та. Барб.

САКО′ЛІКАВА (сако́лікава) *прыналежны прыметнік* ад сако́лік (гл. сако́л). Журы́лася сако́лікава ма́мачка. З песні. Сл.

САКО′ЛІЧАК (*арф.*) *-чк-а, мужч., памяншальнае* ад сако́л (гл. сако́л). Мôй ты сако́лік, мôй ты сако́лічак (з прычытання). Сл.

САЛАВЕ′Й[1] (*салаве́й*) *-ў-я, мужч.* Салавей. Кл.

САЛАВЕ′Й[2] (*салаве́й*) *-ў-я́, мужч.* Назва гульні, тое самае, што «падкідны мячык» (гл. падкідны́ мя́чык). Параўн.: у рускай мове лапта́.

СА′ЛКА (*са́лко*) *-к-а, ніяк.* Форма ацэнкі ад са́ла. Кл. Параўн.: у рускай мове са́льце.

САМАЛУ′К (*самалу́к*) *-к-а, мужч.* Частка асновы дрыўлянай бараны, падобная да крута загнутай дугі, выгнутая або натуральная. Вольн.

САМАЛЮ′БЕЦ (*арф.*) *-ц-а, мужч.* Самалюбівы чалавек. Каб ні такі самалю́б[е]ц, то й вам л[е]гчэ̂й було́ б. Кл.

САМАРО′БКА (*самаро́пка*) *-к-і, жан.* Прадмет, зроблены самім; самаробак. У на́с адзі́н ку́рыць самаро́пкі, сам ро́біць (папяросы). Сым.

САМАСЕ′ЙКА (*самасêйка*) *-к-і, жан.* Мак-

відук; мак, які сам сеецца: макаўкі дробныя, пад «крышкай» макаўкі ёсць «вочкі», праз якія высяваюцца зярняткі. Самасе̂йкаю (зялёным лісцем) качаня́та кармлю́. Кл. Самасе̂йкі з га́рн[е]ц назьбіра́ла. Барб. 2. Жартоўнае. Дзіця, ба́цькі якога не ведаюць. Кл.

САМІ'ЦА (*саміца*) *-ц-ы, жан.* Аднаго́ го́ду ласе̂ вы́йшлі на по́ле й пасу́цца. Саме́ц здараве̂йшы, а саміца не̂йка танкля́ва. [Е]к на карці́нцэ харо́ша. Сл.

САМО'К (*само́к*) *-мк-а́, мужч.* Памяншальнае ад сом. Пас. Янкі Купалы, Кл.

САПЯЖА'НКА (*арф.*) *-нк-і, жан.* Гатунак груш. Кл. Параўн.: Сапега—прозвішча. Байл.

САРВІ'ЦЕЛЬ Гл. сарвіцель у выпуску 1959 г. Параўн.: ...урвіцелі дабро казённае крадуць. Кандрат Крапіва, Збор твораў, т. II, Мінск, 1956, стар. 190.

САРДЭ'ЧАНЬКА (*сардэ́чанько*) *-к-а, ніяк.* Памяншальнае ад сэ́рца. Сл.

САРО'ЧЫН (*саро́чын, -а, -ае*) *прыналежны прыметнік* ад саро́ка. Параўн.: назва кнігі С. Шушкевіча «Сарочы церамок». Мінск, 1959.

САХА'¹ (*саха́*) *-х-і, жан.* Саха, прылада, якою аралі. Сл., Кл., Вольн., В., Зуб., Хал.

САХА'² (*саха́*) *-х-і, жан.* Частка збудавання пры студні, на якім ходзіць страла. Гл. казёл, гл. страла́. Кл.

САХА'³ (*саха́*) *-х-і, жан.* Сохі — разгалінастыя бярвенні, на якіх трымаецца павець. Кл.

САХАРЫ'НА *(сахарына) -н-ы, жан., толькі ў адз.* Сахарын. Сахарына, кажуць, на вочы дзействуе; мажэ асьлепнуць, хто багато п'е сахарыны. Кл. Параўн.: Смеючыся, жартуючы, яны гатавалі чай, пілі яго з чэрствым хлебам і сахарынам, чыталі потым вершы... Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 49.

САША' *(саша) -ш-ы, жан.* Шаша (ужываецца і шаша). Сл., Кл., Хал., Зуб.

СВІННУШО'К *(сьвіннушок) -шк-а.* 1. Малы хлеўчык для свіней. 2. Пераноснае. Малая і забруджаная, запушчаная хатка. Кл.

СВЯКРУ'ХА *(сьв[е]круха, сьвекруха) -х-і, жан.* Свякроў. Сьвекруха скажэ па вадзіцу хадзіла. Ой, наберу ягадак, да й пераберу па ягадцэ: што сьпелые, то мамаццэ, што зелёные, то сьвекрусе. Сл.

СВЯРБЯ'ЧКА *(сьвярб'ячка, сьв[е]рб'ячка) -чк-і, жан.* Назоўнік ад дзеяслова свярбець Кл., Сл.

СЕ'КЦІ *(секці, секчы) -к-у, -ч-эш.* Сячы. Вайц., Байл., Кл.

СЕ'ЛІШЧА *(селішч[э], селішча) -шч-а, ніяк.* 1. Сядзіба (двор, будынкі). Лецячко на дварэ, а ў йіх с[е]нінкі на селішчы н[е]ма. Кл. Усе чысьцянька селішча перашукалі, пяракапалі (атрад паліцыі ў часе вайны). В. 2. Двор, сядзіба. Хай твае селішч[э] запустуе да травою зарасьце. Сл. 3. Месца, дзе быў двор, сядзіба. І селішчэ зааралі. Кл.

СЕМЯРНЯ' *(арф.) -н-і, жан.* Назоўнік з

колькасным значэннем (параўн.: дзеся́так, капа́). Кл. Параўн.: «Хлопец, а колькі штук у тваёй чарадзе?»—«Колькі? Сем семярэй, сем старых свіней, свінка, свінок, свінчын браток і адно парасятка». Я. Брыль, Выбраныя апавяданні, Мінск, 1959, стар. 31.

СЕ'МЯЧКА *(сêмячко, сêмячка) -чк-а, ніяк.* Адно каліва насення сланечніку: суфікс *-ячк-* не надае адцення памяншальнасці (параўн.: суфікс *-к-* у назоўніку ру́чка — пісьмовая прылада). Барб., Кл., Байл.

СЕ'ЯЦЦА *(се́[е]цца).* 1. Сеяцца. Кл. 2. Рассыпа́цца (чаму-небудзь праз дзірачкі, адтуліны). У ва́с, дзя́дзька, кру́пы (з мяшэчка) се́юцца. Глуск. Мêх прарва́лі, як на вôс кла́лі, дак усю́ даро́гу се́[е]лася про́са. Волын. 3. Сеюцца вусы—пачынаюць расці вусы. У народнай песні: Не пайду́ я за тако́га, Што барада́ ко́ле, А пайду́ я за тако́га, Што се́юцца вусы (запісана пад дыктоўку). Кл.

СІНЯ'ВАЧКА *(сіня́вачка) -чк-і, жан.* Памяншальнае ад сіня́ўка (гл. сіняўка). На Ма́я (Першага мая) чыры́лі (гл. чыры́ць[3]) волакам (гл. во́лак у выпуску 1959 г.) на плёсах, дак адны́ сіня́вачкі; за нôч учыры́лі (гл. учыры́ць) мо тры́ста штук. Кл.

СІНЯ'ЎКА *(сіня́ўка) -ўк-і, жан.* Шчупачок на 150—300 грамаў. Пас. Янкі Купалы, Кл.

СІ'ТАВЫ *(сітавы, сітаву) -а(-ая), -ае, прыметнік,* мабыць, ад сіта. Сітавы крам, сітавае палатно́—рэдкі крам, рэдкае палатно (на-

кшталт марлі). Сітавая (сітава) бручка, рэдзька — друзлая, вялая бручка, рэдзька. Сітавы дуб—друзлы, рэдкі дуб. Кл.

СІ'ТНІЦА *(сітніца) -ц-ы, жан.* Хлеб з пытляванага жыта, сітны хлеб. Кл., Глуск.

СКА'ЛІЦЦА[1] *(скáліцца) -ішся, -іцца, незаконч. тр.* Смяяцца. Кл., пас. Янкі Купалы.

СКА'ЛІЦЦА[2] *(скáліцца) -ішся, -іцца.* Прыплюшчваць вока (вочы), глядзець прыплюшчанымі вачыма. Кл.

СКА'ЛКА *(скáлка) -лк-і, жан.* Кружочак расплаўленага тлушчу (у крупніку, на вадзе ці інш.). Без скáлак смáку не пытáй *(арф.)*. Глуск. У перагóне скáлак, [е]к ад быкá малака. Сл. Параўн.: свéчка (капýста, тлустая, аш сьвéчкі стаяць); скáлка—крэсіва, каменьчык, якім высякаюць іскры. Саламір'е Полацкага раёна.

СКАЛЬ *(скаль) -л-і, жан., зборны.* Пчолы-разведчыкі, якія выбіраюць сабе новае месца перад раеннем. Пас. Янкі Купалы. Ля вульля́ скаль скалюе. Кл.

СКАЛЯВА'ЦЬ *(арф.) -ю-е, неперахóдны, незаконч. тр.* Шукаць, выбіраць (пра пчол, новае месца перад раеннем). Ля вульля́ скаль скалюе. Кл. Параўн.: заскáліць, заскáліцца (гл. заскáліць, заскáліцца).

СКАПА'ЦЬ *(скапáць) -á-ю, -á-еш, пераходны, законч. тр.* У тым жа значэнні (і побач), што выкапаць (бульбу, буракі, моркву). Сваê картóплі скапáю, тагды́ й вам падмагý. Пас. Янкі Купалы.

СКАПСАНУ'ЦЬ (*скапсанúць*) *-н-ý, н-éш, пераходны, законч. тр.* ад капсанýць (гл. капсанýць у выпуску 1959 г.). Саштурхнуць. Кл. Параўн.: спіргнýць (сьпіргнýць). Радашковічы; вв. Угляны, Казекава, Буцавічы Мінскага раёна.

СКАЧО'К (*скачóк*) *-чк-á, мужч.* Вышка, трамплін над вадою. Сым.

СКІДА'ЦЬ (*скідáць*) *-á-ю, -á-еш, пераходны, незаконч. тр.* Скідáйце дадóлу, Паêдам дадóму. З песні. Кл. А наштó былó скідáць? Сл.

СКЛАДА'ЦЬ (*складáць*) *-á-ю, -á-еш, пераходны.* Складáйма (сена) ў кóпы. Пас. Янкі Купалы.

СКЛЁЎВАЦЬ (*склёўваць*) *-ва-еш, -ва-е, пераходны, незаконч. тр.* Сашчыкваць, з'ядаць (лісты, расліны, завязь гуркоў і інш.). Дзень пілнýй грáды (гарод): кýры склёўваюць гурóчкі (завязь). Пас. Янкі Купалы.

СКОТ (*скот*) *-т-у, мужч.* Схіл. Зуб.

СКРЫ'ГАЦЬ (*скры́гаць*) *-а-еш, -а-е, непераходны, незаконч. тр.* Тое, што і скрыгітáць (гл. скрыгітáць). Кл.

СКРЫГІТА'ЦЬ (*скрыгітáць*) *-ч-аш, -ч-а, непераходны, незаконч. тр.* Побач ужываецца скры́гаць. Чамý да дóктара ні схóдзіш? Усю нôч скрыгíч[э] зубáмі. Кас. Скрыгітáў зубáмі. Кл.

СКРЫ'НЕЧКА (*скры́нячка*) *-чк-і, жан.* Памяншальнае ад скры́нька (гл. скры́нька). Пóўну

скры́нячку гарбу́зікаў паслáла. Кл. У тôй скры́няццы. Вольн.

СКРЫ′НЬКА (*скры́нька*) *-ньк-і, жан.* Скрынка. У ту́ю скры́ньку ўво́йдзе мо тры́ццаць ху́нтаў. Кл. Ку́бак за скры́нькаю стайі́ць. Хал.

СКУБЕ′ЛЬ (*скубе́ль*). Выклічнікава-дзеяслоўная форма (тыпу кідзь, кідзе́ль, хоп, гоп) ад ску́бці. Кл., Барб.

СКУЛА′ (*скулá*) *-л-ы́, жан.* Скула. Вайц., Барб., Байл., Кл.

СЛАБЫ′ (*слабы́, слабу́(й), -áя, -óе*) *прыметнік.* Слабы. Пас. Янкі Купалы, Кл., Байл.

СЛАЎКАВЕ′Ц (*слаўкаве́ц*) *-ўц-á, мужч., множн.—слаўкаўцэ́.* Жыхар в. Слаўкавічы, Стр.

СЛЁ′ЗКІ[1] (*сьлёзкі*) *-ак, множны лік* назоўніка слёзка. Сл.

СЛЁ′ЗКІ[2] (*сьлёзкі*) *-ак, толькі ў множн.* Назва лугавое расліны, кветачкі яе нагадваюць канаплянае семя. Невыпадкова ў г. Мсціслаўлі назва гэтай расліны—канапе́лькі.

СЛЁ′САР (*сьлёсар*) *-р-а, мужч.* Слесар. Кл., Байл., Вайц.

СЛІМАЗА′РНЫ (*сьлімазáрны, -а(ая) -ае*) *прыметнік.* Плюгавы. Глуск.

СЛО′ІК (*сло́йік*) *-к-а, мужч.* Гладышка (гарлач) цыліндрычнае формы. Шкляная банка цыліндрычнае формы. Сым., Кл., пас. Янкі Купалы. Гл. стаўбу́н[1], стаўбуно́к.

СЛУ′ЦАК (*Слуцáк* і *Слуцк*) *-цк-а, мужч.* Слуцк. Вольн., Кл., Сл., Хал., Глуск.

СЛУЦА́К (*слуца́к*) *-ак-а́, мужч.* 1. Чалавек з Слуцку. Глуск. 2. Парода коней (цяжкавагавікоў). Кл. 3. Іранічнае. Конь-падлюка. Кл.

СЛЯСА́К (*арф.*) *-к-а́, мужч.* Язычок, які па прынцыпу рычага падымае клямку ў дзвярах, калі націскаюць на яго пальцам. Кл. Параўн.: сляса́к. Мсціслаў, Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

СМА́ГНУЦЬ (*сма́гнуць*) *-гн-у, -гн-еш, непераходны, незаконч. тр.* 1. Мучыцца, цярпець без вады, без піцця. Смагнуць губы—сохнуць губы (у гарачцы, без вады). Кл. Параўн.: смя́гнуць (сьмягнуць) гу́бы. Мсціслаў.

СМАКТУ́Н (*смакту́н*) *-н-а́, мужч.* Кабан, які неахвотна есць, любіць смактаць, сцэджваць юшку. Кл.

СМЕ́ШАЧКІ (*сьмêшачкі*) *-чак.* Жартачкі. Кл., Хал., Сл. Гл. сме́шка, сме́шкі.

СМЕ́ШКА (*сьмêшка*) *-шк-і, жан.* Жарцік. Звычайна ўжываецца ў форме множн. ліку сме́шкі, сме́шачкі. (Гл. сме́шкі, сме́шачкі).

СМЕ́ШКІ (*сьмêшкі*) *-ак.* Жарты, жартачкі. Ні ву́чыцца, а ўсé сьмêшкі стро́йіць. Кл. Тут ні сьмêшкі вам. Хал. Гл. сме́шка, сме́шачкі.

СМО́ЛКА[1] (*смо́(ô)лка*) *-лк-і, жан.* Памяншальнае ад смала́. Сл.

СМО́ЛКА[2] (*смо(ô)лко, смо(ô)лка*) *прыслоўе.* Ужываецца ў спалучэнні з дзеясловам узяцца (за працу, за справу, за абавязкі) шчыра, учэпіста. Са́ва зра́зу смôлко ўзя́ўса за дзêло. Кл.

СМУРО'ДЗІНЫ *(смурóдзіны) -ін.* Чорныя парэчкі. Вольн.

СМЫК[1] *(смук, смык) -к-а, мужч.* Смык.

СМЫК[2] *(смык) -к-а, мужч.* Тое, што вóчап (гл. вóчап). Сым.

СМЯТА'ННІЦА *(сьмятáньніца, сьм[е]тáньніца).* Гл. смятáннік у выпуску 1959 г. Кл.

СО'НЕЧНІК *(сóняшнік, сóнячнік) -нік-а* (аднаго), *-нік-у (зборны), мужч.* Сланечнік (Helianthus annus). Нêхто сóняшнікі пазразáў. Сóняшнік за сóнцам хóдзіць. Кл. Параўн.: рускае подсолнух.

СО'ПКІ *(арф.) прыметнік.* Ужываецца ў спалучэнні з яблыкам, грушаю. Сопкі—маласакаўны, але мяккі. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: сопкі—сакаўны і мяккі (яблык); сопкая бульба. Мсціслаў.

СО'ТКА[1] *(сóтка) -тк-і, жан.* 1. Новае слова. Сотая частка гектара (адзін дэкаметр). Кл., Зуб., Хал., Сл., Байл., Барб., Баян., Сым., В., Вольн. 2. У сэнсе—вельмі мала. Кл.

СО'ТКА[2] *(сотка) -тк-і, жан.* Маленькая бутэлечка. Кл.

СО'ТКІ[1] *(сóткі) множн.* ад сóтка. Гл. сóтка[1]. Глуск, Зуб., Поб., Хал., Сл., Сым., Дубр., Калацічы, Хваст., Байл., Барб., Вайц.

СО'ТКІ[2] *(сóткі).* Новае слова. Зямля, якая ўваходзіць у прысядзібны ўчастак калгасніка, але не пры двары, а ў полі. Барб., Байл. На

со́тках ні ўрадзі́ў (ячмень), а ў калга́се (на калгаснай плошчы) ой до́бры буў. Кл.

СО́ШКА[1] *(со́шка, со̂шка) -к-і, жан.* Памяншальнае ад саха́ (гл. саха́[1]). Кл.

СО́ШКА[2] *(со́шка, со̂шка) -к-і, жан.* Памяншальнае ад саха́ (гл. саха́[2]). Кл.

СПАДЛО́Б'Я *(спадло́б'я) прыслоўе.* То̂лькі блісь спадло́б'я. Глуск. Параўн.: Яна (Макрына) так люба, прыгожа ўтупілася, пачырванела, здаецца. Але спадылба, як звярок, кінула вокам. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 60—61. Гл. спадылба́.

СПАДЫЛБА́ *(спадылба́) прыслоўе.* Чаго́ йшчэ спадылба́ пазіра́[е]ш? Кл. Гл. спадло́б'я.

СПІ́ТКІ *(сьпі́ткі) толькі ў множн.* З прыказкі (гл.): Вот табе̂ й сьпі́ткі й зье̂дкі. Кл.

СПЛАЦІ́ЦЬ *(сплаці́ць) -ч-у́, спло́ц-іш, непераходны, законч. тр.* Заплаціць, выплаціць. Усе́ (усё) застало́ся на трох брато́ў. Дак адзін забраў ха́ту, увесь дво̂р, а брато̂м сплаці́ў. Зуб. Калга́сны тава́р зьбі́ў (ураджай на сядзібе), і сплаці́лі. Кл.

СПЛЫ́ЦІЦЬ *(сплы́ціць) -ч-у, -ц-іш,* пераходны, *законч. тр.* Звязаць у плыт бярвенні. Пастара́ймасо сплы́ціць да по̂знаго абе̂ду. Хал.

СПРАЦО́ВАНЫ *(спрацо́ваны) дзеепрыметнік.* Хв[е]до́т ве́льмі спрацо́ваны. Кл. Спрацо́ваные па́лцы. Сл.

СПУ́ГАЦЬ *(спу́гаць) -а-еш, -а-е, пераходны, законч. тр.* Ацэначна-зніжальнае. Зжэрці;

параўн.: у рускай мове слопать. Кл. Гл. пу́гаць, вы́пугаць, напу́гацца.

СПУ'ДЗІЦЬ (*спу́дзіць*) *-дж-у, дз-іш, пераходны, законч. тр.* Спалохаць. Кл.

СПУСЦІ'ЦЬ (*спусьці́ць*) *-шч-у́, -сц-іш, пераходны.* 1. Зрэзаць, паваліць (гл. паваліць) дрэва. Да абе̂ду спусьці́лі шасна́ццаць пнёў. Пас. Янкі Купалы. Гл. спусці́ць пня. 2. Перапусціць, саступіць у спрэчцы. Кл. 3. Васіль казаў, што ў сыбо́ту спу́сьціць во́зяра. От папало́вім ры́бы. Кл.

СРО'СТВА (*сро́ство, сро́ства*) *-в-а, ніяк., зборны.* Радня, сваякі. На памі́нкі ўсе сро́ство сышло́со. Хал. У на́с бага́то сро́ства. Кл.

СТА'ДА (*ста́да*) *-д-ы, жан.* Чарада (апошняе часта ўжываецца). Ста́да й чарада́—усе адно́. Усю́ ста́ду. Кл. Параўн.: у рускай мове стадо—назоўнік ніяк. роду. Кл., Барб., Лучкі, Байл.

СТАЛАВА'ННЕ (*сталава́ньне*) *-нн-я, ніяк.,* ад сталава́цца. За сталава́ньне палаві́на (грошай) пашло́. Хал.

СТА'РАЦ (*ста́рац*) *-рц-а, мужч.* Жабрак. Кл., Сл., Хал.

СТАРКАВА'ЦЬ (*старкава́ць*) *-ку́-ю, -ку́-еш, пераходны, законч. тр.* ад таркава́ць (гл. таркава́ць). Е(ёсць) каму́ е̂сьці: се̂ні ко̂ш (бульбы) старкава́ла на ала́дкі. Кл. Гл. счухлава́ць.

СТАРЧАКА' (*старчака́*) *прыслоўе.* Тое, што і сторч (гл. сторч у выпуску 1959 г.). Кл., пас.

Янкі Купалы. Ужываецца таксама старчако́м. Параўн.: тарчако́м. Саламір'е Полацкага раёна.

СТАРЧАКО'М (*старчако́м*) *прыслоўе.* Кл. Гл. старчака́.

СТАРЧАНЯ' (*старчаня́*) *-я́ц-і, ніяк.* Дзіця ста́рца (жабрака). Кл. Чаму́ ты ё́так? Чаму́ твае́ дзіця, што старчаня́ (кепска апранутае)? Хіба німа́ чаго́ надзе̂ць? Со́рамна проста. Пас. Янкі Купалы.

СТА'РЧЫК (*ста́рчык*) *-к-а, мужч.* Спагадлівае ад ста́рац (жабрак). Трэба падарава́ць ста́рчыка (надзяліць яго чым-небудзь). Сл.

СТАРЧЫ'ХА (*старчы́ха*) *-х-і, жан.* 1. Жабрачка. Кл. 2. Жонка ста́рца (жабрака). Кл.

СТАРЭ'НЕЧКІ (*старэ́нячкі*) *-а(-ая), -ае, прыметнік.* Форма ацэнкі. Параўн.: стары́—старэ́нькі—старэ́нечкі. Кл. Параўн.: А твар стаў яшчэ драбнейшы і яшчэ больш паморшчыўся—недалужны такі, старэнечкі. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 321.

СТАЎБУ'Н[1] (*стаўбу́н*) *-н-а́, мужч.* 1. Гладышка (гарлач) цыліндрычнае формы без вуха. Сым. Шкляная банка цыліндрычнае формы. Сым. Гл. слоік.

СТАЎБУ'Н[2] (*стаўбу́н*) *-н-а́, мужч.* Ялец (рыба). Кл.

СТАЎБУНО'К (*стаўбуно́к*) *-нк-а́, мужч.* Памяншальнае ад стаўбу́н (гл. стаўбу́н[1], стаўбу́н[2]). Кл., Сым.

СТАЎПЕ'Ц (*стаўпéц*) *-пц-á, мужч.* Частка грабель, у якую ўстаўлены зубы. Барб., Кл., пас. Янкі Купалы. Параўн.: Па сухіх кляновых зубах лісце ссоўваецца, а тое, што астаецца каля стаўпца, не перашкаджае працы. Алесь Пальчэўскі, Родныя берагі, Мінск, 1958, стар. 5.

СТО'ЛЯР (*стóл*[*е*]*р, стóляр*) *стóляра.* Сталяр. Хал., Сым., Кл., Зуб., Байл., Глуск.

СТРАЖО'ВЕЦ (*арф.*) *-ўц-а, мужч., множн.*— стражóўцы. Жыхар в. Стражы. Стр.

СТРАЛА'[1] (*стралá*) *-л-ы́, жан.* Страла. Кл., Сым.

СТРАЛА'[2] (*стралá*) *-л-ы, жан.* Частка шаляў, да канцоў якой прывешаны чашкі. Кл.

СТРАЛА'[3] (*стралá*) *-л-ы́, жан.* Тое, што пругло́ (гл. пругло́). Кл., Сым.

СТРАХО'ЦЦЕ (*страхóцьце*) *-цц-я, ніяк.* Хáты палілі, людзéй забівáлі. Ой було́ страхóцьце. Кас.

СТРУБІ'ЦЬ (*струбíць*) *-бл-ю́, -б-іш, пераходны, законч. тр.* ад трубíць (гл. трубíць[2]). Кл.

СТРУГА' (*стругá*) *-г-і́, жан.* Ручай, рачулка, зарослая травою. У струзê каня́ ўгрузíў. Кл. Такі[е] сухі[е] гады́, што ўсê стру́гі паўсыхáлі. Пас. Янкі Купалы.

СТРУГАЛЬ (*стругáль, стру́галь*) *-л-я́* і *-л-я, мужч.* Спецыяльнасць (параўн.: ткач, каваль) у ткацкай вытворчасці па вырабу стружкі і палатна (спатры); стругаль стружа стружку. Кл.,

Глуск. Гл. у выпуску 1959 г.: Не кава́ль, не струга́ль, а про́ста гавары́льшчык.

СТРЫГАВА′ЦЬ (*стрыгава́ць*) *-гу́-ю, -гу́-еш, пераходны, незаконч. тр.* Фастрыгаваць. Кл.

СТРЫГМА′Ч (*стрыгма́ч*) *-ч-а́, мужч.* Абыякава, неахайна, «пад барана» (Кл.) падстрыжаны (пра чалавека). Кл.

СТРЫНО′ЖЫЦЬ (*стрыно́жыць*) *-ж-у, -ж-ыш, пераходны, законч. тр.* ад трыно́жыць (гл. трыно́жыць). Кл., пас. Янкі Купалы.

СТРЭ′ЧА[1] (*стрэ́ча*) *-ч-ы, жан.* Сустрэча, стрэча. Кл.

СТРЭ′ЧА[2] (*стрэ́ча*) *-ч-ы, жан.* Пры вызначэнні ступені сваяўства: першая, другая і г. д. стрэча; напрыклад, браты ў першай стрэчы— сыны братоў (сясцёр; брата і сястры), у другой стрэчы—унукі дзядоў і інш. Зуб., Хал., Сл. Трэба меркаваць, што стрэча[2]—ад таго кораня, што і стрый (дзядзька), стрыечны, але апошнія забыты, і па гучанню слова супала з стрэ́ча.

СТУДЗЯНЦЫ′ (*арф.*) *-нц-о́ў, толькі ў множн.* Месца на балоце, дзе заўсёды ха́лодная вада. Вольн.

СУ′КРУТКА (*су́крутка*) *-тк-і, жан.* Ткацкае. Скручаная пятля (з ніткі ўтоку) на палатне; скручаная пятля на нітцы. Кл. Параўн.: круці́ць.

СУ′МКА (*су́мко, су́мка*) *прыслоўе.* Сумна. [Е]к пры́дуць (салдаты) на вечары́нку, дак су́мка н[е] бу́дзе. Сл.

СУНІМА′ЦЦА (*суніма́цца*) *-ма́-юся, -ма́-*

*-ешся, незаконч. тр., зваротны* ад сунімáць (гл. сунімáць). Усê (пасажыры) зьбірáйцяся ля канцылярыі, бо па дарóз[е] я ні бýду сунімáцца. Пас. Янкі Купалы.

СУНІМА'ЦЬ (*сунімáць) -мá-ю, -мá-еш, пераходны, незаконч. тр.* ад суняць (гл. суняць). Хал., Барб., Сл., Кл.

СУНІ'ЧНІК (*сунíчнік) -к-у, мужч., зборны.* Дзе сунíчнік, там і суніцы. Пас. Янкі Купалы. Сунíчніку с суніцамі тáто прынёс. Сл.

СУНЯ'ЦЦА (*суняцца) -ім-ýся, -ім-ешся, зваротны* ад суняць (гл. суняць). Спыніцца, супакоіцца, астадоліцца (гл. астадóліцца ў выпуску 1959 г.). Увéсь дзень дож ні сунімáўся. Пас. Янкі Купалы. Дзядзька Архіп, сунімéцяся, мáма на вôз ускіне мяшóк. Кл.

СУНЯ'ЦЬ (*суняць) -нім-ý, -нім-еш, пераходны, законч. тр.* 1. Спыніць (каня, машыну і г. д.). Конь упýдзіўса (гл. упýдзіцца)—машына па дарóзе йшлá—да ў лêс, а тýт шчэ вôжка пярарвáласа, й суняць німá як. Дóбр[э], што калёса (воз) за карчэ̂ зачапіліса. Кл. 2. Спыніць кроў (з раны). У бальніцы раскáзвала нêйка бáба, што хлóпец з Глýська пáльца пáрэзаў, нійк ні мôжно суняць кроў. Як ні сунімáлі—ні суняць. Глуск. 3. Супакоіць. Стáршы (брат) ні дáй бог ліхí (гл. ліхí[1] ў выпуску 1959 г.), вып'е—біцца лêзе, свáрыцца, хібá мáці суніме. Кл. Сунімí ты, бáцько, хлóпцаў. Зуб. 4. Затрымліваць. А ўжэ̂ ж вéчар на захóдзе, Мáнечка з мáмкаю на расхóдзе. Её мáмачка вечэ̂раць сунімáе. З песні. Сл.

СУПШЫ'НА *(супшына) -н-ы, жан.* Назва расліны. Rosa cinnamomea. Параўн.: А шыпшына красуе. Супшына, як гавораць на Случчыне. «Узвышша», 1928, № 2. Параўн.: у рускай мове шиповник.

СУХАРЛЯ'ВЫ *(сухарлявы, сухарляву, -а, -ае) прыметнік.* Тое, што і хударлявы (ужываюцца абодва словы). Кл., Барб.

СУХАРЭ'БРЫК *(сухарэбрык) -к-а, мужч.* Той, хто худы, у каго тырчаць рэбры. Кл.

СУХАРЭ'БРЫЦА *(сухарэбрыца) -ц-ы, жан.* Худая (чалавек, жывёліна), у якой тырчаць рэбры. Кл.

СУХАСТО'ІНА *(сухастойіна) -н-ы, жан.* Дрэва, якое ўсохлася (памерла) на пні. Сухастойіну ў сьцêну (хаты) ці варт класьці. Кл. Параўн.: сухастой (гл. сухастой).

СУХАСТО'Й *(сухастой, сухастôй) -ó-ю, мужч., зборны.* Лес, дрэвы, што ўсохліся (памерлі) на пні (гл. на пні). Сухастóю днем с агнéм ні знóйдзеш. Кл. Каб дзê сухастóю купіць. Глуск.

СУХО'ТНІК *(сухôтнік, сухóтнік) -к-а, мужч.* Хворы на сухоты. Хал. Параўн.: Сухотнікаў, раматусных і іншых хворых, апрача вады, лячыў яшчэ і зёлкамі. Змітрок Бядуля, Збор твораў, т. 3, Мінск, 1953, стар. 285.

СУХО'ТНІЦА *(сухôтніца, сухóтніца) -ц-ы, жан.* Хворая на сухоты. Хал.

СХРУ'ПАЦЬ *(схрýпаць) -а-ю, -а-еш, пера-*

*ходны, законч. тр.* ад хру́паць (гл. хру́паць[1]). З'есці хрупаючы. Кл., пас. Янкі Купалы.

СЦІ'ШЫЦЦА *(сьці́шыцца) -ыцца, законч. тр.* Супакоіцца. Усе́ньку но̂чку кі́даўса (хворы), пад ра́ніцу сьці́шыўса. Кл. На двар̂э сьці́шылася. Хал.

СЦЯ'ГАЦЬ *(сьця́гаць) -а-ю, -а-еш, пераходны, незаконч. тр.* Сцягваць (ужываецца і сцягваць). Кл.

СЧАЎПЦІ' *(шчаўпці́, шчаўпсьці́) -п-е́ш, -п-е́, пераходны, законч. тр.* ад чаўпці́. Хал., Кл.

СЧАЎПСЦІ' *(шчаўпці́, шчаўпсьці́).* Гл. счаўпці.

СЧУХЛАВА'ЦЬ *(счухлава́ць) -лу́-ю, -лу́-еш, пераходны, законч. тр.* ад чухлава́ць (гл. чухлава́ць). Тое, што і старкава́ць. Кл.

СЧЭ'ЗНУЦЬ *(шчэ́знуць) -зн-у, -зн-еш, непераходны, законч. тр.* Змарнець, ссохнуць. Кл. Гл. чэ́знуць, чэ́злы.

СЫБО'ТА *(сыбо́та) -т-ы, жан.* Субота. Вольн., В., Сым., Сл., Хал., Кл., Зуб.

СЫМО'НАВІЧЫ (*Сымо́навічы*) *-віч* і *-віч-аў, толькі ў множн.* Назва вёскі. Назва—так растлумачылі ў вёсцы—ад імя Сымо́н: пе́ршы Сымо́н засялі́ўся—й Сымо́навічы. Сым.

СЭ'РЦАЙКА *(сэ́рцайко, се́рцайко) -к-а, ніяк.* Памяншальнае ад сэрца. Сл.

СЯЛЬНІ'К *(сяльні́к, с[е]льні́к) -ік-а́, мужч.* Сяннік. Трэба думаць, што *л* на месцы *н*—дысіміляцыйная з'ява, як і ў слове пясе́льнік (гл.

пясéльнік у выпуску 1959 г.). Хто пéршы с[е]льнік саломаю напхáе? Кл.

СЯМНА′ЦЦАТКА (*арф.*) *-к-і, жан.* Іранічнае. Немаладая жанчына, якая не была замужам і паводзіць сябе, як маладая дзяўчына. У тым жа значэнні (але радзей)—шаснáццатка. Кл. Параўн.: семнастóўка. Кліны Бялыніцкага раёна.

СЯРЭ′ДЗІНА[1] (*сярэ́дзіна, с[е]рэ́дзіна*) *-н-ы, жан.* Сярэдзіна. Барб., Кл., Сым., Хал.

СЯРЭ′ДЗІНА[2] (*сярэ́дзіна, с[е]рэ́дзіна*) *-н-ы, жан.* Спіна. Кл., Барб. І чагó так сярэ́дзіна баліць? Пас. Янкі Купалы.

## Т

ТАВА′РЫШКА (*таварышка*) *-к-і, жан.* Равесніца, з якою таварышавала. Маê тавáрышкі мо сóрак гады́, як паўмірáлі (ад жанчыны, якой каля ста гадоў). Кл. Параўн.: Анежка выйшла з таварышкай на двор і выцерла з твару слёзы. Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 229. Параўн.: Ганна, Наста, Аўдуля і інш.—таварышкі Надзеі. В. Гарбацэвіч, Чырвоныя кветкі Беларусі, Мінск, 1959, стар. 5.

ТА′НКА (*тáнка*) *-нк-і, жан.* Танк. Кл., Хал., Зуб., Сл., ст. Ратміравічы. Прóста на нáс садзіла тáнка. Зуб. У тáнцы ґарэ́ў чалавéк (з пісьмовага вучнёўскага пераказа). Кл.

ТАНКЛЯ′ВЫ (*танкля́вы, танкляву, -а, -ае*) *прыметнік.* Валóдзя плôтны, ніжэйшы, камл[е]-

вáты, а Тóля танклявы й стрóйны, адны́м слóвам красáв[е]ц. Барб.

ТАПО'ЛЯ (*тапóля*) *-л-і, жан.* Назва расліны (Populus nigra). На тапóлі буслы́. Тапóлі пазразáлі. Пас. Янкі Купалы.

ТАРАБА'НІЦЬ[1] (*тарабáніць*) *-н-ю, -н-іш, непераходны, незаконч. тр.* 1. Аднастайна грукаць, стукаць, напрыклад тарабаніць па частаколе—ідучы, трымаць палку так, каб канец яе стукаў па калах частакола; тарабаняць колы. Кл. 2. Тарабаніць языком—па-пустому, многа і громка гаварыць. Хал.

ТАРАБА'НІЦЬ[2] (*тарабáніць*) *-н-ю, -н-іш, пераходны.* Абыякава, неахайна валачы, цягнуць, везці (што-небудзь) з грукатам, каб (штонебудзь) бразгала. Кл.

ТАРБАХВА'Т (*тарбахвáт*) *-т-а, мужч.* Злодзей, рукáты (гл. рукáты ў выпуску 1959 г.) чалавек. Глуск.

ТАРКАВА'ЦЬ (*таркавáць*) *-кý-ю, -кý-еш, пераходны.* Мнê мáма таркýе мóркву. Кл. Гл. чухлавáць. Хібá картóплі таркýяце? Ў хлêб? Пас. Янкі Купалы.

ТАРКАНУ'ЦЬ (*тарканýць*) *-н-ý, -н-éш, пераходны, законч. тр.* Крануць (каня лейцамі). На вáшага каня́ ні трэ́ба пýгі, тóлькі таркані́ лéйцамі—й пашóў; грáзь ні грáзь, пясóк ні пясóк—ідзé. Пас. Янкі Купалы. Параўн.:—Пара ехаць!—схамянуўся Алесь і, сеўшы на каня, тарганул за повад. Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 288.

ТАРПА′ (*тарпа́*) *-рп-ы́* і *-рп-у́, жан.* Торф. Барб., Кл., Байл.

ТАЎШЧЭ′ННЫ (*таўшчэ́нны*) *прыметнік.* Форма ацэнкі ад то́ўсты (як і здаравенны, вялізны, шырозны). Кл.

ТАЎШЧЭ′РАЗНЫ (*таўшчэ́разны*) *прыметнік.* Форма ацэнкі ад то́ўсты (як і вялізны, шырозны, шырозазны). Кл.

ТО′ЛЕЧКІ (*то́лячкі*) Форма ацэнкі ад толькі. Я то́лячкі ў хату пяраступіла. Кл. А ён то́лячкі з ву́дкамі пашо́ў. Пас. Янкі Купалы.

ТО′ПКА (*то́пко, то́пка*). Прыслоўе ад прыметніка то́пкі. На Балаціне (участак сенажаці) то̂пко л[е] р̌эчкі, а да́л[е]й пад лё̂с гру́зко (гл. гру́зка ў выпуску 1959 г.). Кл.

ТО′ПКІ (*то́пкі, -а, -ае*) *прыметнік.* Ужываецца з словамі луг, сенажаць, балота, бераг (вадаёма), дно (вадаёма); то́пкі—такі, у якім не загрузнеш. Сы́цькаў луг у вадзê, але ён то́пкі. Кл.

ТРАЙНЯ′ (*трайня́*) *-н-і, жан.* Частка возавілкі, пры дапамозе якой (а таксама ды́шля) прымацоўваецца зад воза да перадка. Кл. Параўн.: трайня́. Сіняўская Слабада Карэліцкага раёна.

ТРАКТАРЫ′СТЫ Ужываецца побач з звычайным трактары́ст. Па́в[е]л за трактары́стаго. Кл.

ТРА′ПІЦЬ[1] (*тра́піць*) *-пл-ю, -п-іш, непераходны, законч. тр.* 1. Трапіць, выйсці (на даро-

ґу, на сцежку, на якую-небудзь мясціну, у горад). 2. Напаткаць (каго-небудзь, што-небудзь). Каб дзе н[е] тра́піла (згубленая пад вечар карова) на зьвêра. Хал. Шчэ й на кірма́ш, у го́сьці тра́піш. Кл. Параўн.: Трапіў я ў горад, быў якраз парад. Якуб Колас, Збор твораў, т. I, Мінск, 1952, стар. 88.

ТРА'ПІЦЬ[2] (*тра́піць*) *-пл-ю, -п-іш, пераходны.* 1. Здагадацца, знайсці (што сказаць), скеміць. Ні бу́дзе до́ўго ду́маць, зра́зу тра́піць, што сказа́ць, ска́ж[э] й прыка́жэ (гл. прыказа́ць у выпуску 1959 г.). Кл. Пашлі́ гу́ртам шука́ць і тра́пілі. Сл.

ТРАСО'ЧНІК (*трасо́чнік*) *-к-у, мужч.* 1. Зборнае. Дробныя трэскі, рознае смецце пад павеццю (дзе рэжуць ці сякуць дровы). Два вазы́ трасо́чніку набра́лася, ўве́сь на про́са (пад проса—як угнаенне). Глуск. 2. Тое, што сме́тнік (гл. сме́тнік у выпуску 1959 г.)—месца, куды зносяць смецце. Кл.

ТРО'СКА (*тро́ска*) *-ск-і, жан.* Трэска, шчэпка. Ужываецца і трэ́ска. Зуб., Хал., Кл.

ТРУБІ'ЦЬ[1] (*трубіць*) *-бл-ю́, -б-іш, неперaходны, незаконч. тр.* Трубіць. Кас., Кл. 2. Громка плакаць (з адценнем неадабральн.). Кл. 3. Усім расказваць, разносіць па людзях (пра што-небудзь). Кл.

ТРУБІ'ЦЬ[2] (*трубіць*) *-б-іш, -б-іць, неперaходны, незаконч. тр.* Прагна і багата есці. Кл.

ТРЫНО'ЖКА (*трыно́жка, трынôжка*) *-жк-і, жан.* Прылада (на трох ножках), на якую ста-

віцца гаршчок, патэльня. Параўн.: таганок. Мсціслаў.

ТРЫНО'ЖЫЦЬ (*трыно́жыць*) *-ж-у, -ж-ыш, пераходны, незаконч. тр.* Рабіць так, каб адною нагою жывёліна (конь, карова) не магла даваць нармальнага кроку; калі трыножаць вала (карову, цяля), то адзін канец кароткай вяроўкі прывязваюць да рога (ці абодвух), другі—за пярэднюю нагу; калі трыножаць каня, адзін канец абрытніка́ (гл. абрытні́к у выпуску 1959 г.) прывязваюць да аброці (уздэчкі), другі за пярэднюю нагу; трыножаць збродлівых жывёлін, каб пасвіліся на адным месцы. Кл., пас. Янкі Купалы.

ТРЫРО'ГІ (*трыро́гі*) *-аў, толькі ў множн.* Вілкі на тры рагі (для працы з сенам, саломаю). Вольн. Параўн.: трыро́гія (вілкі) (гл. трыро́гія ў выпуску 1959 г.).

ТРЫСЦЕ'ННІК (*трысьцêньнік*) *-к-а, мужч.* Будынак з трох сцен, прыбудаваны да іншага будынка. У на́с там трысьцêньнік стая́ў. Каб дзе купі́ў трысьцêньнік, то было́ б лêпш. Кл. Параўн.: трысце́н. Саламір'е Полацкага раёна.

ТРЫСЦЕ'ННІЧАК (*трысьцêньнічак*) *-чк-а, мужч.* Памяншальнае ад трысце́ннік (гл. трысце́ннік). Трысьцêньнічак (зрабіць) менш кло́пату, як хлёў рабі́ць. Кл.

ТРЭ'ЙЦІ (*трэ́йці, -я, -яе*) *парадкавы лічэбнік.* Трэці. Кл., Сл., Хал., Зуб., Барб., Байл.

ТУТ-ТУТ (*тут-тут*). 1. То-то. Ту́т у зе́млю (рукі), ту́т к агню́ (у вельмі халодны дзень на

копцы бульбы). Кл. 2. Толькі (во-во)—і. Тут прывёзьлі (швейныя машыны)—тут разабра́лі. Кл.

ТЫЛІЛІ'КАННЕ (*тыліліканьне) -нн-я, ніяк.*, ад тылілі́каць (гл. тылілі́каць). Кінь ты ётае сваê тылілі́каньне. Німа́ на ц[е]бé ўпы́ну. Кл.

ТЫЛІЛІ'КАЦЬ (*тылілі́каць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Па паходжанню гукапераймальнае. 1. Спяваць песню без слоў. Кл. 2. З неадабральным адценнем—не ў час спяваць, дакучаць спевамі. Цалю́ткі дзень тылілі́кае, дак і зрабіла ж... Кл.

ТЭ'ПАЛА[1] (*тэпало) -л-а, агульн.* Іранічна-жартоўнае. Той, хто тэпае (гл. тэпаць). Кл.

ТЭ'ПАЛА[2] (*тэ́пало—ніяк., тэ́пала—жан.).* Форма прошлага часу дзеяслова тэ́паць (гл. тэ́паць). Кл.

ТЭ'ПАЦЬ (*тэ́паць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Так гаворацъ пра дзіцячую ці старыкоўскую хаду—хаду няцвёрдую, хаду слабога чалавека. Ларыска трóхі тэ́пае. Вайц. Параўн.: Большая, Людачка, тэпала побач з мамаю, аберуч учапіўшыся за яе руку. Янка Брыль, Вачыма друга, Мінск, 1956, стар. 80.

ТЭЎШЧ (*тэўшч) -шч-ы, жан., толькі ў адз.* Таўшчыня. Сл.

## У

УБРЫКНУ'ЦЬ (*убрыкну́ць) -н-éш, -кн-é, пераходны, законч. тр.* Выцяць (конь, карова, вол) нагою, нагамі. Кôнь убрыкну́ў, дак і на нóгу ні сту́піць. Кл.

УВАРВА'ЦЬ (*уварвáць*) *-в-ý, -в-éш, пераходны, законч. тр.* Адхапіць. У ягó сталóўка, як у вóўка: дзе ўварвé, а дзе ўхóпіць (*арф.*). Зуб.

УГАРУ'СЦІЦЬ (*угарýсьціць*) *-шч-у, -сц-іш, пераходны, законч. тр.* 1. Абыякава скідаць (што-небудзь куды-небудзь, напрыклад у яму). Кл. 2. Беззваротна і неапраўдана аддаць (унесці) сродкі (не малыя). Кл.

УГА'ЦІЦЬ (*угáціць*) *-ч-у, -ц-іш, пераходны, законч. тр.* ад гацíць (гл. гацíць у выпуску 1959 г.). Багáто й грóшай і ўсягó ўгацілі, а ўсé напрáсно. Кл.

УГРУЗІ'ЦЬ (*угрузíць*) *-ж-ý, -з-іш, пераходны, законч. тр.* Увагнаць (неасцярожнасць, неспрактыкаванасць) жывёліну (каня, карову) у балота, што жывёліна без дапамогі не можа выбавіцца. У струзê канá ўгрузíў. Кл. Параўн.: угрýзнуць. (гл. угрýзнуць у выпуску 1959 г.).

УДАВА'ЦЬ (*удавáць*) *-а-ю, -а-еш, пераходны.* Выдаваць (каго-небудзь), здраджваць. Кл.

УДА'НЫ *дзеепрыметнік* ад удáць (гл. удáць). Кл.

УДА'ЦЬ (*удáць*) *-á-м, -а-сі, пераходны, законч.* тр. ад удавáць (гл. удавáць). Наштó бáцька (бáцьку) éтых дзêтак удалá? Кл.

УЖЫВА'ЦЬ (*ужывáць*) *-á-ю, -á-еш, непераходны, незаконч. тр.* Добра харчавацца. Ён гледзíць с[е]бé, ўжывáе дóбрэ. У йíх і сытасьці— м'ńса, сáла,—хапáе м'ёду, адным слóвам жывé. Хал.

УЗГРЭ́БЦІСЯ (*узгрэ́бціса, узгрэ́бціся*) *-б-у́ся, -б-е́шся, законч. тр.* Ледзь устаць. Не́сла про́са то́рбу да зачапіласа на грэ́блі й упа́ла. То, скажы́, ні магла́ ўзгрэ́бціса, так крэ́пко ву́цяласа, нага́ й се̂ні балі́ць. Кл. Бо́раліся, дак та́к гра́кнуў Па́ўла, што ні мо̂г узгрэ́бціся. Пас. Янкі Купалы.

УКА́ЗВАЦЦА (*ука́звацца*) *-а-юся, -а-ешся, незаконч тр.* Выказвацца, выяўляцца. Крыча́лі й зва́лі, а я́ ні ўка́зваўся. Сым.

УКАСІ́ЦЬ (*укасі́ць*) *-ш-у́, -с-іш, пераходны, законч. тр.* Накасіць (небагата). Се̂на ўкасі́ў пу́дзікаў сорак. Барб. Ско́кні ўкасі́ канюшы́ны каню́ ў даро́гу. Се̂на малава́то ўкасі́ў, але́ карта́пля́ніку з во̂з бу́дзе. Кл.

УКЛЮ́НУЦЬ (*уклю́нуць*) *-н-у, -н-еш, пераходны, законч. тр.* Ушчыпнуць, укусіць, дзеўбану́ць (певень, гусак). Гусь уклю́нула, бараніла гуся́ня́так. І на́ш гуса́к уклю́не, то́лькі йдзі́. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: И приѣха (князь Алег) на мѣсто, идеже бѣша лежаща кости его голы и лъбъ голъ, и сълѣзъ съ коня, посмѣяся, река: «отъ сего ли лъба съмьрть мънѣ възяти?» И въступи ногою на лъбъ; и выникнувъши змия из лъба, уклюну и въ ногу, и съ того разболѣся, и умьре. Повесть временных лет. Гл. кляваць у выпуску 1959 г. Гл. клява́цца, клю́нуць.

УКРАДКІ́ (*украдкі́, украткі́*) *прыслоўе.* Крадком, крадучыся, употайкі. Кл., Глуск. Параўн.: Тады Лясніцкі пахіліўся і пацалаваў яе нібы спадкрадня. Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 69.

УКРА'ІНА (*Украйіна*) *-н-ы, жан.* Украіна. У Малінаве свая Украйіна. Кл.

УКРА'ІНЕЦ (*украйін*[*е*]*ц*) *-н-ца, мужч.* Украінец. Кл., Глуск.

УКРА'ІНКА (*украйінка*) *-нк-і, жан.* Украінка. Кл.

УЛА'ЗІНЫ (*улазіны*) *-ін, толькі ў множн.* Уваходзіны, наваселле, святочны абед з выпадку ўсялення ў новую хату. Кл. Параўн.: улазіны. Хоцімскі раён.

УЛЕ'ЖНА (*улёжно*(*а*), *улêжно*(*а*)) *прыслоўе.* У прыказцы: Хоць няўêжна, дак улêжна. Кас.

УПАДО'БАЦЬ (*упадобаць*) *-а-еш, -а-е, пераходны, законч. тр.* Упадобаць яго—тое, што ён спадабаўся, яна спадабалася. Калі сын упадобаў (дзяўчыну, нявесту), то й мнê добр[э]. Кл. Упадобае дзêўку. Сл. Параўн.: Сэрца ныла, бы з нуды, Бы сама была не ўся, Спадабала я тады Брыгадзіра Міхася. Янка Купала, Збор твораў, т. IV, Мінск, 1953, стар. 176. Параўн.: Ты спадабала, ты й рашай. Угляны Мінскага раёна. Параўн.: упадабаць. Саламір'е Полацкага раёна.

УПАЛЯВА'ЦЬ (*арф.*) *-ю-ю, -ю-еш, пераходны, законч. тр.* Забіць (каго-небудзь) на паляванні. Кл. Параўн.: Пан усю дарогу бедаваў аб сабе і шкадаваў, што нічога не давялося ўпаляваць. Піліп Пестрак, Сустрэнемся на барыкадах, кніга першая, Мінск, 1954, стар. 48.

УПЕ'РАД[1] (*уперад, уперат*) *прыслоўе.* Упе-

рад. Пашо́ў упе́рад, а за йім усê. Зуб. А ты́ ж упе́рат. В.

УПЕ′РАД[2] (*упе́рад, упе́рат*) *прыслоўе*. Перш, раней. Упе́рад зрабі сам, тагды́ ў на́с лу́ччай бу́дзе. Кл. Не́[е]к упе́рат хадзі́ў самалёт на Глу́ск. Вольн.

УПУ′ДЗІЦЦА (*упу́дзіцца*) *-дз-ішся, -дз-іцца, законч. тр.* Успудзіцца. Конь упу́дзіўса—машы́на па даро́зе йшла́—да ў лêс, а тут шчэ вôжка пярарва́ласа. Кл.

УПЯКА′ЦЦА[1] (*упяка́цца, уп*[*е*]*ка́цца*), *незаконч. тр.* Упякацца (пра тое, што пячэцца). Кл.

УПЯКА′ЦЦА[2] (*упяка́цца, уп*[*е*]*ка́цца*) *-а́ешся, -а́-ецца.* Уядацца ў косці. Кл.

УПЯКЦІ′СЯ[1] (*упя*[*е*]*кці́са*(*я*), *упя*[*е*]*кчы́са*(*я*)) *-ч-э́цца, законч. тр.* ад упяка́цца (гл. упяка́цца[1]). Кл.

УПЯКЦІ′СЯ[2] (*упя*[*е*]*кці́са*(*я*), *упя*[*е*]*кчы́са*(*я*)) *-к-у́ся, -ч-э́шся, -ч-э́цца, законч. тр.* ад упяка́цца (гл. упяка́цца[2]). Уесціся ў косці, даесці (гл. дае́сці[2]). Ото ўжэ мне ўп[е]клі́са дзêці тваê. Чаму ты ні ўшчува́[е]ш хоць тро́хі? Ніцю́дзкі ко́мін (дым ідзе на хату), так уп'ёкса, што паліць у пе́чы ні магу́. Кл.

УРАКЦІ′(*уракці́*), (*не*) *уракну́, -н-е́ш, пераходны, законч. тр.* Сурочыць. Кл.

УСЕ′ЯЦЦА Гл. усе́яцца ў выпуску 1959 г. Параўн.: Пасля таго, калі ў калгасе «Наша жыццё» адсеяліся, адразу пачалося будаўніцтва. Ільля Гурскі, Выбраныя творы, Мінск, 1951, стар. 90. Параўн.: Але адразу ж, як абсеяліся,

пачалі валіць лес, вазіць яго... Барыс Мікуліч, Выбранае, Мінск, 1959, стар. 388.

УСКІДА'ЦЬ (*ускідáць*) *-á-ю, -á-еш, пераходны, незаконч. тр.* Ускідваць. Сл.

УТО'РЫ (*утóры*) *-р-аў, толькі ў множн.* Жалабок, надрэзы (знутры) у бочцы, у якія ўваходзяць берагі дна. Сл., Кл., Хал., Зуб., Байл., Глуск.

УТО'РЫЧ (*утóрыч*) *-ч-а, мужч.* Прылада, якою наразаюцца ўтóры ў бочцы (гл. утóры). Кл., Сл.

УТРУБІ'ЦЬ (*утрубíць*) *-бл-ю, -б-іш, пераходны, законч. тр.* ад трубíць (гл. трубíць[2]). Рабíць ці рóбіць, а сéў, дак паўкулíды (гл. кулíда ў выпуску 1959 г.) ўтрубíў. Кл.

УТЭ'ТЫ (*утэ́ты, -а, -ае*) *займеннік.* Вось гэты (гэтая, гэтае). Сл.

УХЛЮ'ПНУЦЬ (*ухлю́пнуць*) *-пн-е, непераходны, законч. тр.* Апасці, апусціцца (знутры). Сярэдзіна скапцá (гл. капéц, скапéц у выпуску 1959 г.) картóпляў ухлю́пла (бульба спарылася, згніла, і пакрыўны слой зямлі і саломы на сярэдзіне капца апаў, апусціўся). Маé цéста падышлó, адáле (гл. адáле ў выпуску 1959 г.) ўхлю́пло. Кл.

УЦІХАМІ'РЫЦЦА (*уціхамíрыцца*) *-ыцца, законч. тр.* 1. Супакоіцца (пра надвор'е). Вайц. 2. *-уся, -ышся.* Супакоіцца (пра чалавека). Кл.

УЦЯМІ'ЦЬ (*уцямíць*) *непераходны, законч. тр.* Уцяміць. Вéльмі я ўцяміла. Кл.

УЧЫРЫ'ЦЬ (*учырыць*) *-р-ý, -р-ыш, пераходны, законч. тр.* ад чырыць (гл. чырыць[3]). На Мáя чырылі вóлакам (гл. вóлак у выпуску 1959 г.) на Плёсах, дак адны сінявачкі( гл. сінявачка); за нóч учырылі мо трыста штук. Кл. Памажэце, хлóпцы, каня ўчырыць, ніяк н[е] даéцца ўзяць. Байл.

УШЧЫКНУ'ЦЬ (*ушчыкнýць*) *-н-ý, -н-éш, законч. тр.* Ушчыкнýў за рýку, дак шчарнêла. Кл. Гусáк ушчыкнýў за нóгу. Хал.

УЮРО'К (*ўюрóк*) *-рк-á, мужч.* Гл. вірок. Кл. Параўн.: юрóк. Саламір'е Полацкага раёна.

**Ф**

ФРАНЦУ'ЗКА (*францýзка*) *-зк-і, жан.* У лáг[е]ры (у нямецка-фашысцкім лагеры ў часе другой сусветнай вайны) ўсякіх былó: францýзы, францýзкі, чэхі, галáнцы, галáнкі — усíх і ні п[е]рашчытáю. Аднá францýзка й áдрас брáла. Глуск.

**Х**

ХАДНЯ' (*хадня́*) *-н-і, жан.* Параўн.: у рускай мове стараславянскае слова хождение. Брыгадзíру хадні багáта. Кл. Хадня́ вáша ці кóнчыцца? Пас. Янкі Купалы.

ХАДУ'Н[1] (*хадýн*) *-н-á, мужч.* Прыстасаванне, у якім дзіця вучыцца хадзіць: рухомы вакол восі шост ад падлогі да столі, да шаста прыладжаны абадок, у які ставіцца дзіця. Кл.

ХАДУ'Н[2] (*хадýн*) *-н-á, мужч.* Тое, што і ха-

до́к (гл. хадо́к у выпуску 1959 г.),—чалавек, які хутка ходзіць. Кл., Байл.

ХАДУ'Н[3] *(хаду́н) -н-а́, мужч.* Спартыўнае прыстасаванне для хадзьбы: два шасткі з прымацаванымі (на 50—60 см ад ніжняга канца) планачкамі або з сучкамі, становячыся на якія ходзяць. Кл. Параўн.: дыбы. Мядзведзічы Ляхавіцкага раёна. Параўн.: у рускай мове ходули.

ХАДЗІ'ЦЬ *(хадзі́ць) -дж-у́, -дз-іш, непераходны, незаконч. тр.* 1. У спалучэнні з ля коней, ля кароў, ля гароду, ля хворых—даглядаць (коней, кароў, хворых). Другі́ гадо́к хо́дзіць л[е] ко́н[е]й. Сл. 2. У спалучэнні з ля гаро́ду, ля ле́су, ля са́ду—даглядаць, а таксама пільнаваць, глядзець (гарод, лес, сад). Кл.

ХАЛАДНЕ'ЧА *(халадне́ча) -ч-ы, жан.* Гл. халадэ́ча. І ў ха́це халадне́ча. Глуск. Параўн.: халадзі́на. Саламір'е Полацкага раёна.

ХАЛАДЭ'ЧА *(халадэ́ча, халадзе́ча) -ч-ы, жан.* Тако́ю халадэ́чаю й вале́нкі ні памо́гуць. Глуск. Халадзе́ча, што душа́ захо́дзіцца. Зуб. Ну й халадэ́ча. Зуб.

ХВАІ'НА *(хвайі́на) -н-ы, жан.* 1. Матэрыял з хвоі (гл. хво́я), хваёвая драўніна. Дагле́дзь хвайі́ну, то й ду́ба п[е]ражыве́. Кл. 2. Хвоя, адно дрэва. Кл.

ХВАСТО'ВЕЦ *(арф.) -ўц-а, мужч., множн.— хвасто́ўцы.* Жыхар в. Хвастовічы. Глуск, Кл., Барб.

ХВО'РТАЧКА[1] *(хво́ртачка) -к-і, жан.* Памяншальнае ад хво́ртка (гл. хво́ртка[1]). Кл.

ХВО'РТАЧКА[2] *(хвóртачка) -к-і, жан.* Памяншальнае ад хвóртка (гл. хвóртка[2]). Сл., Кл.

ХВО'РТКА[1] *(хвóртка) -к-і, жан.* Веснічкі, фортка. У хвóртку ні ўлêзе ўязка, трэба варóта рашчыніць. Кл.

ХВО'РТКА[2] *(хвóртка) -к-і, жан.* Маленькія шкляныя дзверцы ў акне для праветрывання хаты, памяшкання. Сл., Кл.

ХЛАПЧАНЯ' *(хлапчаня́) -я́ц-і, ніяк.* Спагадлівае, спачувальнае. Хлапец-падростак. Кл.

ХЛАПЧАНЯ'ТКА *(хлапчаня́тко, хлáпчаня́тка) -тк-а, ніяк.* Памяншальна-ласкальнае ад хлапчаня́ (гл. хлапчаня́). Кл.

ХЛЕВУШО'К *(хл[е]вушóк) -шк-á, мужч.* Памяншальнае ад хлёў (гл. хлёў). Кл., Байл.

ХЛЁЎ *(хлёў) -в-á, мужч.* Хлеў. Схадзіла ў хлёў. Хал. Тôлькі хлёў згарэў. Сл. Хібá каб прадáў круглы (даўжыня сцен аднолькавая) хлёў. Нашто ён нам? Кл. У нáш хлёў стáла ні прайці (гразка). Вайц.

ХЛЯВО'К *(хля[е]вóк) -ўк-á, мужч.* Памяншальнае ад хлёў (гл. хлёў). Кл., Сл., Барб.

ХЛЯСЦЕ'ЦЬ *(арф.) -іць, непераходны, незаконч. тр.* Хлясціць фортачка (гл. хвортачка), хлясцяць дзверы — расчынена (прычым доўга, даўно ці заўсёды) фортачка, расчынены дзверы. У іх (у жыхароў в. Цясноў) і двароў няма, а калі варота ці фортачка—дык хлясцяць *(арф.)*. А каб рот твôй хлясьцêў (праклён)! Кл.

ХРАПА'Ч *(храпáч) -ч-á, мужч.* Грыб смаржóк. Хал. Гл. вясéлік у выпуску 1959 г.

ХРОП[1] *(хроп)* Форма прошлага часу мужч. роду ад храпці́. Кл., Хал., Сым.

ХРОП[2] *(хроп)* Выклічнікава-дзеяслоўная форма (тыпу хоп, гоп, брык, грук). Кл. Гл. хропнуць[1].

ХРО́ПНУЦЬ[1] *(хро́пнуць) -н-е, неперaходны, законч. тр.* Нечакана, з хрустам зламацца (кладка; палка, жэрдка, на якой трымаецца які-небудзь груз). Можна думаць, што слова гукапераймальнае. Ста́лі ўціска́ць вôз (сена), а рубе́ль хро́пнуў—і на два́ канцы́ (пераламаўся). Другі́ раз наклада́ць прышло́со. Хал. Параўн.: хроп (гл. хроп).

ХРО́ПНУЦЬ[2] *(хро́пнуць) -н-у, -н-еш, неперaходны, законч. тр.* Стукнуць з хрустам (з рэзкім пераломам таго, чым стукнулі, або таго, па чым стукнулі). Хро́пнуў так, што ло́жа (частка вінтоўкі) хро́пнула й паліца́й аста́ўса на мêсьце (гл. аста́цца на ме́сцы). Зуб. Гл. хроп[2].

ХРУП[1] У гукапераймальным хруп-хруп-хруп. Кл. Гл. хру́паць[1], хру́паць[2].

ХРУП[2] Выклічнікава-дзеяслоўная форма. Раптоўна, нечакана скрышыцца, зламацца (напрыклад: зуб у роце ці ў граблях, якая-небудзь сталёвая ці чыгунная прылада, частка машыны ці іншае). Кл.

ХРУ́ПАЦЬ[1] *(хру́паць) -а-ю, -а-еш, пераходны, незаконч. тр.* Хрумстаць, есці з хрумстаннем. Мусіць, звязана з гукаперайманнем (хруп-хруп-хруп). Усы́паў каню́ аўса́ й сêчкі (гл. се́чка ў выпуску 1959 г.), дак та́к сма́шно хру́пае.

Мало́ астало́со. Кл. Гл. хруп. Параўн.: Хрумстаюць коні авёс. Міхась Лынькоў, Над Бугам.

ХРУ'ПАЦЬ[2] (*хру́паць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны.* Трашчаць, ступаючы на ільдзінкі, на хра́пу (гл. хра́па ў выпуску 1959 г.). Можна меркаваць, што слова хрупаць гукапераймальнае. Гл. хру́паць. Кл.

ХУ'КАННЕ (*ху́каньне*) *-нн-я, ніяк.*, ад ху́каць (гл. ху́каць). Па́лцы пазахо́дзіліса, я дава́й ху́каць, дак ішчэ́ го̂рш ста́ло с ху́каньня. Кл.

ХУ'КАЦЬ[1] (*ху́каць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Фукаць, дзьмуць. Патушы́ ля́мпу. Ты ху́кні крапчэ̂й. Кл. Ху́кнуў (асілак)—і німа́ (хаткі бабы Ягі). В.

ХУ'КАЦЬ[2] (*ху́каць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны.* Ху́каць[1]—дзьмуць моцнаю струёю (губы амаль стулены, прасвет паміж губамі зусім малы, вузенькі, атрымліваецца шум, набліжаны да «ф-ф-ф-ф-ф»; ху́каць[2]—дзьмухаць пры раскрытых і аслабленых губах; шум набліжаны да «х-х-х-х-х». Калі ху́каць[1]—атрымліваецца мацнейшая і халодная струя паветра. Хукаючы (ад хукаць[1])—астуджваюць, студзяць, здзьмухваюць, тушаць (лямпу). Калі хукаць[2]—атрымліваецца нямоцная і цёплая струя паветра, хукаць[2]—саграваць (што-небудзь) цёплым паветрам. Нашлі́ (зімою) в[е]рабе́йка, ста́лі ху́каць, ду́малі атху́каям, а ён здох. Пас. Янкі Купалы. Паху́каў на́ шы́бу (зімою на замерзлую шыбу), дак ло́пнула. Зуб.

ХУ'КНУЦЬ[1] (*ху́кнуць*) *-н-у, -н-еш, непера-*

*ходны, законч. тр.* ад ху́каць (гл. ху́каць[1]). Пас. Янкі Купалы, Кл., Барб.

ХУ′КНУЦЬ[2] *(ху́кнуць) -н-у, -н-еш, непераходны, законч. тр.* ад ху́каць (гл. ху́каць[2]). Пас. Янкі Купалы, Кл.

## Ц

ЦАВІ′НА *(цаві́на) -н-ы, жан.* Сцябло аднагадовай расліны (бульбы, памідора, шчаўю ці інш.). Ты́ ж хаць цаві́наю прыв[е]жы́ (звязаных качак да воза). Сл. Гл. гічы́на. Гл. гіч у выпуску 1959 г.

ЦАВІ′НКА *(цаві́нка) -нк-і, жан.* Памяншальнае ад цаві́на (гл. цаві́на). За дзе́нь і цаві́нкі ні ўкі́нулі (свінням есці). Кл.

ЦАГЕ′ЛЬНЯ *(цагéльня) -н-і, жан.* 1. Цагельны завод. Ст. Ратміравічы. 2. Участак лесу, дзе бяруць (здабываюць) гліну. Кл., пас. Чырвоны.

ЦАЛКО′М (*цалко́м*) *прыслоўе.* Цалкам. Байл., Кл., Барб.

ЦА′ЛЬНЫ *(ца́льны, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Цэлы. Ца́льную зі́му пражылі́. Сл.

ЦАРА́НЯ′ *(цараня́) -ня́ц-і, ніяк.* Сын цара. Сым., В. Параўн.: у рускай мове царевич.

ЦАХЛЕ′ННЕ *(цахлéньне) -нн-я, ніяк.,* ад цахліць (гл. цахліць). Брэх (сабакі, калі сабака гоніць звера—зайца, ліса). Сл., Балаш. Параўн.: вя́ханьня. Мсціслаў. Параўн.: ца́ханьня, я́ханьня. Саламір’е Полацкага раёна.

ЦАХЛІЦЬ (*цахлі́ць* і *ца́хліць*) *-і́ш* і *-іш, -і́ць*

і *-іць, неперахoдны, незаконч. тр.* Брахаць (пра сабаку, калі ён гоніць звера—зайца, ліса, барсука). Усю́ ра́ніцу ў Цяско́х цахля́ць саба́кі, мо хіба́ з Глу́ска (паляўнічыя). Кл. Ба́ян (клічка сабакі) ні цахліў. Глуск. Параўн.: вя́хаць. Мсціслаў. Параўн.: ца́хаць і я́хаць. Саламір'е Полацкага раёна.

ЦВЕРАЗІ'ЛАЎКА *(цьв[е]разілаўка) -ўк-і, жан.* Працвярэзнік. І до́бр[э], што апара́ты (якімі гналі самагонку) міліцая пазабіра́ла, нêчаго (у такім выпадку, затое) напіва́цца ні бу́дуць. І шчэ трэ́ба було́ цьв[е]разілаўку ў по́грабе зрабіць. Нап'е́цца хто—туды́. Кл.

ЦВІЛЫ' *(цьвілы́) прыметнік.* 1. Пакрыты цвіллю. Сьлі́вы ў каро́бц[э] ста́лі цьвілы́е. Кл. 2. Масць, колер (масць, колер цвілі). Цьвіло́га жарэ́бчыка прадалі́. Кл.

ЦВІ'РКАЦЬ *(цьвіркаць) -а-е, неперахoдны, незаконч. тр.* Гл. цвірку́н у выпуску 1959 г. І я́к ён цьвіркае, е́ты цьвірку́н? Кл. Параўн.: Выпраўляючы Макара, наказваў:—Глядзі, цвіркунок, цвірыкай добра... Піліп Пестрак, Сустрэнемся на барыкадах, кніга першая, Мінск, 1954, стар. 192.

ЦВО'РДА *(цьво́рдо, цьво́рда) прыслоўе.* Цвёрда. На пе́чы цьво́рдо спаць. Хал.

ЦВО'РДЫ *(цьво́рды) прыметнік.* Ты́е йгру́шы сало́дкіе, але ве́льмі цьво́рдые. Кл.

ЦЕ'МРАЗЬ *(це́мразь) -з-і, жан.* Цемра, цемрадзь. Ст. Ратміравічы.

ЦЕ'НЖАР *(це́нжар) -р-у, мужч.* Цяжар. В.

ЦЕ'РНІЦА (*цѐрніца*) *-ц-ы, жан.* 1. Прылада, пры дапамозе якой труць лён, каноплі. Пазыч, Улянка, сваê цèрніцы, лёну сьцèрці. Кл. Я й саху й цèрніцу сáм рабіў. Сл. Параўн.: мяліца. Саламір'е Полацкага раёна. 2. Пераноснае. Той, хто прагна і хутка есць, не зважаючы на якасць ежы. Такáя цèрніца (пра карову), што н[е] дай— зьêсь. Кл. Параўн.: Есць, як у цèрніцу трэ (*арф.*). Пас. Янкі Купалы.

ЦІ'ПЧЫК (*ціпчык*) *-к-у, мужч.* Памяншальнае ад ціпец (гл. ціпец у выпуску 1959 г.). Зуб.

ЦІТО'К (*цітóк*) *-тк-á, мужч.* Хвалько, пустэча (гл. пустэ́ча ў выпуску 1959 г.). Ціток—ад уласнага імя: Ціт і яго сыны былі хвалькамі, пустэчамі. Кл.

ЦУ'БКІ (*цýбкі*) *прыметнік.* Неэластычны; менш гнуткі, як звычайна (пра скураныя, вытканыя, вітыя матэрыялы—сукно, палатно, пуга, вяроўка і інш.). Брызèнтавы плашч намóк, дак цýбкі стаў. Пас. Янкі Купалы. Кажýх мôй стаў цýбкі, мо каб пам́азаў чым. Кл.

ЦУП (*цуп*) Выклічнікава-дзеяслоўная форма тыпу хоп, гоп, брык. Нечакана і рэзка спыніцца (спыніць). Кл.

ЦУРБА'Н (*цурбáн*) *-н-á, мужч.* Учóр[э] рэ̂залі (расцілоўвалі) нêйкіе цурбаны́. Кл.

ЦЫ'РКАЦЬ (*цы́ркаць*) *-а-ю, -а-еш, неперaходны.* Гукаперaймальны па паходжанню. 1. Цыркуны́ цы́ркаюць увèсь вèчар (гл. у выпуску 1959 г. цыркýн, цвіркýн). Кл. 2. Пляваць тонкаю струйкаю праз зубы. Кл.

ЦЭ'БРЫК (*цэ́брык*) *-к-а, мужч.* Памяншальнае ад цэ́бар. Кл., Барб. Параўн.: цабэ́рак. Радашковічы.

ЦЭ'ЛЬНЫ (*цэ̀лны, -а(-ая), -ае) прыметнік.* Увесь. Цэлны дзень. В.

ЦЭ'РКВА (*цэ́рква) -кв-ы, жан.* Царква́. Зуб., Кл.

ЦЮГА'! ЦЮ'-ГА'! (*цюга́! цю́-га́!*) *выклічнік.* Калі палохаюць воўка, крычаць: цюга́! цюга́ во́ўка! Кл.

ЦЮГА'КАЦЬ (*цюга́каць) -а-ю, -а-еш, непераходны* ад цюга́ (палохаюць, праганяюць воўка). Гл. цюга́! Мы крыча́лі, а ён закі́нуў (ягня) на плёчы й панёс. Кл.

ЦЮ'КАЦЬ (*цю́каць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Гукапераймальны па паходжанню. Памалу, паціху працаваць з якойнебудзь прыладаю (сякераю, малатком, пранікам і інш.), напрыклад, часаць бярвенні, абіваць семя лёну ці падобн. Кл.

ЦЮ'ПАЦЬ (*цю́паць) -а-ю, -а-еш, непераходны, незаконч. тр.* Павольна, па-старыкоўску ісці. Кл.

ЦЯЛЕ'ШЫК (*арф.) -к-а, мужч.* Памяншальнае ад цяле́ш (гл. цяле́ш у выпуску 1959 г.). Хіба́ такія вазы́ (дроў) вазі́ць? Мо пяць цяле́шыкаў ...і во́з! (*арф.*). Кл.

ЦЯЛУ'ХА (*цялу́ха) -х-і, жан.* Ужываецца і цялу́шка. Апошняе адрозніваецца ад цялу́ха значэннем: цялушка—маленькая, цялуха—большая, старэйшая. Кл.

ЦЯЛУ'Х-ЦЯЛУ'Х-ЦЯЛУ'Х! *(цялýх-цялýх-цялýх!)*. Так клічуць (падзываюць) цялýху (гл. цялýха), звычайна ставячы на пачатку «цялýшка мая́». Кл.

## Ч

ЧАКУ'ХА *(чакýха) -х-і, жан.* 1. Прылада — вялікі дрыўляны молат, — ударамі якой па сякеры (калуну) расколваюць бервяно. Кл. 2. Клічка каровы (па форме галавы і тупых кароткіх закручаных рагах). Кл.

ЧАЎПНЯ' *(чаўпня́) -н-і, жан.,* ад чаўпці́ (абы-што і абы-як гаварыць, вярзці). Ці ўся́ку чаўпню́ слýхаць? Ст. Ратміравічы.

ЧАЎПЦІ' *(чаўпці) -п-éш, -п-é, непераходны, незаконч. тр.* Вярзці, гаварыць, плесці абы-што і абыякава. Хал., Сл. Параўн.: цяўпці́. Саламір'е Полацкага раёна.

ЧАСІ'НАЧКА *(часінaчка) -чк-і, жан.* Памяншальнае ад часі́нка (гл. часі́нка ў выпуску 1959 г.). Хвіліначка, мінутачка, вельмі крышачку (часу). Хал., Кл., Вольн.

ЧАЦВЯРЫ'К *(чацьвя[е]ры́к) - к-á, мужч.* Чацьв[е]ры́к—дзьвê пáры (коней) нáўсьц[е]ж (запрэжаныя ў воз). Сл. Параўн.: чацвяры́к — мера на паўтара пуды збожжа. Саламір'е Полацкага раёна.

ЧО'ЎНІК *(чóўнік) -к-а, мужч.* 1. Чаўнок (ткацкае). Пазы́чыла чóўніка й ні прынéсла. Кл. У нáс ні чаўнóк, а чóўнік. Зуб. 2. Памяншальнае ад чóвен. Кл., пас. Янкі Купалы, Баян.

ЧУХЛАВА'ЦЬ (*чухлава́ць*) *-у́-ю, -у́-еш пераходны, незаконч. тр.* Таркаваць (гл. тарка ва́ць), часцей—апошняе. Кл.

ЧЫКІЛЬГА'ЦЬ (*чыкільга́ць*) *-а́-ю, -а́-еш* неперахо дны, *незаконч. тр.* Ісці кульгаючы І Наву́м пакôйны чыкільга́ў. Баян.

ЧЫКІЛЬГІ'К (*чыкільгі́к*). Выклічнікава-дзеяслоўнае слова (тыпу хоп, скок, кідзе́ль і інш.) ад чыкільга́ць (гл. чыкільга́ць). Кл.

ЧЫНЫ' (*чыны́*) *-о́ў, толькі ў множн.* Чыны—перасячэнне нітак асновы. Му́шы п[е]раêлі кро́сна, зьêлі чыны́. Зуб.

ЧЫ'РАЧКА (*чы́рачка*) *-чк-і, жан.* Памяншальнае ад чы́рка (гл. чы́рка). Кл., Хал.

ЧЫ'РКА (*чы́рка*) *-рк-і, жан.* Качка-чыранка (Anas crecca). У чы́ркі саўсі́м малы́е яе́чкі. Кл. Л[е] кніга́рні ба́чыў, ішо́ў і тры́ чы́ркі не́с, нêйдзе застрэ́ліў. Глуск.

ЧЫРЫ'ЦЦА (*чыры́цца*) *-ышся, -ыцца, незаконч. тр., зваротны* ад чыры́ць (гл. чыры́ць[1]). Цягнуцца, валачыцца (пра што-небудзь, што нясуць, вязуць). Камлê жэ́ртак ускі́нам на са́ні, а шчыты́ (гл. шчыт у выпуску 1959 г.) хай чы́рацца. Кл.

ЧЫРЫ'ЦЬ[1] (*чыры́ць*) *-р-у́, -р-ыш, непераходны, незаконч. тр.* Валачыць, цягнуць які-небудзь прадмет па якой-небудзь паверхні так, каб прадмет ці яго завостраны канец скроб паверхню, уразаўся ў яе. Пішы́ акуратнêй, а то́ чы́рыш, аж бума́га трашчы́ць; так пе́раў ні набра́цца табê, усê пало́міш. Пас. Янкі Купалы.

ЧЫРЫ'ЦЬ[2] (*чырыць*) *-р-ý, -р-ыш, пераходны.* Ужываецца ў спалучэнні з назоўнікам рóжа (хвароба). Чырыць рóжу—замаўляць рожу, абводзячы хворае месца нажом з востраю дзюбкаю. Цяпер успрыймаецца як недарэчны жарт. Нêкалі ў Барбарóве (жанчына) чырыла рóжу. Кл.

ЧЫРЫ'ЦЬ[3] (*чырыць*) *-р-ý, -р-ыш, неперадходны.* 1. Цягнуць рыбацкую прыладу—крыгу, невад, падсаку (гл. у выпуску 1959 г. крыга, падсáка) так, каб ніжняя сценка яе ішла па дне, а пры наяўнасці ў прыладзе вертыкальнага шастка, або прытыкі (гл. прытыка ў выпуску 1959 г.), дзядкá (гл. дзядóк), чырыць ім, пакідаючы на дне знак. Кл. 2. Цягнуць (удвух) вяроўку, каб злавіць жывёліну. Кл.

ЧЫСЦІНЯ' (*чысьціня́*) *-н-і, жан.* У Мінску такáя чысьціня́ ўсюды, што ў вáс мо ў хáтах хýдж[э]й, як на вýліцах (Мінска). Кл.

ЧЭ'ЗЛЫ (*чэ́злы*) *прыметнік.* Змарнелы, ссохлы, схуднелы. Глуск. Гл. чэ́знуць, счэ́знуць.

ЧЭ'ЗНУЦЬ (*чэ́знуць*) *-зн-у, -зн-еш, непераходны, незаконч. тр.* Марнець, сохнуць. Чэ́з бêдны насýсе (гл. насýсе). Кл. Гл. счэ́знуць, чэ́злы.

## Ш

ШАЛЕ'НЕЦ (*шалéн[е]ц*) *-нц-а, мужч.* 1. Шаленства. Усхадзіліса, мо [е]кі шалéн[е]ц на вáс найшóў. Сл. 2. Шаленец, вар'ят. С такім шалéнцам ці мáла што бýдзе. Кл.

ШАЛПАТА'ННЕ (*шалпатáньне*) *-нн-я, ні-*

*як.* Назоўнік ад дзеяслова шалпата́ць (гл. шалпата́ць). Кл.

ШАЛПАТА'ЦЬ *(шалпата́ць) -ч-у́, -ч-аш, непераходны, незаконч. тр.* 1. Гукапераймальны дзеяслоў па гуках, якія чуваць, калі качкі жыруюць у балоце. Ка́чка ні лю́біць у рацэ̂, а ўсе́ каб у кана́ве ці ў гразі́ шука́ць. Шалпо́чуць цалю́ткі дзень, а ўве́чар[э] ếсьці ні хо́чуць. Шалпо́чуць—дак ето не́чаго шука́юць у гразі́. Кл. Дзеясловам шалпата́ць перадаецца таксама адчуванне, калі ў вуха трапляе жывое насякомае.—Нêшто ў ву́хо ўлêзло да та́к шалпо́ч[э], так шалпо́ч[э], што ні ўтрыва́ць.—А ваду́ ўлêце ў ву́хо, пераста́не шалпата́ць. Кл.

ШАМКІ' *(шамкі́) -о́ў, толькі ў множн.* Бразгулькі, якія надзяваюцца на шыю каню (пры незвычайным, урачыстым выездзе). Ту́е гаду́ шамкі каню́ чапля́лі. Барб. Параўн.: шаргуну́ Саламір'е Полацкага раёна.

ША'РЫЦЬ *(ша́рыць) -р-ыш, -р-ыць, непераходны, незаконч. тр.* Шукаць, абмацваць, пароцца. Му паўц[е]ка́лі ў лêс, а [е]ну́ (паліцэйскія) цалю́ткі дзень ша́рылі да падбіра́лі, то й спад з[е]млі́ пазнахо́дзілі. Прышлі́, то й гаршчэ̂чка ні було́. Стр.

ШАСНА'ЦЦАТКА *(арф.) -к-і, жан.* Іранічнае. Немаладая жанчына, якая не бы́ла замужам і паводзіць сябе як маладая дзяўчына. У тым жа значэнні сямна́ццатка. Кл. Параўн.: семнасто́ўка. Кліны Бялыніцкага раёна.

ШАСЦЕРЫ'К *(шасьц[е]ры́к, шасьцяры́к)*

*-к-á, мужч.* Запрэжаныя ў воз шасцёра коней. Пан тут нêкалі на шасьц[е]рыкý êхаў. Хал. Параўн.: чацвярык (гл. чацвярык).

ШАСЦІПА'ЛЫ *(шасьціпáлы) прыметнік* ад шэсць пальцаў. Чалавек, у якога на руцэ ці назе шэсць пальцаў. Кл., Сл.

ШАТРАВА'НЫ *(шатравáны) дзеепрыметнік.* Тое, што і ашатраваны. Гл. ашатравáны, шатравáць, ашатравáць, шатрóўка. Кл.

ШАТРАВА'ЦЬ *(шатравáць) -ý-ю, -ý-еш, пераходны, незаконч. тр.* 1. Абдзіраць скурку (з ячменю), каб, змалоўшы, мець лепшую муку. Кл. 2. Абдзіраць скурку і малоць (ячмень). Кл.

ШАТРО'ВАНКА *(шатрó(ô)ванка) -нк-і, жан.* Мука з шатраванага ячменю, жыта (часцей шатрóўка). Гл. шатравáць, шатравáны. Кл.

ШАТРО'ЎКА *(шатрó(ô)ўка) -ўк-і, жан.* Мука з шатраванага ячменю, жыта. Гл. шатравáць, шатравáны, шатрóванка. Кл.

ШАЦІНЕ'ТАВЫ *(шацінéтавы, шацінéтаву) -а(-ая), -ае, прыметнік.* Сатынетавы. Кл. Глуск.

ШВА'ГІР *(швáгір) -р-а, мужч.* Швагер (жончын брат, мужаў брат). Барб., Байл., Сл., Хал., Глуск. Параўн.:—Ездзіў надоечы я ў Маскву, дык мой швагра, што на паштамце служыць, казаў... Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 28. Параўн.: швагра. Радашковічы; вв. Кліманты, Сыцавічы, Загорцы Маладзечанскага раёна; вв. Угляны, Лекараўка, Шапялі Мінскага раёна.

ШВА'ЙКА (*шва́йка*) *-к-і, жан.* Вялікае плоскае шыла, якім шыюць з лубу каробкі. Мая́ шва́йка пяракало́ла мо сто́ кабанốў, ні то́лькі каро́бкі да караб'і (гл. каро́бка, караб'я́ ў выпуску 1959 г.). Кл.

ШВЕ'РКАЛА (*шве́ркало, шве́ркала*) *-л-а, агульн.* ад шве́ркаць (гл. шве́ркаць). Чалавек, які гаворыць незразумела, неразборліва і слабым непрыемным голасам. Кл.

ШВЕ'РКАЦЬ (*шве́ркаць*) *-а-еш, -а-е, пераходны, незаконч. тр.* 1. Гаварыць незразумела, неразборліва, слабым непрыемным голасам. А ты пяраста́нь шве́ркаць, нічо́го ні вếдаючы да ні зна́ючы. Шве́ркало е́тае. Кл. 2. Без адцення знявагі—пра мову (размову) дзіцяці (дзяцей). Кл.

ШКРАБАКІ' (*шкрабакі́*) *-к-о́ў.* Падраныя, прычым вялікія боты, чаравікі. Кл.

ШКРО'БАЦЬ (*шкро́бацць*) *-а-ю, -а-еш, непераходны.* Таго ж кораня, што і шкрабакі́. Шкро́бацць—рабіць шум, ідучы ў вялікім (не па назе) падраным абутку. Кл.

ШЛАКАТА'ННЕ (*шлаката́ньне*) *-нн-я, ніяк.* Шчыкатанне, казытанне, ласкатанне (гл. шлаката́ць, шло́кат). Кл.

ШЛАКАТА'ЦЬ (*шлаката́ць*) *-ч-у́, -ч-аш, пе*раходны, незаконч. тр. Шчыкатаць, казытаць, ласкатаць. Як ста́лі шлаката́ць (хлопца), дак ён упа́ў і ро́ўма раве́—так байіцца шло́кату. Кл.

ШЛО'КАТ (*шло́кат*) *-т-у, мужч.* Шчыкотка, козыт, лоскат. Як ста́лі шлаката́ць, дак ён упа́ў і ро́ўма раве́—так байіцца шло́кату. Кл.

ШЛО'КАТНА *(шлóкатно, шлóкатна) прыслоўе.* Шчыкотна, козытна, ласкотна. Кл., пас. Янкі Купалы.

ШЛЭП-ШЛЭП *(шлэп-шлэп)* Гукапераймальнае. Кл. Гл. шлэ́паць.

ШЛЭ'ПАЛА *(шлэ́пало) -л-а, ніяк.,* ад шлэ́паць (гл. шлэ́паць). Кл.

ШЛЭ'ПАЦЬ *(шлэ́паць) -а-еш, -а-е, непераходны, незаконч. тр.* Ісці з шумам, які перадаецца гукапераймальным—шлэп-шлэп-шлэп. В[е]лікава́тыя чо́баты, але—б[е]с кло́пату галава́—шлэ́паю па гразі́. Кл.

ШО'РСТКА *(шóрстко, шóрстка) прыслоўе* ад прыметніка шо́рсткі (гл. шо́рсткі). Пашукай мнê, ба́бо, ху́стачкі на шы́ю, бо ве́льмі шо́рстко ат каўн[е]ра́ (каўнер світы з шорсткага матэрыялу). Кл.

ШО'РСТКІ *(шóрсткі) прыметнік.* Нямяккі. Ужываецца пры назоўніках, якія абазначаюць назвы прадуктаў харчавання, матэрыял (вопраткі, пасцельных прылад); шорсткае сена (асаковае), шорсткае сукно (з грубым ворсам). Трэ́ба набра́ць (сена) у с[е]льнік (гл. сяльні́к), а то дзêці прыне́сьлі нêйкаго шо́рсткаго́, дак спа́ць ліхо́ (гл. ліхо́ ў выпуску 1959 г.). Кл.

ШПІГАВА'ЦЬ *(шпігавáць) -гу́-еш, -гу́-е, непераходны, незаконч. тр.* Выведваць. Барб. Параўн.: вывіжо́ўваць (гл. віжава́ць у выпуску 1959 г.).

ШПІКНЕ'Р *(шпікнéр) -р-у, мужч.* Шкіпінар. Глісты́ шпікне́ру с са́харам бая́цца. Кл.

Зь лёсу ўсе: хáты, пóрах, шпікнéр, багáто чагó. Хал. Параўн.: шкапінáр. Саламір'е Полацкага раёна.

ШУ-ШУ-ШУ! *(шу-шу-шу!)* Так клічуць авечак. Кл. Гл. шут-шут-шут. Гл. шýткі-шýткі-шýткі. Гл. шýты ў выпуску 1959 г.

ШУБОЎТНУЦЬ *(шубó(ô)ўтнуць)* *-н-у, -н-еш, неперахóдны, законч. тр.* Нечакана ўляцець ў глыбокую ваду (з галавою). Кл.

ШУ'МЯЦЬ *(шýм[е]ць, шýмяць)* *-ц-і-, жан.* Смецце ў гумне, у адрыне (гл. адрына ў выпуску 1959 г.)—мякіна, перацёртая салома, што зваляласся і не прыгодная на корм. Шýмяці вазóў два завéзьлі ў карóўнік—падасляць. Параўн.: шýма. Саламір'е Полацкага раёна. 2. Пусты чалавек. Кл.

ШУТ-ШУТ-ШУТ *(шут-шут-шут).* Так клічуць авечак. Кл. Гл. шу-шу-шу. Гл. шýткі-шýткі-шýткі (гл. шýты ў выпуску 1959 г.).

ШУ'ШУМЯЦЬ *(арф.)* *-ц-і, жан.* Тое, што і шýмяць (гл. шýмяць). Кл.

ШЧУПАКО'ЎКА *(шчупакóўка)* *-к-і, жан.* Вудка, прыстасаваная лавіць шчупакоў. Сым. Гл. шчýчынка.

ШЧУ'ЧЫНКА *(шчýчынка)* *-к-і, жан.* Вудачка, прыстасаваная вудзіць шчупакоў. Мнê тáто зрабíў п[е]чкурóўку (гл. печкурóўка) і шчýччынку. Дóўбік от дóбрэ ўмêў вýдзіць на шчýччынку. Кл.

ШЧЫКА'ЦЦА *(шчыкáцца)* *-кá-юся, -кá-*

*ешся.* Шчыпацца. Ні шчыкайся, Вася, а то нашчыкаю (у сэнсе—правучу шчыкацца). Кл. Дурная мода—шчыкацца. Сл.

ШЧЫКА'ЦЬ *(шчыкаць) -á-ю, -á-еш, пераходны, незаконч. тр.* Шчыпаць (скуру цела). А ты ж нашто шчыкаў мяне? Пас. Янкі Купалы. Параўн.: Зосітэ ўвесь час не давала спакою свайму каханаму: то закідала якімі-небудзь запытаннямі ці жартамі, то нават гулліва шчыкала яго за бакі. Пятрусь Броўка, Калі зліваюцца рэкі, Мінск, 1957, стар. 118.

ШЧЫ'ТНА *(шчытно, шчытна) прыслоўе.* Шчыльна. Нішчытно папрыбівалі дошкі, дак поўно сьнêгу нанесло.

ШЧЫ'ТНЕНЬКА *(шчытнянько, шчытнянька) прыслоўе.* Форма ацэнкі ад шчытна (гл. шчытна. Шчыльненька. Так шчытнянька палажыла пасылку, што й аднаго яблычка ні палóжыш. Пас. Янкі Купалы.

ШЧЫ'ТНЫ (*шчытны*) *-а(ая), -ае, прыметнік.* Шчыльны. Кл. Гл. шчытна, шчытненька. Кл.

ШЧЫТО'К (*шчыток*) *-тк-á, мужч.* Памяншальнае ад шчыт—вяршыня (дрэва, сціртьт). Шчыткôў назьбіраў, на ўсé лêто й вóс[е]нь було (хапіла). Хал. На самы шчыток (стогу) цяжка падаваць сêна. Пас. Янкі Купалы. Усохла ў шчытку йгруша. Кл. Шчыткôў (вяршынь дрэваў) назьбіраў на ўсю зіму. Пас. Янкі Купалы.

ШЧЭ *(шчэ, йшчэ) прыслоўе.* Яшчэ. Шчэ німа старшыні? Ты шчэ ні хадзіла сéлята ў чарніцы? Мама йшчэ ні ўзьбірала свайго лêну. Кл.

ШЫДЭ'ЛАК (*шыдэ́лак*) *-лк-а, мужч.* Вязальны кручок. Кл.

ШЫРАЧЭ'ЗАЗНЫ (*шырачэ́зазны*) *прыметнік.* Форма ацэнкі ад шыро́кі (як і вялізазны, веліцузазны). Хал., Балаш.

ШЫРО'ЗАЗНЫ (*шыро́зазны*) *прыметнік.* Форма ацэнкі ад шыро́кі (як і вялізазны, веліцузазны). Хал., Балаш.

ШЫРО'ЗНЫ (*шыро́зны*) *прыметнік.* Форма ацэнкі ад шыро́кі (як і вялізазны, веліцузазны). Кл.

ШЭ'РШАНЬ (*шэ́ршань*) *-шн-я, мужч.* 1. Насякомае з асінага сямейства, куды большае за асу, вельмі балюча кусаецца; лічаць, што калі 12 шаршнёў укусяць (па некалькі разоў кожны) чалавека, ён памірае. Водзіцца ў дуплах дрэў, у стрэхах. Хал., Кл. Сл., пас. Янкі Купалы. 2. Пераноснае, застарэлае. Шэршнямі называлі беларусаў-каталікоў, шляхту. Кл. Параўн.: шаршэ́нь. Саламір'е Полацкага раёна.

**Ю**

ЮРО'К Гл. вірок.

**Я**

Я'БЛЫНА (*я́блына*) *-н-ы, жан.* Яблыня. Кл., пас. Янкі Купалы, Барб., Сл., Хал.

Я'ГРАСТ (*я́граст* і *ягра́ст*) ***-т-у, мужч.*** Агрэст (Grossullaria reclinata). Німа́ дзе я́грасту кусто́ў хоць два́ ці тры́ найці. Пас. Янкі Купалы.

ЯДО'МАЕ *субстантаваны дзеепрыметнік.*

Ежа; тое, што спажываецца як ежа. Про́с[е]ць (палонныя) [е]до́маго. Сл.

ЯЕ́ЧКА (*[е]ечко) -к-а, жан.* Яйка. Адно́ [е]ечко ні наêдак (гл. выпуск 1959 г.). Кл. Параўн.: яйка і яе́чка *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ЯЛІ́НА *(яліна, [е]ліна) -н-ы, жан.* 1. Матэрыял з елі, яловая драўніна. Кл. 2. Елка, адно дрэва. Кл.

ЯЛЧА́ЦЬ (*ялча́ць, [е]лча́ць*) *-а́-е, неперахо́дны, незаконч. тр.* Станавіцца е́лкім (гл. е́лкі, з'ялча́ць). Здэцца й хо́ладно, а ма́сло зьялча̀ло; ялча́е, што ні рабі́. Кл.

Я́МКА (*я́мка*) *-мк-і, жан.* 1. Памяншальнае ад я́ма. Кл. 2. У рускай печы баковачка, куды выгортваюць жар, калі трэба пячы хлеб ці сушыць што-небудзь. У на́с хоць калі́ е (ёсць) жар у я́мцэ, мо́жно запа́лак і ні купля́ць. Кл.

Я́СЕЛЬНІЦА *(я́сяльніца) -ц-ы, жан.* Новае слова. Калгасніца, якая працуе ў яслях. Вольн.

ЯСЯНІ́НА *(арф.) -н-ы, жан.* Матэрыял з ясеню, ясеневая драўніна. Кл.

Я́ХКАЦЬ *(я́хкаць) -а-еш, -а-е, неперахо́дны незаконч. тр.* Трывожна забрахаць—пра сабаку, калі сабака падыме звера і кінецца за ім; потым сабака «цахліць» (гл. цахліць). Глуск. Параўн.: Зараз жа заяхкаў сабака. В. Гарбацэвіч, Чырвоныя кветкі Беларусі, Мінск, 1959, стар. 7.

Я́ЧНІЦА *(я́чніца, я́шніца) -ц-ы, жан.* Ячная (ячменная) салома. Кл., пас. Янкі Купалы.

## *ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ СПАЛУЧЭННІ*

А НА ЧА′Й ПРАБАЧА′Й *(арф.)*. Гаварацьᅠканчаючы частаваць гасцей, раўназначнае выразу «На большае прабачайце» (ужываецца і «На большае прабачайце»). Кл.

АБМЫВА′ЦЬ ЯЗЫКА′МІ *(арф.)*. Сл.

АБЫ′ БЫЛО′ КАМУ′ Е′СЦІ, А БУ′ДЗЕ ШТО Е′СЦІ. Абў булò камý êсьці, а бýдзе што êсьці. Зуб.

АБЫ′ ГАЛАВА′, А ШО′ЛУДЗІ БУ′ДУЦЬ. Абý (і абы́) галавá, а шóлудзі бýдуць. Галава—жыццё, шолудзі—драбніцы, у тым ліку—асабістая маёмасць. Сэнс: Дорага чалавеку жыццё, жывы—нажыве патрэбнае. Кл.

АГНЁ′М ГАРЭ′ЦЬ *(агнé(ё)м гарэ̂ць)*. 1. Літаральнае. Кл., Сл. 2. Быць у гарачцы, з высокаю тэмператураю. Кл., Сл.

АДАДРА′ЦЬ ДРА′ЧКУ *(арф)*. Зрабіць дрáчкаю (гл. дрáчка) знак на бервяне, якое апрацоўваецца; знак, лінія паказвае, колькі трэба счасаць. Кл.

АДБІ′ЦЦА АД РУ′К *(адбіцца ат рýк)*. Хал., Зуб.

АДДА′М НА СВЯТЫ′ АДА′М *(Аддáм на сьвяты́ Адáм)*. Ніколі, аніколі не аддам. Вольн.

(ГЛЯ′НУЦЬ) АДНЫ′М ВО′КАМ *(арф.)*. 1. Літаральнае. Кл., Глуск. 2. Кінуць, акінуць вокам. Кл.

АДНЫ′М СЛО′ВАМ 1. Адным словам. Тут, адны́м сло́вам, ні рабіцьмам. Хал. 2. Станоўчы, адмысловы, вартасны ва ўсіх адносінах. А той з Бабру́ску разу́мны й харòшы, адны́м сло́вам. Ст. Ратміравічы. Сваты́ (сват, сваха, радня свата і свахі) ва́шые, адны́м сло́вам. Хал.

АЖАНІ′ЦЦА І Ў ГУЛЬТАЯ СПРЫ′ТУ ХОПІ′ЦЬ. Ажаніцца—дак і ў гультая́ спры́ту хо́піць. Глуск.

АЖ НО′С У ПРЫ′СЯДКІ ХО′ДЗІЦЬ( *арф.*). Гаворадь, бачачы, што хто-небудзь старанна, хутка есць. Глуск.

АНДРЭ′Й, НЕ ДУРЭ′Й, НЕ ДЗЯРЫ′ САРО′ЧКІ: НЕ ТЫ′ ПРАЎ, НЕ ТЫ′ ТКАЎ, НЕ ТВАЕ′ І ДО′ЧКІ (*арф.*). Кл. Параўн.: Андрэ́й, не дурэ́й, не дзяры́ саро́чкі: не ты́ праў, не ты́ ткаў, не тваé рабòткі. Загор'е Карэліцкага раёна.

АНІ ДУ′МАЦЬ! (*ані ду́маць!*) 1. Ні за што, ні ў якім разе. Мы й прасілі, мы й гразілі, мы й гасьці́нца дава́лі, а ён—ані ду́мадь. Глуск. Ці віна́ дава́й, ці самаго́нкі, ці чаго, то ён а́ні ду́мадь (не п'е ні ў якім выпадку, ніяк не пачастуеш пітвом). Хал. Параўн.: у рускай мове ни в какую.

АПУ′ДЗІЛА ГАРО′ХАВАЕ (*апудзіло(а) гаро́хавае*). Пудзіла гарохавае. Кл. Гл. апу́дзіла ў выпуску 1959 г.

АСЁ′Л МАЛЯВА′НЫ (*арф.*). Прастамоўна-ацэначнае—тупіца, няздатны, неразумны. Кл.

АСІ′НА—ЧО′РТАВА СІ′ЛА (*арф.*). Сэнс незразумелы. Глуск.

БА′БІНА ЛЕТА. Уво́с[е]нь бывáе бàбіно лêто. Хал.

БАГА′ТА СНЕ′ГУ, БАГА′ТА ХЛЕ′БА. Бага́то сьнêгу, бага́то хле́ба. Хал.

БАГА′ТА ШТО. Бага́та што раска́зваў. Вольн. Стары́ той багàто што, бага́то чаго́ вêда[е]. Зуб.

БАРТНЫ′ ДУБ (*бартны́ дуб*). Бартны́ дуб—як тапанімічная назва мясцовасці. Паходзіць з таго, што некалі стаяў дуб, у якім вяліся без усякага догляду (пры зберагáнні ўсімі жыхарамі вёскі) пчолы. Хал.

БЕЗ ПАДПА′ЛІУ ДРО′ВЫ НЕ ГАРА′ЦЬ. Б[е]с патпа́лу дро́ва н[е] гара́ць. Кл.

Б′Е′ЦЦА—НА НО′ВАЕ БЯРЭ′ЦЦА *(арф.)*. Глуск.

БЛІ′ЗКІ СВЕТ *(блізкі сьвêт, блізкі сьвет)*. Далёка. Н[е] йдзі́, ўну́чак. Блі́зкі сьвêт! Цё́мно, чо́рно. Хіба́ дня́ ма́ло бу́дзе? Кл. Ці ва́рт êхаць блі́зкі сьвêт на два́ дні? Барб.

БОГ НЕ ЦЯЛЯ′, УБА′ЧЫЦЬ КРУЦЯЛЯ′[1] *(арф.)*. Кл.

БО′САЯ ЯЕ′ЧНЯ. Бо́сае [е]ё́шні ні люблю́. Кл. Параўн.: у рускай мове яичница-глазунья.

БРА′ЦЦА ЗА′ГРУДКІ *(бра́цца за́грудкі)*. Біцца, кідацца ў бойку. Рыго́равы ўсе жыццé, да са́маго калга́су бра́ліса за́грудкі. Кл.

БРАЦЬ (НЕ БРА′ЦЬ) ДА ДУШЫ′, БРАЦЬ (НЕ БРА′ЦЬ) К ДУШЫ′ *(арф.)*. Кл. Глуск, Сл. Брацьʼ (не бра́ць) да душы́. Радашковічы; вв. Кліманты, Путнікі Маладзечанскага раёна; вв. Угляны, Лекараўка, Казекава Мінскага раёна.

БРАЦЬ (НЕ БРА′ЦЬ) К СЭ′РЦУ *(арф.)*. Кл. Параўн.: брацьʼ (не бра́ць) да сэрца. Радашковічы; вв. Угляны, Казекава, Лекараўка, Юзафова, Пунішча Мінскага раёна.

БРАЦЬ У СКЯМЫ′ *(брацьʼ у ск[е]мы́)*. Тое, што браць у лісіцы (гл. браць у лісіцы ў выпуску 1959 г.). Брацьʼ ко́мін у лісі́цы, гаво́рацьʼ у ск[е]мы́. Кл.

БУ′ДЗЕ ЛЮДЗЯ′М, ТО БУ′ДЗЕ І НА′М. Бу́дзе людзя́м, то бу́дзе й нам. Барб.

БУДЗЬ ЗДАРО′ВЕНЬКІ НА ЎВЕ′СЬ ГОД, ЯК КАЛЯДНЫ ЛЁД. Будзь здаро́вянькі на ўве́сь год, як каля́дны лёд. В.

БЫЛО′, БЫЛО′ ДЫЙ ПАГО′РШАЛА *(було́, було́ дай пагоршало)*. Цяжка, невыносна было, а потым яшчэ

———

[1] Звяртае на сябе ўвагу дзівосны прыём у народнай творчасці—знішчальнае зніжэнне (бога): бог—не цяля.

цяжэй, невыносней стала. (З успамінаў пра гады нямецкай акупацыі і вельмі страшэнную блакаду партызанскай зоны незадоўга да вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкай акупацыі). Сл.

БЫЎ У ПЕРАПЛЁ'ЦЕ *(арф.)*. В. Параўн.: быў у мялах. Касцюковіцкі раён.

БЯЖКО'М, АЛЕ НЕ ХАПА'ЮЧЫСЯ *(арф.)*. Хітраванне, паказная стараннасць. Стр.

ВАЗЬМІ' АКРА'ЙЧЫК, КАБ БЫЎ ХЛО'ПЧЫК МІКАЛА'ЙЧЫК *(арф.)*. Прыгаворка.

ВАРЫ'СТАЯ ПЕЧ *(варыста печ)*. Тое, што і руская печ. Глуск.

ВЕ'ДЗЬМІНАЕ ВЯСЕ'ЛЛЕ *(вéдзьміна[е] в[е]-сéльл[е])*. Так гавораць, калі на дварэ моцны вецер (рве, круціць, мяце), сыплецца снег ці ідзе дождж. Ст. Ратміравічы.

ВЕК ГАРУ'Ю І СМА'КУ НЕ ЧУ'Ю. Прышóў раз той Кандрáт да пáна й путáяцца: Мо навýчыш, панóчку, я́к жыць багàто, каб мáло рабíць і багáто жыць. А то я вêк гарýю й смáку ні чýю. Разгнêваўса пан. Кл.

ВЕ'КУ ЎКАРАЦІ'ЦЬ. Багáта камý вайнá вêку ўкарацíла. Зуб.

ВЁ'РТКІ, ЯК УЮ'Н *(ўёрткі, [е]к уюн)*. Сл

ВОСЬ' ТАБЕ' І НА'! От табê й нá! Вокліч з выпадку чаго-небудь незвычайнага, дзівоснага. Хал., Сл.

ВО'СЬ ТАБЕ' І РА'З! От табê й раз! Вокліч з выпадку чаго-небудзь незвычайнага, дзівоснага. Кл., Сл. Гл. Вось табе і на!

ВО'СЬ ТАБЕ' І СПІ'ТКІ І З'Е'ДКІ. Вóт табê й сьпíткі й зьêдкі. Гавораць, калі слабыя вынікі працы, а таксама ў выпадку цяжкай хваробы, калі няма надзей на папраўку, ці ў выпадку смерці (у сэнсе—не трэба ўжо ні піць, ні есці). Кл.

ВО'ЧЫ ВЫЙМА'ЦЬ *(вóчы вуймáць, вóчы выймáць,*

*вочы ўмáць)*. Не даваць праходу, зневажаць, бясконца крыўдзіць. Сым., Кл., Глуск.

ВО'ЧЫ КАЛО'ЦЬ *(вóчы калóць)*. Тое, што вóчы выймáць. Кл.

ВО'ЎЧАЕ МЯ'СА *(вóўчае м'ясо, вóўчая мяса)*. Хал., Кл., Сым. Тое, што і ваўкарэ́зіна (гл. ваўкарэ́зіна) — у гневе гаварацъ на жывёліну (каня, вала ці інш.). Уцёк (конь) вóўчае м'ясо, здуганю́, то наўздаю́ (гл. наўздавáць у выпуску 1959 г.). Хал.

(У САБАКІ) ВОЧ ПАЗЫ'ЧЫЎШЫ *(воч̂ пазы́чыўшы, вачэ́й пазы́чыўшы)*. Перамагаючы сорам, гаварыць з кім-небудзь, адчуваючы сябе вінаватым. Так падгáдзіць (гл. падгáдзіць) і йці к йім? Хібá у сабáкі во̂ч пазы́чыўшы? Кл.

ВЫ'БРЫКАЎ НАРАБІ'ЦЬ *(вы́брыкаў нарабіць, надзе̂лаць вы́брыкаў)*. Гл. зрабіць выбры́к. Параўн.: навыкідваць кóнікаў. Параўн.: у рускай мове отколоть номер.

ВЫ'ЛЕЗ ДУХ *(вýляз дух)*. Што б сь цябé вýляз дух! Кл.

ВЫ'САХ, ЯК ТРЭ'СКА *(вýсах, вы́сах, [е]к трэ́ска)*. Хал.

ВЫ'САХЛА, ЯК ПЕ'РАЦ. Сêно вýсахло, як пéрац. Кл.

ВЫ'ЦЯГНУЦЦА НА НІ'ТКУ *(арф.)*. Вельмі шчыра, на ўсю сілу. Глуск.

ВЯЛІКО'ДНАЯ ЗА'ТАЎКА *(арф.)*. Так называюць, сала (здор), скручанае і звязанае, з забітага перад вялікаднем (пасхаю) кабана. Пас. Янкі Купалы.

ГІ'ТЛЕРУ ДУХ ВОН І КІ'ШКІ НА ТЭЛЕФО'Н. Гітл[е]ру дух вон і кішкі на ц[е]ліфóн. Глуск.

ГЛУХІ', ШТО ПЕ'НЬ. Глухі, што пéнь. Вольн.

ГО'СЦЮ ТРЭ'БА ДАРАВА'ЦЬ, А ГАСПАДАРУ' ПРАМАЎЧА'ЦЬ *(арф.)*. Кл

ГРАДАВА'Я СЕРАДА' *(арф.)*. Жыве ў памяці (толькі ў старэйшых) як адгалосак старадаўняга веравання. Адзначалася «градавая серада» два разы на год —

пасля вялікадня або пасхі і пасля тройцы; святкавалася градавая серада дзеля таго, каб не было граду, каб не быць пакараным вялікім градам; на градавую сераду нельга было стукаць. Пас. Янкі Купалы, Мсціслаў.

ГУ′ЛІ І ПА′НА РАЗУ′ЛІ. Гу́лі й па́на (памешчыка) разу́лі. Зуб. Гл. гу́лі.

(ДАВЕСЦІ) ДА ПУСТО′ГА КАНЦА′ (*арф.*). Кл., Глуск.

(ДАГАВАРЫ′ЦЦА) ДА ПУСТОГА КАНЦА′ (*арф.*). (Дагаварыцца) да недарэчнасці. Кл.

ДАБІ′ЦЬ ДА АБУ′ХА (*дабіць да абу́ха, дабіць да абуха́*). Вольн., Сым., Глуск.

ДАБІ′ЦЬ ДА ПУХІ′ (*дабіць да пухі*). Дабіць да канца. Выраз «дабіць да пухі», магчыма, узнік з гульні ў біткі (гл. бітка[2] ў выпуску 1959 г.). Кл.

ДАВА′ЦЬ КРУ′ГУ (*дава́ць кру́гу, дава́ць кру́га*). Кл. Параўн.: у рускай мове делать крюк, даваць крюку.

ДАЖЫ′ЦЦА ДА ПУСТО′ГА КАНЦА′ (*арф.*). Байл.

ДАЙ БО′ЖА НО′ГІ. Наўцёкі, уцякаць, даць драпака. Мы́ тут на заса́дзе былі. Зьбілі машы́ну (нямецка-фашысцкіх акупантаў) да хацêлі забра́ць, што там было́ ў ёй. Тôлькі к машы́не, а [е]ны́ зь лêсу па на́с [е]к лупану́лі, [е]к лупану́лі. Відзім б[е]да́ бу́дзе да да́й божа но́гі! Хал.

ДАЙСЦІ′ ДА ПУ′ГІ (*дайці да пу́гі, дайсьці да пу́гі*). Уладальніку маёмасці, гаспадару дажыцца да становішча пастуха (які нічога не мае). Выражэнне былых сацыяльных адносін. Кл., Сым., В.

ДАРМА′ ШТО. Дарма́ што ніхаро́ша (непрыгожая дзяўчына), але разу́мна, ру́ча (гл. ру́чы ў выпуску 1959 г.), со́вясна. Кл.

ДАЦЬ ГРЫМАКА′ (*арф.*). Кл. Гл. грыма́к.

ДАЦЬ КРУ′ГУ (*даць кру́гу, даць кру́га*). Кл. Параўн.: у рускай мове сделать крюк, дать крюку.

ДАЦЬ КУХТАЛЯ′ (*даць кухталя́*). Глуск, Кл.

ДАЦЬ ЧО′СУ. Што і даць пéрцу, даць наганя́й. Глуск.

ДЛЯ ЧАГО′ (*для* і *дл[е] чагó*). Чаму, нашто. Дл[е] чагó ён éтак сказáў? Хал. А для чагó так зрабілі? Глуск. Гл. ля чагó.

ДНЁМ ЛУЧЫ′НУ ПА′ЛІЦЬ, А ЎНО′ЧЫ Ў ЦЯНЁ′К ХАВА′ЕЦЦА. Днём лучы́ну пáліць, а ўнóчы ў ц[е]нёк хавáяцца. Глуск.

ДО′БРА І ЧЫНІ′ЛІ. Дóбр[э] й чынілі, што сказáлі. Кл. Аштрафавалі. Дóбра й чынілі! Мо рабіцьме, як і ўсе. Пас. Янкі Купалы.

ДО′БРУЮ ТРАВІ′НУ (траву́) ЛЮ′ДЗІ СЕ′ЮЦЬ, А ЛІХА′Я ЧОРТ ВЕ′ДАЕ АДКУ′ЛЬ БЯРЭ′ЦЦА. Дóбру травíну (траву́) лю́дзі сêюць, а ліхáя (гл. ліхí[1] ў выпуску 1959 г.) чорт вêдае аткýль б[е]рэ́цца. Зуб.

ДО′ЎГІ ЯЗЫ′К (*арф.*). Чалавек з доўгім языком— балбатун, любіць гаварыць лішняе. За доўгі язы́к нідзé ніхтó не хвáліць (*арф.*). Зуб.

ДРАЦЬ ДРА′ЧКУ (*арф.*). Рабіць драчкаю (гл. дрáчка) знак на бервяне. Кл.

ДУХ ВЫ′БІЦЬ (*дух вýбіць, дух вы́біць*). Глуск, Сл.

ДУХ ВЫ′ШАЎ (*дух вы́йшаў, дух вýйшаў*). 1. Літаральнае: дух выйшаў—выйшла (не зачынілі коміна юшкаю) цёплае паветра. 2. Дух выйшаў (з некага)—памёр (нехта). І дýх вýйшаў. Хал. Штó б сь цябé вýйшаў дух. З жартоўнага апавядання. Кл.

ДУХ СПЕ′РЛА (*дух сьпéрло*). Тое, што і дух заняло. Хал.

ДЗЕ СУНІ′ЧНІК, ТАМ І СУНІ′ЦЫ (*арф.*). Пас. Янкі Купалы.

ДЗЕНЬ ПРЫ ДНІ′ (*арф.*). Штодзённа, бесперапынна. Вольн.

ДЗЕ′НЬ У ДЗЕ′НЬ. Штодзённа, бесперапынна. Дзéнь у дзéнь лêцячко касíць хадзіў. Кл.

ДЗЕ′ТКІ—ЗА ЦЁ′СКІ, А МАЦЯРКІ′—ЗА КО′СКІ (*арф.*). Хал. Гл. цёска, цёсачка ў выпуску 1959 г.

ЖЫВАТО'М КАЧА'ЦЦА. Карнёй малы́ ўсе жыватóм качáўса (быў хворы жывот, страўнік). Кл. Пярастáньце па пасьцéлі качáцца, каб вы жыватóм качáліся. Вольн.

З БЕ'ЛАГА СВЕ'ТУ. Зь бêлаго сьвêту прыêхаў. З далёкіх мясцін, нетутэйшы, няблізкі. Кл.

З БІЗУНО'М І КАНЯ' ЗНАРАВІ'ЦЬ МО'ЖНА. (*арф.*). Вольн.

З КІШЭ'НІ КАНЯ' НЕ НАКО'РМІШ. С кішэ́ні каня́ н[е] накóрміш. Зуб.

ЗАДА'ЦЬ ЖА'ХУ (*арф.*). Сым.

ЗА ДО'ЎГІ ЯЗЫ'К НІХТО' НІДЗЕ' НЕ ХВА'ЛІЦЬ (*арф.*). Зуб. Гл. дóўгі язы́к.

ЗА'ЙЦАЎ ХЛЕБ (*арф.*). Гл. зáйчыкаў хлеб. Кл.

ЗА'ЙЦАЎ ШЧА'ВЕЛЬ (*зáйцаў шчáв*[*е*]*ль*). Назва расліны (Oxalis acetosella). Параўн.: у рускай мове кислі́чка.

ЗА'ЙЧЫКАЎ ХЛЕБ. Зайчыкаў хлеб—гасцінец дзецям, які прывозіў бацька з вялікае дарогі (напрыклад, з лесавывазкі, з сенавывазкі: жыхары вёскі Клетнае касілі на часць кулацкую сенажаць на Любаншчыне—за 40—60 км). Гэта—кавалачак хлеба з скварачкаю сала ці проста кавалачак хлеба. Зайчыкаў хлеб—выражэнне цеплыні адносін да дзяцей у шмат якіх сем'ях вёскі Клетнае. Дзеці чакалі, сумуючы, бацьку з вялікай зімовай цяжкай дарогі і, атрымаўшы зайчыкаў хлеб, старанна елі яго, нават калі былі зусім не галодныя, калі на стале ляжаў хлеб і сала: дзеці ўспрыймалі шчырасць і клопат бацькі. Кл.

ЗАТУЛІ'ЎШЫСЯ Ў КУТО'К, ПА ТРЫ ЧА'РАЧКІ Ў РАДО'К. Затулíўшыса ў кутóк, па тры́ чáрачкі ў радóк. Баян.

ЗАЧЫНІ'ЦЬ ДЗВЕ'РЫ. Зачыніць (за кім-небудзь) дзверы—правесці (каго-небудзь). Зачыні́, сынóк, за дзя́дзькам дзьвéра. Кл.

ЗВАНІ'ЦЬ ЯЗЫКА'МІ (*арф.*). Глуск.

ЗДАРАВЕ'ННЫ, ШТО ДУБ (*арф.*). Кл.

ЗДАРО'ВЫ, ЯК РЫ'БА. Здаровы—у сэнсе не хворы, ніякае хваробы, ніякіх балячак. Кл.

ЗНАЙСЦІ' ГРЫ'БА *(арф.)*. 1. Прамое значэнне. 2. Стукнуцца нагою (аб камень, аб корань, палку ці інш.). Узнікненне звязана з падабенствам: нагінаюцца, прысядаюць, знайшоўшы грыба,—нагінаюцца, прысядаюць, стукнуўшыся нагою (босаю). Кл.

ЗРАБІ'ЦЬ ВЫ'БРЫК *(зрабіў выбрык, зьдзелаць выбрык)*. Запісана ў аўтамабілі па дарозе з Слуцка ў Глуск, месца жыхарства аўтара не ведаю. Параўн.: ко́ніка вы́кінуць (гл. вы́кінуць ко́ніка). Параўн.: у рускай мове отколоть номер.

ЗРАБІ'ЦЬ КРУГ *(зрабіць круг)*. Кл. Гл. рабіць круг, даць кругу. Параўн.: сделать крюк, дать крюку.

ЗУ'БЫ ПРАДАВА'ЦЬ *(зу́бы прадава́ць, зу́бу прадава́ць)*. Выскаляцца, выскаляць зубы. Кл.

ЗУ'БЫ СУШЫ'ЦЬ *(зу́бы сушы́ць, зу́бу сушы́ць)*. Выскаляцца, выскаляць зубы. Кл.

ЗЫ'Р І ЗЫ'Р, АЖ У МАЗЫ'Р. Зы́р ы зы́р, аж у Мазы́р. Кл. Гл. зы́рыць.

ЗЫ'РЫ-ЗЫ'РЫ, У МАЗЫ'РЫ. Кл. Гл. зы́рыць.

ЗЯМЛІ', ЯК БА'БЕ СЕ'СЦІ. Зямлі́, як ба́б[е] сêсьці. Пас. Янкі Купалы. Параўн.: зямлі, як на пры́печку.

ЗЯМЛІ', ЯК НА ПРЫ'ПЕЧКУ. З[е]млі́ [е]к на пры́пячку. Вельмі мала зямлі. Кл. Параўн : Зямлі, як бабе сесці (адлюстраванне былога зямельнага становішча сялян).

І АДНО' НЕ ЦУКЕ'РКА, І ДРУГО'Е НЕ РЭ'ДЗЬКА *(арф.)*. Глуск.

І ЗА ЛУЧЫ'НКУ ЗНО'ЙДЗЕ ПРЫЧЫ'НКУ. І за лучы́нку зно́йдзя прычы́нку. Глуск.

І КАСЦЕ'Й НЕ ЗБЯРЭ'Ш. Кажу табê на до́брае: ву́піў, то йдзі́ спаць, а то́—грабану́, што й касьце́й ні зьб[е]рэ́ш. Кл.

І КРО′ШАЧКІ ПАБРА′ЦЬ. 1. Літаральнае значэнне. 2. Дакладна такі, копія. Васіль ўвесь дзёд, і крошачкі дзёдавы пабраў. Кл.

І МАЯ′ ДО′ЛЯ НЕ ШЧАРБА′ТАЯ! І я маю права! І мяне з падрахунку не скідайце! Мяне нельга абысці, пакінуць без увагі! Кл., Глуск.

І НЯЎМЕ′ЛЫ І НЯСМЕ′ЛЫ *(і н[е]ўмêлы і н[е]сьмêлы)*. Зуб.

І ЎЕ′ЖНА І ЎЛЕ′ЖНА. Хочаця, каб было й уêжна і ўлêжна. Ст. Ратміравічы.

ІДЗІ′ З ЛЮДЗЬМІ′, ТО НЕ ЗГУ′БІШСЯ. Ідзі зь людзьмі, то н[е] загубісься. Глуск. Параўн.: Ідзі зь людзьмі, дык ня згубісься. Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна.

ІСЦІ′ НА ЗАКЛА′Д *(арф.)*. Кл Гл. ісці ў заклад. Параўн.: у рускай мове биться об заклад.

ІСЦІ′ Ў ЗАКЛА′Д *(арф.)*. Глуск. Кл. Гл. ісці на заклад.

ІШО′Ў КНЫР З КНЫРАНЯ′ТАМІ. Ішоў кныр с кныранятамі. Скарагаворка; паўтарэнне *к, н, р* робіць фразу нязручнаю для вымаўлення. Кл.

КАБ ПІЛО′СЯ, Е′ЛАСЯ І ЯШЧЭ′ ХАЦЕ′ЛАСЯ. Кап пілося, êлася і шчэ хацêлася. Вайц. Што б пілосо, êласо і йшчэ хацêласо. Кл.

КАЛІ′ ГАСПАДА′Р СЕЎ, ТО ПА′РАБАК ЛЁГ; КАЛІ′ ГАСПАДА′Р ЛЁГ, ТО ПА′РАБАК ЗАСНУ′Ў. *(арф.)*. Сл.

КА′ЛІВА Ў КА′ЛІВА. Вельмі добрая, роўная збажына; калівы адной вышыні і ўрадлівасці. Жыто стаіць каліво ў каліво, сьц[е]бло ў сьц[е]бло. Сл.

КАМУ′ ШТО′, А ЛЫ′САМУ ГРЭ′БЕНЬ. Каму што, а лысаму грэб[е]нь. Глуск.

КАМУ′ ШТО′, А СВІННІ′ ЦЕ′СТА. Каму што, а сьвіньні цêста. В.

(1) КА′ПАЧКІ САБРА′Ў *(арф.).* Вельмі падобны. Глуск.

(1) КА′ПАЧКІ ПАДАБРА′Ў *(арф.).* Вельмі падобны. Глуск.

КАТО′РАЯ ПАРА′ *(катóра пара́, катóру пóру).* Даўно, доўга. Гуляю катóру пóру. Сл. Катóра пара́, а іх ні чуткі ні прачуткі. Хал.

КАСІ′ Ў ДО′ЖДЖ, ТО Ў ПАГО′ДУ ЗГРАБЕ′Ш. Касі ў дож, то ў пагоду зграбéш. Сл.

КАЦІ′НАЯ МА′ЦІ *(каціна мáці).* Жартоўна: дзяўчынка, якая надта любіць гуляць з катамі, з кацянятамі. Кл.

КА′ШУ ВАРЫ′ ГУСТУ′Ю, А Ў ДАРО′ГУ БЯР′Ы ТО′РБУ НЕ ПУСТУ′Ю *(арф.).* Зуб.

КІ′НУЛА Ў ТРА′СЦУ. Кінуло(а) ў трáсцу. Кл., В.

КІ′НУЛА Ў ХВАРО′БУ. Кінуло ў хварóбу. Сл. Кінула ў хварóбу. Кл.

КІ′НУЦЬ-РЫ′НУЦЬ. Хібá так трэ́ба? Прытнóм (гл. прытнòм і пры́тнам у выпуску 1959 г.) кіне-ры́не (хату, двор) і гуля́ць. Кл. Кінулі-ры́нулі (сена ў валках, не склалі ў копы) да й пашлі. Хал.

КІ′ШКІ МА′РША ІГРА′ЮЦЬ. Кішкі мáрша йгрáюць. В. Параўн.:—За работу, дык за работу...—азваўся Шкурдзя.—Толькі кішкі марша граюць. Кандрат Крапіва, Збор твораў, т. II, Мінск, стар. 145.

КЛО′ПАТ ВЯЛІ′КІ *(арф.).* 1. Літаральнае значэнне. Наштó табê ѐтае забіцьцé? (Гл. забіццé ў выпуску 1959 г.). Наштó табê такі клòпат вялікі? Кл. 2. Не бяда, нічога, не сумуй, не трэба непакоіцца. У такім значэнні ўжываюць, калі суцяшаюць таго, у каго здарылася бяда, хто клаптуе (гл. клаптавáць у выпуску 1959 г.), непакоіцца. Кінь, чалавêч[э], й дýмаць. Клóпат в[е]лікі—не паступіла дачкá вучы́цца. Хай ідзé да й робіць. Маладáя, здарóва, харóша. Глуск.

КО′НІКА ВЫ′КІНУЦЬ *(кóніка вы́кінуць).* Шум., Глуск. Параўн.: у рускай мове отколоть номер. Параўн.: зрабіць вы́брык, нарабіць вы́брыкаў.

КО'НІКАЎ НАВЫКІДА'ЦЬ *(кóнікаў навукідáць, навыкідáць кóнікаў)*. Глуск. Гл. вы́кінуць кóніка. Параўн.: у рускай мове отколоть номер.

КО'НІКІ ВЫКІДА'ЦЬ *(кóнікі выкідáць)*. Глуск.

КРАЙ БЕ'ЛАГА СВЕ'ТУ *(край бе̂лага сьве̂ту)*. В.

КРО'ЕНАЕ ШЫЦЬ. 1. Літаральнае значэнне. Кл. 2. Прапаноўваць такія паслугі, якіх не прымуць; прапаноўваць выканаць такую частку працы, якую нельга перадаць другому. Растлумачылі канкрэтнае паходжанне: браты, няздатныя да навукі і працы, вучыліся на краўцоў і не навучыліся найпершай справе для самастойнай працы—кроіць. Але яны паспрабавалі выступіць у ролі краўцоў, прайшлі па суседніх вёсках пытаючыся: «У кагó е (гл. е) крóянае шыць? Мо е крóянае шыць?»—Кроенага, зразумела, ні ў кога не было, бо «хто пакройіць, той пашые». Кл.

КРО'ІЦЬ СЭ'РЦА *(арф.)*. Пераядаць вантробы, уядацца ў косці, тыраніць, тэрарызаваць. Кл.

КРУГАВЫ' МЯ'ЧЫК *(кругавы́ мя́чык, кругавы́ м'я́чык)*. Назва гульні, пры якой адна партыя (чатыры чалавекі) стаяць на конах (на вуглах квадрата), а другая партыя (праціўнікі) знаходзіцца ў крузе (у квадраце); мяч у тых, хто на конах; задача—«выбіць» усіх праціўнікаў пападаннем мяча. Параўн.: падкідны́ мя́чык, салавéй (гл. падкідны́ мя́чык, салавéй[2]). Кл., пас. Янкі Купалы.

КРЭ'ПКАЯ ГАЛАВА'. Разумны, вельмі працаздольны і вынослівы ў разумовай працы. Чалаве̂к крэ̂пкае галавы́. В.

КУРЫ'НАЯ СЛЕПАТА' *(арф.)*. Глуск.

КЫШ ПАД ПЕЧ, ТАМ МЯДЗВЕ'ДЗЬ КА'ШУ ВА'РЫЦЬ, ВАМ ПАДА'РЫЦЬ. Кіш (і кыш) пуд (і пад) печ, там мядзьвéдзь кáшу вáрыць, вам падáрыць. Прыгаворка. Даўней курэй трымалі зімою пад печчу; заганяючы пад печ, прыгаварвалі: «Кыш пад печ...». Кл.

(ШУКА′ЦЬ) ЛЁ′ГКАГА ХЛ′ЕБА. Шука́ць лёгкаго хлêба. Кл.

ЛЁ′ГКА РАДЖА′Е, ЯК ХЛЕБ САДЖА′Е. Лёгко раджа́е, [е]к хлеб (у печ) саджа́е. Пра лёгкія роды. Ст. Ратміравічы.

ЛЕ′ЗЦІ Ў ВО′ЧЫ *(арф.)*. Хал., Сл.

ЛЕ′ТА НА ЗІМУ′ СВА′РЫЦЦА *(арф.)*. Гавораць у спёклівае, гарачае лета пасля марознай, лютай зімы. Вольн.

ЛІХА′Я СКУЛА′. Пра чалавека—ліхога, злога, капрызлівага. Скула́ ты ліха́я. Кл. Гадзі́, што ліхо́й скулê. Сл.

ЛІХА′Я ЧАСІ′НА *(арф.)*. Кл.

ЛІХО′Е СЛО′ВА ПРАКАЎТНІ′ *(арф.)*. Глуск. (Гл. пракаўтну́ць). Параўн.: Як бры́ткая сло́ва сказа́ць, дык ле́пі язы́к вы́плюнуць. Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна.

ЛЯ ЧАГО′ *(ля* і *л[е] чаго́)*. Чаму, нашто. Л[е] чаго́ ето сьві́ньне ні гна́лі (пасвіць)? Кл. Ля чаго́ нам ду́маць за йіх? В. Гл. для чаго́ (у адным значэнні).

МО′КРЫ, ХОЦЬ ВЫ′КРУЦІ. Мокры, хоць вы́круці. Мôкры, хаць вы́круць. Зуб.

НА АДНО′Й НАЗЕ′. Вельмі хутка, найхутчэй. Што б да ве́чара й ту́т былі́, ху́цянька, на аднôй назê. Кл.

НА ДЫ′БАЧКАХ. Хал., Сл., Кл. Параўн.: Потым ён вярнуўся, ступаючы нячутна, на дыбачках, і было чуваць, як у яго пакоі зашумеў пульверызатар. І. Шамякін, Крыніцы, Мінск, 1957, стар. 238.

НА ДЗЕ′НЬ ЗАНЯЛО′СЯ. На дзе́нь занядо́со. На дзе́нь занало́ся. В., Барб., Кл.

НА ПНІ′ *(на пні)*. Пра нязжатае збожжа, нязрэзаны лес. Ужэ́ ні аднаго́ ге́ктара (збожжа) на пні́ н[е]ма́. Хал. На пні́ вугаднêй (лес) купля́ць. Сл. Параўн.: у рускай мове на корню.

НА СТРАСЕ′ ВАЛА′ ПА′СВІЦЬ. Выяўляць бесталковіцу, рабіць бесталкова. Так ты й валá на страсê ўздýма[е]ш пáсьціць. Тут бытуе народнае жартоўнае апавяданне пра няўдалага гаспадара, у якога зелянее страха (дрэнна абмалаціў жыта і саломаю накрыў хлеў, жыта прарасло, страха зазелянела); убачыўшы зялёную страху, гэты гаспадар парашыў усцягнуць на страху вала, каб напасвіць яго і спасвіць жыта. Кл.

НА СЫ′ТАГА ЖАРАБЦА′ НЕ ТРЭ′БА ДУБЦА′. На сы́таго жарабцá н[е] трэ́ба дубцá. Сл.

НА ТО′Е І БО′Г: САМ ЗРАБІ′Ў—ТО І ЁН ПАМО′Г. На тò[е] й бôг: сам зрабіў, то й ён памôг. Зуб.

НА ХУ′ТКІМ ЧА′СЕ (*на хýткам чáсе, на хýткам часý*) Адразу (пасля чаго-небудзь), хутка (пасля чаго-небудзь). Хал., Кл., Сл.

НАБРАУ′СЯ, ЯК ГАПО′Н СЛІЎ. Набрáўся, [е]к Гапóн сьліў. Пас. Янкі Купалы. Паходжанне незразумелае.

НАБУРЭ′ННЕ КРЫВІ′ (*арф.*). Галюцынацыі. Зуб.

НАВАРЫ′ЦЬ НА СО′НЦЫ. Жартам, смешкамі адказвае гаспадыня, калі за сталом (абед, снеданне, вячэра) хто-небудзь паскардзіцца, што страва гарачая: Зáўтр[э] на сóнцы наварý. Кл.

НАВУ′КА НЕ МУ′ЧЫЦЬ, А ЖЫЦЬ ВУ′ЧЫЦЬ. (*арф.*). Сым.

НАГНА′ЦЬ ДЫ′ХАВІЦУ (*арф.*). Зуб.

НАДАВА′ЦЬ ГРЫМАКО′Ў (*арф.*). Кл. Гл. грымáк.

НАДАВА′ЦЬ КУХТАЛЁ′Ў (*надавáць кухталёў*). Глуск, Кл. Гл. кухтáль.

НАРАБІ′ЦЬ БЯДЫ′ (*арф.*). Глуск.

НАРАБІ′ЦЬ ГВА′ЛТУ (*арф.*). Глуск.

НАРАБІ′ЦЬ КЛО′ПАТУ (*арф.*). Кл.

НАРАБІ′ЦЬ ЛІ′ХА (*арф.*). Кл.

НАРАБІ′ЦЬ СО′РАМУ (*арф.*). Кл.

НАРАВІ′СТАМУ ПУ′ГА НЕ ПАМО′ЖА *(арф.)*. Вайц.

НАХА′БА НА (МАЮ′, НА′ШУ, ТВАЮ′, ВА′ШУ) ГАЛАВУ′. Кл. Гл. нахáба.

НЕ БУ′ДЗЕ ДУ′БА, НЕ ТРЭ′БА І ГРЫ′БА *(арф.)*. Хал.

НЕ БУ′ДЗЕМ ЗА АДНУ′ ЧА′РКУ РАБІ′ЦЬ СВА′Р-КУ. Ні бýдам за аднý чáрку рабíць свáрку. Вып'ем. Кл.

НЕ БЫЛО′ ТАКО′Е ВАЙНЫ′, КАБ КАМАКА′МІ СТРАЛЯ′ЛІ. Ні былó, брат, такóе вайны́, кап камакáмі стралялі (гл. камакí). Глуск.

НЕ ЗАБАЛІ′ЦЬ—НЕ ЗАПІШЧЫ′ЦЬ *(арф.)*. Кл. Параўн.: Не будзе балець—не будзе крычэць. Мінск (адкуль родам той, ад каго запісана, не ведаю).

НЕ ПІЛІ′ НЕ Е′ЛІ, А ВЕ′К ГАЛЕ′ЛІ. Ні пілí ні ȇлі, а вȇк галȇлі. Зуб.

НЕ ПІ′ЎШЫ НЕ Е′ЎШЫ. Сем дней у балóце ні піўшы ні ȇўшы. Кас.

НЕ ЎСЯ′КАЯ ХМА′РА ДАЖДЖУ′ (ДОЖДЖ) ДАЕ′. Ні ўсяка хмáра дажджý даé. Кл. Ні ўсяка хмá-ра дож даé. Глуск.

НЕ ХВАЛІ′СЯ СЕ′ЎШЫ, ПАХВАЛІ′СЯ З'Е′ЎШЫ. Н[е] хвалíся сеўшы, пахвалíся зьȇўшы. Зуб.

НЕ ХВАЛІ′СЯ, ЯК ПАЧЫНА′ЕШ, НЕ ТО′ЙСЯ, ЯК ЗРО′БІШ. Н[е] хвалíся, як пачынà[е]ш, ня тóйся, як зрò-біш. Запісана па дарозе з Слуцка ў Глуск.

НЕВЯЛІ′КАЯ ШТУ′КА. 1. Літаральна: невялікае што-небудзь. 2. Нічога дзіўнага (нядзіва, нядзіўна). Н[е]в[е]лíка штýка, што твая́ (дачка) жаць умȇе. Хал.

НІ КРУПІ′НКІ НІ КАРТО′ПЛІКА *(арф.)*. Кл.

НІ КУРЧА′ЦІ НІ ПАРАСЯ′ЦІ. Няма нічога, ніякай гаспадаркі. Ні курчáці ні парася́ці. Зуб. Аслабанілі (Савецкая Армія ў чэрвені 1944 г. ад нямецка-фашысц-кай акупацыі)—то нічагéнячкі не булó. Кáжуць: ні па-расяці, ні курчáці. Сл.

НІ ТО′ЛКУ НІ ПАРА′ДКУ. Бес хаджáйіна ні тóлку ні парáдку. Кл.

НІ Ў ПЯЦЕ′ НІ Ў ГАЛАВЕ′ *(арф.)*. Ніяк не хвалюе, не цікавіць, не мая справа. Глуск.

НІ ЧУ′ТКІ НІ ПРАЧУ′ТКІ. Катóра пара́ (гл. катóрая пара́), а йіх ні чу́ткі ні прачу́ткі. Хал. Параўн.: у рускай мове ни слуху ни духу.

НО′ВЫ ВЕ′НІК ПЕ′РШЫ РАЗ НЯЧЫ′СТА МЯЦЕ′. *(арф.)*. Глуск.

НЫРЦА′ ДАЦЬ *(нырцá даць)*. 1. Прамое значэнне— нырнуць. Сым., Хал. 2. Знікнуць. Сым.

НЯВЕ′СТКА ПО′РСТКАЯ—ЯК СЕ′НА ШО′РСТКАЕ *(арф.)*. Сым.

НЯМА ЛА′ДУ ДЗЕ *(арф.)* 1. Невядома дзе. 2. Далёка. Кл., Сл.

НЯМА ЛА′ДУ КАЛІ. Пайду́ аднá, німа лáду калі гультáй той пóйдзе. Поб.

НЯМА ЛА′ДУ КО′ЛЬКІ. Курáм німа лáду кóлькі трэ̀ба ȇсьці (г. зн. багата). Кл.

НЯМА ЛА′ДУ ЯК. Німа лáду як тут рабіць; каму́ машы́ну прыпаручы́ць? Барб.

НЯМА ЯК. Зь дзȇцьмі б[е]с карòвы німа я́к. Сым.

НЯЧЫ′СЦІК ПАДКАСНУ′ЎСЯ *(н[е]чы́сьцік паткаснýўся)*. Глуск.

ПА ВО′ЛІ. Па жаданню. Па вóлі ці не па вóлі, але прыўȇў. Зуб.

ПА ДАБРАВО′ЛІ *(па дабравóлі)*. Добраахвотна. Кл., Хал.

ПА КАМАРО′ВАЙ ДЗЮ′БЕ *(арф.)*. Па вельмі мала, патрошку, пакрышачцы. Зуб.

ПАГА′ЎКАЕ, ЯК САБА′КА НА ЛІСІ′НУЮ НАРУ′. Пагáўкае, [е]к сабáка на лісíную нòру. Глуск.

(ПАДСТРЫГЧЫ) ПАД ГАРШЧО′К *(арф.)*. Кл., Глуск.

ПАД НО′САМ ВЕ′ЦЕР *(арф.)*. Так адказваюць жартам на скаргу, што вельмі гарачая страва, што нельга ȩсці. Кл.

ПАДКІДНЫ′ МЯ′ЧЫК (*паткідны м'ячык, паткідны мячык*). Назва гульні, тое самае, што салавей[2] (гл. салавей[2]). Параўн.: у рускай мове лапта.

ПАДНЯ′ЦЬ ГАРМІ′ДАР (*арф.*). Глуск, Вайц.

ПАДПІЛАВА′ЦЬ РО′ГІ (*патпілавáць рóгі*). Вéльмі ні скачы, ні такіх бáчыў. Знóйдуцца й табê патпілавáць рóгі. Кл.

ПАЕ′ХАЛА СТО′, НА СІ′ВЫМ КАНІ′, БЯЖЫ′, ЗДАГАНІ′! Так адказваюць на дакучлівае што? —Што?—Паехала сто... Кл.

ПАЗБІВА′ЦЬ РО′ГІ (*пазьбівáць рóгі*). Кл. Параўн.: у рускай мове обломать рога.

ПАЙСЦІ′ НА ХІ′ТРЫКІ (*пайці* і *пайсьці на хітрыкі*). Глуск, Кл., В.

ПАЙСЦІ′ Ў СВЕТ (*пайці ў сьвêт, пайсьці ў сьвêт*). Глуск, Хал., Сым., В.

ПАКУ′ЛЬ НЕ АЖАНІ′ЎСЯ, ТО БЫЎ АДЗІН (СЫН), АЖАНІ′ЎСЯ—НІВО′ДНАГА НЯМА′. Пóкуль ні ажаніўса, то буў адзін (сын), ажаніўса—нівóднаго німá. Пра тых сыноў, якія, стаўшы сямейнымі, цураюцца бацькоў. Барб.

ПА′ЛЬЦЫ, ЯК ГРА′БЛІ (*арф.*). 1. Памерзлі. 2. Нягнуткія, спрацаваныя (у старых). Хал.

(ЖЫЦЬ) ПАН-ПА′НАМ (*пáн-пáнам*). У раскошы, у багацці. Сыны паўгадóўваў—адзін в[е]лікае навýкі,— грóшы шлюць, сваè багáцьце нідзê дзêласо. Жывé панпáнам. Сл.

ПАПА′СЦІСЯ Ў ПЕРАПЛЁ′Т (*папáсьціса(я) у п*[е]*раплёт*). Вольн., Глуск.

ПАРАЎНЯ′ЦЬ НО′ГІ (*параўня́ць нóгі*). Глуск, Зуб. Пахадзіць пасля працяглага сядзення ці іншай позы, пры якой сагнуты ці падкурчаны ногі.

ПАСПІЛОЎ′ВАЦЬ РО′ГІ (*пасьпілóўваць рóгі*). Глуск. Параўн.: у рускай мове обломать рога.

ПАЧУ′ЦЬ НА АДНО′ ВУ′ХА. Пачуць, але неда-

кладна. Пачу́ў на адно́ ву́хо й раска́зваць дава́й. Кл. Параўн.: Пачу́ў звон, ды не ве́дае, дзе ён.

ПЕРАБРА′ЦЬ ПА КО′СТАЧЦЫ (*арф.*). Вайц.

ПЕРАПЛА′ЎНАЯ СЕРАДА′ (*арф.*). Серада (пасля вялікадня або пасхі), з якое (павер'е) можна купацца. Пас. Янкі Купалы, Мсціслаў.

ПЕРАЯДА′ЦЬ ДУШУ′ (*арф.*). Тэрарызаваць, кроіць сэрца (гл. кро́іць сэ́рца), пераядаць сэрца, выймаць душу. Кл.

ПЕРАЯДА′ЦЬ СЭ′РЦА (*арф.*). Тэрарызаваць, кроіць сэрца (гл. *кро́іць сэрца*), *пераядаць душу*, выймаць душу. Кл.

ПЕРШ ЧЫМ. Перш чым хапа́цца за́ грудкі, дак сказа́ць трэ́ба было́. Кл.

ПІХНУ′Ў, КАБ НЕ ДЫХНУ′Ў (*арф.*). Зуб., Глуск.

ПЛЕ′ЧЫ, ЯК ЗА′СЛАНКА (*арф.*). Шырокія плечы. Вайц. Гл. за́сланка.

ПНЁМ ПА САВЕ′, ЦІ САВО′Ю АБ ПЕ′НЬ. Пнём па савê ці саво́ю ап пе́нь. Зуб.

ПО′ЎЗАЦЬ НА КАРА′ЧКАХ (*арф.*). Кл.

ПРАГНА′ЦЬ СМА′ГУ. У ро́ц[е] пярасо́хло. Хадзь бы сма́гу прагна́ць вады́. Кл.

ПРАЦУ′Й І СМАК ЧУЙ. Працу́й і сма́к чуй, а то працу́е і смаку́ ні чу́[е]. Пра таго, хто не мае спору ў працы, робіць многа, а зробіць мала. Зуб.

ПРЫБРА′ЛАСЯ, ЯК ХА′ТА ПЕРАД ТРО′ЙЦАЮ (*арф.*). Глуск.

ПРЫДБА′Й НЕ ВОЗ ДУБЦА′, А МЕХ АЎСА′ (*арф.*). Глуск.

ПРЫЛІ′П, ШТО (ЯК) СМАЛА′ (*арф.*). Глуск, Кл.

ПРЫСТА′Ў, ШТО (ЯК) СМАЛА′ (*арф.*). Глуск, Кл.

ПУ′ДУ НАГНА′ЦЬ (*арф.*). Вайц.

ПУ'ДУ ПАДДА'ЦЬ *(арф.)*. Вайц. Параўн.: Тодар Пошта бегаў па хатах жвавей, як звычайна. Сам ад страху млеў і другім пуду паддаваў. Кандрат Крапіва, Збор твораў, т. II, Мінск, 1956, стар. 302.

ПЭ'ЎНЕ ШТО *(пе́ўне што)*. У значэнні сцвярджальнай часціцы. Але ж! А як жа! Так, вядома. Параўн.: Пэ́ўня што. Радашковічы; вв. Поравічы, Валокі Маладзечанскага раёна; в. Угляны Мінскага раёна.

РАБІ'ЦЬ КРУГ *(рабіць круг)*. Кл. Параўн.: у рускай мове делать крюк, давать крюку. Гл. даваць кру́гу.

РАБІ'ЦЬ ПАПА'СКУ *(арф.)*. Кл. Гл. папа́ска.

РАБІ'ЦЬ ШКО'ДУ *(арф.)*. Кл., Хал., Барб.

РАЗАРВА'ЦЬ НА ШМАТКІ' *(арф.)*. Кл., Барб., Хал.

РАСУ' КАЛАЦІ'ЦЬ *(арф.)*. Старадаўні звычай—5 мая, ранічкою, выходзілі частавацца, «абіваць», «калаціць» расу на жыце, пшаніцы. Кл. Параўн.: Сонца ўжо было на захадзе. За сялом у полі вакол агню гуляла цэлая чарада дзяўчат, спраўляючы расу. Якуб Колас, Збор твораў, т. 3, Мінск, 1952, стар. 125.

РАТАВА'ЦЦА, ЯК МО'ЖАШ *(арф.)*. Сл.

РАТАВА'ЦЦА, ЯК МО'ЖНА *(арф.)*. Глуск.

РОЙ-РО'ЕМ. Се́лята за́ядзі ве́льмі бага́то. Іду́ць каро́вы, дак авадне̂ ро́й-ро́ям (вельмі многа). Пас. Янкі Купалы.

РУКО'Ю ПАЙСЦІ'. Рукою пайсці—тое, што паручыцца (гл. паручы́цца, гл. ручы́цца)—до́бра весціся, добра гадавацца, пладзіцца, не зводзіцца (пра жывёлу, птушку, пчолы). Кл.

СА'М НЕ З'Е'Ж, А КАНЮ' ДАЙ. Сам н[е] зье̂ж, а каню́ дай. Байл.

САСТА'РЫЎСЯ, ЯК ГРЫ'Б *(арф.)*. Сым.

СВАЕ' ГАДО'ЎЛІ. Устойлівае спалучэнне слоў, якое ўжываецца ў родным склоне адз. ліку пры назоўніках, што абазначаюць назвы хатніх жывёл. Шко́да й збы-

ва́ць карôўку: як ні е—сваê гадôўлі. Барб. Параўн.: у нас сьвіне сваê гадо́ўлі. Краснадворцы Старобінскага раёна.

СВАЯ′ МА′ЦІ ШКАДУ′Е ДЗІЦЯ′ЦІ *(арф.)*. Глуск. Хал.

СВАЯ′ ХА′ТКА, ЯК РО′ДНАЯ МА′ТКА. Сва́я ха́тка [е]к ро́дная ма́тка. Зуб.

СЕЙ ЖЫ′ТА Ў ПРЫСА′К, АВЁ′С У ГРА′ЗЬ, ТО БУ′ДЗЕШ КНЯЗЬ. Сêй жы́та ў пры́сак, аўёс у гра́сь—то бу́дз[е]ш князь. Глуск.

СІ′НІ, ЯК (ШТО) ГУСІ′НЫ ПУП *(арф.)*. Глуск, Зуб.

СКА′ЛІЦЬ ЗУ′БЫ. А чаго́ тут зу́бы ска́ліць? Глуск. Пяраста́нь зу́бы ска́ліць. Пас. Янкі Купалы.

СКА′ЧА, ЯК ДРО′ЗДЗІК *(арф.)*. Вайц.

СКНА′РЫЦА І ЗА ТРЭ′СКУ ПАСВА′РЫЦЦА. Скна́рыца й за трэ́ску пасва́рыцца. Гл. скна́рыца ў выпуску 1959 г. В.

СКРУЦІ′ЦЬ У БАРАНО′ВЫ РОГ. Фарсу́н ты. Тако́га фарсуна́ ў барано́вы рох скру́ціць. Сым. Параўн.: у рускай мове согнуть в бараний рог.

СЛЯПІ′ЦАЮ ЛЕ′ЗЦІ Ў ВО′ЧЫ *(сьл[е]піцаю лезьці ў во́чы)*. Хал.

СЛЯПО′ГА ЗА ПАВАДЫРА′ НЕ ПАШЛЕ′Ш. Сьл[е]пого за павадыра́ ні пашле́ш. Сл.

СЛЯПЫ′ СЛЯПО′МУ НЕ ПАВАДЫ′Р *(арф.)*. Глуск.

СЛЯПЫ′, ШТО ПЕНЬ *(сьляпы́, што пе́нь)*. Вольн.

СМА′ГУ ПРАГНА′ЦЬ, СМА′ЧНАГА НЕ ПРО′СЯЦЬ *(арф.)*. Зуб.

СМЕ′ШАЧКІ СТРО′ІЦЬ. Німа́ чаго тут сьмêшачкі стро́йіць. Кл.

СМЕ′ШКІ СТРО′ІЦЬ. Ні ву́чыцца, а ўсе сьмêшачкі стро́йіць. Кл. Параўн.: ке́пікі стро́іць.

СМО′ЛЛЮ ПРЫСТА′ЦЬ *(смôльлю прыста́ць)*. Кл.

СО′НЦА (СО′НЕЙКА, СО′НЕЧКА) НА′-ВЕЧАР (*сóнц*[э] *нá-в*[е]*чар, сóнячко нá-в*[е]*чар, сóняйка нá-в*]е]-*чар*). Кл. Недакладна акрэсленая прымета часу: у летні, веснавы (увогуле ў вялікі, доўгі дзень) час, калі сонца ўжо прыкметна апускаецца, калі астаецца да заходу сонца прыкладна столькі, колькі прайшло часу ад самага паўдня.

СПАГАНЯ′ЦЬ ЗЛОСЦЬ (*спаганя́ць злось*). Кл., Барб. Параўн.: Я ж ні вінна, што так вýйшло. Штó ты спаганя́[е]ш на мнê? Кл. Параўн.: У самóга, бач, мабыць, справы не ў парадку, дык і спаганяе абы на кім,—сказаў Ігнась. Р. Мурашка, Сын, Мінск, 1957, стар. 66.

СПАЛІ′ЦЬ МАЛА′НКАЮ (*спаліць малáнкаю*). 1. Літаральнае значэнне. Кл. 2. Найхутчэй зрабіць. Кл.

СПРЫ′ТНЫ, ЯК УЮ′Н (*спрытны,* [е]*к уюн*). Хал.

СПРЫ′ТНЫ, ЯК ЯЗЫ′К (*арф.*). Сл.

СПУСЦІ′ЦЬ ПНЯ (*спусьціць пня*). Зрэзаць, паваліць дрэва. Да абêду спусьцілі шаснáццаць пнёў. Пас. Янкі Купалы.

ССІНЕ′Ў, ЯК (ШТО) ГУСІ′НЫ ПУП (*арф.*). Глуск, Зуб.

СТА′ІЦЬ, ЯК ЗА′ТКАЛА (*стайіць, як зáткало*). Гл. зáткала. Кл.

СТАЦЬ НА ДЫ′БАЧКІ. Стань на ды́бачкі, то ўглéдзіш. Пас. Янкі Купалы.

СУХІ′ ЧАЦВЕ′Р (*арф.*). Жыве ў памяці (прычым толькі старых) як адгалосак старадаўняга веравання. Святкаваўся адразу пасля градавое серады (гл. градавáя серадá)—як выражэнне пажадання, каб лета не было спёклівае і засушлівае. Пас. Янкі Купалы.

СЦЯБЛО′ Ў СЦЯБЛО′. Вельмі добрая, роўная збажына, калівы адной вышыні і ўрадлівыя. Жы́то стайіць кáліво ў кáліво, сьц[е]блó ў сьц[е]блó. Сл.

СЭ′РЦА РВЕ′ЦЦА (*сэ́рцэ рвéцца*). Сл.

СЭ′РЦА Ў ПЯ′ТКАХ (*арф.*). Страшна, боязна. Кл.

СЯДЗЕ′ЦЬ У ПЕ′ЧАНІ *(арф.)*. Тваé вучэ́ньня ў пéчані ў маёй сядзíць. В.

СЯДЗЯ′ЦЬ САБЕ′ КУ′МА І КУМ ДЫЙ КУ′МКАЮЦЬ. С[е]дзя́ць сабê кумá й кум да й кýмкаюць. Каламбур, заснаваны на гукавым супадзенні—кума, кум і кýмкаць (жабінае «спяванне»). Гл. кýмкаць, закýмкаць, кýмканне.

ТАК І ЖЫЛІ′ ДАЎНЕ′Й: ХТО СХЛУ′СІЦЬ, ТОЙ ВЫ′П'Е І ЗАКУ′СІЦЬ, А ХТО ПРА′ЎДУ СКА′ЖА, ТОЙ ТА′К СПАЦЬ ЛЯ′ЖА *(арф.)*. Пас. Янкі Купалы.

ТА′К САБЕ′ НІЧО′ГА НЕ БЫВА′Е. Так сабê нічóго не бувáе. Хал.

ТАМ, ДЗЕ КАМА′Р КО′ЗЫ ПАСЕ′. Там, дзе бязлюддзе, дзе камары ды козы; вельмі далёка. Кл., Сл.

ТАРАБА′НІЦЬ ЯЗЫКО′М *(тарабáніць [е]зыкóм)*. Па-пустому багата і громка гаварыць. Хал.

ТАЎЧЫ′ МАК *(таўкці́, таўкчы́ мак)*. 1. Літаральнае значэнне. 2. Таўкуць мак (камары, мошкі) — лятаюць клубком, роем. Кл.

ТО ЗМА′НІЦЬ, ТО ЗБРЭ′ША *(то змáніць, то збрэ́ш[э])*. Кл.

ТРА′СЦА ТРАСЕ′ *(арф.)*. Сл.

ТРЭ′БА—ЯК ЖЫ′ЦЬ *(арф.)*. Хал.

ТРЭ′БА, ЯК СЛЯПО′МУ ЛЮ′СТРА *(арф.)*. Глуск.

ТРЭ, ЯК Ц′ЕРНІЦА. Вы́галададаўся, дак трэ́, як цéрніца. Пас. Янкі Купалы.

ТЫМ ЧА′САМ. Пабáўса трóхі, тым чáсам скóчу ў капярáцаю. Кл. З майíх (равеснікаў) нікóго не асталóсо, паўмірáлі, а я, дзя́каваць бóгу, тым чáсам ніштo йшчэ, дармá (гл. дармá). Хал.

ТЫ′Я ГАДЫ′ Бывáла. Сціплыя апавядальнікі, расказваючы прыгоды, прыгадваючы былое, звычайна замяняюць бывала на тыя гады. Ты́е гóды ў Крацкôў (касіць сена) êхалі с таранáмі, с квáсам, вады́ людзкае ні бáчылі, рудý аднý пілí. Кл. Ты́е гóды на Юр'е хадзí-

лі ро́су калаціць. Кл. Ты́я го́ды ў Бабру́сак на кані́ ê зьдзілі. Хіба́ язда́? Вольн.

ТЫ́Я РАЗЫ́. Раней, у мінулыя дні, тыдні. Се́ні бôльшы маро́з, як ты́[е] ра́зы. Кл. Вае́нные лаві́лі (рыбу) ты́е ра́зы на блісьню́ на я́ме, дзе мôст. Хал. Гл. ты́я гады́.

У АДНЫ́Х ГАДА́Х *(у адны́х гадо́х)*. Равеснікі. Мы с твайі́м ба́цькам у адны́х гадо́х. Байл. Хіба́ Кôбля з Максі́мам у адны́х гадо̀х? Мо ж Максі́м старэ́йшы за Кôблю? Сл.

У БУ́ДНЫ ДЗЕНЬ ГУЛЯ́ЦЬ ГРЭХ, А Ў СВЯТЫ́ ДЗЕНЬ РАБІ́ЦЬ НЕ ГРЭ́Х. У бу́дны дзень гуля́ць грэ̂х, а ў сьветы́ рабі́ць не грэ̂х. Сл.

У ГАРА́ЧКУ КІ́НУЛА *(у гара́чку кінуло)*. Сл., Хал.

У ГАСЦЯ́Х ЕЖ, ХОЦЬ РАСПЕРАЖЫ́СЯ, А Ў КІШЭ́НЮ НЕ ХАВА́Й. У го̀сьц[е]х êж, хаць расьпераж́ыся, а ў кішэ́ню ні хава́й. Вайц.

У ДЗЕ́ЎКАХ СІВЕ́ЮЧЫ, НЕ БУ́ДЗЕШ РА́ДАВАЦЦА. У дзêўках сівêючы, ні бу́дз[е]ш ра́даваццa. Кл.

У ЗАПА́С НЕ НАГУЛЯ́ЦЦА, НЕ НАСПА́ЦЦА *(арф.)*. Зуб.

У ПАРАБКА́Х ВЯКУ́ЮЧЫ, НЕ РАЗЖЫВЕ́ШСЯ. У парабко̀х в[е]ку́ючы, ні ражжывѐсса. Кл.

У ПЕРАГО́НЕ СКА́ЛАК, ЯК АД БЫКА́ МАЛАКА́. Сл.

У ПЦІ́ЧЫ РА́КАЎ НАПЛАДЗІ́ЛАСЯ: ФАШЫ́СТАЎ МНО́ГА НАТАПІ́ЛАСЯ *(арф.)*. Глуск.

У ТРА́СЦУ КІ́НУЛА *(у тра́сцу кінуло)*. *Сл., Хал.*

У ЧУЖЫ́Х ЛЮ́ДЗЯХ НЕ РА́З ЗАБАЛІ́ЦЬ У ГРУ́ДЗЯХ. У чужы́х лю́дз[е]х ні ра́з забалі́ць у гру́дз[е]х. Сл.

У ЯГО́ СТАЛО́ЎКА, ЯК У ВО́ЎКА: ДЗЕ ЎВАРВЕ́, ДЗЕ ЎХО́ПІЦЬ *(арф.)*. Зуб. Гл. уварва́ць.

УВЕ′СЬ-УСЕ′НЕЧКІ. Увéсь-усéнячкі гôд прал[е]жáў (прахварэў). Глуск.

УВЕ′СЬ-УСЕ′НЬКІ. Увéсь-усéнькі сенакôс (сенажаць) прыбрáлі. Кл. Сабрáўся ўвéсь-усéнькі пасёлак. Пас. Янкі Купалы.

УВО′СЕНЬ (НА ДВАРЭ′) ПЕРАМЕ′Н ВО′СЕМ (*арф.*). Глуск. Параўн.: Увосень пагод восем (*арф.*). Мінск.

УВЯРНУ′ЦЬ У КО′СЦІ. Пакараць, даць перцу. Прась ц[е]бé мнê ап'яць увéрне ў кóсьці. Сл.

УЕ′СЦІСЯ Ў КО′СЦІ (*уêсьціса(ся) ў кó(ô)сьці*). Хал., Сл.

УЕ′СЦІСЯ Ў ПЕ′ЧАНЬ (*арф.*). Кл.

УЗБІ′ЦЦА НА ЖЫ′ТКУ. Гл. узбіцца на жыццё ў выпуску 1959 г.

УЗЯ′ЦЬ У ПЕРАПЛЁ′Т (*узяць у п*[е]*раплёт*). Сл.

УЛЯПІ′ЦЬ АПЛЯВУ′ХУ (*арф.*). Глуск.

УСЕ′ І ПРЫБО′РЫ: СВІ′ТА, ПО′ЯС І АБО′РЫ. Усê й прыбóры: сьвíта, пó[е]с і абóры. Кл.

УСЁ′-ЎСЕНЕЧКАЕ (*усé-ўсéнячка*[е]). Пас. Янкі Купалы.

УСЁ-ЎСЕ′НЬКАЕ (*усé-ўсéнькае*). Барб.

УСКІДА′ЦЬ НА ВО′ЧЫ (*ускідáць на вóчы*). Уедліва напамінаць (каму-небудзь) пра тое, у чым хто-небудзь вінаваты. Штó ты ўскідá[е]ш на вóчы празь éту хáту? Кл.

УСКІ′НУЦЬ НА ВО′ЧЫ (*арф.*). Гл. ускідáць на вóчы. Кл., Сл.

УСЫ′ПАЦЬ ПА ПЕ′РШАЕ ЧЫСЛО′. Напісáлі ў газéту, дак усы́палі (брыгадзіру за парушэнне законнасці) па пéршае чысло́. Зуб.

УСЯ′-ЎСЕ′НЕЧКАЯ. Стаптáлі ўсé-ўсéнячкі[е] грáды. Кл.

УСЯ'-ЎСЕ'НЬКАЯ. Усю-ўсёньку зімку ў лёсе (на распрацоўцы лесу). Кл.

ХАДНЯ' ДА БЕ'ЛАГА ДНЯ. Клопат і праца на ўсю ноч. Зуб.

ХВА'ЛЯЦЬ ЗА ДО'БРАЕ, ГА'НЯЦЬ ЗА ЛІХО'Е *(арф.)*. Сл. Гл. гáніць, ліхі[1] ў выпуску 1959 г.

ХВАРО'БА ЎЗЯ'ЛА (возьме). Хібá такóга здараўцá (гл. здаравéц) хварóба вóзьмя? Сым.

ХОЦЬ ВО'КА ВЫ'КАЛІ *(хаць вóко вы́каль)*. Кл.

ХОЦЬ ГО'ЛАМУ АСТА'ЦЦА, АЛЕ НЕ ПАДДА'ЦЦА *(арф.)*. Зуб.

ХОЦЬ КЛО'ЧЧА, ХОЦЬ ВО'ЎНА, АБЫ КІ'ШКА ПО'ЎНА. Хаць клóчч[э], хаць вóўна, абы кішка пóўна. Кл.

ХОЦЬ КУЛЬГА'ВЫ, ХОЦЬ НАСА'ТЫ, АЛЕ ХІТРЫ І БАГА'ТЫ. Выражае мараль прыватніцкага свету. Вольн.

ХОЦЬ НЯЎЕ'ЖНА, ДЫК УЛЕ'ЖНА. Хаць няўêжна, дак улêжна. Асуджэнне гультайства, абыякавых, пасіўных адносін да свайго становішча, стану. Кас.

(ЕЖ) ХОЦЬ РАСПЕРАЖЫ'СЯ *(е(ê)ж, хаць (хоць) расьпеража́са(ся))*. Колькі хочаш, даадвалу. Кл., Хал., Сл. У гòсьц[е]х êж, хаць расьпеража́са, а ў кішэ́ню ні хавáй. Вайц.

ХОЦЬ ТЫ КЛАДЗІ'СЯ І ПАМІРА'Й. Хот ты кладзíса й памірáй. Гавораць пры цяжкім становішчы, з якога цяжка знайсці выхад. Хал.

ХТО ГАРУ'Е, ДЫК І МА'Е. Хто гарý[е], дак і мá[е]. Гаруе—у сэнсе працуе, працуе многа, не баіцца працы. В.

ХТО ЕСЦЬ НАЖО'М, ТОЙ З'ЕСЦЬ РАЖО'Н. Хто êсь нажóм, той зьêсь ражóн. Кл.

ХТО З КРА'Ю—ТАМУ' КАРАВА'Ю, А ХТО З СЯРЭ'ДЗІНЫ—ТАМУ' БЯРЭ'ЗІНЫ. У варыянтах: у сярэдзіне, на сярэдзіне, па сярэдзіне. Ураджэнец в. Во-

земля мне растлумачыў, што сэнс гэтай прыказкі накіраваны супраць «хітранькіх», што любяць заняць зручную пазіцыю, не выходзіць наперад, не вылазіць, не выскокваць, але і не быць ззаду. Параўн.: У одзе рымскага паэта Гарацыя—aurea mediocritas (залатая сярэдзіна). Другі селянін з той жа вёскі дадаў, што выслоўе звязана з вяселлем: на вяселле збіралася многа вяскоўцаў, іх частавалі караваем, але не ўсіх, звычайна—крайніх. Можа быць, што апошняе ёсць тлумачэнне крыніцы і першапачатковага канкрэтнага значэння выразу, які стаў прыказкаю. Ст. Ратміравічы.

ХТО КУДЫ′ *(арф.)*. Вольн.

ХТО ПАКРО′ІЦЬ, ТОЙ ПАШЫЕ′. У рамесніка-краўца уся праца (крой, шыццё і інш.) выконвалася самім, адсюль і «хто пакро́іць, той пашы́е». Кл. Гл. кро́енае шыць.

ХТО ЯГО′ ВЕ′ДАЕ *(арф.)*. 1. Літаральнае значэнне. Кл. 2. Невядома. Хто яго ве́дае, што чыніць, што рабіць *(арф.)*. В. Хто яго зна́е, як тут сказа́ць *(арф.)*. Глуск.

ЦІКУЕ, ЯК КОТ *(арф.)*. Кл.

ЦІ-БО. Калі, расказваючы, памыляюцца, то да выпраўленага паведамлення дадаюць ці-бо. Ваш Васіль—ці-бо́ Хве́дар—каза́лі, прыйшо́ў? У Хало́пічах—ці-бо ў Харо́мцах—застрэ́лілі (нямецка-фашысцкія акупанты) бо́льш за два́ццаць (чалавек). Кл.

ЦІ ГРЭ′Х ЦІ ДВА′. Хоць і грэх, хоць і грэшна; усё адно, ну што ж; так і быць. Хал., Зуб. І ма́цци—ці грэх ці два́—й лю́дз[е]м на му́ку кале́ка така́я (пра дзяўчыну-калеку). Пас. Янкі Купалы.

ЦІ МА′ЛА *(ці мáло, ці мáла)*. Не мала. Кл.

ЦІ ХТО′ СПЯША′Е, ЦІ БЯЗРУ′КІ ТРЫМА′Е. Ці хто сьпеша́е, ці безру́кі трыма́е Сл.

ЦІ ЧО′РТ ЦІ ДВА′. Тое, што: усё адно; адзін чорт; так і быць. Кл., Барб.

ЦІ ЧУ′ЕШ *(арф.)*. 1. Прамое значэнне (пытальны сказ, частка пытальнага сказа). Глуск, Кл. 2. Ого!.. З адцен-

нем неадабральнасці, папроку. Фро́ня—ці чу́еш!—так і памо́ж[э]. Глуск.

ЦЯГНУ′ЦЬ ВАЛА′ НА ДУ′Б, КАБ ЯРМО′ (сук для ярма) ПРЫМЕ′РАЦЬ. Выяўляць бесталковіцу, рабіць бесталкова, безразумна. Параўн.: *Я* і сам ведаю, што яны (палешукі.—*Ф. Я.*) разумныя! Ніякі дурань не згадзіўся б падняць на дуб вала, каб там прымераць, ці выйдзе з дуба ярмо.—Табе толькі ярма і не хапае. Прыедзь да нас, адзенем.—Мо навучыце, як і соль сеяць? Аркадзь Чарнышэвіч, Світанне, Мінск, 1957, стар. 23.

ЦЯПЕ′РАШНІМ ЧА′САМ. У наш час, цяпер. Цяпѐрашнім ча́сам у наву́ку трэ́ба. Цяпе́рашнім ча́сам ні трэ́ба гна́цца за бага́цьцям. Кл.

ЦЯСНО′ТА—НЕ КРЫВО′ТА *(арф.)*. Глуск. Гл. крывота ў выпуску 1959 г. Параўн.: У ціснаце́, ды ня ў крывацѐ. Пячкоўка Мсціслаўскага раёна.

(А) ЧАМУ НЕ! Хал., Глуск, Сл. Параўн.: у рускай мове (а) почему бы и нет.

ЧАСА′ЦЬ ЯЗЫКА′МІ *(арф.)*. Сым.

ЧО′РНЫ, ЯК ЖУК (ЖУЧО′К) *(арф.)*. Кл.

ЧО′РНЫ, ЯК СМАЛА′ *(арф.)*. Кл.

ЧОРТ ЯГО (ІХ) БА′ЦЬКУ ВЕ′ДАЕ (з адценнем непрыхільнасці, прыкрасці) Што ў бога дзень шукай свае санькі. Чорт йіх бацьку ведае, хто йіх забраў. Кл. Чорт яго бацьку знае, на каго маргае. З песні. Кл., пас. Янкі Купалы.

ЧО′РТАВА ГАДЗІ′НА. У кленічы: Ідзе̂це к чо́ртавай гадзіне. Кл.

ЧУЦЬ НА АДНО′ ВУ′ХА. 1. Літаральнае. Кл., Глуск. 2. Чуць, але недакладна. Кл., пас. Янкі Купалы, Глуск. Параўн.: (сінанімічнае): Чуў звон, ды не ведае, дзе ён.

ЧУ′ЦЬ НЕ ЧУ′Ў І БА′ЧЫЦЬ НЕ БА′ЧЫЎ. Чу́ць н[е] чу́ў і ба́чыць н[е] ба́чыў. Глуск.

ЧЫ′СТЫ, ЯК РЫ′БІЧАЕ ВО′КА. Чы́сты, як ры́біча[е] во́ко. Кл.

ШАНУ'ЮЧЫ ВАС (цябе, каго-небудзь). Гл. шанўючы вас у выпуску 1959 г. Параўн.: у рускай мове пабочныя словазлучэнні—извините за грубость, простите за грубость, извините за выражение, простите за выражение.

ШТО ВІ'НЕН, АДДА'ЦЬ ПАВІ'НЕН *(арф.)*. Параўн.: Як вíнен, аддáць павíнен. Краснадворцы Старобінскага раёна. Параўн.: Раз вíнен, то аддáць павíнен. Ракаў Валожынскага раёна.

ШТО ГА'К, ТО І ЗНА'К. Што гáк, то й знáк. Пра няўмелага на працы. Глуск.

ШТО ДУША' ПРЫМА'Е. Усягó ў тагó пáна былó. Еў ён, піў, ужываў, штó толькі душá прымáя. Сым.

ШТО ЁСЦЬ МО'ЦЫ *(што есь мóцы)*. Сым. Параўн.: што ёсць сілы.

ШТО ЁСЦЬ СІ'ЛЫ. Бêглі што есь сíлы. Кл. Гл. што ёсць мóцы.

ШТО Ў БО'ГА ДЗЕНЬ. Штодзень, штодзённа (ужываецца і штодзень). Што ў бóга дзень ідзé й ідзè (на працу), рóбіць і рòбіць. То й дзêткі так. Кл.

ШТУ'КА ВЯЛІ'КАЯ 1. Літаральна: што-небудзь вялікае, важнае, каштоўнае. 2. Бясспрэчна, канешне, несумненна. Штýка велíка, што ў малатáрню (малаціць) легчэ́й. Сл. Штýка в[е]лíка, што налóвіць (рыбы сецціо). Хал.

ШУКА'ЦЬ РАТУ'НКУ *(арф.)*. Глуск.

ЯЗЫ'К АБ ЗУ'БЫ БІЦЬ. Сэнс: нічога не рабіць, толькі займацца размовамі, пераліваць з пустога ў парожняе, малоць языком. Сустрэў у своеасаблівых пытаннях-адказах:—Што рабíла?—Язы́к аб зýбы бíла.—Што рабíць?—Язы́к аб зýбы біць. Што рабíлі?—Язы́к аб зýбы бíлі *(арф.)*. Глуск.

ЯК ГРАЗІ' *(як гразí, [е]к гразí)*. Вельмі багата (пра ўраджай ягад, сліў). Кл., Хал., Сл.

ЯК ДЗЕ'НЬ ВЯЛІ'КІ. Увесь вялікі (доўгі) дзень. Як дзень вялíкі, дак блёхаюцца. Сым.

ЯК ЗНАЙШО'Ў, ДЫК І Ў ТО'РБУ *(арф.)*. Глуск.

ЯК КАМАРНО′, ДЫК І ПАТРАЎНО′. Як камарно́, дак і патраўно́. Як камароў многа, дык і травы многа: мокрая вясна, многа вільгаці. Кл., Хал., Барб.

ЯК МО′КРАЕ ГАРЫ′ЦЬ *(арф.)*. Хал.

ЯК НА ТО′Е *(арф.)*. В., Вольн., Глуск.

ЯК ПО′ДМАЗКУ З'Е′ЎШЫ *(як по̂дмазку зье̂ўшы)*. Непрыемна; як мыла з'еўшы, як таўкач аблізаўшы. Кл. Гл. по́дмазка.

ЯК РАСА′, ТАДЫ′ ВЕСЯЛЕ′Й ХО′ДЗІЦЬ КАСА′ *(арф.)*. Хал.

ЯК САБЕ′ ХО′ЧАШ *(арф.)*. Кл., Глуск.

ЯК СІ′ЛА *([е]к сіла)*. Дз[е]ржы́ [е]к сіла. Хал. Параўн.: Тады ён крыкнуў як сіла:—Хлопцы! Уцякайце, хутчэй, тут нам пастку рыхтуюць! Міхась Зарэцкі, Сцежкі-дарожкі, Мінск, 1959, стар. 323.

ЯК У ПЕ′КЛЕ *(як у пе́клі)*. Сым.

ЯК У РАІ′ *([е]к у раі)*. Сл.

(ЕСЦЬ) ЯК У ЦЕ′РНІЦУ ТРЭ *(арф.)*. Кл.

## ПАКАЗЧЫК

*раёнаў Беларусі, з якіх прыводзяцца ў слоўніку словы; аўтараў і крыніц, на якія робяцца спасылкі. Лічба паказвае старонку ў слоўніку.*

Аўтары і крыніцы:

# ЗМЕСТ

*Стар.*

*На белорусском языке*

*Федор Михайлович Янковский*

Диалектный словарь

II

Издательство Академии наук БССР,
Минск, проспект Сталина, 110.

*

*Рэдактар Выдавецтва І. Чыгрынаў*
*Тэхнічны рэдактар І. Валахановіч*
*Карэктар Т. Маковіч*

*

АТ 07301. Здана ў набор 11.III 1960г. Падпісана да друку 26/V 1960 г. Тыраж 4000 экв. Папера 70×92¹/₃₂. Друк. арк. 7,375. Ум. арк. 8,6. Уч. выд. арк.9,0. Выд. заказ 23. Друк. заказ 491. Цана 3 р. 80 к.

*

Друкарня Выдавецтва АН БССР
Мінск, праспект Сталіна, 110.

## ПАМЫЛКІ

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 50 | 4 зверху | г'а́рчык | га́рчык |
| 65 | 3 » | не жава́ю | не жава́ла |
| 162 | 2 знізу | *Слуца́к* | *Слу́цак* |